Я. ГАШЭК і К. ВАНЭК

# ПРЫГОДЫ УДАЛАГА ВАЯКІ ШВЭЙКА

*ЧАСТКА ЧАЦЬВЕРТАЯ*

Пераклад з рускае мовы
К. Вашына (Калюча)

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
ЛіМ
МЕНСК 1932

## ШВЭЙК Ў РОЛІ РАСІЙЦА ПАЛОННАГА

Калі Швэйк, як яго за расійскую форму памылкова палічылі за расійскага палоннага, што ўцёк з партыі палонных недалёка ад Фэльштэйну, калі ён выказаў распачлівы крык сваёй душы палучынкаю на сьцяне, ніхто ня ўзяў на яго ўвагі, а калі ён памкнуўся быў тады, калі пераганялі палонных у Хірувэ, вытлумачыць непаразуменьне афіцэру, што праходзіў паўз іх (палонным якраз у гэты час раздавалі пайкі чэрствага хлеба з кукурузаю), дык адзін з мадзьярскіх канвойных салдатаў выцяў яго прыкладам па плячох і сказаў:

— Я табе, станавіся ў рад, расійская сьвіньня!

Гэта адпавядала таму духу, як абыходзіліся мадзьяры з расійскімі палоннымі, ня ведаючы іх мовы.

Такім чынам Швэйк вярнуўся ў свой разьдзел, і аказаўся да палоннага, што стаяў да яго бліжэй:

— Вось, гэты канвойны выканаў свой абавязак, але ён сам мог папасьці ў бяду. Ну, а што, каб яго карабін быў набіты, а затвор застаўся адкрыты? Дык і магло-б здарыцца, што як ён гэтак біў нашага брата, а руля пазірала на яго, ён-бы і выстраліў, і ўвесь набой папаў-бы яму ў морду, і ён загінуў-бы, выконваючы свае службовыя абавязкі. От, напрыклад, у нас, у Богэмльскім лесе ў адной каменаломні рабочыя ўкралі дынамітныя капсулі, каб захаваць іх на зіму, калі яны будуць падрываць дрэва. Ну, а вартаўнік у каменаломні атрымаў загад ператрэсьці іх, як яны пайдуць з работы; ён старанна пачаў сваю справу і ад першага разу так неасьцярожна стукнуў самага першага рабочага па кішэні, што ў таго капсуль у кішэні ўзяў ды

і разарваўся, а яны абодва паляцелі ў паветра, так што было падобна, нібыта яны ў апошнюю хвіліну хацелі абняцца.

Палонны расіец, якому Швэйк гэта гаварыў, зірнуў на яго спачувальна, бо ані слова не зразумеў.

— Не разумею... я крымскі татарын...... алах акбар..

Татарын сеў, падабраўшы пад сябе ногі, на зямлі, зла-жыўшы рукі на грудзёх і пачаў маліцца.

— Дык, значыць, ты татарын?—сказаў Швэйк.—От гэта цікава!... Дык тады табе трэба разумець мяне, а мне цябе, калі ты сапраўдны татарын... Гм... а ведаеш ты Яраслава фон-Штэрнбэрга? Як, ня ведаеш гэтага прозьвішча, галава ты татарская? Гэта-ж ён задаў вам перцу пад Гоштэйнам. У той час вы, татарва, уцякалі ад нас, з Моравіі, з усіх ног. Напэўна ў вас там ня вучаць гэтага ў кніжках, як у нас. Ну, Гоштэйнскую дзеву Марыю ведаеш? Зразумела, ня ведаеш. А яна ў таёй бойцы таксама была, таксама. Ну, пачакай татарская морда, цябе тут, у палоне, хутка адукуюць і перахрысьцяць. Пасьля Швэйк зьвярнуўся да другога палоннага:

— А ты гэтаксама татарын?

Той зразумеў слова «татарын» і пакруціў галавою.

— Не, не татарын, я—чаркес.

Швэйку, наогул, пашанцавала: ён апынуўся ў грамадзе прадстаўнікоў усіх усходніх народаў. У гэтай партыі палонных былі татары, грузіны, асяціны, чаркесы, мардвіны і калмыкі.

Але затое яму не пашанцавала ў другім, бо ён ня мог ні з кім з іх пагаварыць. Яго, разам з другімі, пагналі ў Дабраміл. Там павінны былі правіць чыгунку, што ішла праз Пярэмышль у Ніранковіч.

У Дабраміле іх усіх перапісалі ў канцылярыі этапу, што было вельмі цяжка зрабіць, бо з усіх трох сот палонных, прыгнаных у Дабраміл, ніхто не разумеў рускае мовы фэльдфэбэля, што сядзеў там за сталом. Гэты фэльдфэбэль напісаў у свой час рапорт, што ведае па-расійску, і цяпер выконваў ва Ўсходняй Галіччыне абавязкі перакладчыка. За тры тыдні перад гэтым ён выпісаў сабе нямецка-рускі слоўнічак і рускую граматыку, але іх яму яшчэ ня ўправіліся прыслаць, дык ён гаварыў замест

рускае на ломанай славацкай мове, якую ён калісьці вывучыў, як быў у Славаччыне прадстаўніком аднае венскае фірмы, што гандлявала абразкамі сьвятога Сьцяпана, келіхамі і ружанцамі.

Дзіўныя постаці, з кім ён, наогул, ня мог гаварыць, вельмі яго здэтанавалі. Ён вышаў наперад і крыкнуў:

— Хто ўмее гаварыць па-нямецку?

З групы палонных выскачыў Швэйк і з вялікай радасьцю ў абліччы кінуўся да фэльдфэбэля, што загадаў яму, каб зараза-жа ён ішоў у канцылярыю.

Фэльдфэбэль сеў за стол, заваленны паперамі, цалаю гарою бланак, дзе адзначалася прозьвішча, паходжаньне і часьць, да якой належыць палонны, і ў яго з Швэйкам пачалася забаўная гутарка.

— Ты... яўрэй, га?—спытаўся ён у Швэйка.

Швэйк адмоўна пакруціў галавою.

— Няма чаго табе таіцца,—упэўнена казаў фэльдфэбэль.— Кожны з вас, палонных, хто разумее па-нямецку,—яўрэй, і гаварыць няма чаго. Як цябе завуць? Швэйк? Ну, от бачыш, а ты яшчэ спрачаешся, калі ў цябе прозьвішча самае выразнае яўрэйскае. Ну, ды ў нас, браце, табе няма чаго хавацца, што ты яўрэй. У нас, у Аўстрыі, яўрэйскіх пагромаў ня робяць. Адкуль сам? Ага, з Прагі. Ведаю, ведаю. Гэта пад Варшаваю. Тыдзень перад гэтым у мяне тут таксама было два яўрэі, з Прагі з-пад Варшавы. А з якога палка? Нумар які? 91-ы?

Фэльдфэбэль дастаў даведнік і пачаў яго перагортваць.

— От. 91-ы Эрыванскі пяхотны полк. Сталы кадр. Прыпынак у Тыфлісе. Бачыш, што мы тут ведаем?!

Швэйк сапраўды зьдзіўлена пазіраў на яго, і фэльдфэбэль, падаўшы яму акурак папяросы, надзвычай сур'ёзна казаў далей:

— Гэта, браце, іншы тытун, не такі, як ваша махорка!..— Я тут—цар і бог, разумееш, жыдок? Што-б я ні сказаў, усе павінны дрыжаць ад страху. У нас, браце, у арміі іншая дысцыпліна, ня гэткая, як у вас. Ваш цар—сукін сын, а наш цар—сьветлая галава. Хочаш, я пакажу табе адну штуку, каб ты ведаў, якая ў нас тут дысцыпліна?

Ён адчыніў дзьверы ў суседні пакой і паклікаў:

— Ганс Лефлер!

Хтосьці адклікнуўся: «Я!» і ў пакой увайшоў валяваты салдат, хлапец са Штырыі, з плаксівым выразам крэтына на твары. Ён рабіў на этапным пункце ўсю чорную работу.

— Ганс Лефлер,—загадаў яму фэльдфэбэль,—вазьмі вунь там маю люльку, сунь яе сабе ў зубы, як сабака носіць у зубах пошку, і бегай на чатырох навакола стала, пакуль я не скажу: «стой!» Ды яшчэ ты павінен брахаць, але так, каб люлька ня вывалілася з рота, а ня то я загадаю прывязаць цябе да слупа.

Валяваты штырыец стаў ракам і пачаў брахаць.

Фэльдфэбэль пераможна зірнуў на Швэйка.

— Ну, а што я табе казаў, жыдок, пра нашу дысцыпліну?— і фэльдфэбэль задаволена абярнуўся да нямое салдацкае фізіяноміі з нейкае там пастуховае хаткі і загадаў: Стой! А цяпер служы на задніх лапках і давай сюды люльку.... Так. А цяпер пакажы, як у вас там у горах сьпяваюць.

І ў пакоі пачуўся дзікі роў: «Холдрыо-хо-хо, холарыо!»

Як гэты цырк скончыўся, фэльдфэбэль выцягнуў з шуфляды пісьмовага стала чатыры папяросы і вялікадушна падараваў іх штырыйцу, а пасьля, сьмяючыся, сказаў Швэйку:

— Іду на заклад, што ў вашай арміі дысцыпліна не такая суровая, як у нас. Аднак бліжэй да справы. Я даручаю гэтую партыю палонных табе. Да вечара ты мне перапішаш усе прозьвішчы. Атрымаеш на ўсіх пайкі, разаб'еш партыю на групы па дзесяць чалвек і адкажаш мне галавою, калі хто ўцячэ. Так і ведай, жыдоўская морда, што калі з іх хоць адзін хто ўцячэ, дык мы цябе расстраляем.

— Я хацеў-бы пагаварыць з вамі, пане фэльдфэбэль,—сказаў Швэйк.

— Толькі не таргуйся,—прамовіў фэльдфэбэль.—Я гэтага ня люблю і адразу пашлю цябе ў лягер. А ты ў нас, у Аўстрыі, вельмі хутка абжыўся... Бач яго, хоча са мной гаварыць сам-насам!.. От усякі раз так: чым да вашага брата палоннага лепш ставішся, тым яно выходзіць горай... Ну, хутчэй, зьбірайся. От, табе пяро і папера. Пішы сьпіс... Чаго табе яшчэ?

— Дазвольце, пане фэльдфэбэль, дазвольце паведаміць...
— Ідзі, ідзі! Бачыш, колькі ў мяне працы.

Твар фэльдфэбэля прыняў выраз чалавека надта змучанага работаю. Швэйк казырнуў яму і пашоў да палонных, пацяшаючы сябе думкаю, што цярпеньне прынясе ў свой час добрыя вынікі на славу яго імпэратарскае вялікасьці, каханага монарха.

Цяжэй было зладзіць сьпісы, бо палонныя ніяк не маглі зразумець, што ім трэба называць сваё прозьвішча. Швэйк шмат чаго бачыў на сваім вяку, але гэтыя татарскія, грузінскія, мардоўскія прозьвішчы ніяк ня лезьлі яму ў галаву.

«Дапраўды-ж мне ніхто не паверыць,—думаў Швэйк,—каб чалавека звалі вось так, як гэтых татараў,—Мухлахалеем Абдурахманавым, Бэймуратам Алахаліевым, Джэрэджэй Чэрдзеджаю ці Дарлатбалеем Неўгдагалеевым. Не, тады мы маем больш прыгожыя прозьвішчы, от, напрыклад, ксяндза ў Жыдагоўшче завуць Вобэйдам».

І ён абыходзіў рады палонных, што адзін за другім выкрыквалі:—Джындралей Гіменаліеў!—Бабамулей Мірзоеў!—і г. д.

— Глядзі, не праглыні языка,—з дабрадушнаю ўсьмешкаю гаварыў Швэйк.—Ну, няўжо ня лепш, калі ў нас людзі завуцца Багуславам Шчэпанэкам, Ярославам Матоўшэкам або Ружэнаю Свабадоваю.

Калі Швэйк нарэшце, пасьля вялікіх цяжкасьцяй, перапісаў усе гэтыя барбарскія прозьвішчы ,ён надумаўся яшчэ раз спрабаваць вытлумачыць фэльдфэбэлю, што ён зрабіўся ахвяраю фатальнага непаразуменьня. Аднак, як гэта ня раз ужо здавалася, на шляху, што прывёў яго ў становішча палоннага, ён і цяпер дарэмна шукаў справядлівасьці.

Фэльдфэбэль—перакладчык, што і тады ня быў зусім цьвярозы, тымчасам зусім страціў цяпер прытомнасьць.

Трымаючы перад сабою старонку з абвесткамі якоесьці нямецкае газэты, ён сьпяваў на матыў марша Радэцкага: «Мяняю грамофон на дзіцячую калысачку... Купляю тоўчанае шкло, белае і бутэльковае... Курсы бухгальтароў і рахункаводаў паводле новае завочнае сыстэмы» і г. д.

Некаторыя абвесткі нельга было ўлажыць ў мэлёдыю марша, але фэльдфэбэль як мага стараўся перамагчы падобнага роду цяжкасьці, і таму адбіваў такт кулакамі па стале і з зароду палам тупаў нагамі. Кончыкі яго ліпкіх ад выпітае кантушоўкі вусоў задзірыста тарчалі з абодвых бакоў твару, нібы хто ўваткнуў у абедзьве яго шчакі пэндзлікі з абсохлым гумі-арабікам. Фэльдфэбэль вылупіў на Швэйка пухлыя ад п'янства вочы і, спыніўшы на момант стукаць кулаком і прытопчваць, пачаў сьпяваць на іншы мотыў новую абвестку: «Спрактыкаваная акушэрка прапануе свае паслугі. Поўная гарантыя таемнасьці».

Гэты тэкст ён паўтараў усё цішэй і цішэй; нарэшце змоўк і тупа ўтаропіўся ў газэтны ліст з абвесткамі, дазволіўшы такім чынам Швэйку пачаць гутарку на ломанай нямецкай мове пра тое, як здарылася з ім сумнае непаразуменьне.

Швэйк пачаў з таго, што ён меў рацыю, як казаў, што трэба было ісьці ў Фэльдштэйн берагам ручаінкі, і што няма ў тым яго віны, калі нейкі невядомы яму рускі салдат уцёк з палону і ўздумаў пакупацца ў возеры, паўз якое давялося праходзіць яму, Швэйку, бо ягоны абавязак, як кватэр'ера, загадаў яму ісьці ў Фэльдштэйн найкарацейшаю дарогаю. Вядома, расеец задаў лататы, як толькі яго ўбачыў, і кінуў сваю форменую вопратку на волю лёсу. Ну, а ён, Швэйк, чуў, што на фронце скарыстоўваюць форму забітых варожых салдатаў, як ідуць на разьведку, дык і ён апрануў на сябе пакінутую вопратку, каб пераканацца, як бы ён адчуваў сябе ў такім выпадку ў чужой форме.

Калі такім чынам Швэйк растлумачыў усё гэтае непаразуменьне, дык заўважыў, што дарам толькі траціў словы, бо фэльдфэбэль ужо моцна спаў яшчэ раней, чым Швэйк дайшоў да возера.

Швэйк падыйшоў да яго і фамільярна патрос за плячо. Гэтага было даволі, каб той адразу зваліўся з крэсла на падлогу, ня спыняючы скапойнага храпу.

— Даруйце, пане фэльдфэбэль,—прамовіў Швэйк, казырнуў і вышаў з канцылярыі.

Тымчасам вайскова-будаўнічая часьць зьмяніла свае пляны і загадала, каб група палонных, дзе быў Швэйк, пайшла проста ў Пярэмышль, каб адрамантаваць чыгунку Пярэмышль—Любачаў.

Дык усё засталася, як і было, і Швэйк далей цягнуў сваю одысэю ў палонных расейцах. Канвойныя мадзьяры форсаваным маршам гналі партыю наперад і наперад.

У нейкай вёсачцы, дзе прыпыніліся, яны натрапілі на абоз. У баку ад хурманак стаяў афіцэр і з цікавасьцю разглядаў палонных. Швэйк выскачыў з шэрагаў, выцягнуўся перад афіцэрам і крыкнуў:

— Пане паручык, дазвольце паведаміць...

Але яму так і не ўдалося закончыць сказ, бо за ім вырасьлі зараз-жа два канвойныя мадзьяры, што прыкладамі загналі яго назад у строй.

Афіцэр кінуў яму акурак, але яго спрытна злавіў на ляту другі палонны. А пасьля афіцэр вытлумачыў капралу, што стаяў каля яго, што ў Расіі жывуць немцы колёністы і іх таксама прымушаюць ваяваць. За ўвесь пераход да Пярэмышля Швэйк ня меў больш выпадку скардзіцца, што ён менавіта ротны ордынарац 11-ае маршавае роты, 91-га пяхотнага палка. Калі яны прышлі ў Пярэмышль, іх адразу пагналі ў зусім зруйнаваны форд, ва ўнутраным поясе крепасьці, дзе захаваліся толькі стайні крэпасной артылерыі.

У стайнях было шмат саломы, але ў ёй было столькі тоўстых вошай, што яны поўзалі па саломінках, як мурашкі, што цягаюць будаўнічы матэрыял у свой мурашнік.

Палонным раздалі крыху чарнаватае жыжкі з аднае цукоры і па кавалку чэрствага, кукурузнага хлеба.

Пасьля партыю прыняў маёр Вольф, што ў той час быў за начальніка над усімі палоннымі, што працавалі ў крэпасьці ў Пярэмышлі і яе ваколіцах. Гэта быў чалавек солідны, што акружыў сябе цэлым штабам перакладчыкаў, якія вышуквалі сярод палонных, гледзячы паводле іх здольнасьцяй, спэцыялістаў-будаўнікоў.

У маёра Вольфа была думка, што расейцы палонныя знарок утойваюць свае таленты, бо здаралася, што на яго пытаньне: «Умееце класьці чыгунку», усе палонныя, як адзін, адказвалі: «Мы ня ведаем, бо і ня чулі. А толькі мы заўсёды жылі, як бог казаў».

Калі палонныя выстраіліся перад маёрам Вольфам і ягоным штабам, той перш-на-перш спытаўся па-нямецку, хто з іх ведае нямецкую мову.

Швэйк рашуча выступіў наперад, выцягнууся перад маёрам, адказыраў і паведаміў, што ведае па-нямецку.

Маёр Вольф, відаць, вельмі ўзрадаваўся і зараз-жа запытаўся, ці не інжынэр ён.

— Не, я не інжынэр, а ротны ордынарац 11-ае маршавае роты, 91-га пяхотнага палка і трапіў я ў палон да нашых-жа. А здарылася гэта от як...

— Што такое?—зароў маёр.

— Так яно, пане маёр. Дазвольце паведаміць, што справа была...

— Вы, напэўна, чэх?—зноў закрычаў маёр Вольф.—Вы пераапрануліся ў расійскую форму, вы...

— Так яно, пане маёр, дазвольце паведаміць, так яно і было. Я вельмі ўсьцешыўся да душы, што вы, пане маёр, так хутка зразумелі маё становішча. Магчыма, што нашы ўжо там, дзе ваююць, а я магу тут без карысьці прашвэндацца ўсю вайну... Дык дазвольце яшчэ раз вытлумачыць, як была справа, пане маёр.

— Будзе, годзе!—закрычаў маёр і загадаў двум салдатам адвесьці Швэйка на гаўптвахту, а сам ён пайшоў сьледам за ім, размаўляючы з нейкім афіцэрам; у кожнай яго фразе згадвалася пра чэскіх сабак. І ў той час яго спадарожнік мог пераканацца, што маёр вельмі ўзрадаваўся, што яму пашанцавала, праз яго праніквасьць, злавіць аднаго з гэтых шыбенікаў, пра здрадніцкую работу якіх месяцаў колькі перад гэтым усім командзірам былі разасланы сакрэтныя абежнікі, дзе адзначалася, што шмат хто з перабежчыкаў чэскіх палкоў

зламаў прысягу, запісаўся ў расійскую армію і дапамагае ёй як разьведчык і шпіён.

Аўстрыйскае міністэрства ўнутраных спраў ня ведала яшчэ дакладна, ці існуюць у расейцаў баявыя дружыны перабежчыкаў. Яно яшчэ ня ведала пра рэволюцыйныя організацыі за межамі і толькі ў жніўні на фронце Сокаль—Міляцін—Бубноў батальённыя камандзіры атрымалі сакрэтны абежнік, што былы аўстрыйскі профэсар Масарык уцёк за межы, дзе распачаў антыаўстрыйскую прапаганду.

Нейкі дурань у штабе дывізіі дадаў да абежніку гэтакі загад: «У выпадку, калі давядзецца затрымаць вышэйадзначаную асобу, прапануецца зараз-жа прывесьці яе ў штаб дывізіі».

Гэта—каб увекавечыць памяць пана прэзыдэнта Масарыка, каб ён ведаў, якія жалезкі і сіло чакалі яго на лініі Сокал—Міляцін—Бубноў.

Маёру Вольфу ў той час яшчэ і ня сьнілася, як працавалі супроць Аўстрыі перабежчыкі, што, спаткаўшыся дзе-небудзь у Кіеве ці ў іншым месцы, на пытаньне: «Што ты тут робіш?» весела адказвалі: «Я здраджаю яго імпэратарскай вялікасьці!»

Маёр ведаў з абежнікаў толькі перабежчыкаў і шпегаў, адзін з якіх, от той самы, што цяпер павялі на гаўптвахту, так проста трапіў у ягоныя рукі. Маёр Вольф як чалавек чэсталюбівы ўяўляў сабе ўжо, як пахваліць яго вышэйшае начальства і якую ён атрымае ўзнагароду за сваю пільнасьць, асьцярожнасьць і дбайнасьць.

Не даходзячы яшчэ да гаўптвахты ён быў упэўнены, што пытаньне: «Хто тут гаворыць па-нямецку?» ён зрабіў знарок, бо ўжо з першага погляду гэты палонны здаўся яму падазроным.

Афіцэр, што ішоў поруч з ім, ківаў галавою і заўважыў, што давядзецца данесьці пра тое, што затрымалі гэтага чалавека начальніку гарнізону, каб той накіраваў вінаватага ў вайсковы суд. А дапытваць яго тут-жа на гаўптвахце і павесіць на першым дрэве, як прапануе пан маиёр, зусім нельга. Павесіць яго напэўна павесяць, але пасьля суду і паводле закону, а перад яго сьмерцю, магчыма, калі добра дапытаць, знойдуцца спольнікі

гэтага нягодніка і ягоныя дапаможнікі. Хто - ведае, што тут яшчэ можа выйсьці?

Але маёра Вольфа ахапіла раптам нячуваная ўпартасьць і невядомае яму жаданьне крыві. Ён сказаў, што павесіць гэтага падлюгу зараз-жа, як дапытае, а ўсю адказнасьць за гэта прыме на сябе. Дарэчы, ён можа гэта сабе дазволіць, бо мае там уверсе моцную руку, дык на ўсё начхаць, бо тут справа стаіць зусім, як на фронце. Калі-б гэтага чалавека затрымалі адразу-ж на першай лініі акопаў, яго-б таксама дапытвалі і тут-жа павесілі. Апроч таго, пану капітану напэўна вядома, што кожнаму начальніку асобнае часткі ў чыне ня ніжэй за капітана дазваляецца ў раёне вайсковага дзеяньня вешаць усіх падазроных асоб.

Праўда, тут маёр Вольф крышку памыляўся ў гэтай гутарцы пра права вешаць. Ва Ўсходняй Галіччыне гэтае права, што бліжэй да фронту, то мелі ўсё больш нізкія чыны. Быў таксама выпадак, што начальнік патруля, капрал, загадаў павесіць дванаццацігадовага хлопчыка, што здаўся падазроным таму, што ён варыў сабе ў пакінутай вёсцы ў напаўзруйнаванай хатцы бульбу.

Спрэчка ў маёра з капітанам разгаралася.

— Вы ня маеце права,—узбуджана даводзіў капітан.— Вешаць мае права толькі вайсковы суд.

— Глупства, мы яго і бяз суду найлепш павесім,—шыпеў маёр.

Швэйк, што ішоў крышку наперадзе ад абодвых афіцэраў і чуў усю гэту цікавую гутарку, зьвярнуўся да сваіх канвойных:

— Ці кіем, ці палкай! Ці савой аб пень, ці пнём аб саву,— адна трасца! От у нас у карчме на Завадзільцы ў Лібэне таксама паспрачаліся, хто лепш выганіць вон нейкага Вашака, што заўсёды любіў паскандаліць: ці адразу лепш яго выправадзіць, як толькі ён пакажацца ў дзьвярох, ці пасьля таго, як папросіць сабе куфаль піва, заплаціць за яго і вып'е, ці калі станцуе першую польку. А гаспадар хацеў, каб яго вывелі пасьля таго, як ён разгаворыцца і больш вып'е, от тады і прымусіць яго плаціць, а пасьля адразу і ў каршэль... А ведаеце,

што той паганец зрабіў з імі? Увяў дый ня прышоў. Што вы на гэта скажаце?

Абодвы салдаты, што былі родам аднекуль з Тыроля, у адзін голас адказалі:

— Не разумею па-чэску.

— Ну, а па-нямецку вы разумееце?—спакойна спытаўся Швэйк.

— А як-жа?!

— От гэта добра,—сказаў Швэйк.—У такім выпадку вы хоць у сваіх землякоў ня згубіцеся.

З гэтакімі прыемнымі гутарачкамі ўся кампанія прышла на гаўптвахту, дзе маёр Вольф далей дэбатаваў з капітанам пра лёс Швэйка, а сам Швэйк ціха расьсеўся на столачку.

Нарэшце ўсё-ж маёр згадзіўся з думкаю капітана, што гэты чалавек павінен быць павешан толькі пасьля доўгае процэдуры, якую так ласкава называюць: «Судовы прыгавор».

Калі-ж папыталіся Швэйка, якое думкі ён пра ўсё гэтае, дык ён упэўнена адказаў:

— Мне вельмі няпрыемна, пане маёр, бо маеце большы чын, як пан капітан, але мае рацыю пан капітан. Справа ў тым, што заўсёды бывае так: сьпех людзям на сьмех. От, напрыклад, у акруговым судзе ў Празе звар'яцеў раз адзін судзьдзя. Доўга нічога не заўважалі, пакуль яго вар'яцтва ня выявілася на паседжаньні суду па справе аб зьнявазе. Нейкі Знаменачак, спаткаўшы на вуліцы ксяндза Хорціка, што на лекцыях закону божага надаваў яго сынку па карку, стаў лаяцца: «Халера, зараза, ідыёт, сьвіньня, сукін сын, поскудзь, дурань!» Ну, а гэты судзьдзя быў вельмі набожны чалавек. У яго было тры сястры і ўсе яны служылі кухаркамі ў ксяндзоў, а ён быў хрышчоным бацькам усіх іх дзяцей. І от гэта на яго так уплыло, што ён раптам страціў розум і закрычаў на падсуднага: «Імем яго імпэратарскае і каралеўскае вялікасьці прысуджаю я вас да пакараньня сьмерцю на шыбеніцу. Прыгавар ня мае права апэляцыі. Пане Хорачэк,—зьвярнуўся ён да судовага прыстава,—вазьмеце от гэтага пана і павесьце яго там, ведаеце, дзе выбіваюць дываны, а пасьля прыдзеце да мяне, я дам вам

на чарку». Зразумела пан Знаменачак разам з судовым прыставам стаялі, як укапаныя, але судзьдзя тупаў нагамі і крычаў: «Ці будзеце вы мяне слухаць?» Тады судовы прыстаў так перапужаўся, што пацягнуў ужо пана Знаменачака ўніз і каб не абаронца, што замяшаўся ў гэту справу і выклікаў хуткую дапамогу, дык я і ня ведаю, чым-бы ўсё гэта з панам Знаменачакам скончылася. А калі пана судзьдзю ўводзілі ў карэту хуткае дапамогі, ён усё яшчэ крычаў: «Калі вы ня знойдзеце вяроўкі, дык павесьце яго на ручніку... Мы пасьля ў канцы году разьлічымся з вамі».

Швэйка, пасьля таго, як ён падпісаў складзены маёрам Вольфам протокол, адвялі пад канвоем да начальніка гарнізону. У протоколе гаварылася, што Швэйк, служачы ў аўстрыйскім войску, сьвядома і без усялякае дапамогі з боку, апрануў расійскую вайсковую форму, у якой яго і затрымала палёвая жандармэрыя за лініяй фронту пасьля адыходу расейцаў.

Усё гэта было сьвятая праўда і Швэйк, як праўдзівы чалавек, ня мог супроць гэтага пярэчыць. Калі-ж ён спрабаваў у часе пісаньня протоколу дадаць што-небудзь ад сябе, што магло-б больш высьветліць становішча, дык пачуўся крык пана маёра:

— Маўчы! Пра гэта я цябе ня пытаюся. Справа ясная.

Тады кожны раз Швэйк казыраў і казаў:

— Слухаю, я маўчу і, дазвольце паведаміць, справа ясная.

Пасьля таго, як Швэйка прывялі ў штаб крэпасьці, яго заперлі ў нейкую яму, што раней была складам харчоў і месцам разводу мышэй. На падлозе яшчэ ўсюды быў рассыпан рыс, а мышы зусім не баяліся чалавека і весела бегалі ўзад і наперад, падбіраючы рыс. Швэйку прынесьлі напханы саломаю сяньнік. Прывыкнуўшы да цемрадзі, ён заўважыў, што ў гэты сяньнік зараз-жа перасялілася цэлая мышыная фамілія. Ня было сумліву, што яна хацела зьвіць сабе гняздо ў астачы былое велічы—у старым аўстрыйскім саламяным сяньніку вайсковага ўзору. Швэйк пачаў барабаніць кулакамі ў дзьверы. Прышоў якісьці капрал, паляк, і Швэйк запатрабаваў, каб яго перавялі ў другое памяшканьне, бо ў іншым выпадку ён мог падушыць

мышэй у сваім сяньніку і, такім чынам, зрабіць дзяржаве страту, бо ўсё, што знаходзіцца ў провіянцкім магазыне вайсковага ведамства, належыць дзяржаве.

Паляк зразумеў Швэйка толькі напалову, а таму прыгразіў яму перад зачыненымі дзьвярыма кулаком, прамармытаў некую лаянку, не забыўшыся згадаць халеру, і адышоўся, мармочучы штосьці пад нос, нібы Швэйк яго нямаведама як абразіў. Ноч вязень праспаў даволі спакойна, бо мышы не прад'яўлялі да яго ніякіх запатрабаваньняў, выконваючы, відаць, сваю начную праграму ў складзе вайсковых рэчаў, наладаваным салдацкімі шынэлямі і шапкамі, якія яны грызьлі без усялякага сораму. Інтэнданцтва схапілася толькі праз год і завяло дзяржаўных катоў на сваіх складах. Каты гэтыя (бяз права на пэнсію за выслугу год!) былі адзначаны ў інтэндацтве пад рубрыкаю: «Імпэрска-каралеўскія вайскова-магазынныя каты». Гэта быў стары тытул катоў, што скасавалі пасьля вайны 1866 году. Цяпер ізноў пачалі яго ўжываць.

У старыя часы, яшчэ за Марыяй-Тэрэзіяй, таксама садзілі катоў у вайсковыя склады, калі паны інтэнданты прабавалі злажыць усю адказнасьць за тое, што яны кралі, на ні ў чым невінаватых мышэй.

Але гэтыя дзяржаўныя каты часта былі не на вышыні свайго становішча, і такім чынам здарылася, што за імпэратарам Леопольдам, паводле прыгавору вайсковага суду, шэсьць катоў, што прыкомандыравалі да інтэнданцкага складу на Патажэльцы ў Празе, былі за свае грахі павешаны. А я ўпэўнены, што ўсё, хто меў якое-небудзь дачыненьне да гэтага складу, толькі сьмяяліся сабе ў кулак!..

*

Разам з ранішняю каваю да Швэйка ўсунулі нейкага чалавека ў расійскай форме і расійска-афіцэрскім шынэлі.

Гэты чалавек гаварыў па-чэску з польскім акцэнтам. Гэта была адна з тых гадзін, што служылі ў кожнай вайсковай часьці ў Пярэмышлі з мэтаю контрразьведкі. Ён быў членам вайсковае

тайнае паліцыі і нават не пастараўся прыдумаць што-небудзь хітрае, каб спровокаваць Швэйка, а проста сказаў:

— У добрую гісторыю я трапіў толькі таму, што быў неасьцярожны! Я служыў у 28-ым палку, а ў рускіх адразу пачаў працаваць і от як падурному цяпер папаўся. Там, у расейцаў, я згадзіўся ісьці на разьведку. Я служыў у іх у 6-ай дывізіі ў Кіеве. А ты ў якім расійскім палку служыў, таварыш? Здаецца, мы ўжо з табою недзе ў Расіі бачыліся. У мяне ў Кіеве было шмат знаёмых чэхаў, што паехалі разам са мною на фронт, калі я перайшоў на бок расейцаў, але толькі я не магу прыпомніць іх прозьвішчаў і адкуль яны былі родам! Ці ня помніш ты каго-небудзь з іх? З кім ты там больш за ўсё спатыкаўся? Я вельмі хацеў-бы ведаць, хто там яшчэ з нашага 28-га палка.

Замест адказу Швэйк заклапочана прылажыў руку да яго ілба і памацаў у яго пульс. Нарэшце падвёў яго да ваконца і запрапанаваў паказаць язык. Гэты паганец не супярэчыў супроць гэтае процэдуры, бо, магчыма, думаў, што ён зьяўляецца ўмоўным знакам між змоўшчыкамі. Пасьля Швэйк пачаў барабаніць у дзьверы, і калі зьявіўся вартаўнік ды спытаўся, чаму так шумна, ён загадаў па-чэску і па-нямецку, каб зараз-жа прыслалі доктара, бо чалавек, што да яго пасадзілі, звар'яцеў.

Але і гэта не дапамагло і гэтага чалавека не адразу вывелі. Ён застаўся спакойна сядзець і далей вярзці нейкія дурніцы пра Кіеў, нібы-та ён на свае вочы бачыў там Швэйка, як той ішоў з расійскімі салдатамі.

— Паслухайце,—сказаў яму на гэта Швэйк,—вы, напэўна, абпіліся балотнае вады, як у нас зрабіў гэта няшчасны Тынецкі, што быў зусім нормальным чалавекам, пакуль аднаго разу ня выбраўся ў падарожжа ды ня трапіў у Італію. Дык от той таксама ні пра што іншае не гаварыў, як пра гэту Італію, і што там наогул адна балотная вада і няма нічога годнага на ўвагу. І што ад гэтае балотнае вады яго схапіла трасца. Яна трэсла яго чатыры разы на год: на ўсе сьвятыя, на сьвятога Язэпа, на Пятра і Паўла і на пакровы. І от, як схопіць яна, бывала, яго, дык ён усіх людзей, зусім чужых і незнаёмых,

пачынае пазнаваць ну зусім, як вы мяне. От, напрыклад, пачынае з чужым чалавекам гутарку ў трамваі, што нібыта яны знаёмыя, што яны спатыкаліся ў Вене на вагзале. І з усімі людзьмі, што яму траплялiся на вуліцы, ён пазнаёміўся ці на вагзале ў Мілане, а часам у Вене, або піў разам з імі ў вінным паграбку пад ратушай у Грацы. А калі ў гэты час, што трэсла яго ліхаманка, здаралася яму зайсьці ў рэсторан, дык ён пазнаваў адразу ўсіх, хто там быў. Нібыта бачыў усіх іх на параходзіку, у якім ён езьдзіў ў Вэнэцыю. І супроць гэтага ня было ніякае рады, акрамя таго, што выпрабаваў адзін санітар у Праскім жоўтым доме. Пад доглядам гэтага санітара быў адзін хворы, што праз цэлыя дні не рабіў нічога іншага, а сядзеў, скурчыўшыся, у куточку і лічыў: «Раз, два, тры, чатыры, пяць, шэсьць», ды зноў спачатку: «Раз, два, тры, чатыры, пяць, шэсьць». Гэта быў нейкі профэсар. Ну наш санітар ледзь ня лопнуў ад злосьці, калі пераканаўся, што гэты вар'ят ня можа лічыць далей за шэсьць. Перш ён хацеў угаварыць яго ціха, ладам, каб той сказаў: «Сем, восем, дзевяць, дзесяць». Але — дзе там. Профэсар не бярэ на гэтае ніякае ўвагі. Сядзіць сабе ў куточку і лічыць: «Раз, два, тры, чатыры, пяць, шэсьць». Тады санітар як раззлуецца ды як падскочыць да свайго хворага і, як той сказаў: «шэсьць!», калі стукне яму поўху. «От табе сем, — крыкнуў ён, — а от табе восем, а от табе дзевяць, а от табе дзесяць!» і ўсё яму: поўху, поўху! Профэсар схапіў сябе за галаву ды як завые: «Дзе гэта я?» Ну, а як яму сказалі, што ён у вар'яцкім доме, дык той адразу прыгадаў, што ён трапіў сюды праз нейкую комэту, што, як ён вылічыў, павінна была зьявіцца праз год, 18 чэрвеня, у шэсьць гадзін раніцою, а яму давялі, што гэта ягоная комэта згарэла шмат мільёнаў гадоў назад. Санітара тэтага я добра ведаю. А профэсар, як зусім ачуняў і выпісаўся з больніцы, узяў яго да сябе за камэрдынэра. І толькі было ў яго справы кожную раніцу даваць пану профэсару па чатыры аплявухі, што ён і выконваў добрасумленна і акуратна.

— Я ведаю ўсіх вашых знаёмых у Кіеве, — далей блюзьніў агент контрразьведкі. — Скажэце, з вамі быў там адзін такі

тоўсьценькі, а пасьля такі худы-худы? От ніяк не магу прыпомніць, як яго звалі і з якога ён палка...

— Ды ня вельмі сумуйце,—пацяшаў яго Швэйк, — гэта можа з кожным здарыцца. Дзе-ж чалавеку помніць, як завуць там усіх тоўсьценькіх або тонкіх. Яно, вядома, худых помніць яшчэ цяжэй, чым тоўстых, бо большая частка людзей на сьвеце тонкія. Яны, так сказаць, складаюць большасьць.

— Камрад,—адазваўся з жальбою ў голасе провокатар,— чаму вы ня хочаце даверыцца мне? Нас-жа ўсяроўна чакае адзін лёс.

— На тое мы і салдаты,—абыякава прамовіў Швэйк.—На тое і радзілі нас нашыя маткі, каб нас потым, як апрануць у вайсковую форму, пасеклі на кавалачкі, і мы ахвоча згаджаемся на тэта, бо ведаем, што нашы косьці ня дарам будуць гнісьці. Мы пакладзем свае галовы на гонар яго вялікасьці, нашага імпэратара і яго фаміліі, якому мы заваявалі Герцэговіну. Нашы косьці стаўкуць на парашок. Гэта тлумачыў нам ужо некалькі год назад пан паручык Цымэр. «Паганцы,— казаў ён нам,—сьвіньні паросныя, дурні, таўкачы, ня ведаеце, дзе правая нага, дзе левая, нібыта вам ўсёадно, нібыта яны і цаны ня маюць. А ці ведаеце вы, паганцы, што калі вас заб'юць на вайне, дык з вашых касьцей зробяць паўкілё парашку, і пасьля на цукраварні будуць фільтраваць праз вас, ідыёты, цукер? Вам і ня сьніцца нават, якімі вы будзеце карыснымі вашым патомкам яшчэ і пасьля сьмерці. А вашыя дзеці будуць піць каву з цукрам, што будзе прафільтраваны праз вашы рэшткі». Я аднаго разу задумаўся. Ён на мяне так і накінуўся, чаго гэта я задумаўся. «Я гэта таму, дазвольце паведаміць,—кажу я,—задумаўся, што парашок з паноў афіцэраў будзе каштаваць куды даражэй, як з простых салдатаў». Ну, пасьля тэтага ён мне, вядома, даў тры дні строгага карцару.

Компаньён Швэйка пастукаў у дзьверы і пра штосьці пашаптаўся з вартаўніком, які крыкнуў слоў колькі ў канцылярыю.

Хутка пасьля таго зьявіўся фэльдфэбэль і вывеў швэйкавага компаньёна.

Калі гэты гад выходзіў, ён голасна сказаў фэльдфэбэлю, паказваючы на Швэйка:

— Я яго ведаю. Гэта мой стары знаёмы з Кіева.

Праз цэлую пору Швэйк быў адзін, калі ня лічыць тых хвілін, як яму прыносілі ежу.

Уначы ён пераканаўся, што расійскі салдацкі шынэль большы і цяплейшы, як аўстрыйскі, і што зусім ужо ня так няпрыемна, калі мыш абнюхвае вуха чалавека, што возьме задрэмле. Швэйку здалося, што мыш шэпча яму штосьці пяшчотнае. Гэта цягнулася да таго часу, пакуль яго ўдосьвітку не разбудзілі і кудысьці не павялі.

Цяпер у яго зусім вылецела з памяці, што за трыбунал быў гэта, куды яго тае нешчасьлівае раніцы прывялі. Аднак нельга было сумнявацца, што гэта быў палявы суд. Ягонымі членамі былі: нейкі генэрал, пасьля палкоўнік, маёр, паручык. падпаручык, фэльдфэбэль і радавы пяхотнага палка, што нічога, патом, не рабіў, толькі падаваў запалкі іншым членам суду.

Швэйка дапытвалі нядоўга.

Больш за ўсіх выявіў цікавасьці да падсуднага маёр, бо ён гаварыў па-чэску.

— Вы здрадзілі яго імпэратарскай вялікасьці!—закрычаў ён на Швэйка.

— Эзус-Марыя, калі-ж гэта?—зьдзівіўся Швэйк.—І як я мог здрадзіць яго імпэратарскай вялікасьці, нашаму каханаму монарху, за якога я ўжо столькі выцерпеў?

— Кіньце вашы жарты!—крыкнуў маёр.

— Але, пане маёр, адважуся паведаміць, што гэта ня жарты: здрадзіць яго імпэратарскай вялікасьці. Мы, вайсковыя, прысягалі нашаму імпэратару служыць вераю і праўдай, і гэту прысягу, як пяюць у тэатры, я, як верны раб, не парушаю.

— Вось тут,—сказаў маёр і паказаў на тоўстую справу ў вокладках,—у нас сабраны ўсе доказы, што вы вінаваты.

Гэтыя «доказы» амаль цалкам даў суб'ект, што пасадзілі былі да Швэйка.

— Значыць, вы ня хочаце прызнавацца?—спытаў маёр.—Вы-ж самі пацьвердзілі, што, будучы на службе ў аўстрыйскай

арміі, вы добрахвотна апранулі на сябе расійскую вайсковую форму. Таму я вас апошні раз пытаюся: што павяло вас на гэткі ўчынак?

— Я зрабіў гэта з уласнае добрае волі.

— Зусім добраахвотна?

— Зусім добраахвотна.

— Без усялякае прынукі з боку?

— Без усялякае прынукі.

— Вы ведаеце, што вы прапалі?

— Так ведаю. У 91-ым пяхотным мяне ўжо напэўна даўно шукаюць, а толькі, дазвольце, пане маёр, расказаць, што можа трапіцца, калі чалавек добраахвотна адзене чужое ўбраньне. У 1908 годзе, у ліпені, пераплётчык Божэтэх, з Доўгае вуліцы ў Празеззахацеў неяк пакупацца ў Бэроўне. Ну, от ён распрануўся, палажыў сваё адзеньне пад вербалозам і быў вельмі задаволены, калі ў вадзе да яго далучыўся яшчэ адзін пан. Вядома, слова да слова—пазнаёміліся, пачалі плюскацца, пырскацца ды так і правялі час да самага вечару. Пасьля тэты чужы чалавек першы вылез вады, бо, казаў ён, пара вячэраць. А пан Божэтэх яшчэ крышачку застаўся пасядзець, а як таксама сабраўся выходзіць, дык убачыў, што няма яго адзеньня, а замест яго знайшоў нейкія лахманы, што носяць толькі валацугі, і да іх была прышпілена пісулька: «Я доўга быў ня ўпэўнен, што мне рабіць. Таму што мы так міла правялі час у вадзе, дык я сарваў кветку рамону і загадаў: так ці не, так, ці не. Апошні пялёстак, што я сарваў, вышаў—«так!» Таму я і памяняўся з вамі на адзеньне. Вы ня бойцеся апрануць на сябе мае рызьзё. Вошай у ім няма, бо яно толькі на тым тыдні было ў дэзынфэкцыі ў Добжычы. А другім разам вы лепш глядзіце з кім купаецеся. У вадзе, вядома, кожны чалавек выглядае, як дэпутат, а, між іншым, ён, магчыма, забойца ці бандыт. От, вы таксама не пацікавіліся з кім купаецеся, а толькі думалі пра купаньне. Што-ж цяпер пад вечар вада самая прыемная. Ускочце ў яе яшчэ разок, каб вам крышку схамянуцца».

— Ну, пану Божэтэху нічога іншага ня засталося рабіць, як пачакаць, калі зьмеркнецца,—казаў далей Швэйк.—Тады

ён насунуў на сябе лахманы валацугі і падыбаў у Прагу. Абходзячы гасьцінец, ён стараўся прайсьці палёвымі дарожкамі і, вядома, наскочыў на жандарскі патруль. І яго тыя забралі як валацугу, а на другі дзень раніцою прывялі ў суд, у Збраслаў, бо ўсякі мог назваць сябе Язэпам Божэтэхам, пераплётчыкам з Доўгае вуліцы, № 16, у Празе.

Сакратар суду, што вельмі мала разумеў па-чэску, падумаў, што падсудны паказвае адрас свайго супольніка і таму перапытаў яго:

— Гэта дакладны адраз: Прага, № 16, Язэп Божэтэх?

— Ці ён жыве там і цяпер, я ня ведаю,—адказаў Швэйк,— але тады, у 1908 годзе, ён бязумоўна жыў там, ён вельмі нядрэнна пераплятаў кніжкі, але толькі вельмі затрымліваў іх, таму што ён перш прачытае іх, а потым ужо робіць пераплёт згодна са зьместам. Напрыклад, калі ён даваў у кнізе чорную вокладку, дык ня трэба было і чытаць яе, бо адразу было зразумела, што раман скончыцца вельмі сумна. Магчыма, вам патрэбна яшчэ якія падрабязкі? Дык от, каб не забыцца: ён кожны дзень сядзеў у рэсторане: «На рагу» і апавядаў зьмест усіх кніг, што давалі яму пераплятаць.

Маёр падышоў да сакратара і штосьці шапнуў яму на вуха, пасьля чаго той замазаў у протоколе адрас нібы змоўшчыка Божэтэха.

Паседжаньне суду пад старшынствам генэрала Фінка фон-Фінкенштэйна цягнулася далей.

Падобна да таго, як у некаторых людзей бывае манія зьбіраць скрыначкі ад запалак, так у гэтага генэрала была манія назначаць вайскова-палявыя суды, хоць гэта, у большасьці выпадкаў, супярэчыла законам вайсковага судоўніцтва. Гэты пан любіў паўтараць, што яму ня трэба аўдытара, што ён сам прызначае склад суду і што паганец павінен быць праз тры гадзіны на шыбеніцы. І, пакуль гэты генэрал быў на фронце, палявому суду заўсёды ставала працы.

Як іншага чалавека цягне штодня пайграць у шахматы, кеглі або карты, так і гэтага адважнага ваяку цягнула да палявога

суду: ён кожны дзень быў яго старшынёю і з вялікаю суф'ёзнасьцю і радасьцю абвяшчаў падсуднаму шах і мат.

Аддаючы даніну сантымэнтальнасьці, варта было-б адзначыць, што на сумленьні гэтага чалавека быў не адзін дзесятак людзей, асабліва на ўсходнім фронце, дзе яму, паводле яго слоў, даводзілася змагацца з вялікарускаю пропагандаю сярод галічанаў. Але ў чалавека бяз сумленьня няўжо можа быць што-небудзь на сумленьні?

Справа ў тым, што ў яго сапраўды ня было сумленьня. Загадаўшы павесіць якога-небудзь настаўніка, настаўніцу, папа або цэлую сям'ю (вядома, па загаду ваенна-палявога суду!), ён спакойна вяртаўся ў сваю палатку, як азартны ігрок у брыдж вяртаецца з гасьцей і ўспамінае, як ён дубляваў і як контрпартнэры рэдублявалі, а ён абвясьціў «брыдж», і як ён выйграў у гульню і запісаў за онэры і ўзяткі і к робэру... Ён лічыў, што павесіць, гэта штосьці простае і натуральнае, штосьці падобнае да штодзеннага хлеба, і часта забываўся, выносячы прыгавар, прачытаць сакрамэнтальную формулу: «Паводле загаду яго імпэратарскае вялікасьці... суд... прыгаварыў... да кары сьмерцю праз павешаньне», а проста абвяшчаў:—Я прыгаворваю, каб вас павесілі.

Часамі ён знаходзіў у працэсе вешаньня нават комічны бок, праз што пісаў сваёй жонцы у Вену.... «і ты, мая любая, ня можаш сабе, напрыклад, уявіць, як я сьмяяўся, калі гэтымі днямі прыгаварыў павесіць за шпіёўства аднаго настаўніка... У мяне ёсьць на гэтыя рэчы вельмі спрактыкаваны з вялікаю практыкаю фэльдфэбэль, што займаецца гэтымі справамі дзеля спорту. Я быў якраз дома, у палатцы, як гэты фэльдфэбэль зьявіўся і запытаўся, дзе яму павесіць прысуджанага настаўніка. Я яму кажу: на бліжэйшым дрэве. І от уяві сабе комізм такога становішча! Мы былі ў стэпе, дзе шмат міль наўкола нас толькі адна трава і ніводнага дрэўца. Ну што-ж, мой загад ёсьць загад, дык мой фэльдфэбэль узяў настаўніка і некалькі чалавек канвою і паехаў шукаць якога-небудзь дрэва. Вярнуліся яны толькі пад вечар і разам з настаўнікам. Падыходзіць да мяне фэльдфэбэль і пытаецца зноў: на чым па-

весіць настаўніка? Я яго вылаяў, бо мой загад быў ясны: на бліжэйшым дрэве. Ну, адлажылі гэтую справу да раніцы, а раніцою зьяўляецца мой фэльдфэбэль да мяне белы, як палатно, і дакладвае, што настаўнік ўначы уцёк з-пад варты. Мне гэта выдалася такім сьмешным, што я ўсім дараваў, хто яго вартаваў і яшчэ пасьмяяўся, што настаўнік напэўна сам пашоў шукаць сабе адпаведнага дрэва. Дык от бачыш, любая Тэрэза, мы тут ня сумуем. І скажы нашаму сынку, што татка яго моцна цалуе і хутка прышле яму жывога расейца, на якім ён зможа езьдзіць верхам, як на коніку. Ах, от яшчэ, я ўспомніў адзін комічны выпадак, мая любая. Гэтымі днямі мы павесілі аднаго шпэга, яўрэя. Гэты тып трапіўся нам у такім месцы, дзе яму зусім ня было чаго рабіць і прысягаў, што ён толькі прадае папяросы. Такім чынам, яго павесілі, але толькі на некалькі сэкунд, бо абарвалася вяроўка; ён зваліўся, зараз-жа апамятаваўся і пачаў прасіць: «Прашу вас адпусьцеце мяне дахаты, бо вы мяне ўжо раз павесілі, а паводле закону мяне нельга два разы павесіць за адну і тую-ж справу». Я расьсьмяяўся і мы пусьцілі гэтага яўрэя. Так, любая, у нас жывецца весела...»

Калі генэрала Фінка прызначылі за начальніка гарнізону Пярэмышля, ён ня меў такіх частых выпадкаў забаўляцца вешаньнем, таму ён з радасьцю ўхапіўся за справу Швэйка.

Такім чынам, Швэйк стаяў перад гэтым тыграм у асобе чалавека, што, седзячы за доўгім сталом, курыў адна за аднэю папяросы і слухаў развагі нашага добрага ваякі, якія яму тут-жа перакладаліся на нямецкую мову.

Маёр запрапанаваў тэлеграфна запытацца ў брыгадзе, дзе знаходзіцца 11-ая маршавая рота 91-га палка, у лік салдат якое ўваходзіць, паводле яго ўласных слоў, і падсудны.

Генэрал пачаў супярэчыць і даводзіць, што гэткае адцягваньне справы зводзіць да нічога вайскова-палявыя суды і самы сэнс гэтае інстытуцыі. А ў справе мы маем, што падсудны сам ва ўсім прызнаўся, прызнаўся, што ён апрануў расійскую вайсковую форму, а пасьля ёсьць вельмі важныя паказаньні сьведкі, што падсудны быў у Кіеве. Таму ён як старшыня пра-

лануе пайсьці на нараду. Пасьля нарады прыгавар можа быць зараз-жа абвешчаны і выкананы.

Аднак маёр настойваў устанавіць асобу падсуднага, бо ўся гэтая справа на яго думку мае вялізарнае палітычнае значэньне. Калі яны ўстановяць, што гэта за асоба, тады няцяжка будзе выкавіць і ўсіх, хто дапамагаў гэтаму нягодніку.

Маёр, відаць, быў вялікі рамантык, што любіў лятуцець. Ён казаў яшчэ пра тое, што менавіта трэба шукаць нейкія ніці і што мала адаслаць на той сьвет аднаго толькі чалавека, бо кара сьмерцю зьяўляецца толькі вынікам папярэднята следзтва, якое нізаводня дасьць поўны малюнак, які... і ніці, якія...

Ён так і ня мог вылезьці з гэтых «ніцяй», але ўсе яго зразумелі і на знак згоды заківалі галовамі і нават сам генэрал, каму маёравы «ніці» асабліва падабаліся, як ён уявіў сабе, колькі на іх канцох завісьне новых вайскова-палявых судоў. Таму ён больш не пярэчыў і загадаў, каб пазванілі ў брыгаду, ці сапраўды ў складзе 91-га пяхотнага палка лічыцца ордынарац Язэп Швэйк і калі і ў якіх абставінах ён перайшоў на бок расейцаў.

На працягу ўсіх гэтых перагавораў, Швэйка вартавалі ў калідоры два штыхі; пасьля яго ізноў паклікалі і яшчэ раз спыталіся, якога ён палка. Нарэшце яго адвялі ў гарнізонную турму.

*

Як генэрал Фінк вярнуўся дадому пасьля гэтага паседжаньня палявога суду, што скончылася без усялякіх вынікаў, ён лёг на канапу і задумаўся, як-бы паскорыць справу.

Ён цьвёрда быў упэўнен, што адказ атрымае зараз-жа, але усё-ж ня так хутка, як гэта рабілася ў вайскова-палявых судох; акрамя таго, наперадзе была яшчэ процэдура духовае ўцехі прысуджанага, што дарма толькі адцягвала самую кару на цэлых дзьве гадзіны.

— Усёроўна,—разважаў генэрал Фінк,—мы можам зараз, каб не марнаваць часу, даць яму духоўную ўцеху і да таго, як будзе вынесен прыгавор. Як-бы там ні было, а ён будзе вісець.

Генэрал Фінк загадаў паклікаць фэльдкурата Мартынеца.

Гэта быў няшчасны катэхэт з Моравіі. У яго начальнік ксёндз быў такім гадам, што ён наважыўся лепш уцячы на вайсковую службу. Ён быў чалавекам шчырае веры і з жалем успамінаў свайго духовага айца, што павольна, але напэўна ішоў да загубы свае ўласнае душы, бо піў сьлівавіцу, як шавец, а неяк уночы гвалтам зацягнуў да яго, нявіннага, у пасьцель маладую цыганку з табару, што папаў, як п'яны вяртаўся з карчмы.

Фэльдкурат Мартынец думаў, што ў войску на полі бойкі ён адпакутуе і сваю віну і за свайго няшчаснага ксяндза, што, як позна вяртаўся дахаты, меў звычай будзіць яго і прыставаць:

— Эх, браток, браток! Мне-б цяпер толькі здаровую бабу і больш мне нічога на сьвеце ня трэба!

Але надзеі Мартынеца ня збыліся. Яго пераводзілі з гарнізону ў гарнізон, дзе ён ня меў ніякае іншае работы, як толькі раз на два тыдні чытаць казаньне ў гарнізонным касьцёле салдатам і ратаваць сваю душу ад спакусы, што выходзіла з афіцэрската сабраньня, дзе можна было пачуць такія гутаркі, што развагі яго былога начальства пра здаровую бабу здаваліся ў параўнаньні з імі малітваю анёла-абаронцу.

Да генэрала Фінка яго звычайна клікалі пад час вялікіх вайсковых опэрацый, як трэба было адсьвяткаваць якую перамогу аўстрыйскае арміі; у такіх выпадках генэрал Фінк з такою самаю любасьцю, як вешаў, наладжваў малебны.

Генэрал Фінк быў такім аўстрыйскім патрыётам, што пра перамогу нямецкае, турэцкае або баўгарскае зброі ён не маліўся. А калі немцы атрымлівалі перамогу над французамі або ангельцамі, ён гэтыя выпадкі абыходзіў зусім моўчкі.

Затое нязначная сутычка аўстрыйскіх разьведчыкаў з расійскім патрулём, з якое штаб рабіў вялізную мыльную бурбалку паражэньня ўсяе расійскае арміі, давала генэралу Фінку прычыну да ўрачыстае імшы, так што ў няшчаснага фэльдкурата Мартынеца атрымлівалася ўяўленьне, нібыта генэрал Фінк зьяўляецца таксама і шэфам каталіцкае царквы ў Пярэмышлі.

Генэрал Фінк ладзіў цырамонію такой службы. Часьцей за ўсё, паводле прыкладу службы ў дзень божага цела, у яго быў звычай пасьля таго, як падымалі сьвятыя дары, вылецець наўзавады на кані на пляц да самага алтара і тройчы крыкнуць: «Гура, гура, гура!»

Фэльдкурат Мартынец, душа чыстая і пэўная, перш ня вельмі ахвоча хадзіў да генэрала Фінка. Той, скончыўшы з загадамі па гарнізону, звычайна казаў наліць сабе чаго больш моцнага і пачынаў расказваць самыя новыя анэкдоты з ідыёцкіх кніжачак, што выдавала рэдакцыя аднае гумарыстычнае часопісі знарок дзеля вайсковых. У яго была цэлая бібліотэчка гэткіх кніжачак з самымі дзікімі назвамі. Каб было весялей, ён пачынаў сьпяваць удалую песьню з салдацкага песельніка і не забываўся ўвесь час старанна падліваць фэльдкурату і ўгавораваць яго, каб той выпіў і сьпеў што-небудзь у два галасы разам з ім. Пасьля ён пачынаў гаварыць няпрыстойнасьці і бедны фэльдкурат, на вялікі свой жаль, мог пераканацца, што ён зусім ня ўступае мораўскаму ксяндзу.

Фэльдкурат Мартынец з жахам заўважваў, што ён этычна спускаецца ўсё ніжэй і ніжэй, чым часьцей сустракаецца з генэралам Фінкам.

Няшчаснаму пачалі падабацца лікёры, якімі частаваў яго генэрал. Ён пачаў з большай літасьцю ставіцца да гутарак генэрала. У яго зьявілася нейкая зусім дзікая фантазія, а п'ючы кантушоўку, гарэлку, настоеную ялаўцы, і стары польскі мёд у сівых ад павуціньня бутэльках, ён забываўся пра бога, а паміж радкоў ягонага маліцьвеньніка скакалі перад ім жанчыны з гэнэральскіх анэкдотаў. Адным словам, агіда да выпіўкі з гэнэралам паволі трацілася.

Генэралу таксама падабаўся фэльдкурат Мартынец, што спачатку яму здаваўся нейкім сьвятым Ігнатам Лёёлам, але цяпер паволі зжываўся з вакольным народам.

Неяк раз генэрал запрасіў да сябе двух міласэрдных сясьцёр з палявога лазарэту, што менавіта там зусім не працавалі, а былі толькі прыпісаны да яго і атрымлівалі пэнсію там, павялічваючы свае прыбыткі простытуцыяй, як гэта было вельмі

распаўсюджана ў той цяжкі час. Ён загадаў паклікаць і фэльдкурата Мартынеца, у якога тады ўжо грэх запусьціў глыбока кіпці, і наладзіў з ім дзікую оргію... Пасьля фэльдкурат Мартынец доўга дакараў сябе за свае цяжкія правіны, чаго ня мог направіць у тую ноч нават тым, што па дарозе дахаты цераз парк, памыліўшыся, горача памаліўся перад статуяй былога падрадчыка, а пасьля бургомістра гораду Пярэмышлю пана Грабоўскага, што ў васьмідзесятых гадох карыстаўся вялікаю популярнасьцю.

Толькі цяжкія крокі патруля парушылі яго праніклівыя словы:

— О божа, ня судзі раба твайго, бо ня знойдзецца ніводнага чалавека перад тваім абліччам, калі ня зьлітуешся ты і не даруеш яму яго грэхі. Няхай будзе твая сьвятая воля ня надта суровая. Прашу твае дапамогі я і ў твае рукі аддаю дух свой.

З таго часу ён разоў колькі прабаваў, як яго клікалі да генэрала Фінка, зрачыся ўсіх забаваў сьвету, кажучы, што ён мае вольнасьць і яму баліць жывот. Такую ману ён дазваляў сабе ў імя збавеньня, каб яго душа магла ўнікнуць пекла, бо з другога боку ён лічыў, што па моцы вайсковае дысцыпліны які-небудзь фэльдкурат, калі генэрал загадвае яму выпіць, павінен не пярэчачы выканаць загад, хоць з павагі да большага чыну.

Праўда, часам яму гэта не ўдавалася, асабліва тады, калі генэрал пасьля ўрачыстае богаслужбы наладжваў яшчэ больш урачыстыя баляваньні за рахунак дзяржавы. У такіх выпадках грошы бралі проста з гарнізоннае касы ці адкуль даводзілася, і фэльдкурат дакладна ўяўляў сабе, як ён усё больш і больш духова зьніжаецца, як усё больш абнімае яго грэх.

Ён хадзіў, як у тумане, і, ня трацячы ў гэтым хаосе веры ў бога, пачынаў сур'ёзна думаць пра тое, ці не пачаць яму кожны дзень самога сябе лупцаваць бізунамі.

От у такім настроі ён зьявіўся на апошняе запрашэньне генэрала, што ўвесь зазьзяў, устаўшы яму насустрач.

— А вы ўжо чулі,—захоплена крыкнуў ён,—пра мой вайскова-палявы суд? Мы зьбіраемся даведацца аднаго вашага земляка.

Пры слове «зямляк» фэльдкурат з немым докарам зірнуў на генэрала. Ужо ня раз ён рашуча протэставаў супроць таго, што яго маюць за чэха, і ня раз тлумачыў, што ў яго моравскай парафіі жыхары дзяліліся на дзьве паловы—адна нямецкая, адна чэская і што яму часта даводзілася гаварыць казаньні аднае нядзелі чэхам, а другое немцам. А таму, што чэхі ня мелі чэскае школы, а была нямецкая, дык ён у абедзьвюх вобшчынах выкладаў на нямецкай мове. От чаму ён ніяк ня можа быць чэхам. І гэты лёгічны вынік зьявіўся прычынаю пажартаваць аднаму маёру за сталом, што фэльдкурат з Моравіі і што ён чэскі немец, а не нямецкі чэх.

— Ах, выбачайце,—прамовіў генэрал,—я зусім забыўся, што ён ня ваш зямляк. Ён-жа чэх, перабежчык, здраднік, што служыў у расейцаў і напэўна будзе павешан. Цяпер мы каб выканаць праформу, высьвятляем ягоную асобу, але гэта нічога. Вісець яму ўсяроўна давядзецца, адно толькі атрымаем тэлеграфны адказ.

Пасадзіўшы фэльдкурата поруч з сабою на канапе, генэрал весела казаў далей:

— Калі ў мяне прызначан вайскова-палявы суд, дык ўсё павінна адказваць хуткасьці гэткага суду. Гэткі мой прынцып. Калі я на самым пачатку вайны быў яшчэ ў Львове, мне ўдалося пакіраваць адну справу так, што праз тры хвіліны пасьля таго, як быў прачытаны прыгавор, падсудны вісеў ўжо на вяроўцы. Праўда, гэта быў яўрэй, але і аднаго русіна мы павесілі праз пяць хвілін пасьля нашае нарады.

Генэрал добрадушна расьсьмяяўся.

— І, ведаеце, у абодвых выпадках не патрэбна была духовая ўцеха. Яўрэй быў рабінам, а русін—папом. Праўда, у нашым сёнешнім выпадку справа крыху іншая, бо тут давядзецца павесіць каталіка. Але, каб не марудзіць справы, я прыдумаў цудоўную рэч: вы дасьцё яму гэту духовую ўцеху наперад. Менавіта, каб не зацягваць справы.

Генэрал пазваніў і загадаў ордынарцу:

— Прынясі там пару з урачайшае батарэі.

І, наліваючы фэльдкурату поўную шклянку, ён ласкава заўважыў:

— І вам не пашкодзіць самому крышку ўцешыцца перад гэтаю духоваю ўцехаю...

*

У тэтую страшэнную хвіліну з-за кратаў вакна, дзе сядзеў на столку Швэйк, чулася яго песьня:

Мы адважныя салдаты,
Раз і два, раз і два!
Мы на грошы ўсе багаты,
Раз і два, раз і два!

## ДУХОВАЯ ЎЦЕХА

Фэльдкурат не ўвайшоў, а літаральна ўскочыў да Швэйка, як балерына на сцэну. Сум па райскім жыцьці, па райскай асалодзе і бутэлька белага віна зрабілі яго ў гэты момант лёгкім, нібы пёрка. І яму здавалася, што ў гэтую смутную хвіліну ён, набліжаючыся да Швэйка, набліжаўся да бога.

За ім зачынілі дзьверы, пакінуўшы яго са Швэйкам сам-насам. Тады ён падышоў зусім блізка да салдата, што сядзеў на столку, і ўзрушана прамовіў:

— Мой любы сын, я фэльдкурат Мартынец.

Такі зварот усю дарогу здаваўся яму самым адпаведным і, так сказаць, бацькоўскі-шчырым.

Швэйк ветла падняўся, як мядзьведзь у бярлозе, патрос фэльдкурата за абедзьве рукі і сказаў:

— Вельмі прыемна. Маё прозьвішча Швэйк, ордынарац 11-ае маршавае роты 91-га пяхотнага палка. Наш кадр нядаўна перавялі ў Брук на Лейце. Дык прашу вас сядайце, пане фэльдкурат, і раскажэце мне, за што вас пасадзілі. У вас-жа афіцэрскі чын і вам трэба сядзець у афіцэрскай камеры. Дык чаму-ж вы тут? Тут і сяньнікі ўсе вашывыя. Здараецца вядома, што часам іншы чалавек і сам ня ведае, у якую камеру яго трэба пасадзіць, але тады яго значыць перабліталі ў канцыляры. От мне самому, пане фэльдкурат, давялося сядзець арыштаванаму пры палку ў Будэёвіцах і да мяне раптам пасадзілі кандыдата на першы афіцэрскі чын, самі ведаеце, хто такі кандыдат на першы афіцэрскі чын, гэта ўсяроўна, як фэльдкурат ні сьвіньня, ні парася. Гэтага пасадзілі за тое, што ён

лаяў салдатаў як праўдзівы афіцэр, а такіх знарок саджалі з салдатамі. Гэта былі, пане фэльдкурат, проста нейкія дурні; у унтэр-афіцэрскі кацёл іх ня прымалі, карыстацца салдацкім катлом ім не дазвалялася таму, што яны не салдаты, а абедаць у афіцэрскім сабраньні іх таксама ня пускалі. У нас было такіх пяць чалавек у палку, і спачатку яны жывіліся адным толькі сырам з салдацкае крамкі, бо іх нідзе не кармілі. Так гэта цягнулася да таго часу, пакуль іх не застаў там паручык Вурм і не забараніў ім хадзіць туды, бо гэта ніяк не пасуе да годнасьці кандыдата на першы афіцэрскі чын хадзіць у салдацкую крамку. А што яны павінны былі рабіць? У афіцэрскую-ж крамку іх таксама ня пускалі. От так яны і віселі ў паветры і за дзён колькі яны так змарнелі, так зьнябыткаваліся, што адзін з іх кінуўся ў Мальшу, а другі зусім уцёк з палка і праз два месяцы напісаў у казарму, што ён зрабіўся вайсковым міністрам у Мароко. Такім чынам іх засталося чацьвёра, бо таго, што кінуўся ў Мальшу, выцягнулі з вады яшчэ жывога. Бачыце, ён з страху забыўся, што ўмее плаваць і нават вельмі добра вытрымаў экзамены ў школе плаваньня. Яго адвезьлі ў больніцу, а там таксама ня ведалі, куды палажыць і якую коўдру даць яму: ці простую салдацкую ці афіцэрскую. З гэткага становішча знайшлі такі выхад, што зусім пакінулі яго бяз коўдры, а накрылі толькі аднэй просьцінаю. Дык ён ужо праз паўгадзіны стаў прасіцца назад у казарму. От гэтага чалавека і пасадзілі зусім мокрага ў маю камеру. Ён прасядзеў нешта чатыры дні і быў вельмі здаволен, бо яму давалі, праўда арыштанцкую, але ўсё-ж ежу і яна была яму кожны дзень забясьпечана. На пяты дзень па яго прышлі, праз паўгадзіны ён яшчэ вярнуўся па шапку і, плачучы з радасьці, гаворыць мне: «Нарэшце прышло вырашэньне нашай справе. Цяпер мы, кандыдаты на першы афіцэрскі чын, будзем адбываць пакараньне на гаўптвахце разам з афіцэрамі і абеды будзем мець з афіцэрскае кухні. Калі паны афіцэры наядуцца, дык нам астачу. А спаць мы будзем разам з салдатамі, каву таксама з салдацкае кухні будзем даставаць, і папяросы таксама атрымліваць як салдаты».

Толькі цяпер фэльдкурат настолькі апамятаўся, што мог

перапыніць Швэйка фразаю, што ня мела ніякага дачыненьня да папярэдняе іхняе гутаркі:

— Так, так, мой каханы сыне. Між небам і зямлёю ёсьць такія рэчы, пра якія трэба падумаць хрысьціянскай душы з надзеяю на боскую літасьць. Я прышоў падаць табе, каханы мой сыне, духовую ўцеху.

Ён змоўк, бо ўсё гэта ў яго неяк нясклядна выходзіла. Яшчэ ў дарозе ён склаў плян прамовы, з дапамогаю якой хацеў прымусіць няшчаснага задумацца пра яго грэшнае жыцьцё і выпрасіць літасьці і жыцьця на тым сьвеце, што яму абяцае рэлігія, калі ён пакаецца і замоліць свае грахі.

Ён стаў меркаваць, што-б яму гэткае сказаць, але Швэйк папярэдзіў яго, спытаўшыся, ці няма ў яго папяросы.

Тое, што фэльдкурат Мартынец да гэтага часу не навучыўся курыць, было ўсё, што засталося ў яго ад ранейшага хрысьціянскага жыцьця. Цяпер ён прабаваў курыць цыгары, але яго ванітавала і ўсё выходзіла назад, у яго было такое пачуцьцё, нібы анёл-абаронца казытаў яго пальцам у горле.

— Я ня куру, мой каханы сыне,—з надзвычайнаю годнасьцю адказаў ён Швэйку.

— Гэта мяне вельмі дзівіць,—сказаў Швэйк,—я ведаў шмат фэльдкуратаў і ўсё яны дымілі, як бровар у Сьміхаве. Наогул, я не магу ўявіць сабе фэльдкурата, што ня піў-бы і ня курыў. Аднаго толькі я памятаю, што ня курыў, але затое ён жаваў тытун і, бывала, кажучы казаньне, заплёўваў усю катэдру... А вы адкуль самі, пане фэльдкурат?

— З Ічына,—упаўшым голасам адказаў фэльдкурат Мартынец.

— А вы, часамі, ня ведалі там нейкую Розу Гандэс, пане фэльдкурат? Яна пазалетась служыла ў вінным паграбе на Плятнэровай вуліцы ў Празе і падала на суд за аліманты адразу на васемнаццаць мужчын, бо яна радзіла блізьнята. У аднаго з гэтых дзяцей адно вока было блакітнае, а другое карае, а ў другога адно вока шэрае, а другое чорнае. Таму яна выразыла, што ў гэтай справе замешаны чатыры паны з тых, што хадзілі ў гэты паграбок і ў якіх былі вочы такога-ж самага

колеру. А ў аднаго з дзяцей ножка была выкрыўлена зусім, як у аднаго радцы з магістратуры, што таксама хадзіў сюды. У другога было шэсьць пальцаў на назе, як у дэпутата, што заўсёды даведваўся ў гэты паграбок. І от уявеце сабе пане фэльдкурат, што туды хадзіла восемнаццаць такіх асоб, і ў кожнага з блізьняцоў была якая-небудзь прыкмета ад кожнага, ад усіх восемнаццаці, з якімі гэта Роза заставалася сам-на-сам у сваім пакоі або ў нумары. Нарэшце суд вырашыў, што цяжка ўстанавіць такі вялікі сыпіс бацькоў, і тады Роза зваліла ўсю віну на гаспадара і падала на яго ў суд, але той давёў, што з прычыны аднае опэрацыі ён ужо больш дваццаці год імпотэнт.

— Тады, пане фэльдкурат, яе паслалі да вас у Ічын. Адгэтуль вынікае мараль, што хто за двума зайцамі пагоніцца, той і аднаго ня зловіць. Ёй трэба было спыніцца на кім-небудзь адным, а не казаць на судзе, што адзін з блізьнюкоў ад пана радцы, а другі ад пана дэпутата. Бо заўсёды-ж можна вылічыць, калі народзіцца дзіця. У такі і такі дзень я вось была з ім у нумары, а ў такі вось дзень радзілася дзіця. Зразумела, калі роды былі нормальнымі, пане фэльдкурат. А ў такіх гогэліках за пяцёрку заўсёды знойдзецца сьведка, напрыклад, дворнік або служанка, якія, прысягнуўшы, пакажуць, што вось той і той і з тэю і тэю ў нумары і што яна, калі яны сыходзілі з усходаў, гаварыла яму: «Ну, а калі будуць якія-небудзь вынікі?», а ён ей на гэта адказаў: «Ня турбуйся, котачка, я дзіця забясьпечу».

Фэльдкурат задумаўся і духовая ўцеха здалася яму цяпер вельмі нялёгкаю справаю. Праўда, ён ужо раней прыгатаваў плян таго, пра што ён меўся гаварыць: пра боскую літасьць у дзень страшнага суду, калі ўсе злачынцы ўстануць з магілы з вяроўкамі на шыі, і калі пакаюцца, дык будуць прыняты да праведных зусім так, як разбойнік з новага завету.

Ён прыгатаваў цудоўнае слова духовае ўцехі, што павінна была складацца з трох частак. Перш ён хацеў пагаварыць пра тое, што сьмерць на шыбеніцы лёгкая чалавеку, што зьмірыўся з богам. Вайсковыя законы строга караюць тых, што вінаваты ў здрадзе яго імпэратарскай вялікасьці, бацьку салдатаў. І таму кожны найменшы злачын супроць яго трэба разглядаць як

бацьказабойства, як зьнявагу бацькі. Пасьля ён хацеў разьвярнуць перад ім тэорыю, што імпэратарская ўлада—ўлада з боскае ласкі і што імпэратар пастаўлен богам, каб кіраваць зямнымі справамі, як папа рымскі—каб кіраваць духовымі. Таму здрада імпэратару—тое самае, што здрада самому пану богу. Такім чынам, здрадніка чакае ня толькі шыбеніца, але і вечная кара як адступніка ад бога. Але хоць людзкія законы ня могуць адмяніць прыгавору, бо трэба падтрымліваць ваенную дысцыпліну, аднак ня ўсё яшчэ страчана, там дзе справа датычыць другое кары—вечнай пакуты ў пекле. І от чалавек можа вельмі добра ўнікнуць гэтае другое кары, калі шчыра пакаецца.

Фэльдкурат яскрава ўяўляў сабе гэтую ўзрушаючую сцэну, што павінна была і яму служыць нейкім збавеньнем ад яго ўласных грахоў і асабліва яго прыгодаў на кватэры генэрала Фінка ў Пярэмышлі.

Ён маляваў сабе абраз, як ён спачатку зараве на прысуджанага: «Пакайся, сын мой! Стань разам са мною на калені ды памолімся!» І як тады сьмярдзючая вашывая камера напоўніцца словамі малітвы: «О божа, да цябе, што зьяўляецца адным міласэрдзем і літасьцю, да цябе я малюся за душу ваякі, якому ты загадаў пакінуць гэты сьвет паводле загаду ваеннапалявога суду ў Пярэмышлі. Учыні, божа, так, каб гэты салдат пяхотнага палка, што шчыра і сардэчна пакаяўся, не пазнаў прыгатаванае яму вечнае мукі, але дазнаўся райскае раскошы».

— Выбачайце, пане фэльдкурат,—сказаў Швэйк,—вы сядзіце ўжо пяць хвілін, як забітыя, нібы гутарка не датычыцца вас. От адразу і відаць, што вы першы раз пад арыштам.

— Я прышоў,—сур'ёзна прамовіў фэльдкурат,—каб даць вам духовую ўцеху.

— Гэта нават дзіўна, што вы ўвесь час гаворыце пра нейкую духовую ўцеху, пане фэльдкурат. Я зусім не адчуваю ў сабе сілы, каб даць вам духовую ўцеху. Але вы-ж ня першы, што апынуліся за кратамі. Хоць, праўду кажучы, пане фэльдкурат, у мяне няма таго красная моўства, каб даць каму-небудзь у цяжкую хвіліну духовую ўцеху. Неяк раз я спрабаваў зрабіць гэтае, але толькі карысьць была з гэтага малая. От сядзьце

поруч са мною і раскажу вам, як была справа. Калі я жыў яшчэ на Апатовіцкай вуліцы, быў у мяне прыяцель, звалі яго Фаусьцін і служыў ён за швэйцара ў адным готэлі. Гэта быў вельмі сумленны чалавек, чэсны, працавіты. А што датычыць розных фэяў з вуліцы, дык ён усіх іх ведаў і вы маглі-б у які хочаце час, удзень і ўначы маглі прысьці да яго і сказаць: «Пане Фаусьцін, мне патрэбна паненка» і ён зараз-бы спытаўся ў вас, якую вы хочаце: ці сьветлавалосую, ці чорную, маленькую ростам, або большую, худую, ало поўненькую, немку, чэшку або яўрэйку, дзяўчыну, разьведзеную або замужнюю, інтэлігэнтную або простую.

Швэйк фамільярна прыціснуўся да фэльдкурата і, абняўшы яго за пояс, казаў далей:

— Ну, скажам вы, пане фэльдкурат, заявілі-б што вам патрэбна сьветлавалосая, з прыгожымі нагамі, удава, з простых, і от яна была ўжо праз дзесяць хвілін разам са сваімі мэтрыкамі ў вас у ложку.

Фэльдкурат аж успацеў, а Швэйк казаў далей, прыціскаючы і туляючы да сябе фэльдкурата, як матка дзіцё:

— Вы не паверыце, пане фэльдкурат, як гэты пан Фаусьцін паважаў чэснасьць і маральнасьць. Ад жанчын, якіх ён прыводзіў у нумар, ён ніколі ня браў ні граша сабе, а калі, часам, якая-небудзь з іх забывалася і сунула яму грошы, дык вы пабачылі-б, як ён хваляваўся і пачынаў крычаць: «Эх ты, сьвіньня, ня думай, калі ты гандлюеш сваім целам і адважылася на сьмяротны грэх, дык мне вельмі цікава ўзяць з цябе твае грошы. Я-ж табе ня зводнік, паганая ты морда! Я раблю гэта толькі таму, што шкадую цябе, каб табе, калі ты дайшла ўжо да такога жыцьця, не выстаўляць свой сорам на паказ, а то забярэ цябе ўначы варта і давядзецца табе, няшчаснай, тры дні мыць падлогу ў аддзяленьні паліцыі. А так ты, прынамсі, сядзіш у цяпле і ніхто ня бачыць, як нізка ты скацілася. Пан Фаусьцін, вядома, браў грошы ад сваіх кліентаў, хоць і не хацеў браць грошы ад жанчын. У яго была нават свая такса: блакітныя вочкі каштавалі сорак гэлераў, чорныя—трыццаць, і ўсё гэта ён, бывала, акуратна выпіша на паперачку, як рахунак, і па-

дзяць госьцю... Што-ж, за свае паслугі ён браў няшмат. От толькі за неінтэлігэнтных ён набаўляў цэлых дваццаць гэлераў, бо ён выходзіў з таго меркаваньня, што простая баба больш зьмястоўная, чым якая-небудзь асьвечаная дама. Неяк раз увечары пан Фаусьцін прыбег да мяне на Апатовіцавую вуліцу, усхваляваны, узрушаны, нібыта яго толькі што выцягнулі з-пад трамваю і ў гэты час укралі ў яго гадзіньнік. Перш ён зусім ня мог сказаць ні слова, выцягнуў з кішэні бутэльку рому, адпіў сам, падаў мне і прахрыпеў: «На, выпі!» Так мы і не гаварылі нічога, пакуль не спаражнілі ўсю бутэльку, а потым ён да мяне і зьвяртаецца: «Паслухай, браце, зрабі мне паслугу. Расчыні вакно на вуліцу, я сяду на вакно, а ты бяры мяне за ногі ды і выкінь з трэцяга паверху на тротуар. Нічога мне больш у сьвеце ня трэба, а хачу атрымаць духовую ўцеху ад свайго прыяцеля, што паможа мне перайсьці ў лепшы сьвет. Не магу я больш жыць на гэтым сьвеце, бо мяне, сумленнага чалавека, абвінавачваюць у тым, што я зводнік, як які-небудзь уласьнік прытону з яўрэйскага кварталу. Наш-жа готэль—першага разраду, усе тры наймічкі і мая жонка маюць у парадку рэгістрацыйныя кніжачкі, і пану доктару за візыты мы нічога ня вінны!.. Ды от, калі ты мне хоць крышку любіш, выкінь мяне з трэцяга паверху, дай мне гэтую апошнюю духовую ўцеху!» Ну, я яму загадаў лезьці на вакно і выкінуў яго на вуліцу... Ды вы ня пужайцеся, пане фэльдкурат!

Швэйк устаў і пацягнуў фэльдкурата за сабою.

— От так, пане фэльдкурат, от так я яго схапіў і—бразь уніз.

Швэйк падняў фэльдкурата і кінуў яго на падлогу, а сам спакойна казаў далей, у той час, як фэльдкурат мацаў, ці ўсе косьці ў яго цэлыя:

— От бачыце, пане фэльдкурат, з вамі нічога ня здарылася, і з тым, з панам Фаусьцінам, таксама нічога ня здарылася, бо хоць ён і казаў, што з трэцяга паверху, а ўсё-ж толькі разоў тры вышэй, як вы цяпер упалі. Справа ў тым, што пан Фаусьцін быў п'яны, як шавец, і зусім забыўся, што я жыў тады па Апатовіцавай вуліцы на першым паверсе, а не на трэцім як год

перад тым, калі я жыў на Кшымянецкай вуліцы і ён прыходзіў да мяне ў госьці.

Фэльдкурат усё яшчэ сядзеў на падлозе і з жахам паглядаў на Швэйка, што стаяў на нарах і размахваў рукамі. У фэльдкурата зьявілася думка, што перад ім вар'ят, таму ён са словамі: «Так, каханы мой, сыне, гэта было толькі тры разы вышэй» ціхенька і паволі прысунуўся бокам да дзьвярэй і пачаў так па іх малаціць і з такім выцьцём, што яны адразу-ж адчыніліся.

Швэйк праз краты вакенца бачыў, як фэльдкурат, размахваючы рукамі, хутка бег разам з канвойнымі праз двор.

— Ну, от павялі боскага служку ў вар'яцкі дом,—прамовіў сабе пад нос Швэйк, саскочыў з нараў, пачаў хадзіць па камэры і сьпяваць:

> **Пярсьцёнак, што мне падарыла,**
> **Я болей не нашу,**
> **Я болей не нашу...**

Некалькі хвілін пазьней, пасьля гэтага, фэльдкурат быў ужо ў генэрала Фінка.

У генэрала ізноў было вялікае «дзелавое паседжаньне», дзе галоўную ролю выконвалі дзьве прыгожанькія жанчыны, віно і лікёры.

Тут быў увесь склад вайскова-палявога суду, акрамя пяхотнага салдаціка, што раніцою падаваў папяросы.

Фэльдкурат паціху, як здань, увайшоў у пакой «паседжаньня». Ён быў бледы, усхваляваны і поўны годнасьці, як чалавек, які ўсьведамляе сабе, што бяз прычыны атрымаў поўху.

Генэрал Фінк, які апошнім часам вельмі прывязаўся да фэльдкурата, пасадзіў яго поруч з сабою на канапу і спытаўся п'яным голасам:

— Што з табою здарылася, «духовая ўцеха»?

Адна я вясёлых жанчын кінула ў фэльдкурата акуркам.

— Выпі, «духовая ўцеха»,—казаў генэрал, наліваючы фэльдкурату віно ў вялікі зялёны келіх. А таму што фэльдкурат яя выпіў усё адразу, генэрал уласнаручна пачаў уліваць яму віно

ў горла, і, каб фэльдкурат не пачаў старанна глытаць, яно-б усё расьцяклося па ім.

Толькі пасьля гэтай цырамоніі запыталіся ў фэльдкурата, як трымаў сябе прысуджаны, калі яму даваў ён духовую ўцеху. Фэльдкурат устаў і трагічным голасам сказаў:

— Ён звар'яцеў!

— Мусіць, добрая была духовая ўцеха,—засьмяяўся гэнэрал, і ўсе разам з ім голасна зарагаталі. Абедзьве жанчыны ізноў пачалі кідаць у фэльдкурата акуркамі.

На самым канцы стала драмаў на сваім крэсьле маёр, што крышку перадаў. Але ў гэты момант сон ад яго адскочыў і ён жвава наліў дзьве шкляначкі лікёру, падышоў да фэльдкурата і прымусіў крыху зьбянтэжанага боскага служку выпіць з ім на «ты». Пасьля ён ледзь дабраўся да свайго месца і яго ізноў ахапіла прострацыя.

Пасьля гэтае шкляначкі фэльдкурат зусім заблытаўся ў сеці д'ябла, што распускаў на яго кіпці з усіх бутэлек на стале і з усіх поглядаў і ўсьмешак вясёлых жанчын, што палажылі перад самым яго носам свае ножкі на стол і сам Вэльзэвул выглядаў з прошваў і карункаў.

Да апошняе хвіліны фэльдкурат быў упэўнен, што справа ідзе пра яго душу і што ён—пакутнік. Гэта ён выказаў у працове да абодвых ардынарцаў генэрала, якія аднесьлі яго ў суседні пакой на канапу.

— Сумнае, але ўзрушаючае відовішча,—казаў ён,—паўстае перад вашымі вачыма, калі вы з чыстым і ясным сэрцам успамінаеце рад славутых пакутнікаў, што аддалі сваё жыцьцё за веру і вядомы пад назваю: «мучальнікі». Вось і на маім прыкладзе вы можаце бачыць, колькі цярпіць і зносіць чалавек, калі ў ягонай душы жывуцьісьціна і дабрадзейнасьць, што зьяўляюцца ягонаю зброяю і абаронаю ў барацьбе з грахом, у якой ён атрымлівае славутыя перамогі.

У гэты час яго перавярнулі тварам да сьцяны і ён адразу захроп.

Сон яго быў неспакойны.

Яму сьнілася, нібыта ўдзень ён выконвае абавязкі фэльдфебеля, а з вечара служыць, замест Фаусьціна, якога Швэйк выкінуў з вакна трэцяга паверху, швэйцарам у готэлі. З усіх бакоў плылі на яго скаргі гэнэралу: то ён падсунуў даведвальніку сьветлавалосую, замест чорнай, то прыслаў замест разьведзенае інтэлігентнае жанчыны простую ўдаву...

Раніцою ён прачнуўся ўвесь, як мыш, мокры ад поту; у ягоным жываце было такое хваляваньне, як бура на моры, і яму здалося, што яго стары начальнік, ксёндз з Моравіі, у параўнаньні з ім, проста анел...

## ШВЭЙК ІЗНОЎ АПЫНУЎСЯ Ў СВАЕЙ МАРШАВАЙ РОЦЕ

Маёр, што раніцою ў вайскова-палявым судзе выконваў у справе Швэйка абавязкі аўдытара, быў той самы афіцэр, што ўвечары піў з фэльдкуратам у генэрала на «ты», а пасьля ізноў задрамаў.

Ніхто не заўважыў, калі і як маёр пакінуў уначы генэральскую компанію. У тым стане, у якім былі ўсе госьці, ніхто ня ўзяў увагі, куды ён зьнік. Генэрал быў да таго п'яны, што нават ня мог распазнаць, хто з ім гаворыць. Маёра ўжо гадзіны дзьве ня было на месцы, а ён усё яшчэ пакручваў вусы і з ідыёцкай ўсьмешкай зьвяртаўся ў яго бок:

— Гэта вы вельмі справядліва заўважылі, пане маёр.

Раніцою агледзеліся, што маёра нідзе няма. Ягоны шынэль вісеў у прадпакоі, шабля ў кутку і толькі маёрава афіцэрская шапка таксама бяз сьледу зьнікла. Дапускаючы, што ён мог заснуць я латрэбнай каморцы, абшукалі ўсе патрэбныя каморкі ў доме, але дарэмна. Замест яго, на другім паверсе знайшлі аднаго паручыка з тае-ж самае компаніі, што спаў стоячы на каленях і перагнуўшы галаву ў ракавіну так, як на яго напаў сон у часе прыступу ванітаў.

Маёр-жа як у ваду патануў.

Але каб хто здагадаўся глянуць за краты вакенца камеры, дзе быў зачынен Швэйк, ён пабачыў-бы, як пад расійскім салдацкім шынэлем спалі на адных нарах два чалавекі і з-пад шынэля выглядалі дзьве пары ног.

Тыя, што былі са шпорамі, належалі маёру, а бяз шпораў— Швэйку.

Абодва спалі, цесна прытуліўшыся адзін да аднаго, як кацяняты. Швэйк падсунуў сваю лапу пад галаву маёру, а маёр абхапіў Швэйка рукою за пояс.

Ва ўсёй гэтай прыгодзе ня было нічога ненатуральнага. Гэта было нішто іншае, як выкананьне панам маёрам сваіх службовых абавязкаў.

Прызнайцеся чытач, што і вам здаралася назіраць гэткі выпадак: вы сядзіце з кім-небудзь і п'ёце цалюткую ноч аж да паўдня другога дню, і от раптам ваш таварыш па бутэльцы хапаецца за галаву, ускаквае і крычыць: «А, божа-ж мой, ды мне-ж трэба было быць а восьмай гадзіне на службе!» Гэта называецца прыпадкам службовага стараньня, што зьяўляецца ў пэўнай меры штучным продуктам зьявы, калі вас грызе сумленьне. Чалавек, з якім здарыўся такі прыпадак, не падаецца ніякім уґаворам і ён пэўны, што яму трэба зараз-жа нагнаць усё тое, што ён прапусьціў. От такія дзівакі і складаюць контынгент тых асоб, якіх швэйцарцы на службах ловяць у калідорах і кладуць у каморцы на канапу, каб яны добра выспаліся...

Гэткі прыпадак здарыўся і з нашым маёрам, калі ён раптам прачнуўся ў сваім крэсьле: яму здалася, што неабходна зараз-жа зрабіць Швэйку допыт. Гэты прыпадак службовага стараньня праявіўся так неспадзявана і з такою сілаю і так хутка і рашуча ўплыў на яго, што ніхто наогул нават не заўважыў, як маёр сабраўся і вышаў.

Тым больш заметна было зьяўленьне маёра, ў каравульным памяшканьні вайсковае турмы. Ён упаў туды, як фуґасны знарад.

Дзяжурны фэльдфэбэль моцна спаў за сталом, а навакола яго ў самых неспадзяваных позах драмалі людзі каравульнае каманды.

Маёр осунуў шапку на патыліцу і выпусьціў такую нячуваную лаянку, што ўсе так і застылі, шырока расчыніўшы вусны; у абліччы ўсіх зьявіўся жах і вачом маёра ўявілася не вайсковая

частка, а група павїянаў, што сьмешна робяць грымасы. Маёр з усяе сілы стукнуў кулаком па стале і зароў на фэльдфэбэля:

— Гультай вы, сьвіньня, я ўжо тысячу раз казаў вам, што ў вас ня людзі, а...

І тут пачулася зусім нецэнзурная лаянка. А пасьля, зьвярнуўшыся да каравульнае каманды, ён крыкнуў:

— Зважай, салдаты! Калі вы сьпіцё, дык ваша дурота так і лезе з вашых вачэй, а калі вы, паскуднікі, іх расплюшчыце, дык трымаецеся так, нібы зьелі па вагону дынаміту.

Пасьля пачалася доўгая прамова пра абавязкі каравульнае каманды, а нарэшце загад зараз-жа адчыніць камеру, куды пасадзілі Швэйка, бо трэба яго ізноў дапытаць.

Дык вось якім чынам маёр уначы трапіў да Швэйка.

Ён зьявіўся да яго ў стане, калі, як кажуць, усё пасьпела. Апошні яго пыл выліўся ў загад даць яму ключ ад камеры.

Фэльдфэбэль апошнім страшным намаганьнем свае волі прыпомніў статут каравульнае службы і адмовіўся выканаць тэтае патрабаваньне, што неспадзявана зрабіла на маёра найлепшае ўражаньне.

— Вось-бы вы былі безгаловыя,—крыкнуў ён на ўвесь двор,—вось каб вы аддалі мне ключ, дык я паказаў-бы вам, дзе Макар цялята пасе!

— Маю гонар паведаміць,—сказаў фэльдфэбэль,—што я прымушан вас замкнуць і каб вам было бясьпечна, пастаўлю да вас вартавога, а калі вы захочаце выйсьці, дык пастукайце, калі ласка, у дзьверы, пане маёр.

— Дурань!—адсёк маёр.»Жывёліна, асёл, няўжо ты думаеш, што я баюся арыштаванага, што хочаш даць мне вартавога, калі я яго буду дапытваць? Каб цябе чорт схапіў! Замыкайце мяне і каб духу вашага тут ня было. Зразумелі?

У невялічкай утулінцы над дзьвярыма за мэталёваю сеткаю стаяла лямпа, у якой гарэла газа, але прыкручаны кнот даваў такое малое сьвятло, што маёру цяжка было знайсьці Швэйка, які прачнуўся і па-вайсковаму выцягнуўся каля сваіх нараў і флегматычна чакаў, што выйдзе з гэтага візыту.

У Швэйка раптам зьявілася думка, што лепш за ўсё было-б паведаміць пра сябе пану маёру, і таму ён брава адрапартаваў:

— Дык дазвольце паведаміць, пане маёр: адзін арыштаваны знаходзіцца тут, а асаблівых здарэньняў ня было.

Маёр ня мог раптам прыпомніць, чаго менавіта ён прышоў, і таму скомандаваў:

— Вольна! Дзе ў цябе арыштаваны?

— Дазвольце паведаміць, пане маёр, што і зьяўляюся ім самім,—з гонарам адказаў Швэйк.

Аднак маёр ня ўзяў увагі на яго словы таму, што віно і лікёры пана генэрала выклікалі ў яго мазгох апошнюю алькогольную рэакцыю. Ён пазяхнуў так шырока, што кожны штацкі зьвіхнуў-бы сабе з месца пашчанкі. Але ў маёра гэтае пазяханьне проста адсунула думкі ў такія мазгавыя куткі, якія ў чалавека зьяўляюцца цэнтрам таленту сьпеваў. Ён зусім весела паваліўся на швэйкавыя нары і, уяўляючы сабе, што ён вельмі прыгожа пяе, запішчаў, як сьвіньня, якую колюць.

Потым ён паваліўся дагары і, як мядзьведзянятка, скурчыўся і хутка захроп.

— Дык дазвольце, пане маёр, паведаміць, што вы вошай набярыцёся,—спрабаваў пабудзіць яго Швэйк. але з гэтага нічога ня выйшла. Маёр спаў, як забіты.

Швэйк пяшчотна на яго зірнуў.

— Ну і валяйся тут, п'яная ты морда,—прашаптаў ён і накрыў яго шынэлем. Пасьля і сам ён залез пад шынэль і так знайшлі іх раніцой, цесна прытуленых адзін да аднаго...

Каля дзесятае гадзіны, калі пошукі маёра дайшлі да найвышэйшага напружаньня, Швэйк падняўся з нараў і выразумеў, што пара будзіць пана маёра. Ён некалькі разоў моцна патрос яго за плечы і крыху сьцягнуў з яго шынэль, якім ён накрываўся. Нарэшце маёр сеў на нарах і тупа зірнуў на Швэйка, шукаючы ў яго адказу на пытаньне: што менавіта здарылася?

— Дазвольце паведаміць, пане маёр,—сказаў Швэйк,—што ўжо некалькі разоў прыходзілі вартаўнікі даведацца, ці жывы

вы яшчэ, таму я адважыўся вас цяпер пабудзіць і яшчэ таму, што я ня ведаю, як доўга вы прывыклі спаць, каб вы, барані божа, не праспалі... Вось у аднэй піўной ў Ожыноўцы я сустракаў якогасьці цесьля, дык той заўсёды ўставаў а шостай гадзіне раніцой, але, калі яму здарылася праспаць толькі чвэрць гадзіны, да чвэрці на сёмую, дык ён спаў далей да полудня і рабіў гэта да тых пор, пакуль яго ня звольнілі, і ён тады са злосьці зрабіў злачынства—абразіў члена імпэратарскага дому.

— Ты, напэўна, слабы на галаву, га?—з адценьнем некаторай роспачы спытаўся маёр на ламанай чэскай мове, бо пасьля ўчарайшае гулянкі ў яго ўсё яшчэ гуло ў галаве. Ён ніяк ня мог знайсьці адказу, чаму менавіта ён сядзіць тут, якім чынам ён трапіў сюды і чаму гэты тып, што стаіць перад ім, гародзіць такія дурніцы. Усё гэта здалося яму вельмі сьмешным. Смутна прыпомніў ён, што адзін раз ён быў ужо тут уначы. Але чаго, чаго?

— А што, ці быў я тут уначы?—нерашуча спытаўся ён.

— Так, пане маёр,—адказаў Швэйк.—Як я разумею з вашае гутаркі, дык пан маёр зьявіліся сюды, каб яшчэ раз дапытаць мяне.

Цяпер у галаве маёра раптам стала ясьней і ён перш паглядзеў на сябе, а пасьля азірнуўся назад, як-бы нечага шукаючы.

— Вы, калі ласка, ня турбуйцеся, пане маёр,—казаў далей Швэйк,—вы зьявіліся сюды зусім так, як і цяпер сядзіце, бяз шынэлю, бяз шаблі і ў шапцы. Шапачка ваша вунь там ляжыць, бо я мусіў яе ўзяць ад вас, калі вы абавязкова хацелі палажыць яе пад галаву. А я-ж ведаю, што афіцэрская парадная шапка—гэта ўсяроўна, як штацкаму капялюш-цыліндар. Спаць на цыліндры—гэта мог толькі нейкі пан Кардэраш з Лодэніча. Той, бывала, ляжа ў карчме на жываце і паложыць сабе пад галаву цыліндар, таму што ён хадзіў сьпяваць на хаўтурных працэсіях і зьяўляўся на ўсе хаўтуры ў цыліндры, дык вось ён клаў сабе пад галаву цыліндар і наказваў сабе, што не павінен яго паламаць; і сапраўды, усю ноч ён трымаўся як-бы над ім, так што цыліндру гэта зусім ня шкодзіла, што ён спаў

на ім, а нават, магчыма, наадварот, бо пан Кардэраш, калі спрасонку варочаўся з боку на бок, асьцярожна чысьціў яго сваімі валасамі, як шчоткаю, і цыліндар пачынаў блішчэць, як новенькі.

Маёр, нарэшце, зразумеўшы, у чым справа, і ўвесь час тупа пазіраючы на Швэйка толькі і казаў:

— Не, ты прыдуракаваты. Такім чынам, я тут, а зараз пайду.

Ён устаў, падышоў да дзьвярэй і пачаў моцна стукаць, але перад тым, як яму адчынілі, ён яшчэ раз зьвярнуўся да Швэйка:

— Калі ня будзе тэлеграмы, дык цябе ўсяроўна павесяць.

— Вельмі дзякую, пане маёр,—адказаў Швэйк.—Я ведаю, пане маёр, што вы пра мяне вельмі турбуецеся, але калі вы набраліся тут на нарах зьвяркоў, дык ведайце, калі ён маленькі і з чырвоным задам, дык гэта самец, а калі знойдзеце ў сябе толькі адну гэтакую поскудзь і пры тым яна ня будзе такая доўжынькая з чырвонаю стужачкаю на жываце, дык гэта добра, бо ў іншым выпадку іх будзе пара, а гэта зараза множыцца вельмі хутка, яшчэ хутчэй, як трусы.

— Пакінь гэтыя гутаркі,—пахмура прамовіў маёр, як Швэйк адчыніў перад ім дзьверы.

У памяшканьні каравульнае каманды маёр не зрабіў больш ніякае сцэны. Ён стрымана затадаў паклікаць рамізьніка і ў той час, як яго брычка трэслася па немагчымым бруку Пярэмышля, у яго ў галаве моцна засела думка, што засуджаны сапраўды зьяўляецца ідыётам, але ўсё-ж ён зусім нявінная жывёліна. Што-ж датычыцца асабіста яго маёра, дык не застаецца нічога іншага, як зараз-жа застрэліцца ў сябе на кватэры або паслаць да генэрала па шынэль і шапку, паехаць у гарадзкую лазьню, пасьля лазьні падсілкавацца ў рэстаране і нарэшце замовіць тэлефонна білет у гарадзкі тэатр.

Яшчэ не даехаўшы да свае кватэры, ён ужо спыніў свой выбар на апошнім варыянце.

Дома яго чакала маленькая неспадзяванка. Ён зьявіўся якраз у час...

У калідоры стаяў генэрал Фінк і трос маёравага ордынарца і крычаў:

— Кажы, паганец, дзе ты дзеў свайго маёра! Ну? Кажы, мярзотнік!

Але «мярзотнік» ня мог прамовіць ні слова, а толькі ўвесь пачырванеў—так моцна здушыла яго генэралава рука.

Гэта сцэна здалася маёру вельмі сьмешнаю. Таму ён спыніўся на парозе напаўадчыненых дзьвярэй, гледзячы ўвесь час на пакуту свайго адданага слугі, выдатнага тым, што ён даўно ўжо абрыдаў яму сваім нахілам да зладзейства.

Генэрал на момант адпусьціў пасінелага хлопца, але толькі на тое, каб выцягнуць з кішэні тэлеграму, якою ён ізноў пачаў біць па мордзе і прыгаварваць:

— Дзе ты дзеў свайго маёра, жывёліна, дзе ты дзеў свайго маёра-аўдытара, нягоднік? Як-жа цяпер перадасі ты яму гэтую афіцыйную тэлеграму?

— А вось і я!—крыкнуў маёр Дэрвота, якому комбінацыя слоў «маёр-аўдытар» і «тэлеграма» прыгадала пра нейкія службовыя абавязкі.

— Ах!—крыкнуў генэрал.—Ты вярнуўся?

У інтонацыі было столькі гіроніі, што маёр не палічыў за патрэбнае адказваць і нерашуча спыніўся. Генэрал папрасіў яго прайсьці за ім у габінэт. Як яны селі, генэрал кінуў яму патамтаную аб фізіяномію ордынарца тэлеграму і трагічным голасам сказаў:

— Прачытай. Гэта твая работа!

Пакуль маёр чытаў тэлеграму, генэрал устаў і пачаў бегаць па пакоі ўзад і наперад, пераварочваючы крэслы і столікі.

— Але я такі яго павешу!—роў ён.

Тэлеграма паведамляла:

«Салдат пяхотнага палка Швэйк Язэп, ордынарац 11-ае маршавае роты, якога паслалі кватэр'ерам, лічыцца загінуўшым бяз вестак на пераходзе з Хірува ў Фэльдштэйн з 16-га гэтага месяца. Азначаны Швэйк Язэп мусіць быць зараз-жа дастаўлен у штаб брыгады ў Вояліцы».

Маёр выцягнуў шуфляду стала, дастаў карту мясцовасьці і задумаўся.. Фэльдштэйн ляжыць на адлегласьці сорак кілёмэтраў на паўдзённы ўсход ад Пярэмышлю, таму атрымалася загадка, якую нельга было вырашыць, якім чынам салдат пяхотнага палка Швэйк мог дастаць у 150 кілёмэтрах ад фронту расійскую вайсковую форму, бо фронт быў якраз на лініі Сокаль—Турцэ—Казлоў.

Калі маёр падзяліўся сваімі думкамі з гэнэралам і паказаў яму на карце тое месца, дзе Швэйк са слоў тэлеграмы прапаў колькі дзён назад, генэрал зароў, як бык, бо адчуў, што ўсе яго надзеі на вайскова-палявы суд расьсеяліся, як дым. Ён падышоў да тэлефону, пазваніў у вайсковую турму і загадаў зараз-жа прывесьці арыштаванага Швэйка ў кватэру маёра.

Перш чым яго загад быў выкананы, генэрал бяз ліку і меры страшэнна лаяўся і гэтым выказаў сваё незадаваленьне з прычыны таго, што ён не загадаў на свой страх павесіць Швэйка адразу без усялякіх допытаў.

Маёр супярэчыў і казаў нейкія дурніцы пра тое, нібы права і справядлівасьць заўсёды ідуць поруч. У доўгіх і красамоўных сказах ён таварыў пра справядлівыя прыгавары наогул, пра судовыя памылкі і пра ўсялякія іншыя рэчы, што яму ў гэтую хвіліну прыходзілі на язык, бо пасьля ўчарашняе гулянкі ў яго шумела галава і яшчэ не працавала.

Калі нарэшце прывялі Швэйка, генэрал загадаў яму вытлумачыць, што менавіта з ім здарылася і што значыць яго расійская форма.

Швэйк расказаў пра ўсё драбніцы, ілюстраваў сваё апавяданьне некалькімі прыкладамі са свае скарбніцы людзкіх няпрыемных здарэньняў. На пытаньне маёра, чаму-ж ён не сказаў усё гэта на судзе, як яго дапытвалі, Швэйк адказаў, што—праўду кажучы—ніхто яго не пытаўся, як ён дастаў сабе расійскую шынэль і што ўсе пытаньні білі ў адно: «Прызнайцеся, што вы добраахвотна і без усялякае прынукі апранулі варожую форму». Ну, а таму, што гэта адпавядала праўдзе, ён ня мог адказаць нічога іншага, як толькі: «Так, так... так... вядома... без ўсялякае

хубы»: Але ён-жа з абурэньнем адкінуў на судзе абвінавачаньне, нібыта ён здраднік яго вялікасьці імпэратара...

— Гэты чалавек—поўны ідыёт,—сказаў маёру генэрал.— Апрануць на дамбе нейкага там возера расійскую вайсковую форму, якую невядома хто там пакінуў, і дазволіць залічыць сябе ў партыю расійскіх палонных—гэта можа зрабіць толькі ідыёт!

— Дык дазвольце паведаміць,—дадаў Швэйк,—што я і сапраўды заўважаю, што ў мяне слабы разум, асабліва пад вечар...

— Ціха, асёл,—крыкнуў на яго маёр і зьвярнуўся да генэрала з запытаньнем, што зрабіць са Швэйкам.

— Няхай яго павесяць у штабе брыгады,—вырашыў генэрал.

Гадзіну часу пазьней канвой, што павінен быў адвесьці Швэйка ў Вояліцы, адвёў яго на вагзал.

У камеры Швэйк пакінуў пасьля сябе невялічкую памятку, надрапаўшы лучынкаю на сьцяне ў тры рады сьпіс усіх поліваk, соўсаў і салодкіх патраў, што ён зьеў да таго часу, як яго прымацавалі ў дзеючую армію. Гэта было штосьці накшталт протэсту супроць таго, што яго цэлы дзень ні разу не накармілі.

Разам са Швэйкам, у штаб брыгады была накіравана паперка гэткага зьместу:

*Разам з гэтым накіроўваецца ў штаб брыгады радавы пяхотнага палка Швэйк, Язэп, дээзэртыр 11-ае маршавае роты.*

*Падстава: Тэлеграма № 469».*

Канвой складаўся з чатырох чалавек і выяўляў мешаніну ўсіх народаў. Там былі паляк, мадзяр, немец і чэх; апошні ў чыне ефрэйтара быў прызначаны начальнікам канвою. Перад арыштаваным, сваім земляком, ён трымаўся гарда, прымушаючы яго на кожным кроку адчуваць яго вялікую перавагу. Калі на вагзале Швэйк папрасіўся ў патрэбную каморку, ефрэйтар груба адказаў яму, што той пасьпее яшчэ зрабіць, што яму трэба, пакуль яны даедуць да брыгады.

— Добра,—сказаў Швэйк.—Але толькі вы дайце мне гэта на пісьме, каб было вядома, хто адказвае, калі ў мяне лопне мачавы пузыр. На тое і закон, пане ефрэйтар.

Ефрэйтар, былы пастух, спужаўся адказнасьці за швэйкаў пузыр і Швэйка ўвесь канвой павёў у патрэбную каморку на вагзале... Наогул гэты ефрэйтар рабіў уражаньне ўпартага чалавека і трымаўся так задзірыста, нібы яго мусілі на другі дзень прызначыць командзірам цэлага корпусу.

Як цягнік ішоў перагон Пярэмышль—Хіраў, Швэйк сказаў ефрэйтару:

— Пане ефрэйтар, як я вось так гляджу на вас, я ўсё ўспамінаю аднаго ефрэйтара, якога звалі Босбэр і які служыў у Трыенце. Той, як толькі яго зрабілі ефрэйтарам, адразу-ж пачаў павялічвацца ў сваіх памерах, шчокі ў яго пачалі пухнуць, а жывот так вырас, што на другі дзень яму ня прышліся нават казённыя штаны. І што горш за ўсё—вушы ў яго сталі расьці ўдажкі ўсё больш і больш. Ну, павялі яго ў лазарэт і палкавы доктар сказаў, што гэта вельмі цяжкі выпадак і што ён можа лопнуць, бо яго пухліна зьявілася ў яго ад ефрэйтарскіх нашывак і дайшла да пупа. І вось, каб яго ўратаваць, давялося спароць ягонае лычка, пасьля чаго ён ізноў адужаў.

З гэтага моманту Швэйк дарма намагаўся пачаць размову з ефрэйтарам і дагодліва вытлумачыць яму, чаму ефрэйтараў называюць «ротнымі скуламі».

Ефрэйтар адказваў толькі нейкімі нявыразнымі пагрозамі, што пачакай, добра сьмяецца той, хто сьмяецца апошні, і што там будзе відаць, як прыедуць у штаб брыгады. Адным словам, выявілася, што зямляк вельмі цяжкі чалавек і калі Швэйк спытаўся ў яго, адкуль ён родам, дык той адказаў, што Швэйку няма да гэтага ніякае справы, і ніякага дачыненьня.

Швэйк прабаваў пачаць з ім гутарку і так і гэтак, расказаў яму, што яго вязуць пад вартай ня першы раз, але што да гэтага часу ён заўжды жыў у згодзе са сваімі спадарожнікамі. А таму што ефрэйтар упарта маўчаў, Швэйк казаў далей:

— Здаецца мне, пане ефрэйтар, што з вамі здарылася ў жыцьці нейкае няшчасьце і што вы страцілі язык. Я ведаў шмат

панурых ефрэйтараў, але такое боскае кары, як вы, пане ефрэйтар,—выбачце і не сярдуйце на мяне!—я яшчэ ня бачыў. Скажыце мне, што вас гняце, і, магчыма я магу вам параіць што-небудзь добрае, бо салдат, якога вядуць пад вартаю, заўсёды мае куды большую практыку, чым тыя, якія яго вартуюць. Або ведаеце што, пане ефрэйтар? Каб нам ня нудзіцца ў дарозе, раскажэце нам што-небудзь, напрыклад: ці прыгожы ваш край, ці ёсьць там рэчка, або возера, або руіны якога-небудзь замку, і якія паданьні зьвязаны з ім.

— Ну, гэтага даволі з мяне,—крыкнуў ефрэйтар.

— Шчасьлівы вы чалавек,—адазваўся Швэйк,—бо іншаму чалавеку ніколі нічога не даволі.

— Пачакай ужо ў брыгадзе дадуць табе чосу, а я з табою ня буду кешкацца,—прамармытаў яшчэ ефрэйтар і зноў стаў нямы, як труна, ці магіла.

Наогул прыемнасьцяй за ўвесь час падарожжа было мала. Мадзьяр гаварыў з немцам нейкім зусім асаблівым чынам, бо ведаў па-нямецку толькі тры словы: «так», «і» і «што». Калі немец яму што-небудь тлумачыў, ён ківаў галавою і гаварыў: «так, так!», а калі той спыняўся, дык перапытваў: «Як?» і немец ізноў пачынаў трашчаць. Паляк трымаўся збоку, не зьвяртаючы ні на кога ўвагі, і займаўся толькі самім сабою. Ён смэркаў на падлогу і вельмі спрытна карыстаўся ў гэтай рабоце вялікім пальцам правае рукі; пасьля ён мэлянхолічна размазваў смаркачы па падлозе прыкладам карабіна і, нарэшце, акуратна абціраў запэцканы прыклад аб порткі і ўвесь час мармытаў сабе пад нос:

— Матка боска, матка боска!

— Ну, гэта яшчэ нічога!—зьвярнуўся да яго Швэйк.— А от на вуліцы «На Боішці» ў Празе ў адным сутарэньні жыў падмятач вуліц Махачэк, дык той смэркаўся на шыбу ў вакне і пасьля так спрытна размазваў смаркачы, што атрымваўся абраз, як Любуша вяшчуе пра наступную вялікую славу горада Прагі. За кожны такі абраз ён атрымліваў ад свае жонкі так, што ў яго вочы вылазілі на лоб, але ён ўсё-ж ня кідаў свайго

мастацтва і ўвесь час у ім дасканаліўся. Праўда, гэта была яго адзіная забава.

Паляк нічога на гэта не адказаў і запанавала поўнае маўчаньне, нібы людзі ехалі на хаўтуры і пабожна прышаміналі нябожчыка.

Яны набліжаліся да мэты свайго падарожжа, да штабу брыгады ў Вояліцах.



Тымчасам, у штабе брыгады адбыліся некаторыя грунтоўныя зьмены.

За начальніка штабу брыгады быў прызначаны палкоўнік Гэрбіх. Гэта быў чалавек з вялікімі «тактычнымі» здольнасьцямі, якія чамусьці палі яму на ногі, бо ён хварэў на падагру. У вайсковым міністэрстве ў яго былі добрыя сувязі; таму ён ня выходзіў у адстаўку, а туляўся ў розных штабах буйных вайсковых злучэньняў, і атрымліваў павялічаную пэнсію з адпаведнымі дадаткамі ваеннага часу, але ён заставаўся на адным месцы датуль, пакуль прыступ падагры не прымушаў яго зрабіць якую-небудзь страшэнную дурніцу. Тады яго пераводзілі ў другі штаб, і, звычайна, з павышэньнем. Абедаючы ў афіцэрскім сабраньні, ён, звычайна, гутарыў з афіцэрамі сама больш пра свой вялікі палец на назе, што часам распухаў да страшэнных памераў і палкоўніку даводзілася насіць знарок пашытыя боты.

У абед яму самай прыемнай гутаркай было тлумачыць усім і кожнаму, што яго палец надта пацее і што ён завінае яго ў вату, а пахне ён, як пракіслы мясны бульён.

Таму ўсе афіцэры са шчырасьцю разьвітваліся з ім, як яго пераводзілі куды-небудзь у іншае месца. Аднак ён быў даволі дабрадушны і ставіўся добразычліва да сваіх супрацоўнікаў, якім ён любіў апавядаць, чаго ён толькі ні еў і ні піў, калі ў яго яшчэ ня было гэта праклятае падагры.

Як Швэйка прывялі ў штаб брыгады і дзяжурны афіцэр загадаў адвесьці яго да палкоўніка Гэрбіха, у таго ў канцылярыі якраз сядзеў падпаручык Дуб.

Некалькі дзён пасьля пераходу Санок—Самбор з падпаручыкам Дубам зноў здарыўся выпадак.

Справа ў тым, што за Фэльдштэйнам 11-я маршавая рота сустрэла партыю кавалерыйскіх коняй, што накіроўвалася ў драгунскі полк у Садову-Вішню. Падпаручык Дуб і сам дакладна ня ведаў, чаго гэта раптам захацелася паказаць паручыку Лукашу, як ён езьдзіць конна; ён бяз дай-прычыны ўскочыў на каня, што неспадзявана панёс яго і ўскочыў разам з сваім коньнікам у лагчыну каля рэчкі, дзе падпаручык Дуб заграз у балоце так моцна, нібыта гэта была кветка, якую знарок пасадзіў туды спрытны агароднік. Калі з дапамогаю дошчак і вяровак яго адтуль выцягнулі, падпаручык Дуб ні на вошта ня жаліўся, а толькі ціха стагнаў, нібы яму прышоў скон. Таму яго адвезьлі ў штаб брыгады і палажылі ў лазарэт.

Праз два-тры дні ён так паправіўся, што доктар сказаў, што давядзецца толькі яшчэ разоў два памазаць яму ёдам плечы і жывот, пасьля чаго ён зноў можа вярнуцца ў сваю часьць.

Такім чынам, ён сядзеў цяпер у палкоўніка Гэрбіха і апавядаў яму пра розныя хваробы.

Пабачыўшы Швэйка, ён голасна крыкнуў, бо ён ведаў, што Швэйк зьнік пад Фэльдштэйнам.

— Ага, папаўся, галубок! Шмат хто вельмі хітра ўцякае, а яго яшчэ хітрэй варочаюць. Ты вельмі хітры Швэйк.

Да рэчы будзе заўважыць, каб наша апавяданьне было больш поўным, што, зваліўшыся з каня падпаручык Дуб крышку парушыў сабе мазгі; таму ня трэба дзівіцца, што ён стаў поруч з Швэйкам і, прызываючы ўсе нябесныя сілы на змаганьне з ім, закрычаў:

— Усемагутны, да цябе я малюся... пад гарматныя стрэлы... у бляску штыхоў... даруй нам перамогу... усемагутны божа... о дай нам.. над гэтым паганцам... Кажы, дзе ты загінуў быў, падлюка? Што гэта ў цябе за форма?

Трэба ўшчэ дадаць, што палкоўнік, які цярпеў так ад свае падагры, завёў у канцылярыі зусім дэмократычны лад. Розныя вайсковыя чыны, як няспынны паток зьмяняліся перад яго сталом каб выслухаць думку палкоўніка пра яго распухлы палец на назе з пахам пракіслага бульёну. А таго дня, як боль-

у пальцы сьціхаў, канцылярыя была паўнютка людзей і палкоўнік весела хадзіў і расказваў няпрыстойныя анэкдоты. Гэта відавочна яму рабіла прыемнасьць, а слухачы мелі зручны выпадак парагатаць з старога анэкдоту, што, магчыма, быў ужо ў звароце яшчэ пры генэрале Лаўдоне.

Служыць з палкоўнікам Гэрбіхам тады было аднэй прыемнасьцю; кожны рабіў, што яму заманецца і ўжо ставілася за правіла, што ў кожным штабе, дзе зьяўляўся палкоўнік Гэбрiх, расьцягвалі маемасьць, кралі і рабілі розныя іншыя недазволеныя рэчы.

От і цяпер разам са Швэйкам у палкоўнікаву канцылярыю зьявіліся розныя вайсковыя чыны з надзеяй пасьмяяцца. У гэты момант палкоўнік чытаў адносіну маёра з Пярэмышлю, дзе гутарка ішла пра Швэйка.

Падпаручык Дуб ня спыняў свае пачатае гутаркі са Швэйкам:

— Пачакай, ты мяне яшчэ ня ведаеш, але калі даведаешся, то здохнеш ад страху.

Палкоўнік ніяк ня мог зразумець, што пісаў маёр, бо той дыктаваў паперку яшчэ ня зусім цьвярозы.

Аднак палкоўнік Гэрбіх быў у найлепшым настроі, бо ні сёньня, ні ўчора, не адчуваў болю ў пальцы і зусім ня чуў яго, нібы да таго ня было.

— Што-ж вы менавіта начаўплі там?—ветліва зьвяркуўся ён да Швэйка, так што ў падпаручыка закалола нават пад сэрцам і ён пасьпяшаўся адказаць за Швэйка:

— Гэты чалавек, пане палкоўнік,—сказаў ён і паказаў на Швэйка,—прыкідваецца дурнем, каб апраўдаць свае паскудныя штукі і ўчынкі слабым розумам. Я, праўду кажучы, ня ведаю, што там напісана ў паперцы, але ўсё-ж думаю, што гэты чалавек і зноў зрабіў якую-небудзь штуку, але на гэты раз у больш значных памерах. Дазвольце, пане палкоўнік, глянуць у яго паперку; тады я напэўна мог-бы вам што-небудзь параіць, што рабіць з ім.

І, павярнуўшыся да Швэйка, ён прамовіў па-чэску:

— Ты з мяне ўсю кроў высмактаў! Так?

— Так, пане падпаручык,—з годнасьцю адказаў Швэйк.

— От бачыце, пане палкоўнік! Чулі?—казаў далей падпаручык Дуб па-нямецку.—Вы ня можаце яго ні пра што запытацца. З ім наогул нельга гаварыць. Ну, дык пачакай. Круці ні круці, а трэба памерці. Давядзецца яго пакараць так, каб быў іншым прыклад. Дазвольце, пане палкоўнік...

Падпаручык Дуб заглыбіўся ў дакумант пярэмышльскага маёра і пасьля, дачытаўшы яго да канца, з трыумфам крыкнуў Швэйку:

— Ну, браце, цяпер табе канец! Кажы дзе дзеў вайсковую амуніцыю.

— Я пакінуў яе на дамбе, на беразе возера, калі прабаваў, як павінен адчуваць сябе расійскі салдат у гэтых лахманох. Уся гэта справа, дазвольце паведаміць, адно непаразуменьне.

І от Швэйк пачаў апавядаць падпаручыку Дубу ўсё, што давялося яму перацярпець праз гэта непаразуменьне; а калі ён скончыў, падпаручык Дуб закрычаў на яго:

— От калі ты пазнаеш мяне! Дык ты разумееш, што значыць згубіць казённае дабро, дурань, разумееш, што значыць згубіць на вайне ўсю сваю амуніцыю?

— Так, пане падпаручык,—адказаў Швэйк,—я разумею, калі салдат згубіў амуніцыю, яму павінны выдаць новую.

— Езус-Марыя!—са злосьцю закрычаў падпаручык Дуб.— Зараза ты, жывёліна, ты ў мяне даскачашся да таго, што будзеш служыць яшчэ сто год пасьля вайны.

Палкоўнік Гэбріх, што да гэтага часу сядзеў спакойна і выхавана за сваім сталом, раптам страшэнна перакрывіў свой твар, бо ягоны палец неспадзявана ператварыўся з ціхага ягняці ў прагнага да крыві тыгра, у электрычны ток на 600 вольт, у пнэўматычны паравы молат. Палкоўнік Гэрбіх толькі махнуў рукою і зароў, як чалавек, якога падпякаюць на распаленай пліце:

— Ідзеце ўсе прэч! Дайце мне рэвальвэр!

Гэтае ўсё ўжо ведалі і таму без галавы кінуліся з пакою разам са Швэйкам, якога канвой таксама выцягнуў у калідор. Застаўся толькі падпаручык Дуб, з мэтаю скарыстаць гэтую,

як відаць, зручную хвіліну, каб папярэдзіць палкоўніка супроць Швэйка.

— Дазвольце, пане палкоўнік,—пачаў ён,—зьвярнуць вашу ўвагу, што гэты чалавек...

Але тут палкоўнік зароў ад болю і кінуў у падпаручыка чарнільніцаю, а той, спужаўшыся, казырнуў, прамармытаў сабе нешта накшталт «слухаю, пане палкоўнік», і хутчэй уцёк за дзьверы.

Пасьля гэтага, з канцылярыі палкоўніка доўга яшчэ былі чутны роў і выцьцё, што павольна перайшлі ў жаласныя стогны; пасьля і тыя сьціхлі. Палец палкоўніка як раптоўна хапіў, так раптоўна і сьціх. Палкоўнік пазваніў і загадаў ізноў прывесьці Швэйка.

— Ну што-ж, менавіта, з табою здарылася?—спытаўся спакойна, як-бы нічога ня было, палкоўнік. У яго цяпер было так лёгка на душы, нібы-та ён ляжаў дзе-небудзь на пляжы.

Швэйк ветліва ўсьміхнуўся начальству і разсказаў яму ўсю сваю одысэю, дадаўшы, што ён ордынарэц 11-ае маршавае роты 91-га пяхотнага палка і зусім не ўяўляў сабе, як там без яго могуць абыйсьціся.

Палкоўнік таксама ўсьміхнуўся і аддаў гэткі загад:

— Выпісаць Швэйку літар праз Львоў да станцыі Золтанец, куды на другі дзень павінна прыехаць яго маршавая рота, і выдаць яму з цэйхгаўза новае вайсковае ўбраньне, а таксама 6 крон 82 гэлеры на дарогу.

Калі Швэйк у новенькай аўстрыйскай форме пакінуў штаб брыгады, каб ісьці на вагзал, падпаручык Дуб сядзеў на лавачцы супроць будынку штабу і быў вельмі зьдзіўлен, як Швэйк паказаў яму свае паперы і заклапочана спытаўся, ці не загадае той перадаць што-небудзь паручыку Лукашу.

Паручык Дуб так зьбянтэжыўся, што ня мог адказаць нічога іншага, як толькі адно слова: «Ідзі». Але, гледзячы на Швэйка, што адыходзіў ад яго, ён прамармытаў сам сабе:

— Пачакай, ты мяне яшчэ пазнаеш!.. Езус-Марыя, ты мяне яшчэ пазнаеш!..

*

На станцыі Золтанец сабраўся ўвесь батальён капітана Загнэра; нехапала толькі ар'ергарда 14-й роты, што адбіўся ад іх дзесьці за Львовам.

Прыехаўшы ў гэты горад Швэйк адразу апынуўся ў зусім новых абставінах, бо тут было ўжо добра відаць, што знаходзішся ня вельмі далёка ад фронту, дзе ідуць бойкі. Усюды стаялі артылерыйскія паркі і абозы, у кожнай хаце кватаравалі салдаты, сярод якіх паходжвалі як істоты вышэйшага парадку, немцы і па-панску частавалі аўстрыйцаў папяросамі са сваіх багатых запасаў. Каля нямецкіх паходных кухань на галоўным пляцы стаялі нават бочкі з півам; а наўкола бочак туляліся, як аблудныя каты, маленькія аўстрыйцы з тоўстымі ад бруднае кавы жыватамі.

Кучка яўрэяў у доўгіх лапсардаках і з пэйсамі паказвалі адзін аднаму хмары дыму на захадзе і страшэнна размахвалі рукамі. Казалі, што ўсюды пачаліся бойкі: на Бугу, у Вужку, у Вусцы і ля Дзераўяна.

Ясна была чутна канонада. Хадзіла пагалоска, што расійцы абстрэльваюць з боку Грабава Каменку-Струмілаву, што бойкі ідуць уздоўж усяго Буга і што войска затрымлівае ўцекачоў, што імкнуцца ў сваю родную краіну.

Усюды панавала разгубленасьць і ніхто ня ведаў нічога пэўнага; меркавалі, што расійцы ізноў перайшлі ў наступ і спынілі свой адыход.

Патрулі палявых жандараў увесь час вялі якога-небудзь застрашанага яўрэя за тое, што той распускаў хлусьлівыя весткі, на гаўптвахту. Там гэтых няшчасных білі да крыві і пасьля пускалі з разьбітымі галовамі і са спаласаванымі сьпінамі да хаты.

І от у гэта пекла трапіў Швэйк і пачаў шукаць сваю маршавую роту.

Ужо на вагзале ў яго амаль ня вышаў конфлікт з этапным комэндантам. Калі ён падыходзіць да стала, дзе выдаваліся даведкі салдатам, што шукалі сваю часьць, нейкі капрал раптам зазлаваўся на яго, бо здалося, што Швэйк хоча, каб рота

шукала яго, а не наадварот. Швэйк адказаў, што яму хочацца толькі даведацца, дзе тут у горадзе асталявалася 11-ая маршавая рота 91-га пяхотнага палка.

— Мне вельмі важна,—солідна дадаў Швэйк,—ведаць, дзе 11-ая маршавая рота, бо я яе ордынарац.

На няшчасьце, за суседнім сталом сядзеў нейкі фэльдфэбэль, што падскочыў, як прыпечаны, і пачаў крычаць на Швэйка:

— Сьвіньня няскрэбеная! Ты ордынарац і ня ведаеш, дзе твая маршавая?

Швэйк не пасьпеў адказаць, як той ужо кінуўся ў канцылярыю і прывёў адтуль паручыка. Ён быў такі тоўсты, што можна было падумаць, што ён уласьнік вялікага кілбаснага заводу.

Этапныя комэндатуры былі звычайным месцам, дзе лавілі салдатаў, што адсталі і адбіліся ад сваіх часьцей ды з прыемнасьцю шукалі-б усю вайну свае часьці і стаялі-б у даўгіх хвастох каля тых сталоў у ашчадкасах, дзе напісана: «Выдача грашовае дапамогі салдатам.

Як тоўсты паручык увайшоў, фэльдфэбэль скомандаваў: «Зважай!» і паручык спытаўся ў Швэйка:

— Дзе твае дакуманты?

Швэйк падаў іх паручыку; той, пераканаўшыся, што маршрут праўдзівы, вярнуў іх Швэйку і зьмілавіўся сказаць капралу, каб той выдаў Швэйку даведку, пасьля чаго дзьверы за ім ізноў зачыніліся.

Тады фэльдфэбэль схапіў Швэйка за плечы і прывёў яго да выхаду і даў яму каленам замест усялякае даведкі, сказаўшы:

— Кацıся, чалавеча, да ліхой матары!

Такім чынам Швэйк так і ня ведаў, куды яму накіравацца і пачаў шукаць якога-небудзь знаёмага з батальёну. Ён доўга блукаў па вуліцах, пакуль не адважыўся паставіць усё на адну карту.

Ён запыніў аднаго палкоўніка і на ламанай нямецкай мове спытаўся ў яго, ці ня ведае ён, дзе месьціцца яго, швэйкаў, батальён з маршаваю ротаю.

— Са мною ты можаш гаварыць па-чэску,—сказаў палкоўнік,—бо я таксама чэх. Твой батальён стаіць тут блізка ў вёсцы Клімантова, за чыгункаю, а ў горад вашым хадзіць ня можна, бо салдаты вашае маршавае роты адразу-ж, як прыехалі сюды, пачалі бойку з сялянамі.

Такім чынам Швэйк пайшоў шукаць вёску Клімантова.

Палкоўнік паклікаў яго назад, палез ў кішэню, даў Швэйку пяць крон, каб той мог купіць сабе тытуну, яшчэ раз ласкава разьвітаўся з ім і, адыходзячыся, падумаў: «Які сымпатычны салдат».

Швэйк бадзёра закрочыў у паказаную яму вёску, разважаючы пра палкоўніка. Разам з гэтым ён прыгадаў, што дванаццаць год назад у Трыенце таксама быў адзін палкоўнік, якога звалі Габэрмэер і які быў таксама ветлы з салдатамі, а пасьля выявілася, што палкоўнік гомосэксуаліст, бо ён хацеў згвалціць, купаючыся ў Аддзе, аднаго кандыдата на першы афіцэрскі чын і пагражаў яму, калі ён будзе праціўіцца, паланьнем гарнізоннае службы.

От з такімі пахмурымі думкамі Швэйк павалі дайшоў да зусім блізкае вёскі, там яму зусім было ўжо няцяжка адшукаць штаб батальёну, бо хоць вёска была і доўгая, але ў ёй быў адзін лепшы будынак—будынак народнае школы, што ў гэтым чыста русінскім краі была выбудавана на сродкі краёвага ўраду з мэтаю больш пасьпяховае палёнізацыі жыхароў.

Школа гэта шмат бачыла за час вайны. Разоў колькі ў ёй кватаравалі то расійскі, то аўстрыйскі штабы, а аднаго разу ў часе вялікіх боек, што вырашалі лёс гораду Львову, гімнастычная заля была ператворана ў опэрацыйны пакой, тут рэзалі рукі і ногі і рапаравалі пабітыя чарапы.

Па-за школаю была вялікая яма, што ўзьнікла ад разрыву цяжкога знараду. У садзе стаяла разьвесістае грушавае дрэва; на тоўстым суку яго зьвісаў абрывак вяроўкі, на якой нядаўна павесілі мясцовага праваслаўнага папа, паводле даносу мясцовага настаўніка-паляка. Гэты настаўнік данёс, што поп быў членам вялікарускае організацыі і ў часе расійскае акупацыі служыў у царкве малебен пра атрыманьне перамогі войскам права-

слаўнага цара-бацюшкі. І хоць гэта была выдумка і мана, бо папа ў гэты час зусім ня было ў вёсцы, а ён лячыўся ў адным маленькім незачэпленым вайною курорце, аднак лёс яго быў вырашан.

У справе гэтага праваслаўнага папа важную ролю адыгралі гэткія абставіны: яго нацыянальнасьць, пытаньне вера-вызнаньне і адна курыца. Справа ў тым, што поп перад самою вайною злавіў у сваім садзе курыцу польскага настаўніка, што падзяўбла ў яго ўсходы дыні, і зарэзаў яе.

Пасьля пакараньня праваслаўнага папа сьмерцю, дом яго стаяў сіратою, і можна сказаць, што кожны браў сабе адтуль што-небудзь на памятку пра свайго папа.

Нейкі польскі мужычок зацягнуў за сябе нават стары рояль, верх якога ён скарыстаў на рамонт дзьвярэй у сваім сьвінушніку. Частку мэблі салдаты, як гэта бывае заўсёды, пасеклі на апал, і толькі з прычыны шчасьлівае выпадковасьці засталася стаяць вялікая кухонная пліта з цудоўнаю духоўкаю. Бо трэба сказаць, што праваслаўны поп нічым не адрозьніваецца ад сваіх колег іншае веры і таксама любіць дагаджаць жывату і любіць, каб на пліце і ў духоўцы было больш скавародак і гаршкоў.

Была нават як-бы нейкая традыцыя, што ўсе войскі, якія прыходзілі сюды, варылі на гэтай кухні сваім паном афіцэрам. Наверсе ў вялікім пакоі рабілася штосьці накшталт афіцэрскага сабраньня. Сталы і крэслы рэквізаваліся ў мясцовых жыхароў.

У той выдатны дзень афіцэры маршавага батальёну ладзілі якраз банкет. У складку яны купілі сьвіньню, а кухар Юрайда варыў ім абед. Юрайду абступаў натоўп яго ўлюбёнцаў з ліку афіцэрскіх ордынарцаў, паміж якімі галоўную ролю граў каптэнармус. Ён даваў параду Юрайдзе, як рэзаць сьвіную галаву, каб застаўся кусочак рыла.

Але самыя галодныя і прагавітыя вочы былі ў Балуна.

Відаць таксама прагавіта і страшна глядзець людажэры, як капае тлушч з-пад печанага на агні місіянэра, і, падгараючы, распаўсюджвае прыемны пах. Балун адчуваў сябе, прыкладам

так, як вялікі сабака, што вязе калясачку з малаком, і міма яго праходзіць хлопчык з кілбаснае з цэлым падносам сьвежавэнджаных кілбас на галаве. З кучы зьвесілася гірлянда сасісак і целяпаецца за плячыма ў хлопца. Трэба толькі падскочыць і схапіць іх!.. Ды от не дазваляюць наморднікі і праклятая вупраж; праз яе нельга вольна рухацца няшчаснаму сабаку.

Ліверныя кілбасы перажывалі яшчэ толькі першыя моманты свайго нараджэньня ў форме лівернага эмбрыёна, гэта значыць фаршу, што грудаю ляжаў на гладкай дошцы і пахнуў перцам, салам і печаньню.

Юрайда, закасаўшы рукавы, адбываў як-бы імшу і з такім сур'ёзным выглядам, што мог-бы быць мадэльлю фігуры богайца, што стварыў з хаосу нашу зямлю.

Балун ня мог больш стрымацца і голасна заплакаў. Пасьля яго плач перайшоў у няспынную галашэньне.

— Чаго гэта ты разьліваешся рэчкаю?—спытаўся ў яго Юрайда.

— Ах, я так яскрава прыгадаў сабе родны дом,—ня спыняючы плачу адказаў Балун,—які ўдзел я браў у такой справе, і як нічога не хацеў даць свайму блізкаму, а ўсё толькі хацеў зжэрці сам, і сапраўды ўсё я зьядаў. Аднаго разу я так наеўся, што ўсе вырашылі, што я абавязкова лопну і сталі ганяць мяне на дварэ на вяроўцы, як ганяюць каровы, калі іх абабэніць ад сьвежае канюшыны. Пане Юрайда, дазвольце мне папрабаваць фаршу. Няхай мяне хоць да слупа прывяжуць, а цяпер я ня маю ўжо магчымасьці больш цярпець.

Балун падняўся з зэдля і, хістаючыся, як п'яны, падышоў да стала і выцягнуў лапу да кілбаснага фаршу.

Пачалася жорсткая заядлая барацьба. Ледзь удалося стрымаць яго ад замаху на кілбасу. Але, калі яго выводзілі з кухні, ніхто не дагледзіў, як ён схапіў з гаршка кішкі на кілбасы.

Юрайда так знэрваваўся, што кінуў ўсьлед за ім трыбухі, крыкнуўшы не сваім голасам:

— На, жары, падла!..

У гэты момант афіцэры батальёну былі ўжо ўсе сабраўшыся і чакалі таго, што пяклося ім на кухні, ды падмацоўвалі сябе,

ня мючы нічога іншага, самагонкаю, падфарбаваўшы яе сьпечанаю цыбуляю. Прадаючы гэту самагонку, яўрэй карчмар запэўніваў, што гэта сапраўдны францускі коньяк, што застаўся яму ў спадчыну ад бацькі, а таму перайшоў ад нябожчыка дзеда.

— Паслухай, сябра,—сказаў яму тады капітан Загнэр,—калі ты адважышся яшчэ раз заікнуцца, што твой прадзед купіў гэтыя паміі ў аднаго француза, як той уцякаў з Масквы, дык я загадаю пасадзіць цябе за краты і ты будзеш сядзець, пакуль самы малодшы з вашае сям'і ня зробіцца старэйшым.

У той час, як яны пілі і праклінал і ашуканца яўрэя, Швэйк сядзеў ужо ў канцылярыі батальёну, дзе ня было ні аднае жывое душы апроч вольнапісанага Марэка, што скарыстаў адпачынак у Залтанцы, каб апісаць некалькі пераможных баёў, што няменуча павінны былі адбыцца ў хуткім часе.

У гэты момант ён накідаў розныя нататкі і, як Швэйк увайшоў, ён канчаў:

*Калі перад нашым духоўным поглядам праходзяць усе гэтыя героі, што бралі ўдзел у бойцы пад вёскаю N, дзе поруч з нашым батальёнам біўся адзін батальён... палка і адзін батальён... палка, дык мы ня можам не згадзіцца, што наш батальён выявіў дзівугодныя стратэгічныя здольнасьці і бясспрэчна быў прычынаю перамогі... дывізіі, што мела заданьне замацаваць нашы позыцыі ў сэктары N.*

— Ну,—сказаў яму Швэйк,—от і я.

— Дай я цябе абнюхаю,—адазваўся Марэк,—відаць, абрадаваўшыся.—Сапраўды: ад цябе пахне крыміналам.

— Яа заўсёды, трапілася толькі маленькае непаразуменьне,—заўважыў Швэйк.—А ты як маешся?

— Як бачыш,—адказаў Марэк,—я занатоўваю на паперы гісторыю гэройскае абароны двуадзінае монархіі, але справа ў мяне неяк ня клеіцца. Выходзіць усё нейкая дрэнь. Я асабліва падкрэсьліваю ў сваёй працы літару Н, літару, што хавае ў сябе надзвычайныя значэньні, як у цяперашні час, так і ў бу-

дучыні. Апроч маіх, ужо вядомых, якасьцяй, капітан Загнэр знайшоў ва мне фэномэнальныя матэматычныя здольнасьці. Мне даручана контраляваць усе рахункі батальёну і, пакуль што, я прышоў да выніку, што ў батальёнах вялізарны пасыў і што ён толькі і чакае, каб пачаць бойку з рускімі крэдыторамі, бо пасьля паражэньня, як і пасьля перамогі, лягчэй за ўсё захаваць канцы ў воду, але гэта ня так важна. Нават калі-б усіх нас да апошняга чалавека перабілі, дык от дакуманты пра нашу перамогу, бо я, летапісец батальёну, дазволіў сабе напісаць гэткае:

*... Новы паварот у бок ворага, які, відаць, лічыў, што перамога ўжо ў ягоных руках. Адважная атака нашых пераможных ваякаў і кароткі штыкавы ўдар былі справаю аднае хвіліны. Вораг кінуўся ў панічны бег, кідаецца назад у свае акопы, але мы бязьлітасна б'ем; тады ён у бязладзьдзі пакідае акопы, кінуўшы ў нашых руках вялікую колькасьць раненых і палонных».*

Гэта адзін з самых урачыстых момантаў. Хто яго перажыў, той пасылае жонцы палявою поштаю паштоўку:

*«Добра мы далі, дарагая жоначка! Я здароў. Ці кончыла ты карміць нашага маленькага Фрыца? Толькі калі ласка, ня вучы яго называць чужых людзей «татам», бо гэта мне было-б вельмі няпрыемна».*

Пасьля цэнзура закрэсьліць, замажа сказ: «Добра мы далі», не зразумець, пра што ідзе гутарка і таму, што выраз няясны, можна ўявіць сабе што хочаш.

— А таму, галоўная справа—ясна выказваць свае думкі,— перабіў яго Швэйк.—От таксама ў 1912 годзе, калі ў Празе місіянэры прапаведвалі ў царкве св. Ігната, дык там быў адзін казальнік, што ў катэдры сказаў, што ён напэўна нікога не спаткае ў раі. А ў царкве ў гэты час быў бляхар Кулічак, што пасьля ў карчме апавядаў, што місіянэр мусіць шмат награшыў, бо ён сам каяўся ў царкве пры ўсім народзе, што нікога не спаткае ў раі; і вельмі дзівіўся тэты Кулічак, чаму такіх людзей пускаюць на царкоўную катэдру. От я і кажу, што трэба

заўсёды гаварыць ясна і зразумела, без дагадак. У «Брэйшку» год колькі перад гэтым быў адзін Купар, у якога быў звычай, калі ён злаваўся, ня прыходзіць нанач дахаты, а туляцца па начных кафэ і піць з незнаёмымі людзьмі, гаворачы: «Мы на вас, а вы на нас...». За гэта ён неяк раз ад аднаго пана з Іглавы так атрымаў па мордзе, што гаспадар кавярні, калі на другі дзень вымятаў ягоныя зубы, паклікаў сваю дачку, што вучылася ўжо ў пятай клясе народнае школы і спытаўся яе, колькі зубоў у роце дарослага чалавека. А таму што яна ня ведала, дык ён выбіў ёй два зубы, а на трэці дзень атрымаў ад Купара ліст, у якім той прасіў выбачэньня за ўсе няпрыемнасьці і тлумачыў, што ён не хацеў сказаць нічога няпрыстойнага, што яго ня так зразумелі, бо трэба было сказаць: «Мы на вас, а вы на нас ня будзем злавацца». Значыць, хто гаворыць двусэнсіцу, перш павінен добра падумаць. Калі шчыры чалавек будзе гаварыць усё, што пападзецца яму на язык, дык яго, вядома, не заўсёды-ж будуць біць па мордзе. Але калі гэткая няпрыемнасьць з ім здарыцца раз, другі, трэці, дык ён будзе сьцерагчыся і больш маўчаць. Бо і праўда, пра гэтага чалавека кожны думае, што ў яго ня ўсе клёпкі ў галаве, а таму яго і б'юць. Але тут ужо ён мусіць зразумець, што ён адзін, а іх шмат, якія лічаць сябе пакрыўджанымі; таму, каб ён захацеў з усімі біцца, дык яму паадбівалі-б бакі. Такому чалавеку даводзіцца быць ціхім і цярплівым. От у Нусьлі жыў нейкі Гаўбэн і от гэтага пана Гаўбэна, калі ён неяк у нядзелю вяртаўся з экскурсіі дамоў, папаролі нажом. Так з нажом у плячох ён і зьявіўся дахаты; а калі ягоная жонка скінула з яго паліто, яна асьцярожна выцягнула нож з плеч і ўжо рэзала на абед ім мяса на гулеш, бо нож быў золінгенскай сталі і добра наточаны, а ў іх былі ўсё толькі тупыя нажы. Пасьля ёй захацелася мець цэлы тузін такіх нажоў, яна стала пасылаць свайго мужа кожную нядзельку за горад, але той быў такі спакойны ачалвек, што нікуды не хадзіў далей піўное «Банзэт» на Нусьлях. Гэта таму, што ён добра ведаў, што гаспадар яе выгадзе яго за дзьверы раней, чым хто-небудзь яго зачэпіць.

— А ты зусім не зьмяніўся,—сказаў Марэк.

— Дзе там!—прамовіў Швэйк.—у мяне і часу ня было на гэта. Ты-ж ведаеш, што мяне хацелі расстраляць, але гэта яшчэ ня самае горшае, а от бяда, што я з дванаццатага гэтага месяца не атрымаў пэнсіі.

— Ну, браце, у нас ты цяпер чорта лысага атрымаеш, бо мы цяпер ідзем у Сокаль і пэнсію будзем плаціць толькі пасьля бойкі, каб гэтым зрабіць пасьля экономію. Скажам, што ўся гэта прыемчасьць закончыцца праз два тыдні, тады экономія на кожным забітым салдаце, будзе складаць 24 кроны 74 галеры.

— Ну, а што ў вас яшчэ цікавае?

— Па-перш, мы згубілі свой ар'ергард, пасьля паны афіцэры наладжваюць сягоньня ў папповым доме банкет, а салдаты цягаюцца па вёсцы і робяць розныя няпрыстойныя рэчы ў дачыненьні да мясцовага жаночага насельніцтва. Раніцою аднаго салдата з нашае роты прывязалі да слупа, за тое, што ён палез да сямідзесяцігадовае, старое жанчыны на сена. А на маю думку, гэты чалавек невінаваты, бо ў загадзе не гаворыцца, да якіх год гэта яму дазваляецца.

— Мне таксама здаецца,—згадзіўся Швэйк,—што гэты чалавек невінаваты, бо калі такая старая баба і лезе наверх па драбінах, дык яе твару ня відаць. Якраз такі самы выпадак быў на манэўрах у Табары. Наш узвод быў спыніўся ў готэлі, нейкая жанчына мыла ў сталовым пакоі падлогу, а адзін наш салдацік Храмоста скраўся да яе і—як-бы гэта сказаць?—памацаў яе спадніцу. У жанчыны спадніцы былі вельмі маладыя, і калі ён яе так мацаў, яна зрабіла выгляд нібыта нічога не заўважыла, ён другі раз, трэці раз, а яна ізноў нібыта гэта яе і не датычыцца. Тады ён вырашыў пачаць атаку... А тая спакойна далей мые пол, а толькі пасьля павярнулася да салдата тварам і кажа: «Вось як я цябе ашукала, га?» Выявілася, што ёй семдзесят год. Яна пасьля гэтую гісторыю разьнесла па цэлай вёсцы... Ну, а цяпер дазвольце ў вас запытацца, ці не сядзелі вы бяз мяне ў карцары?

— Такога выпадку ня было,—як-бы выбачаючыся пра-

мовіў Марэк.—Але затое я мушу сказаць табе, што ў загадзе па батальёну было аддана арыштаваць цябе.

— Гэта глупства!—адгукнуўся Швэйк.—І апроч таго, яны маюць рацыю: батальён ня мог іначай рабіць, ён павінен быў аддаць загад арыштаваць мяне. Гэта быў яго просты абавязак, бо пра мяне так доўга ня было нічога вядома. Гэта зусім правільна з боку батальёну... Значыцць, ты гаворыш, што ўсе афіцэры ў папоўскім доме банкетуюць? У такім выпадку я павінен пайсьці туды і зьявіцца да пана паручыка Лукаша, бо напэўна ў яго і так было шмат клопатаў без мяне.

І Швэйк цьвёрдым салдацкім крокам накіраваўся ў папоўскі дом і ўзышоў па ўсходах туды, адкуль чутны былі галасы паноў афіцэраў.

Гутарка ішла пра розныя справы; у гэту хвіліну за тэму была брыгада і тыя непарадкі, што панавалі ў яе штабе. Нават ад'ютант брыгады кінуў у яе камень, заўважыўшы:

— От, напрыклад, мы тэлеграфавалі з прычыны Швэйка. А Швэйк...

— Я!—крыкнуў на паўадчыненыя дзьверы Швэйк, увайшоў і зноў паўтарыў:—Я маю гонар зьявіцца, радавы Швэйк Язэп, ордынарац 11-ае маршавае роты.

Пабачыўшы зьдзіўленыя аблічча капітана Загнэра і паручыка Лукаша, у якіх адлюстравалася ціхая роспач, Швэйк, не чакаючы адказу, казаў далей:

— Так што дазвольце паведаміць, мяне хацелі арыштаваць за тое, што я здрадзіў яго вялікасьці, нашаму імпэратару.

— Што вы там, Швэйк, мелеце дурніцы?—крыкнуў, зрабіўшыся бледным, паручык Лукаш.

— Дык дазвольце паведаміць, пане паручык, што справа была так...

І Швэйк пачаў дакладна расказваць, як гэта ўсё менавіта здарылася.

Афіцэры глядзелі, вылупіўшы на яго зьдзіўленыя вочы, у той час як ён з найменшымі драбніцамі апавядаў пра свае прыгоды і нарэшце не забыўся дадаць, якая на беразе возера,

дзе з ім здарылася гэтае няшчасьце, расла трава; а калі ён пасьля пачаў пералічаць татарскія прозьвішчы, з якімі ён пазнаёміўся ў часе свайго прымусовага падарожжа, паручык Лукаш ня мог устрымацца, каб не заўважыць:

— Так і сьвярбіць рука, каб даць вам у рыла, паганец! Ну, далей коратка, але ясна.

І Швэйк усё апавядаў з уласьціваю яму пасьлядоўнасьцю і дакладнасьцю; калі ён дайшоў да гісторыі з вайскова-палявым судом, тенэралам і маёрам, ён не забыўся адзначыць, што генэрал быў касавокі на адно вока, у маёра вочы былі блакітныя.

— А на галаве вялікая лысіна,—дадаў ён.

Капітан Цымэрман, камандзір 12-ае роты, кінуў у Швэйка чаркаю, з якой ён піў моцную самагонку яўрэя.

Аднак, гэта не зьбянтэжыла Швэйка, і ён расказаў, як была справа з духоваю ўцехаю і як маёр да раніцы праспаў у яго пабдымках. Пасьля ён бліскуча бараніў брыгаду, куды яго пасланлі, калі батальён запатрабаваў, каб яго выдалі, як салдата, што невядома дзе падзеўся. І калі, нарэшце ён падаў капітану Загнэру свае дакуманты, з якіх было відаць, што вышэйшыя інстанцыі апраўдалі яго і зьнялі з яго ўсякі паклёп і падазрэньне, ён заўважыў:

— Дык дазвольце яшчэ дадаць, што пан падпаручык Дуб знаходзіцца з сваімі парушанымі мазгамі ў брыгадзе і шле ўсім прывітаньне. Прашу выдаць належную мне суму грошай і тытуну.

Капітан Загнэр і паручык Лукаш зьдзіўлена пераглянуліся; але ў гэты момант адчыніліся дзьверы і ў вялікім чыгуне ўнесьлі гарачую патраву.

Гэта было пачаткам банкету.

— Такое ўжо ваша шчасьце,—сказаў капітан Загнэр Швэйку, прышоўшы ў добры настрой ад думкі, што яго чакае добрая ежа.—Вас выратаваў толькі гэты банкет.

— Швэйк,—дадаў паручык Лукаш,—калі з вамі яшчэ здарыцца што-небудзь падобнае, дык вам не давядзецца больш насіць галавы на плячох!

— Так, я гэта ведаю,—адказаў Швэйк,—мне давядзецца пагана, калі ўжо чалавек на вайсковай службе, дык ён павінен ведаць...

— Вон!—зароў капітан Загнэр.

Швэйк у той-жа момант зьнік з пакою і пайшоў на кухню. Балун пасьпеў ужо вярнуцца туды і прасіўся, каб яму дазволілі падаваць за афіцэрскім сталом.

Швэйк якраз падышоў на пачатак палемікі паміж Юрайдаю і Балуном. Юрайда ўжываў пры гэтым нейкія зусім незразумелыя выразы.

— Ты-ж—апошняя прорва,—казаў ён Балуну,—і ты пёр-бы ў сябе, пакуль-бы цябе не разарвала. А каб я дазволіў табе занесьці наверх кілбасы, ты-б за іх на ўсходах прадаў сваю душу чорту.

Кухня мела цяпер зусім іншы выгляд. Каптэнармусы з усіх рот жывіліся паводле чыну і выпрацаванага Юрайдам сьпіску. Пісары, тэлефоністы і яшчэ нейкія асобы прагавіта сёрбалі з іржавае місы, у якой мыліся афіцэры, разьведзены гарачай вадою крупнік, каб таксама што-небудзь уварваць.

— На-здар!—крыкнуў каптэнармус Ванэк Швэйку, абгрызаючы костку.—Адно тут быў Марэк і паведаміў, што вы ізноў зьявіліся і што ў вас новенькая форма. Дык от праз вас я ўляпаюся ў добрую гісторыю. Марэк напужаў мяне, што нам цяпер ніяк нельга зрабіць справаздачы перад брыгадаю ў вашым абмундыраваньні. Ваша-ж адзеньне знайшлі на беразе возера і пра гэта мы паведамілі праз батальённую канцылярыю брыгады. У мяне вы пазначаны, што «ўтапіліся ў часе купаньня», дык вам наогул ня было чаго вяртацца і рабіць нам лішні клопат з вашымі двума комплектамі адзеньня. Вы, напэўна, не ўяўляеце сабе, якую вы заварылі кашу? Мейце на ўвазе, што кожная рэч з вашага адзеньня на ўліку. Кожная рэч запісана ў ведамасьць на прыход. І от цяпер у роце зьявіўся лішні комплект. Пра гэта мне ўжо давялося пісаць рапорт камандзіру батальёну. А з брыгады атрымана паперка, што вам выдалі там новы комплект. Такім чынам, батальёну трэба падаваць цяпер рапорт з прычыны аднаго лішняга комплекту, што... Адным

словам, я ўжо ведаю—гэта пахне рэвізіяй. Калі справа ідзе пра дробязі, рэвізоры едуць да нас адзін за другім, ну, а калі бяз сьледу зьнікаюць кудысьці дзьве тысячы пар ботаў, дык тады гэта нікому ня шкодзіць...

— Дык вось, у нас прапаў комплект вашага абмундыраваньня,—трагічным тонам казаў далей Ванэк, высмактаўшы з косткі мозаг і выкалупваючы яго рэшткі запалкаю, што служыла яму замест зубачысткі.—Праз такую рэч у нас канечне будзе рэвізія. Калі я стаяў у Карпатах, дык у нас прызначылі рэвізію таму, што ў нас ня выконвалі загаду «здымаць з замёрзшых салдат боты, ня псуючы гэтых апошніх». У нас іх большаю часткаю проста сьцягвалі; было два выпадкі, калі яны лопнулі, а ў аднаго замёрзшага яны былі разарваны яшчэ да сьмерці... Ну, от вам і гатова справа! Прыехаў інтэнданцкі палкоўнік рэвізаваць, і каб яму адразу, як толькі ён прыехаў, ня стукнула ў галаву расійская куля, дык я ня ведаю, чым-бы ўся гэта гісторыя скончылася.

— А з яго самога боты сьцягнулі?—пацікавіўся Швэйк.

— Сьцягнулі,—сумна адказаў Ванэк,—але так і не давялося выявіць, хто гэта зрабіў, так што не давялося запісаць палкоўніцкія боты на прыход.

Юрайда вярнуўся зьверху і перш-на-перш зірнуў на Балуна, што маркотна і сумна сядзеў на столачку каля пліты і з немаю роспаччу пазіраў на сваё худое пуза.

— Ты, напэўна, належыш да сэкты гезіхастаў,—са спачуваньнем прамовіў асьвечаны кухар Юрайда.—Тыя таксама вось так праз цэлыя дні глядзелі на свой пуп, пакуль ім не пачынала здавацца, што ў іх навокал пупа зьяньне, як над галавою якоганебудзь сьвятога. Тады яны верылі, што дасягнулі трэцяе ступені дасканаласьці.

Юрайда палез у духоўку і выцяг адтуль крывяную кілбасу.

— На, еж, Балун,—ласкава сказаў ён,—еж, калі табе даюць!

У Балуна бліснулі з воч сьлёзы.

— Дома, як калолі сьвіньню,—плаксіва сказаў ён, у адзін момант разьлічыўшыся з кілбасою,—я заўсёды зьядаў перш

добры кавалак мяса, пасьля лыч, пасьля сэрца, вуха і кавалак пячонкі, пасьля ныркі, касу і кавалак кумпяка, пасьля язык, а пасьля... І ціхім голасам, нібыта баючы нейкую байку, Балун дадаў:—А пасьля на стале зьяўлялася ліверная кілбаса, так в шэсьць ці дзесяць кольцаў, і пузатая крывяная кілбаса з бульбаю і сухарамі, так што нават і ня ведаеш, за што перш сесьці. Усё гэта так і тоне на языку, так і пахне, а чалавек есьць, ды есьць... І цяпер, я думаю, што куля нада мной зьлітуецца, але голад мяне загубіць, я ніколі ў жыцьці не пабачу больш такіх патраў з кілбасамі, як дома. Квашаніну я ня надта любіў, бо яна так і трасецца і з яе малы наедак. Затое мая жонка дала-б сябе расьсекчы за кавалак квашаніны. А я не пакідаў ёй у квашаніне нават кавалачка сьвінога вуха, бо зьядаў усё сам, калі мне падабалася што... Так, ня ўмеў я цаніць яе, гэта значыць, добрую ежу і выгоднае жыцьцё, а цесьця я нават неяк апукаў з аднэю сьвіньнёй: сам закалоў сьвіньню і зьеў, а бедненькаму цесьцю ні кавалачка не паслаў. Вось ён мне і напрарокаваў, што я калі-небудзь здохну з голаду.

— І ягонае прароцтва пачынае зьдзяйсьняцца,—з пафосам крыкнуў Швэйк.

У Юрайды раптоўны прыступ жалю да Балуна ўжо прайшоў. Балун штосьці вельмі хутка павярнуўся да пліткі, выцягнуў з кішэні кавалак хлеба і хацеў памачаць яго ў подліўку, што шыпела на вялікай патэльні навокала сакоўнае пражанае сьвініны.

Юрайда неспадзявана выцяў Балуна па руцэ і хлеб паляцеў у подліўку накшталт спрактыкаванага плывакі, што кідаецца з высокага трампліна ў глыбокую ваду.

Ня даўшы няшчаснаму Балуну магчымасьці вылавіць гэты смачны кавалак з подліўкі, Юрайда схапіў Балуна аберуч і выпхнуў яго за дзьверы.

Зьдзіўлены Балун пабачыў праз шыбу ў вакне, як Юрайда дастаў відэльцам падрумянены ў подліўцы кавалак хлеба, адрэзаў кавалак мяса, палажыў яго на хлеб і даў Швэйку са словамі:

— Ежце, калі ласка, мой далікатны сябра.

— Божа, божа,—ныў за вакном Балун,—прапаў мой хлеб.

І, размахваючы доўгімі рукамі ён пайшоў на вёску, пашукаць ці ня знойдзецца там чаго перакусіць.

Там часам Швэйк, запіхваючы за абедзьве шчакі шчодры пачастунак Юрайды, з поўным ротам гаварыў:

— Эх, і рад-жа я, што зноў трапіў да сваіх. Мне было-б вельмі няпрыемна, каб я ня мог больш прыдацца нашай роце сваімі каштоўнымі паслугамі.—І, выцершы сала на барадзе, што расьцякала з хлеба, казаў далей:—Бог ведае, што вы тут рабілі-б без мяне, калі-б мяне там дзе-небудзь затрымалі, а вайна зацягнулася-б яшчэ год на колькі.

— А як на вашу думку, Швэйк, вайна яшчэ доўга будзе цягнуцца?—з цікаўнасьцю запытаўся каптэнармус Ванэк.

— Ды год пятнаццаць будзе цягнуцца,—адказаў Швэйк.— Гэта-ж зусім зразумела, што калі была калісьці трыццацігадовая вайна, дык цяпер, калі мы зрабіліся ў два разы разумнейшыя за сваіх продкаў, яна будзе цягнуцца трыццаць год падзеленыя на два, гэта значыць пятнаццаць год.

— Ордынарац нашага капітана,—перабіў яго Юрайда,—расказаў мне, што ён чуў нібыта мы як толькі спынімся на граніцы Галіччыны, ужо далей ня пойдзем, бо расійцы пачнуць тады перагаворы пра мір.

— Якія паганцы і баязьліўцы! Ня хочуць нават далей ваяваць?!—з асаблівым націскам прамовіў Швэйк.—На маю думку, калі ўжо вайна, дык каб гэта была сур'ёзна. Я ні за вошта ня згодзен гаварыць пра мір раней, чым мы ня зоймем Пецярбург і Маскву. А то якая цікавасьць у сусьветную вайну толькі крышку патузацца на мяжы! Вось хоць-бы швэды ў Трыццацігадовую вайну. Нунь адкуль здалёк яны зьявіліся, а даходзілі да Нямецкага Броду і Ліпніку і пакінулі па сабе такі сьлед, што і цяпер у корчмах пасьля поўначы гавораць «пашвэдзку», калі пачынаюць не разумець адзін аднаго. А прусакі? Яны таксама ня нашы суседзі, а пасьля іх у Ліпніку якая процьма разывялося прусакоў! Яны нават даходзілі да Жэдоўха і да Амэрыкі, і назад.

— Між іншым,—сказаў Юрайда, якога афіцэрскі банкет зусім зьбіў з панталыку,—усе людзі паходзяць з карасёў. Калі ўзяць тэорыю Дарвіна, дарагія сябры...

Але далейшае яго апавяданьне перарваў нагадзе зьявіўшыся вольнапісаны Марэк.

— Ратуйся, хто можа!—крыкнуў Марэк.—Толькі што да нас у штаб прыехаў падпаручык Дуб і прывёз кадэта Біглера.— Проста жах было глядзець,—інформаваў далей Марэк,—як ён выскачыў з аўтомобілю і кінуўся ў канцылярыю. Вы ведаеце, што я зьбіраўся, як выходзіў адгэтуль, добра выспацца. Дык от я толькі расьцягнуўся ў канцылярыі на лаўцы і толькі пачаў засынаць, як ён ужо падскочыў да мяне. Кадэт Біглер крыкнуў: «Зважай!» Падпаручык Дуб падняў мяне на ногі, а пасьля пачаў крычаць: «Вось я вас і злавіў, калі вы ўнікаеце ад выкананьня сваіх абавязкаў у канцылярыі! Спаць дазваляецца толькі пасьля вячэрнае праверкі». А Біглер дадаў: «Паводле § 9, разьдзел 16, Палажэньня гарнізоннае службы». Пасьля падпаручык Дуб стаў грукаць кулаком па стале і крычаць: «Вы, мусіць, хацелі адчапіцца ад мяне, але толькі вы ня думайце, гэта было не парушэньне мазгоў, мой чэрап здольны яшчэ ня гэта вытрымаць». Тым часам кадэт Біглер перавярнуў у мяне увесь стол і чытаў на голас нейкую паперку: «Слухай загад па дывізіі пад нумарам 280». А падпаручык уявіў сабе, што той сьмяецца з ягоных слоў, што ў яго чэрап яшчэ што-небудзь вытрымае і пачаў вымаўляць Біглеру за ягонае недалікатнае паводжаньне, што ня варта будучага афіцера, а цяпер ён вядзе яго да капітана, каб паскардзіцца на яго.

Хутка падпаручык і кадэт зьявіліся на кухні, праз якую трэба было прайсьці, каб трапіць у пакой, дзе сядзелі паны афіцэры і дзе таўсты прапаршчык Малы выконваў пасьля сьвіное пражаніны арыю з «Травіяты».

Калі падпаручык Дуб увайшоў у дзьверы, Швэйк крыкнуў:

— Устаць, зважай!

Падпаручык зусім блізка падышоў да Швэйка і прапішчэў яму проста ў твар:

— Цяпер радуйся! Цяпер табе аман! Я загадваю цябе абкруціць саломаю і зрабіць з цябе пудзіла 91-му палку.

— Слухаю, пане падпаручык,—адказаў Швэйк, выцягнуўшыся ў струнку.—Я калісьці чытаў, дазвольце паведаміць, што ў аднэй вялікай бойцы забілі швэдзкага караля, а разам з яго верным канём. Абодва трупы іх прывезьлі у Швэцыю і цяпер іх рэшткі стаяць, як пудзілы, у Стокгольмскім музэі.

— Адкуль у цябе гэткія веды, дурань?—крыкнуў падпаручык Дуб.

— Гэта таму дазвольце паведаміць, пане падпаручык, што ў мяне брат профэсар.

Падпаручык Дуб завярнуўся ад яго, плюнуў і павёў кадэта далей у кірунку да сталовага пакою. Але ён ня мог утрымацца, каб каля самых дзьвярэй яшчэ раз не азірнуцца і з бязьлітаснаю строгасьцю-рымскіх імпэратараў, што вырашалі лёс раненага гладзіятара, не зрабіць адпаведнага руху вялікім пальцам правае рукі і не скамандаваць Швэйку:

— Адцягні вялікі палец!

— Слухаю,—крыкнуў яму ўсьлед Швэйк,—адважуся паведаміць, што яго ўжо адцягнуў.

*

Кадэт Біглер быў слабы, як муха. За гэты час ён пабыў на некалькіх халерных пунктах і, пасьля ўсіх спробаў, што рабілі над ім, як падазроным у халеры, ён меў права на дрэнны надвор'е. Нарэшце ён трапіў у рукі аднаго спэцыяліста, што не знайшоў у яго ных экскрэмэнтах ніякіх халерных вібрыёнаў, падправіў яго ежу танінам, як шавец падраныя боты дратваю, і адаслаў яго на бліжэйшы этапны пункт, прызнаўшы, што кадэт «годзен несьці паходную службу».

Гэта быў, так званы, «мілы» чалавек.

Як кадэт Біглер папрабаваў вытлумачыць яму, што ён адчувае сябе яшчэ вельмі слабым, доктар, усьміхнуўшыся, сказаў:

— Ну, залаты мэдаль «за адвагу» вы яшчэ можаце насіць на сабе. Вы-ж пайшлі на вайсковую службу добраахвотнікам.

Такім чынам, кадэт Біглер паехаў здабываць сабе залаты мэдаль «за адвагу».

Яго закаленыя ў больніцы кішкі ўжо нічога самавольна ня кідалі ў штаны, але частыя пазывы ўсё яшчэ засталіся, так што дарога ад апошнята этапу да штабу брыгады, дзе Біглер спаткаўся з падпаручыкам Дубам, зьяўлялася, уласна кажучы, трыумфальным паходам па ўсіх патрэбных каморках. Разоў колькі ён пазьніўся на цягнік, бо заседжваўся на станцыях у гэтых каморках так доўга, што цягнік пасьпяваў за гэты час ад'ехаць. Затое разоў колькі здаралася так, шта ён не пасьпяваў зрабіць перасядку, бо сядзеў у прыбіральні свайго вагону.

Але, не ўважаючы на ўсе клёзэты, што траплялiся на яго дарозе, кадэт Біглер усё-ж набліжаўся да месца свае службы.

Падпаручык Дуб павінен быў яшчэ дзён колькі прабыць у штабе брыгады, але ў той самы дзень, як Швэйк паехаў у свой батальён, галоўны доктар выпрашыў у дачыненьні да падпаручыка Дуба крышку іначай, як раней. Справа ў тым, што галоўны доктар даведаўся, што ў гэты дзень у тым кірунку, дзе знаходзіцца 91-ы полк, ад'яжджае санітарны аўтомобіль.

Ён быў вельмі рады пазбавіцца падпаручыка Дуба́, што ўсе свае размовы з ім канечне пачынаў словамі: «Пра гэта я яшчэ гаварыў да вайны з панам начальнікам акруговае ўправы».

«Пашоў ты да ліхога чорта са сваім начальнікам акруговае ўправы», падумаў сам сабе галоўны доктар і падзякаваў лёс, што санітарны аўтомобіль выпадкова ехаў праз Золтанец на Каменку-Струмілову.

Швэйку да гэтага часу не давялося яшчэ бачыць кадэта Біглера ў брыгадзе, бо той ізноў засеў на дзьве гадзіны ў адным з ватэрклёзэтаў, прызначаных паном афіцэрам.

Аднак трэба заўважыць, што кадэт Біглер ніколі ня траціў дарма часу ў такім месцы, бо ён паўтараў, седзячы там, усе выдатныя бойкі славутай аўстра-вэнгерскай арміі, пачынаючы ад бойкі пад Нёрдлінгенам, 6 верасьня 1634 году і канчаючы бойкаю пад Сараевым 19 жніўня 1878 г.

Спускаючы безьліч ваду ў ватэр-клёзэце і слухаючы, як яна з шумам абмывае фаянсавую ракавіну, ён, заплюшчыўшы вочы, уяўляў сабе шум бойкі, артылерыйскую падрыхтоўку і грукат граматаў.

Спатканьне падпаручыка Дуба і кадэта Біглера было ня з ліку асабліва радасных і было бяз сумніву прычынаю ўзаемных непаразуменьняў і горачы пазьней у іх дачыненьнях на службе і па-за ёю.

А менавіта: калі падпаручык Дуб спрабаваў за чацьвертым разам адчыніць дзьверы ватэр-клёзэту, ён згубіў нарэшце цярпеньне і крыкнуў:

— Ды хто-ж там сядзіць?

— Кадэт Біглер, 11-ае маршавае роты 91-га пяхотнага палка,—было адказам.

— А тут падпаручык Дуб тае самае роты,—адрэкомэндаваўся за зачыненымі дзьвярыма конкурэнт.

— Зараз звольню, пане падпаручык!

— Ну добра, пачакаем!

Падпаручык Дуб нецярпліва зірнуў на гадзіньнік. Ніхто не паверыць, колькі энэргіі і ўпартасьці трэба мець, каб вычакаць цэлых пятнаццаць хвілін перад зачыненымі дзьвярыма патрэбнае каморкі, пасьля яшчэ пяць, і яшчэ пяць, і пачынаючы стукаць, атрымліваць усё той самы стэрэотыпны адказ: «Зараз звольню, пане падпаручык».

Падпаручыка Дуба пачала трэсьці ліхаманка, асабліва пасьля таго, як яго абнадзеіў шум паперы, а пасьля гэтага шуму прайшло яшчэ сем хвілін, а дзьверы ўсё яшчэ не адчыняліся.

Кадэт Біглер быў, акрамя таго, такі тактоўны, што ня спускаў вады.

Падпаручык Дуб траціў цярплівасьць і пачаў разважаць, ці ня лепш проста паскардзіцца командзіру брыгады, што мог-бы на апошні выпадак загадаць зламаць дзьверы і вывесьці кадэта Біглера з прыбіральні. Тым больш, што паводзіны апошняга зьяўляліся на яго думку сур'ёзным парушэньнем вайсковае дысцыпліны.

Падпаручыку Дубу, як мінула яшчэ пяць хвілін, стала зусім ясна, што яму больш няма чаго рабіць за гэтымі дзьвярыма і што патрэба зайсьці ў прыбіральню нейкім чынам сама мінула. Аднак ён прынцыпова далей вартаваў каля дзьвярэй, сгукаючы ў іх час ад часу нагою, заўсёды чуючы адзін адказ:

— Праз хвіліначку я выйду, пане падпаручык!

Нарэшце Біглер спусьціў ваду і хутка абодва сталі адзін перад адным.

— Кадэт Біглер,—узьняў голас падпаручык Дуб,—ня думайце, што я быў тут з тае самае прычыны, што і вы. Я прышоў таму, што вы, прыехаўшы ў штаб, не зьявіліся да мяне. Няўжо вы не знаёмы з статутам? Вы ведаеце, каму вы аддалі перавагу?!

Кадэт Біглер пачаў калупацца ў сваёй памяці, ці не зрабіў ён і сапраўды чаго-небудзь такога, што магло парушыць дысцыпліну і правілы дачыненьняў малодшых афіцэраў са старэйшымі.

У ягонай сьвядомасьці зьзялі ў гэтым сэнсе вялікія правалы і прадоньні, бо ў школе ніхто іх ня вучыў, як у такім выпадку павінен трымацца малодшы афіцэр у дачыненьні да старшага. Магчыма, яму трэба было перарваць сваю справу ў патрэбнай каморцы, ды кінуцца ў дзьверы і, прытрымліваючы аднэю рукою штаны, другой адказыраць?..

— Ну? Адказвайце-ж, пане кадэт Біглер!—крыкнуў запальчыва падпаручык.

І тады кадэту Біглеру ўзьбег на думку зусім просты адказ, што ўсё выплумачыў.

— Пане падпаручык,—прамовіў ён,—як я прыехаў у штаб брыгады, я ня верыў, што вы тут, і таму, як толькі я выканаў усе неабходныя формальнасьці ў канцылярыі, я зараз-жа пайшоў у патрэбную каморку, дзе і застаўся, пакуль вы ня прышлі сюды.

І афіцыйным тонам дадаў:

— Кадэт Біглер мае гонар зьявіцца да пана падпаручыка Дуба.

— От бачыце, што гэта ня дурніцы, кадэт Біглер,—з гараччу адказаў падпаручык Дуб.—На маю думку, вам трэба было зараз-жа, як вы прыехалі ў штаб брыгады, даведацца ў канцылярыі, ці няма там выпадкова афіцэраў з вашага батальёну. Пра вашы паводзіны мы будзем мець нараду ў батальёне. Я еду туды на аўтомобілі, і вы паедзеце разам са мною... Ня можа быць ніякіх адгаворак.

Кадэт Біглер хацеў запротэставаць, што ў канцылярыі брыгады яму далі літэр на праезд чыгункаю і што гэтакі спосаб пераезду з прычыны яго хваробы здаецца яму больш адпаведным, бо кожнаму дзіцяці вядома, што аўтомобілі не прыстасаваны да гэтакіх выпадкаў. Не пасьпееш праехаць сотні паўтары кілёмэтраў, як ўжо будзе поўна ў портках.

Чорт яго ведае, як гэта здарылася, што язда на аўтомобілі перш не зрабіла на Біглера ніякага ўплыву. Падпаручык Дуб аж вар'яцеў в роспачы, што яго плян помсты ня ўдаўся, бо ад'яжджаючы ён думаў: «Пачакай, кадэт Біглер! Калі сьпіць цябе не чакай, што я спыню машыну!»

І таму ён пачаў гутарку, колькі гэта было магчыма ў такую хуткую язду, вельмі прыемную гутарку пра тое, што вайсковыя аўтомобілі, маршрут якіх дакладна разьлічан, павінны экономіць бэнзын і таму ня могуць прыпыняцца.

На гэта кадэт Біглер рэзонна адказаў, што калі аўтомобіль дзе-небудзь стаіць і чакае, ён наогул ня траціць бэнзыну, бо шофэр выключае мотор.

— Але, калі машына,—холадна казаў далей падпаручык Дуб,—павінна прыехаць на месца ў прызначаны час, яна нідзе ня можа спыняцца.

На гэта кадэт Біглер нічога не адказаў.

Так яны праехалі з паўгадзіны, як раптам падпаручык Дуб адчуў, што ў яго пагосьці нядобрае з жыватом і што было-б карысна спыніць машыну, выйсьці і пасядзець у рове пры гасьцінцы.

Ён трымаўся, як гэрой, яшчэ кілёмэтраў колькі; але пасьля мацягнуў шофэра за шынель і крыкнуў яму ў вуха:

— Спыніся, спыніся!

— Кадэт Біглер,—ласкава прамовіў падпаручык Дуб, на злом галавы выскачыўшы з аўтомобіля ў роў,—ці ня хочаце скарыстаць з выпадку?

— Дзякую вам,—адказаў той,—я не хацеў-бы затрымліваць машыну.

І кадэт Біглер, якому таксама нельга было ўжо стрымацца, сказаў сабе ў думках, што хутчэй згодзіцца захварэць на мядзьведжую хваробу, як прапусьціць такі выпадак, каб зрабіць брыдка падпаручыку.

Не дажджаючы Золтанца, падпаручык Дуб яшчэ два разы загадаў спыніцца і пасьля другога выпадку сур'ёзна заўважыў Біглеру:

— Гэта ўсё гэтая праклятая сьвініна пад польскаю поліўкаю, што мне далі на абед. З батальёну я пашлю тэлеграфна скаргу ў штаб брыгады. Тухлая, кіслая капуста і гнілая сьвініна. Нахабнасьць гэтых кухараў пераходзіць усялякія межы. І хто мяне яшчэ ня ведае, таму давядзецца ўведаць мяне бліжэй.

— Фэльдмаршал Носьціц-Рынэк, гонар нашае ландвэрнае кавалерыі,—адгукнуўся кадэт Біглер,—выдаў невялічкую кніжыцу пад назваю: «Што шкодзіць жывату на вайне?», дзе ён рэкомэндуе ўстрымлівацца і ня ўжываць сьвініну ў часе цяжкіх пераходаў і наогул паходнага жыцьця. Наогул, празьмерна есьці ў паходзе вельмі шкодна.

Падпаручык Дуб не адказаў, а толькі падумаў пра сябе: «Пачакай, браце, мы з цябе выб'ем тваю навуку!» Але пачакаўшы ён усё-ж такі адказаў Біглеру страшэнна недарэчным пытаньнем:

— Дык, значыць, вы думаеце, кадэт Біглер, што афіцэр, у дачыненьні да якога вы зьяўляецеся малодшым чынам, празьмерна можа есьці? Ці ня хочаце ўжо вы сказаць проста, кадэт Біглер, што я аб'еўся? Дзякую вам за такую шчырасьць. Будзьце ўпэўнены, што я з вамі разьлічуся. Вы мяне яшчэ ня ведаеце, але калі вы мяне ўведаеце, дык да сьмерці будзеце памятаць падпаручыка Дуба.

Кажучы апошняе слова, ён амаль што не адкусіў сабе языка, бо на гасьцінцы яны якраз пераехалі цераз глыбокі роў.

Кадэт Біглер ізноў не адказаў. Гэта прымусіла падпаручыка Дуба запытацца:

— Паслухайце, кадэт Біглер, няўжо вас ня вучылі, што трэба адказваць на пытаньні свайго непасрэднага начальства?

— Гэта праўда,—згадзіўся кадэт Біглер,—такое правіла існуе. Але, перш за ўсё, трэба высьніць нашы ўзаемныя дачыненьні. Колькі я ведаю, я яшчэ нікуды не прыкамандыраваны, таму пра непасрэднае начальства і непасрэднае падпарадкаваньне вам наогул ня можа быць і гутаркі, пане падпаручык. Але самае галоўнае ў тым, што на пытаньні старэйшых у афіцэрскіх колах малодшыя павінны адказваць ім толькі ў службовых справах. А вось так, як мы цяпер сядзімо ў аўтомобілі, мы не ўяўляем з сябе воінскае адзінкі і між намі няма службовых дачыненьняў. Абодва мы толькі яшчэ едзем у сваю частку і ніяк нельга мець за службовую гутарку, калі-б я адказаў на вашае пытаньне, пане падпаручык, што вы бясспрэчна аб'еліся.

— Вы скончылі,—зароў падпаручык Дуб,—вы, вы...

— Да вашых паслуг,—цьвёрда адказаў кадэт Біглер.—Памятайце, пане падпаручык, што пра тое, што між намі здарылася, павінен будзе выказаць сваю думку афіцэрскі суд гонару.

Падпаручык Дуб са злосьці ледзь ня страціў прытомнасьці. У яго была дзіўная звычка—тады, калі ўсхваляваны, ён гаворыць яшчэ большыя дурніцы і недарэчнасьці, як тады, калі ён спакойны.

Таму Дуб прамармытаў:

— Пытаньне пра вас вырашыць вайсковы суд.

Кадэт Біглер скарыстаў выпадак, каб зусім выбіць Дуба з роўнавагі, і самым сяброўскім тонам сказаў:

— Вы жартуеце, пане падпаручык.

Падпаручык Дуб гукнуў шофэру і загадаў яму спыніць машыну.

— Адзін з вас павінен пайсьці пяхотаю,—заікаючыся, сказаў ён.

— Добра. Я паеду, а ты рабі, што хочаш,—спакойна адказаў кадэт Бітлер.

— Едзь далей,—загадаў падпаручык Дуб шофэру голасам, што дрыжаў, як з перапою, і яго агарнула маўчаньне, як Юлія Цэзара, калі да яго падыйшлі змоўшчыкі, каб працяць яго штылетам.

Так яны і даехалі да Золтанца, дзе натрапілі на сьляды свайго батальёну.

Пакуль падпаручык Дуб і кадэт Бітлер яшчэ на ўсходцах спрачаліся, ці мае права кадэт, якога яшчэ не правялі за афіцэра прыказам, на ліверную кілбасу, што ўваходзіць у пайку паноў афіцэраў,—у кухні ўжо ўсе пасьпелі наесьціся і ляжалі на шырокіх лаўках. Гутарка з пустога ў парожняе ня сьціхала ні на хвіліну і люлькі дымілися,—сіва ад дыму было.

— Сёньня я зрабіў вялікую вынаходку,—расказваў кухар Юрайда.—Я ўпэўнены, што гэта зробіць поўны пераварот у кулінарным майстэрстве. Ты-ж сам ведаеш, Ванэк, што я нідзе ў гэтай праклятай вёсачцы ня мог знайсьці маёрану ў ліверную кілбасу.

— Herba maioranae,—уставіў каптэнармус Ванэк, прыгадаўшы, што калісьці гандляваў аптэкарскім таварам.

— Проста дзіву даешся,—казаў далей Юрайда,—як чалавечы розум, як знойдзецца патрэба, карыстаецца рознымі сродкамі, як перад ім адчыняюцца далягляды, як ён пачынае выкшукваць самыя неймаверныя рэчы, пра якія чалавеку да гэтага часу нават і ня сьнілася!.. Дык вось я ва ўсіх хатках шукаю маёрану, бегаю, як звар'яцелы, прабую тое, сёе, тлумачу сялянам, на што ён мне патрэбен, які ён...

— А табе трэба было расказаць ім, як ён пахне,—пачуўся з лаўкі голас Швэйка.—Ты павінен быў вытлумачыць ім, што маёран пахне так, як калі ў прысадах, дзе цьвітуць акацыі, панюхаць бутэльку атраманту. От у нас у Празе...

— Паслухай, Швэйк,—з просьбай у голасе спыніў яго вольнапісаны Марэк,—дай-жа закончыць Юрайду.

— На адным хутары,—казаў далей Юрайда,—я натрапіў на аднаго старога салдата часоў окупацыі Босьні і Герцэговіны,

што служыў за вулана ў Пардубіцы і да гэтага часу яшчэ не забыўся чэскае мовы. Дык той пачаў са мною спрачацца, што ў Чэхіі кладуць у ліверную кілбасу не маёран, а рамонак. От я і ня ведаю, што мне цяпер рабіць, бо кожны разумны і не папярэджаны чалавек павінен вызнаць маёран за цара ўсіх прысмакаў, што кладуць у ліверную кілбасу. І раптам я ў аднэй хацінцы ўбачыў каля абразіка нейкага сьвятога міртавы шлюбны вянок. Гаспадары хаты толькі нядаўна пажаніліся і міртавы вяночак быў яшчэ даволі сьвежы... Дык я палажыў у кілбасу гэту самую мірту; давялося толькі тры разы абварыць варам гэты вянок, каб лісткі зрабіліся мяккімі і страцілі свой крыху едкі пах і смак. Зразумела, гэта каштавала нямала сьлёз, як я рэквізаваў гэты вянок на кілбасу. Маладыя лаялі мяне і казалі, што за такое блюзьнерства, вянок, як выявілася, быў высьвенчан!—мяне заб'е першая куля. І от вы елі мой крупнік з вантробкамі і ніхто з вас не падумаў, што ён пахне не маёранам, а міртаю.

— У Кралёвым Градцы,—загаварыў Швэйк,—жыў гадоў колькі назад адзін кілбасьнік, Язэп Лінэк, і ў яго на паліцы заўсёды стаялі дзьве скрыначкі. У аднэй былі ўсе прысмакі, што ён клаў у ліверную і крывяную кілбасу. У другой ён хаваў пэрсыдзкі парашок ад казюрак, бо гэты кілбасьнік разоў колькі констатаваў, што яго кліенты здабывалі з кілбасы то блашчыцу, то таракана. А ён увесь час на гэта казаў: «Што датычыць да блашчыц, то яны смакам падобны да горкага мігдалу, што кладзецца ў піражнае, але тараканы ў кілбасе сьмярдзяць, як старая зацьвіўшая біблія». Таму ён стараўся захоўваць у сваёй майстэрні чыстату і ўсюды сыпаў гэты пэрсыдзкі парашок. А неяк раз ён рабіў кілбасу і быў у яго катар у носе, от ён і памыліўся на скрыначках: схапіў тую, дзе быў пэрсыдзкі парашок, і бух! усё ў кілбасу. Але з таго часу ў Кралёвым Градцы пачалі браць ліверную кілбасу толькі ў Лінэка. Людзі за яе проста гатовы былі біцца. А ён быў здагадлівы і зразумеў, што гэта дапамог пэрсыдзкі парашок і стаў выпісваць яго ад тае фірмы, што яго вырабляе, цэлымі пудамі, але толькі патрабаваў, каб на скрынках было напісана: «Індыйскія прысмакі». Гэта

была яго маленькая комэрцыйная таямніца і з ёю ён памёр. І от што самае цікаўнае: у тых сем'ях, дзе куплялі яго кілбасу, пачалі выводзіцца блашчыцы і тараканы! Ад тых дат Кралёвы Град належыць да ліку самых чыстых гарадоў ва ўсёй Чэхіі.

— Ты скончыў?—спытаўся вольнапісаны Марэк, што таксама хацеў штосьці расказаць.

— З гэтым выпадкам я скончыў,—адказў Швэйк,—але я ведаю яшчэ адзін такі самы выпадак у Бэскідах. Але пра той я вам раскажу, як мы будзем на позыцыі.

— Так. Кулінарную штуку лепш за ўсё можна вывучыць на вайне, а асабліва на фронце,—пачаў вольнапісаны Марэк.— Я дазволю сабе падаць невялічкае параўнаньне. Перад вайною ўсе мы чулі пра так званую страву «буракі з лёдам». Гэта патрава, у якую кладуць кавалачкі лёду і якая асабліва пашырана ў Расіі, Паўночнай Нямеччыне, Даніі і Швэцыі. І от як здарылася вайна, у тую зіму нашы салдаты атрымалі ў Карпатах стольki мерзлае поліўкі з лёдам, што яны нават адмовіліся яе есьці, хоць гэта тонкая гастраномічная рэч.

— Мерзлы гулеш можна яшчэ есьці,—дадаў каптэнармус Ванэк,—але нядоўга, найбольш з тыдзень. Праз яго наша 9-ая маршавая рота была адклікана з фронту.

— У спакойныя часы,—надта сур'ёзна сказаў Швэйк,—уся служба круцілася выключна каля кухні і таго, як там варацца розныя патравы. От у нас, у Будэёвіцах, служыў адзін паручык Закрыс, дык той увесь час туляўся ў афіцэрскай кухні, а калі які-небудзь салдат, бывала, праштрафіцца, дык ён прымушаў яго стаць ва фронт і пачынаў лаяць: «Нягоднік ты, такі ты, сякі, калі гэта з табою яшчэ раз будзе, дык я тваю морду расплюшчу ў катлету, а з цябе самога зраблю бульбянае пюрэ, і цябе-ж самога прымушу ўсё гэта зьесьці. Сок з цябе так і пацячэ, і будзеш ты ў мяне пражыцца, як заяц у духоўцы. Лепш табе папраўіцца, калі ня хочаш, каб добрыя людзі падумалі, што я зрабіў з цябе шніцэль».

Развагі на гэтыя тэмы раптам спыніліся, бо зьверху, дзе адбываўся банкет, пачуліся крыкі і галасы.

Спаміж агульнага крыку вызначаўся голас кадэта Біглера:

— Кожны салдат яшчэ ў мірны час павінен усьведамляць сабе, чаго патрабуе вайна, а на вайне не забываць таго, што яго навучылі на пляцы.

Пасьля можна было пачуць, як злосна шыпіць падпаручык Дуб:

— Прашу зьвярнуць увагу, што мяне трэці раз абразілі.

Там, наверсе, чаўплося штосьці нядобрае.

Падпаручыка Дуба, што, як вядома, зьбіраўся нагаварыць батальённаму камандзіру на кадэта Біглера, афіцэры адразу, як толькі ён зьявіўся, спаткалі вясёлымі крыкамі. Самагонка ўжо зрабіла свой уплыў на ўсіх. Таму адзін за адным, намякаючы на здольнасьць падпаручыка Дуба езьдзіць конна, усе началі крычаць:

— Што, без штальмэйстара ня выходзіць?

— А, от і наш ашалелы мустанг!..

— Колькі часу ты пражыў сярод каўбояў на Далёкім Захадзе, таварыш?

— Глядзеце, панове, наш выдатны яздун ізноў да нас зьявіўся!

Капітан Загнэр хутка наліў яму поўну шклянку самагонкі і падпаручык Дуб, што ўправіўся ўжо абразіцца, прысунуў зламанае крэсла і сеў поруч з паручыкам Лукашом, што спаткаў яго прыветлівым словам:

— А мы, даражэнькі, усё ўжо зьелі!

Тым часам Рыцар Смутнага Выгляду ў форме кадэта Біглера абыходзіў увесь стол, каб строга паводле палажэньня зьявіцца да ўсіх афіцэраў: капітану Загнэру са службовага абавязку, а да іншых, хоць усе яго бачылі і бачылі перад сабою, на ўсялякі выпадак, паўтараючы ўсё адну і тую-ж фразу:

— Кадэт Біглер мае гонар зьявіцца ў батальён.

Пасьля Біглер узяў поўную шклянку і ціха сеў каля акна, чакаючы зручнага выпадку, каб выявіць свае глыбокія веды, якіх ён набраўся з падручнікаў.

Падпаручык Дуб, якому паганая гарэлка адразу кінулася ў галаву, пастукаў пальцам па стале і бяз дай-прычыны пачаў:

— Мы з панам начальнікам акруговае ўправы заўсёды гаварылі, што патрыётызм, вернасьць свайму абавязку і адданасьць выяўляюцца самаю вялікаю зброяй у час вайны. І я асабліва прыгадваю пра гэта сёньня, калі наша слаўная армія ў хуткім часе пяройдзе праз мяжу ў варожую зямлю[1]).

— Перайсьці межы вялікае дзяржавы—гэта ў кожным выпадку вельмі сур'ёзная опэрацыя,—пачуўся з-пад вакна голас кадэта Біглера.—За той час, як я ляжаў апошні раз у халерным бараку, я дакладна вывучаў карту вайны і выявіў, што супроць нас на тым сэктары, які мы, відаць, хутка захопім, знаходзіцца трыкутнік расійскіх цьвярдынь: Луцк, Дубна і Роўна. Нам давядзецца мець справу ня толькі з пяхотаю ў акопах і з васьмідзюймовымі і дванаццацідзюймовымі палявымі гарматамі, а нам трэба будзе штурмаваць цытадэлі і бэтонныя казэматы, і нас будуць абстрэльваць з цяжкіх фортавых гармат. А гэта ўжо нешта зусім іншае, чым палявая вайна. Апошняе слова належыць артылерыі. Наша артылерыя праб'е іхныя ўмацаваньні, і ў гэтыя прабітыя мясьціны мы рушым, як шаранча. І ўсё скончыцца жорсткаю, штыхавою бойкаю: Ура, гура, гура-а-а!

Кадэт Біглер быў ужо гатовым, і нічога на сьвеце не здавалася яму такім лёгкім, як штурм расійскіх фартоў. А падпаручык Дуб, у якога алькоголь таксама тумаціў мазгі і акрыляў думкі, адказаў сур'ёзна і чула:

— Так справядліва. Але майце на ўвазе, што артылерыя толькі праб'е мясьціны, а самы штурм павядзе пяхота. Таму пяхота павінна быць адважнаю, гэройскаю, бясстрашнаю. Пяхотаю павінна кіраваць адна ідэя, ідэя і яшчэ раз ідэя. І гэтая ідэя—патрыётызм, любасьць да свайго імпэратара і інтарэсаў краіны. Наша армія, я ведаю, мае гэту ідэю, і кіруецца ёю і таму мы пераможам, бо вайну выграе толькі ідэя, ідэя і яшчэ раз ідэя. Тое-ж самае гаварыў яшчэ калісьці перад вайною і пан

[1]) На гэтым скончыўся рукапіс Яраслава Гашэка, што памёр 3 студзеня 1923 году, на саракавым годзе жыцьця. Незакончаную ягоную працу давёў да канца сябра нябожчыка Кара Ванэк.

начальнік акруговае ўправы. Панове, браты па зброі, ці разумееце вы, якая гэта вялікая рэч—ісьці ў бойку за ідэю? Бо толькі ідэя патрэбна вайне!

Падпаручык Дуб з захапленьнем азірнуўся наўкола, чакаючы знакаў спачуваньня. Ён здаваўся сабе Аўгенам Савойскім, што сказаў: «Каб весьці вайну патрэбны грошы, грошы і яшчэ раз грошы!», і яму і ў галаву ня прыходзіла, што яго праграму было яшчэ цяжэй выканаць, як лёзунг гарбатага французскага прынца. Але капітан Загнэр соннымі вачыма глядзеў кудысьці ў куток, а паручык Лукаш калупаў сваім сьцізорыкам пад пазногцямі.

— Найвялікшую ролю,—зноў пачаў падпаручык Дуб,—каб падтрымаць вайсковы дух у салдата, мае іхнае выхаваньне. Выхаваньне даем ім мы, настаўнікі і прафэсары. Гэта мы творым грунт вайсковага духу, што павінен выявіцца ў часе вайны. І от вы можаце заўважыць, што дачыненьні добра выхаваных людзей, так званай інтэлігэнцыі, дачыненьне яе да вайны іншае, як дачыненьне простых салдатаў. Ім вайна значыць толькі: жанчыны, карты і п'янства! Ну, скажэце: няўжо я ня маю рацыі?

І Дуб адным духам выпіў поўную шклянку самагонкі, што жадазрона пахла дэнатуратам.

Кадэт Біглер стаяў каля вакна і ўвесь час, як дурань, усьміхаўся; капітан Загнэр штосьці прамармытаў і вышаў з пакою, некаторыя афіцэры зьвесілі сонныя галовы на стол і спалі, насьвістуючы носам. Дуб, зусім п'яны, ледзь варочаў языком і гаварыў:

— Усё дзеля нашага імпэратара! Усё нашай імпэрыі!.. Найвышэйшае на сьвеце—гэта дабрабыт дзяржавы!.. Няхай жыве армія!.. Усё—на яе ўзмацаваньне!..

Пад нізкаю стольлю галічанскае школы, перад афіцэрамі аўстрыйскае арміі гаварыліся словы з маніфэсту спарахнелага старога імпэратара. Яны здаваліся вельмі шляхетнымі і гуманнымі. Але ніводзін з афіцэраў ужо ня мог падумаць, ня кажучы пра тое, каб зразумець, што гэты лёзунг павінен быў у практыцы мець такі самы вынік, як клопат сялянкі пра свае пара-

сяты, як яна поіць іх малаком. Гэта-ж робіцца на тое, каб хутчэй іх закалоць, каб мяса іх было больш мяккае, сакаўное, каб павялічылася іх жывая вага і каб, нарэшце, пад мясьніковым нажом аплаціліся ўсе «клопаты»...

Дуб, зусім п'яны, крыкнуў яшчэ:

— Ідэя, ідэя і яшчэ раз ідэя... Каб ня было Аўстра-Вэнгрыі, яе трэба было-б стварыць... Няхай жыве нябожчык Палацкі!

І з гэтымі словамі ён пакаціўся пад стол.

Капітан Загнэр вярнуўся назад. Сьледам за ім у пакой, як віхор, уляцеў разьлютаваны Юрайда, выцягнуўся і казырнуў, хоць на ім і ня было шапкі.

— Дазвольце паведаміць, пане капітан, што ён яе ўсю зьеў!—не сваім голасам зароў Юрайда.—Дальбог, я не вінаваты, пане капітан. Я вынес яе, каб яна астыла, а ён яе зьеў. Такая цудоўная была кілбаса! І важыла, прынамсі, два кілё. Эх, каб я ведаў, што яе спаткае такі лёс!..

— Паслухайце, кухар, гаварыце ясна, што здарылася? і чаго вы лезеце сюды? Няўжо цяпер пара зьяўляцца з паведамленьнямі? Чорт ведае што такое, вы ўжо прыходзіце да паноў афіцэраў, як у рэсторан,—напусьціўся капітан Загнэр на перапуджанага Юрайду.

— Дазвольце паведаміць, пане капітан, — ізноў пачаў Юрайда.—Вы загадалі мне зрабіць браўншвэйгскую кілбасу, і я яе зрабіў. Пасьля я паставіў яе, каб выстыла, у склеп: пады спад дошку, наверх дошку ды зьверху два вялікія камяні, каб добра зьлежалася, бо гэтак трэба. А ордынарац Балун бачыў мяне, як я яе выносіў, улез у склеп і ўсё паеў, нават не пачакаў, каб астыла... Дазвольце паведаміць, пане капітан, што вы гэтае кілбасы больш ня можаце пакаштаваць, бо яе зьеў ордынарац паручыка Лукаша. От і ўсё. А я, дальбог, невінаваты!

Капітан, што ўжо са слоў Лукаша ведаў пра Балуна, які той хваравіта пражорысты, раскатурхаў задрамаўшага паручыка, ледзь стрымліваючы сьмех:

— Гэй, паслухай, Лукаш, вазьміся ты за гэтую справу! Твой Балун зьеў нашу браўншвэйгскую кілбасу, памятаеш, як мы рад былі паласавацца ёю, з воцтам, з цыбулькаю? Дык от

прымі ад мяне шчырае спачуваньне твайму гору—яе няма і не будзе!

Заспаны паручык Лукаш з лаянкай прычапіў шаблю і вышаў за Юрайдаю па сходах. Там, на двары, сядзеў на бервяне Балун, а перад ім стаяў з люлькаю ў зубах Швэйк.

— От бачыш, сьвіньня,—лаяў Балуна Швэйк,—да чаго давяла цябе твая нахабнасьць і твая прагавітасьць! Ты нават мог адважыцца зьесьці кілбасу паноў афіцэраў! Каб ты яшчэ аб'еў аднаго твайго пана паручыка, дык я-б ня дзівіўся, бо гэта добры хлопец! А цяпер... Няшчасны!.. Цябе-ж, дурня, цяпер расстраляюць. Да душы расстраляюць! Езус-Марыя, а што калі кілбаса была кепска зварана і ў ёй былі трыхіны? У цябе-ж цяпер завядуцца рабакі ў жываце, бедалажны ты!

— Ша, балбатун!—крыкнуў паручык на Швэйка.—Маўчэце! Згнаю вас у карцары, калі яшчэ што скажаце!.. А ты, Балун, паганец, дзе дзеў кілбасу? Устаць, калі з табою гавораць!

Швэйк выцягнуў з рота люльку.

— Дык дазвольце паведаміць, пане паручык, што Балун нават і ўстаць ня можа,—сказаў ён.—Ён зусім скіс. Вы-ж падумайце: кілбаса важыла больш за два кілё. Ведаеце, у Нісьле таксама быў адзін домаўласьнік, дык таму даводзілася пасьля абеду прысоўваць да стала ложак, таму што ён так наядаўся, што ня мог ўжо сам дайсьці да яго... У людзей, пане паручык, дазвольце сказаць, розныя слабасьці здараюцца. От, напрыклад, у Іноніцы жыла адна краўчыха, што...

— Сьціхніце, Швэйк, а то я вас праткну на месцы,—праскрыгатаў праз зубы паручык.—Вам зусім няма чаго ўсоўваць нос у гэтую справу. Ну, уставай, прорва, бяздонная бочка!—накінуўся ён на Балуна.—А ты, Швэйк,—казаў далей паручык, пабачыўшы, што той усё стаіць выцягнуўшыся,—калі ты яшчэ скажаш слова, дык пакаштуеш вось гэтае штучкі.

І паручык выцягнуў шаблю і бліснуў ёю ў паветры.

— Я толькі хацеў сказаць,—шчасьліва ўсьміхнуўся Швэйк,—дазвольце паведаміць, пане паручык, што такая сьмерць была-б мне толькі жаданаю і прыемнаю. Кажуць, што сьмерць ад рукі

свайго пана надта салодкая. У адрыўным календары, пане паручык, я неяк прачытаў пра гэта такое апавяданьне, вельмі ўзрушаючае і цікавае. У Францыі жыў адзін маркіз, а ў яго быў стары камэрдынэр, а як там пачалася рэволюцыя і сяляне пачалі руйнаваць маёнткі, гэты маркіз памылкова застрэліў свайго камэрдынэра. І як камэрдынэр ужо ўміраў ды маркіз хацеў паслаць па доктара, камэрдынэр сказаў: «Ня трэба пасылаць ваша сьветласьць; я з прыемнасьцю ўміраю. Няўжо, як вы лучылі мне ў грудзі і я зароў ад болю, вы ня крыкнулі: «Божа мой! Гэта ты, Жозэф? Даруй мне!» Гэта мяне зусім здаволіла». І ён памёр, зусім памёр. Дык дазвольце паведаміць, пане паручык, цяпер вы можаце мяне закалоць.

Швэйк расшпіліў два гузікі свайго мундзіру, адступіў на крок і прадэклямаваў:

Праткні халоднай стальлю мае грудзі,
Каб стух агонь у маей крыві...

— Швэйк, дурань, падла, няўжо мне праз вас звар'яцець? Езус-Марыя, мне-ж самому давядзецца застрэліцца праз ваша ідыёцтва,—прастагнаў, бедны паручык, схапіўшыся за галаву.— О, мае нэрвы, мае нэрвы!..

— Не, гэтага вы не рабеце,—рэзонна заўважыў Швэйк, зашпіляючы мундзір,—бо гэта было-б, дазвольце паведаміць, пане паручык, вялікім глупствам. Бо, калі вас застрэляць расійцы, Аўстрыі ваша сьмерць абыйдзецца таней. У іншым выпадку дзяржава панясе страты, бо патроны ў рэвольвэры таксама што-небудзь каштуюць. А ведаеце, пане паручык, вершы пра халодную сталь і агонь у мяне з опэрэткі на Вінаградах; гэта там такія рэчы ставяць. І публіка за ўсім з увагаю сочыць і прымае ўдзел у гульні артыстаў. Неяк раз давалі адну рэч пад назваю «Кароль Венцаслаў і кат»; і от, дазвольце паведаміць, кароль сядзеў у Кундратыцкім каралеўскім замку, піў віно і ўсё паўтараў: «Бескі пярун, бескі пярун!» А адзін з яго падданых усыпаў яму ў келіх атруты, каб пазбавіцца яго; кароль той і хацеў ужо выпіць і падняў келіх, а адна старэйь-

кая на галёрцы як спужалася, ды як закрычыць: «Ня пеце, каханенькі, ня пеце, там атрута!» А другога разу іначй...

Паручык Лукаш заткнуў вушы, злосна зірнуў на Швэйка, выкаціўшы вочы так, што яны наліліся кроўю, піхнуў нагою зусім няпрытомнага Балуна і зьвярнуўся да каптэнармуса Ванэка:

— Балуна тры дні падвязваць да слупа на дзьве гадзіны. Перадайце яго ўзводнаму. Тут не даводзіцца раздумліваць, што гэта ён ўпёр кілбасу?

І, не чакаючы на адказ, ён, як куля, вылецеў з двара. Швэйк доўга пазіраў усьлед яму сваімі дабрадушнымі, блакітнымі, як незабудкі, вачыма, і калі сьціхла бразганьне шаблі па прыступках усходаў, ён павярнуўся да няпрытомнага Балуна:

— Бачыш, дурань, што ты нарабіў? Каб яшчэ крышку, і цябе-б павесілі, як апошняга сабаку! Цяпер я табе ўжо другі раз выратаваў жыцьцё, але толькі ўжо больш я гэтага ніколі не зраблю, прысягаю табе ўсімі сьвятымі. Няўжо сумленны салдат будзе есьці афіцэрскую кілбасу? Каб пра гэта даведалася яго апостальская вялікасьць, наш імпэратар, дык што-б ён падумаў пра нашага брата, пра цябе і пра мяне?

Але як Швэйк убачыў, што вечна галодны асілак плача горкімі сьлязьмі і выцірае іх крысом, ён скінуў з балуновай галавы шапку і пяшчотна пагладзіў яго па валасох.

— Дык кінь ты, ня плач, не скавычы, як старая баба,— пачаў ён яго цешыць.—Ня варта плакаць з-за такое дурніцы, як тое, што цябе падвяжуць. Пачакай, нас чакаюць яшчэ горшыя рэчы. Ведаеш, у Радліцах жыла адна вугальшчыца, дык тая заўсёды гаварыла: «Бог ніколі ня зробіць такой дурніцы, горш за якую ён ужо нічога ня мог-бы здумаць».

У гэты час прышоў узводны з вяроўкамі і двума салдатамі. Яны адвялі Балуна ўбок і падвесілі яго да маладое ліпы каля самае школы. З верхняга вакна высунуў галаву падпаручык Дуб і крыкнуў ім:

— Падвяжэце гэтую сьвіньню мацней, каб у яго ў ваччу пацямнела! Каб ён стаяў толькі на пальчыках, як балерына!.. Узводны, калі гэту асобу вы ня падвяжаце як сьлед, я вас са-

мога падвяжу, уласнаручна! Вы мяне яшчэ ня ведаеце; я вам кажу, што вы мяне яшчэ ня ведаеце!

І ўзводны так нацягнуў вяроўку, што яна ўрэзалася Балуну ў цела.

— Ня так моцна! Ды плюнь ты на яго!—мармагаў Швэйк. Гэта-ж зусім ідыёт, нейкі дурны настаўнік, шпак!

Да падвязанага прыставілі вартаўніка, каб той сачыў, каб пакараны ня страціў прытомнасьці. А Балун, што ня так даўно быў аб'еўся, зьвярнуўся, ахоплены чыста чэшскім радыкалізмам, да Швэйка са словамі:

— Як будзе мір, я схаджу да гэтага Дуба і скажу яму: «Пацалуй мяне ззаду. Плюю я на цябе. У мяне ёсьць свой млын, а ты голы інтылігэнт, без капейкі ў кішэні!»

Набліжаўся ўжо вечар. Заходзіла сонца, абсыпаючы падвязанага Балуна крывавым зьзяньнем. Салдаты гналі ў вёску скаціну, што ўвесь дзень пасьвілася на сенажаці і ў лесе. Рыканьне кароў і сьвіст бізуноў прыгадалі Балуну яго родную хату, сытую сьвініну і смачны хатні хлеб. Сьлёзы ізноў набеглі яму на вочы. Ён зірнуў на сонца, што заходзіла там дзесьці, дзе стаяў ягоны млын, і страшэннае галашэньне вылецела з ягоных грудзей.

— Чаму, літасьцівы божа, ты не стварыў мяне бугаём?—з роспаччу шаптаў ён.—Прынамсі я ніколі ня ведаў-бы такога голаду! Колькі травы я зьеў-бы на тым полі, дзе нам давялося праходзіць!

Узводны прышоў толькі тады, як ўжо зусім зьмяркалася і адвязаў Балуна. Няшчасны напалоханы Балун разглядаў чырвоныя падцёкі на сваіх руках, паціраючы іх і хістаючыся як п'яны, а Швэйк пацяшаў яго:

— Не бярэце на такія глупства ўвагі. Тут кары нікуды не запісваюцца, ні ў якую кнігу. А толькі, браце, строгасьць да беднякоў мусіць быць і на вайсковай службе. А то да чаго-б мы дажыліся, каб людзям было ўсё дазволена? От мне, напрыклад, як я быў у аўстрыйскім палоне, давялося пабачыць вялікі вучастак нашага фронту, і ўсюды, скажу я табе, пануе вельмі вялікая строгасьць і дысцыпліна. У дэйчмэйстэраў сал-

датаў падвязваюць, у тырольскіх стралкоў падвязваюць, у 66-ым пяхотным падвязваюць, а ў гонвэдаў нават надзяюць на рукі «бранзалеткі». Увесь сьвет, армія і Аўстра-Вэнгрыя трымаюцца на строгасьці. Кара павінна быць; нават усемагутны пан бог усіх карае і таксама не пагладзіў-бы ён цябе па галаве, каб ты зьеў у яго два кілё браўншвэгскае кілбасы... Ну, ды ідзі цяпер вячэраць. Мы табе вячэру пакінулі. Але толькі памятай: строгасьць з бедным народам павінна быць, нават калі ўсё наўкола ляціць да чорта.

*

На парце ў аднэй з клясаў ляжаў кадэт Біглер, ніякавы, бледы і ўвесь нібы пазелянелы. На крэсьле каля яго сядзеў паручык Лукаш, у галавах стаяў капітан Загнэр і нездаволена гаварыў:

— От як, кадэт Біглер! Значыць ізноў у больніцу? Добра! Вельмі добра! У доктара вы былі ўжо? Не яшчэ? Дык вы напэўна яшчэ ня ведаеце, што гэта такое ў вас?... Ну, а яна была прыгожанькая? А колькі гэта прыемнасьць каштавала? Праклятыя бабы!.. Лукаш, а ты ўсё яшчэ здаровы? Я таксама. Барані божа, каб я чаго-небудзь не схапіў. Кадэт, я прышлю да вас доктара, а ты, Лукаш, пашлі сюды Швэйка, няхай ён падае кадэту ўсё, што яму захочацца. Ну, бывайце здаровы!

І абыякава, крыху з іроніяй, пакланіўшыся, ён вышаў з пакою. Паручык Лукаш спытаўся ў хворага:

— Значыцца гэта ў цябе на памятку пра міласэрную сястру? Пра гэту русавалосую з Польшчы? А яна сапраўды была «фон»? А, вось як! Гэта сапраўдная баронэса? Ну што-ж, тады гэта ў цябе са шляхетнай сям'і. А пакуль што, я прышлю да цябе Швэйка. Ён ужо знойдзе, як цябе пацешыць. Бывай здароў.

І ён таксама вышаў, сьмяючыся з безнадзейнага настрою кадэта.

Кадэта Біглера (так прынамсі ён думаў) у той самы вечар, як падвязалі Балуна, навалілася на гэты ложак хвароба нейкая любоўная прыгода. Ён тады хадзіў у суседнюю вёску, дзе быў

разьмеркаваны палявы лазарэт з прыгожанькімі міласэрнымі сёстрамі. І вось адна з іх адразу закахалася ў Біглера. Ён затараўся ўзаемным пачуцьцём, падараваў ёй паперку на пяцьдзесят крон і пярсьцёнак, што надзела яму, разьвітваючыся, на палец у Вене маладая, са словамі: «Гэта каб ты мяне не забыўся!» Што-ж маладая тады так плакала, што, здавалася, яна патане ў моры сьлёз, а сястрыца, убачыўшы шчодрасьць жаніха, правяла яго ўвечары дамоў і з лёгкасьцю дала сябе спакусіць...

Цяпер кадэт Біглер з жахам думаў пра яе.

— Каб яе чорт схапіў!—лаяўся ён у думках.—Калі мяне з гэтаю хваробаю адашлюць у Вэну і мая Міцці прыдзе мяне даведацца, дык... Ах, каб яна праваліласяся, гэта праклятая шлюха!

— Дык, пане кадэт,—зьявіўся перад ім раптам Швэйк,—дазвольце паведаміць, пан паручык паслаў мяне, каб я датлядаў вас. Вы, кажуць, хворыя і паручык вытлумачыў, што вам патрэбна ўцеха. Я вам, пане кадэт, усё дастану.

— Швэйк,—прастагнаў кадэт,—дапамажэце мне ўстаць і адвядзеце мяне ў патрэбную каморку.

— Слухаю, пане кадэт!—весела адказаў Швэйк і падхапіў яго пад рукі.—Дазвольце ў вас запытацца, якая там патрэба: малая ці вялікая? Бо ў такім выпадку я-б вам расшпіліў порткі. Ну, давайце пацiху: раз, два...

І ён павёў яго ў патрэбную каморку. Біглер, скрыгочучы зубамі ад болю, ледзь справіўся там. Ягоны лоб быў мокры.

— Што, вельмі пячэ, пане кадэт?—запытаўся ў яго Швэйк.—Ну, дармо, пройдзе. Гэта-ж нядоўга. Якіх небудзь тры тыдні. І гэта нават зусім не хвароба, пане кадэт, а так—маленькая няпрыемнасьць... Ну, от цяпер трэба ізноў легчы; трэба ўсё-ж быць асьцярожным.

Ён паправіў пад галавой кадэта мундзір, накрыў яго шынэлем і з цікаўнасьцю спытаўся:

— Гэта ў вас даўно, пане кадэт? Вы ня турбуйцеся, гэта глупства. Вас палажаць у шпіталь, дадуць вам санталавых капсулек, прамыюць вас марганцава-кіслым каліем і праз пару

месяцаў вы ізноў будзеце, як рыба ў вадзе. Такая рэч бывае часамі няпрыемная, але ўсё-ж даволі цяжка. От, напрыклад, на Сьміхаве жыў нейкі пан Рэтль, комівояжэр, што таксама падхапіў гэткую рэч ад аднае паненкі ў готэлі «Бэльгія». Яе, паненку гэту, звалі Сільва, але гэта ня было яе сапраўднае імя, бо сапраўды яе звалі Кацярына, і была яна з Добраўчыцы, і я ведаў яшчэ яе бацьку, што быў браконьерам і аднаго разу падстрэліў нават лясьніка. А лясьнік гэты лятаў за браконьерамі, як выжал за зайцамі. І ўсялякая дзічына была ў яго на рахунку. Ну, дык от гэты пан Рэтль пачаў заляцацца да Сільвы і перапісвацца з ёю; але толькі і адзін тэнор са сьміхаўскае опэрэткі таксама перапісваўся з ёю. Ну, добра. А калі пан Рэтль схапіў таксама от гэтакую рэч, ён пайшоў да доктара Віртана ў Сьміхаве і сказаў яму, што ўночы з ім быў нейкі прыпадак, а ў выніку яго—гэткая няпрыемнасьць! Тут доктар раззлаваўся і сказаў яму: «Паслухайце, шаноўны пане, вы лепш мне скажыце, што гэта вам з ветру сталася! Ужо калі ілгаць дык ілгаць! Я-ж ня доктар, а інстытутка і вельмі люблю казкі!» Урэшце паслаў ён нашага Рэгля ў вэнэрычную больніцу. Гэты доктар, наогул, быў вельмі цярплівы чалавек, але ён быў загадчык касы хворых і хворыя часта яму надакучалі і злавалі. Напрыклад, прыходзіць да яго жонка аднаго камінара, што ўсю зіму хварэў на раматус, і просіць каб доктар падпісаў ёй бюлетень. Ну, той падпісаў і пытаецца: «Ну, як маецца ваш стары?»—«Ды кепска паночку, кепска,—гаворыць бяззубая старая,—бо от холад які трымае і работы няма».—«А парашкі, што я выпісаў, ён прымае?»—пытаецца доктар і пачынае штосьці пісаць. «Прымае».—«Ну, вітайце яго бабулька ад мяне». Але старая ня выходзіць і пытаецца ў доктара: «Пане доктар, а ці ня было-б лепш, каб я яго чым-небудзь пашмаравала?»—«Пашмаруйце яго, бабулька».—А што, каб я напаіла яго рамонкам або ліпавым адварам?»—«Няхай нап'ецца чаго хоча».—«Ах, пане доктар, а от суседка казала, што яму лепш ня прымаць міякіх парашкоў. Як вы ўважаеце, пане доктар?» Ну, тут ужо доктар ня вытрымаў, ды як тупне, як зараве: «Гэй, цётка, як вас там клічуць... Дваццаць год я вучыўся і

дваццаць год працую за доктара, а вы паслухайцеся свае суседкі і выкіньце мой дыплём у памыйніцу». От і гэты пан Рэгль, дазвольце, пане кадэт, паведаміць, таксама не паслухаў і ня лёг у больніцу, пакуль яго туды не адвезьлі, бо ў яго там зрабілася запаленьне і бог ведае яшчэ што. З больніцы ён вышаў, як цень, а не чалавек, а пасьля папаў тубэркулёз, і яму давялося выразаць абодва яечкі. Спачатку яго таксама вельмі паліла... А такая хвароба, як у вас, глупства, і тут нічога капскага ня можа здарыцца. Што, яшчэ ўсё паліць, пане кадэт, ці вам ужо стала лягчэй?

— Швэйк, калі вы мне ня можаце расказаць нічога больш вясёлага, дык ужо лепш маўчыце,—прастагнаў кадэт, прыгнечаны прыемнаю пэрспэктываю, што намаляваў яму ротны ордынарац.

А Швэйк папрасіў дазволу закурыць, набіў люльку і, з асалодаю зацягнуўшыся, дабрадушна казаў далей:

— Ведаеце, пане кадэт, замест трыпэру я пажадаў-бы вам лепш, дазвольце паведаміць, атрымаць сыфіліс. От вы, пане кадэт, можна сказаць ня вельмі дурны, і маглі-б з такою рэччу зрабіць сабе кар'еру. З сыфілісу бывае разьмякне мозак ці хопіць паралюш або іншае што... што звычайна бывае ў кожнага генэрала. Вы яшчэ малады, пане кадэт, дык хутка маглі-б зрабіцца генэралам, от рады былі-б вашы бацькі. Але калі-б вы хацелі дастаць паралюш, дык павінны былі-б вельмі сачыць за сабою. От у нас, на Вышаградзе, жыў адзін калідорны, дык той папаў сыфіліс ад аднае пакаёўкі. Але ён не хацеў нікому паказвацца з ім, баяўся дактароў горш, як агню і казаў, што бабкі, якія лечаць зёлкамі, больш разумеюцца на гэтай справе, як абодва мэдыцынскія факультэты, нямецкі і чэскі, разам. Але толькі, дазвольце паведаміць, у простым народзе сапраўды ёсьць шмат людзей, што разьбіраюцца ў хваробах і ведаюць шмат такіх хвароб, пра якія вучоныя паны дактары і ня чулі. Як я быў у Чорна-касьцялецкім лягеры, туды прыходзіла адна старая, Мэдржычка яе прозьвішча. Яна хадзіла ад барака да барака і прадавала піражкі і каву. Піражкі каштавалі чатыры гэлеры, а кава шэсьць. Цяпер гэтая старая ўжо, напэўна, памёрла,—няхай ёй лёгка будзе на тым сьвеце!—

але кава ў яе, паганкі, вельмі нясмачная, бо яна варыла не толькі з жалудоў і цыкорыі. І ў гэтае Мэджрычкі, ці ведаеце, таксама былі ўсялякія лекавыя зёлкі і яна нават умела замовіць сухоты. Вы ведаеце, што гэта за хвароба, пане кадэт? Ну, дык от, як адна дзяўчына пачала там блажнець і сохнуць, яе бацькі пачалі плакаць, што ў яе сухоты і паклікалі старую Мэджрычку. А ў той час, пане кадэт, як мы там стаялі ў лягерах, шмат дзяўчат блажнела і сохла... Дык от, старая загадала дзеўчыне ўкленчыць перад абразамі і маліцца: «Пра-сьвятая багародзіца, зьмілуйся над намі!», і сачыла, ці затрасе яе, ці не, а калі трасло, дык значыла, што сухоты. І яшчэ, дазвольце паведаміць, пане кадэт, што ў той час дзяўчат яшчэ трэсла і яны маліліся з вялікім стараньнем і не навучыліся яшчэ пісаць пад абразом сьвятое дзевы: «Сьвятая дзева, што зацяжарыла без граху, навучы мяне, як мне грашыць і не зацяжарыць!» Нарэшце, старая вымерала дзяўчыну ніткаю, якую яна перш памачыла ў сьвятой вадзе, зрабіла крэйдаю навокала яе кола на падлозе, абабіла аб яе галінку бэзу і крыкнула: «Дзева Марыя, у яе сухоты. Бог да нас, а ўсё злое—ад нас!» Мы начавалі там у аднаго гаршчэчніка, а ў яго была красуня-дачка. Узводны нашага палка пашоў з ёю ў лес у ягады, а пасьля гэтага дзяўчына раптам пачала блажнець, а Мэджрычка прыхо-дзіла замаўляць у яе сухоты. І потым, як мы ўжо зусім забыліся, наш узводны раптам атрымлівае ад яе ліст, што яна радзіла блізьнят, і каб ён забіраў у яе дзеці. А яе бацька яшчэ прыпісаў ад сябе: «Пане ўзводны, выканайце свой абавязак, калі вы ўжо сапсавалі нам дзеўчынку. Я-ж і ведаў, што сухоты ў яе ад вас». Вам не абрыдзела, пане кадэт, што я апавядаю вам такія доўгія гісторыі?

— Швэйк, вы-ж сапраўдная жывая кроніка,—адказаў зацікаўлены кадэт,—але вы забыліся дакончыць, што зрабілася з калідорным...

— Гэта вы пра калідорнага з Вышаграду?—радасна спытаўся Швэйк, бо кадэт першы раз слухаў, не перабіваючы яго, не пярэчыў яму і не лаяўся.—Нічога! Яго лячыў стары Людвік са Сьміхава, што купляў яму ў краме на сем гэлераў цынкавых

біліл, каб ён засыпаў імі раны. Ну, а пасьля ў калідорнага мяса пачало адвальвацца з касьцей, і ён павесіўся каля царквы ў Кухельбадзе. І гэта было ягонае шчасьце, бо ён быў толькі просты калідорны і яго ніколі-б не зрабілі генэралам, нават каб у яго было пяць паралюшаў і ягоныя мазгі зрабіліся вадкімі, як піва... А ведаеце, пане кадэт, цяпер такая плойма гэтых хвароб, а салдаты, што сваёю дурною галавою ня могуць зразумець, якое шчасьце памерці за яго імпэратарскую вялікасьць, стараюцца атрымаць іх знарок. І от такі чалавек садзіцца ў вагон і ня крычыць: «Бывай здарова Прага, шчасьліва табе заставацца!», а абавязкова: «Да спатканьня праз тыдзень, у мяне нават білет ёсьць на дарогу назад. Купіў яго ў «Напалеоне» за цэлых тры кроны».

— Зважай!—крыкнуў раптам Швэйк і выцягнуўся, як струна.

У дзьвярох зьявіліся капітан Загнэр і доктар Штэйн.

— Разьдзеньцеся, калі ласка,—зьвярнуўся доктар да кадэта, а пасьля пачаў яго вывучаць, паставіўшы яго ў сябе паміж каленяў, бо ён быў вельмі нізак на вочы. Швэйк з цікавасьцю сачыў за процэдураю доктарскага агляду.

— Глупства!—сказаў доктар.—Самае звычайнае затрыманьне мачы. Пане кадэт, вы напэўна выпілі залішне? Прышлеце да мяне чалавека і я дам вам парашкоў, а заўтра ўсё будзе ў парадку. Ну, бывайце, я сьпяшаюся.

І доктар разам з ротным камандзірам пашоў далей.

— Дык дазвольце, я схаджу па парашкі,—запрапанаваў свае паслугі Швэйк.—А толькі мне вельмі шкода, што ў вас затрыманьне мачы, а ня сыфіліс, бо тады-б вы хутка атрымалі чын генэрала і пацешылі-б сваіх бацькоў. Справа ў тым, пане кадэт...

Больш яму нічога не давялося сказаць: кадэтаў бот трапіў яму проста ў твар і адскочыў ад яго носа, вымазаўшы ўсё швэйкава аблічча ваксаю. Кадэт стаяў пасярод пакою, нібыта ніколі і жыцьці не хварэў, і крычаў, паказваючы пальцамі на дзьверы:

— Марш! Прэч! Быдла, паганец! Як ты сьмееш? Езус-Марыя, я цябе, дурня, аддам пад суд і цябе расстраляюць! Разумееш?

Як Швэйк зышоў на дол, вольнапісны Марэк запытаўся ў яго, што ён рабіў наверсе і да каго клікалі доктара. Швэйк зірнуў у кавалак разьбітага шкла і, наплёваўшы ў насатку, сьцёр ваксу з левае шчакі і спакойным тонам адказаў:

— У пана кадэта Біглера было затрыманьне мачы, таму я за ім даглядаў і мы з ім вельмі спакойна і добра размаўлялі.

— От якое шчасьце!—зарадаваўся Марэк.—Ён якраз мне і трэба, каб памёр гаройскаю сьмерцю, а не валяўся ў больніцах. Я прызначыў яму выканаць такую справу, за якую ён атрымае бронзавы мэдаль «за адвагу», малы срэбны, вялікі залаты і яшчэ шмат узнагарод і благаславеньне сьвятога папы. Ён у мяне падрывае варожы парахавы склад і адзін бярэ ў палон расійскі генэральны штаб. Ён зробіць у гісторыі нашага палка такія ўчынкі, што, пасьля вайны, яму, кадэту Біглеру, будуць служыць малебнаю удзячнасьць.

Швэйк уважліва слухаў, а пасьля заўважыў:

— Вы, мне, здаецца, нагародзіце там такіх страшных рэчаў, што можна будзе за галаву схапіцца.

З гэтымі словамі ён выцягнуў з кішэні капшук з тытуном, сеў на лаўку і засьпяваў:

У Ьрно пад „Сіняю Лапшою"
Скачуць дзеўкі цалым роем.
Вось і я туды ўваліўся,
З рыжай дзеўкай пакруціўся.
Заплаціўшы ёй па чыну,
Я валёг з ёй на пярыну.—
Раніцай папёр ў бальніцу—
Боль так', што аж скрывіўся.—
Дактары мяне спыталі:
„Дзе цябе пачаставалі?"
— З дзеўкай я гуляў шальною
Там, пад „Сіняю Лапшою".

Чэхаславацкі вайскова-навуковы інстытут зьбірае цяпер усе салдацкія песьні і прыпеўкі, што зьявіліся ў часе сусьветнай вайны. Тут я без узнагароды даю ў іх распараджэньне некаторыя вершы і песьні ўдалага ваякі Швэйка.

# ПА ПЯТАХ ВОРАГА

Кожная професія мае сваю практыку, зьбірае свае назіраньні і робіць вынаходкі, што дазваляюць дакладна прадбачыць прыход тых або іншых выпадкаў. Старыя авечыя пастухі вам скажуць, якое будзе заўтра надвор'е лепш за мэтэоролёгічную станцыю на Пэтжыне; паненкі каля Парахавое вежы з аднаго погляду пазнаюць, ці варта папрасіць папяроску ў сур'ёзнага з выгляду пана, што ўначы разглядае будынак Жыўнасьценскага банку; дактары наперад кажуць вам, ці ёсьць у вас сухоты, і што, калі ў вас няма грошай, вы ўсяроўна памрыцё ад іх; і нават у Праскай паліцэйскай управе ёсьць адзін інспэктар, што добра ведае: калі чалавек, якога прынялі на допыт папросіць шклянку вады, дык ён ва ўсім прызнаецца.

Таму старыя, спрактыкаваныя ваякі, як маршавы батальён 91-га палка атрымаў у Золтанцы неўспадзеўкі загад выкапаць новыя равы, на патрэбныя каморкі, зусім сур'ёзна сказала:

— Ну, хлопцы, гэта нездарма! Заўтра, а напазьней—пасьля заўтра, нас адтуль пагоняць. Цяпер справа сур'ёзная.

Ніхто на сьвеце ня зможа вытлумачыць гэтую дзіўную сувязь паміж патрэбнымі каморкамі і аўстрыйскаю арміяй. Аднак паміж імі існавала яна, як сувязь паміж зьяўленьняў плямаў на сонцы і пвялічэньнем вульканічнае дзейнасьці. У вёсках, дзе стаялі салдаты, ніхто не клапаціўся пра тое, дзе ім адпраўляць свае натуральныя патрэбы; але, як толькі прыходзілі вядомыя загады праператасоўку войска, салдаты атрымоўвалі рыдлёўкі, сякеры і строгі загад збудаваць вялікія, прасторныя патрэбныя каморкі. Было падобна да таго, нібыта вайсковыя аддзелы

ўвесь нас баяліся, каб часьць, што прыдзе ім на зьмену, не раскрытыкавала іх і ня высьмеяла.

Такім чынам, у Золтанцы салдаты выкапалі пад вечар равы, а раніцою ўжо білі на трывогу—у штаб палка прыехала двух афіцэраў з генэральнага штабу. Яны прыехалі на зусім абляпаным гразёю аўтомобілі, а салдаты, што стаялі навокал, віталі іх радаснымі заўвагамі:

— Ах, каб іх разарвала! Як толькі зьявяцца гэтыя асобы, дык зараз-жа ў нас наступ або бойка. Чорт яго ведае, чаму расійцы такія дурні, што ўсё ўцякаюць? Няўжо мы маем якуюнебудзь карысьць гнацца за імі?

І пачалася музыка. Роты сталі ў рады на ўзторку, а абозныя каламашкі пачалі пад'яжджаць адна за аднэю. Салдатам раздалі па дзьвесьце патронаў, два з паловаю баханы хлеба на пяць дзён наперад, дзьве скрынкі консэрваў, крыху сухароў і кавы. Гэта была нагрузка, вартая сланя, а не чалавека, якому трэба было ўжо рабіць сорак кілёметраў за дзень. Але гэткая была ўжо аўстрыйская сыстэма весьці вайну, бо ніколі ня было зядома, калі пачнуць яны ўцякаць або дзе ў паходзе адстане абоз.

Салдаты, уздыхаючы, пачалі складаць консэрвы і хлеб у ранцы, а патроны ў мяшкі, ранцы і падсумкі. А дзесьці ззаду свае роты Швэйк горача тлумачыў Балуну:

— Ну, цяпер дадуць дыхту... Слухай, дурніла—ты ня думай, што гэта табе далі толькі на адзін дзень. Не, браце, гэтага табе павінна хапіць на цэлы тыдзень. Цяпер ты ўбачыш паходную кухню не раней, як пераможам і прагонім ворага. Толькі тады мы будзем мець ізноў гарачую страву. Магчыма, што тады дадуць нам і рому.

— Сьвятая багародзіца Клакоцкая!—застагнаў Балун.— Ой, капцы мне прыдуць! Ой, ведаю, што зьем усё гэтае яшчэ раней, як пан ротны скамандуе: «Марш наперад!»

— Ня будзь дурнем,—урачыста сказаў Швэйк.—Прыгадай прысягу і свой салдацкі гонар. Вось ведаеш у Чаславе ў дванаццатым Ландвэрным палку быў адзін салдат, нейкі Старэк, такая самая добрая, але нешчасьліва жывёлінка; і быў ён крыху прыдуркаваты. Як ён зьявіўся ў войска, дык папаўся пад началь-

ства капрала Эндлера, а той яму сказаў: «Ты такі дурны, што нават немагчыма быць такім ідыётам. Я толькі дзіўлюся, як гэта доктар, што вас прапускаў, мог быць такім ідыётам, што не заўважыў, што вы ідыёт». Справа ў тым, што гэты Старэк быў такі самы пражора, як і ты. Як бывала раздавалі хлебныя пайкі, ён браў сабе хлеб на ложак і так еў ад цэлага бохана, нават не разрэзаўшы яго, а на вячэру ў яго не заставалася нават скарыначкі. У тыя дні ад яго заўсёды так сьмярдзела, што ягоныя суседзі на ложках павінны былі раніцою ісьці да доктара і той прыпісваў ім ляжаць, бо яны, відаць, былі атручаныя газамі. Толькі пасьля ўжо скемілі, у чым справа, і пачалі выганяць Старэка нанач, і ён спаў на гары, каб яго не знайшлі. Але толькі праз гэта ён страціў у салдатаў усякую пашану; усе яго туркалі, а ротны, як вучыў на пляцы, заўсёды пасылаў яго, каб ён куды-небудзь схаваўся і не зьяўляўся яму на вочы, а пасьля прыйшлося выправіць яго дахаты, бо салдаты 12-га і нават 21-га палкоў зьбіралі яму рэшткі хлеба. Пра гэта пачалі пісаць у газэтах і таму яго прагналі з вайсковае службы. Якраз у той час да нас перавялі аднаго фэльдфэбэля з Часлава і ён расказваў нам пра гэты выпадак, як прыклад, да чаго даводзіць, калі салдат ня ўмее стрымліваць сябе. Справа ў тым, што гэтага фэльдфэбэля перавялі да нас за тое, што ён раскрадваў часлаўскія вайсковыя рэчы са складу і ўкрадзенае траціў на адну кельнэршу з піўной, з якою ў яго быў раман і якой ён хацеў купіць шоўкавае ўбраньне...

А пасьля, як паны афіцэры скончылі нараду, пачаўся выдатны паход праз галічанскія балоты і галічанскія пяскі. Гэта быў паход, калі ў людзей плечы былі намуленыя рамнямі, бедры амаль да касьцеў падрапаныя мяшкамі, а на нагах былі вадзяныя мазалі з галубова яйцо. Тры дні ішлі такім чынам па спаленых вёсках, начуючы ў чыстым полі. Салдаты засыналі, яшчэ ня ўправіўшыся паставіць стрэльбы ў козлы, людзі былі змораныя, як жывёла, што нават не размаўлялі паміж сабою; праўда, раніцою то адзін, то другі прабаваў засьпяваць песьню, пажартаваць, пасьмяяцца, але ўсялякая спроба ўзьняць настрой была дарэмная. Патронаў нельга было выкінуць таму, што тры разы на дзень рабіліся праверкі, колькі іх ёсьць; таму кідалі па да-

розе бялізну і хлеб. На трэці дзень, як батальён спыніўся увечары з краю невялічката ляску, ён быў падобен больш да збору культавых і калекаў, як да вайсковае часьці; познаю ноччу падыходзілі да месца прыпынку салдаты, што адсталі ў дарозе і тут-жа бяз памяці валіліся на зямлю. Раніцою тыя, хто пасьпеў крыху аддыхнуць, былі ўстрывожаны стралянінаю з усходняга боку. Перад імі справа і зьлева грымелі граматы: «трах, трах, трах».

Няспынная страляніна пабудзіла і Швэйка. Невялікі гурток салдатаў ужо ўстаў і зны спрачаліся, дзе і хто страляе:

— Гэта нашы!

— Ды не, гэта расійцы. Чуеш, зусім іншы гук!

— Ну, тады гэта немцы.

— Каб іх чорт! Магчыма, і нам давядзецца сёньня папасьці туды.

Паручык Лукаш кепска спаў уначы, бо да крыві намуляў ногі і ў яго ад сядла ныла ўсё цела. Як Швэйк падышоў да ручаінкі, што цякла па сенажаці колькі крокаў ад лесу, дык ён заўважыў там паручыка, што сядзеў, разьдзеўшыся, на беразе і абліваўся халоднаю вадою. Швэйк па-вайсковаму прывітаў яго.

— Добры дзень, пане паручык! Дазвольце спытацца, ці будзе нам сёньня кава? І ці пад'едзе паходная кухня?

Добрая раніца, Швэйк,—ласкава адгукнуўся Лукаш.—Ну што скажаш, хлопча? Магчыма, давядзецца нам ужо сягоньня існьці ў бойку. Напэўна я гэтага ня ведаю і ня ведаю, ці пад'едзе кухня... А ведаеце, Швэйк, што самае цікавае ў гэтай вайне? Тое, што ніхто нічога ня ведае! Такім чынам, у нас усе цяпер зрабіліся Сократамі. А вы ведаеце, Швэйк, хто такі быў Сократ? Гэты быў грэцкі мудрэц; а мудрацом ён быў таму, што гаварыў: «Я ведаю, што я нічога ня ведаю». Ну, а як вы сябе адчуваеце пасьля ўчарайшага спацыра?

— Дык дазвольце паведаміць, што я спадзяюся на пана бога, што ён пашле мне сілу перацярпець за яго імпэратарскую вялікасьць усё добрае і ліхое,—лагодна адказаў Швэйк.—Ці няма ў вас, дазвольце спытацца, пане паручык крышку сьлівавіцы ў пляшцы? Мне штосьці пагана, і я адчуваю сябе крышку несамавіта.

— На! Толькі глядзі, Швэйк, усяго раз пацягні. А то якраз выпʼеш усё да рэшты,—сказаў Лукаш, як Швэйк узяў пляшку ў рукі.

— Я толькі крышку пакаштую, каб у мяне ня было паганага смаку ў роце... от так... эх,і добра-яж сьлівавіца! Вельмі шчыра дзякую,—сказаў Швэйк, выціраючы далоньню рот. Пасьля ён сеў на другім беразе руачінкі і з цікавасьцю стаў разглядаць мускулістыя ногі і валасатыя лыткі паручыка.

— Дальбог, пане паручык, у вас прыгожае, сапраўды як у жанчыны цела; у вас гладкая белая скура. А вось да нас у «Звонак» прыходзіла танцаваць некая Марыя Мрочэк, і была яна таксама гэтакая-ж беленькая. Яна вельмі любіла мужчын і ў адным пустым месцы, як яе праводзілі ў Бжэўноў, яна ўначы дазваляла вытвараць з ёю, што хочаш. Але нікому яна не дазваляла гладзіць ёй калені або яшчэ вышэй каленяў. Ну, як гэта стала вядома хлопцам, дык тыя аднаго разу змовіліся, каб правесьці яе гуртам ды і схапілі яе, каб выявіць, чаму яна не дазваляе пагладзіць сябе вышэй каленяў. І от выявілася, што скура ў яе, як у абдзёртай гусі, такая-ж самая няроўная. Дальбог, пане паручык, што азадак быў у яе, як тарка.

— А што, Швэйк, у цябе таксама былі з ёю справы?—папытаўся паручык, нацягваючы на сябе споднікі.—Прызнайся, брат, колькі дзяўчат ты згубіў на сваім вяку?

— Я, пане, паручык, трымаўся заўсёды прыстойна, але от у мяне быў таварыш, што мне вельмі шмат апавядаў. Справа ў тым, што гэты таварыш быў вялікі бабнік. Ён вёў пра жанчын, з якімі меў дачыненьне, бухгальтарскія кнігі, як фабрыкант Шыхт пра мыла, што ён адпускае ў крэдыт бакалейным крамкам. Ён насіў у кішэні каляндар і запісваў кожны дзень імя таей жанчыны або дзяўчыны, з якою ён марнаваў час, і колькі гэта яму каштавала грашыма, і дзе гэта было. А на новы год ён заўсёды рабіў падлік, складаў балянс і выводзіў статыстыку. Гэта таму, што ён служыў у банку і добра ведаў бухгальтэрыю. Дык от ён нам часта гаварыў: «Самыя танныя гэта—пакаёўкі, бо з імі можна пайсьці на Косараў луг або ў недзелю паехаць га горад, у Заціўы. На дваццаць процантаў даражэй каштуюць краўчыхі, бо яны любяць хадзіць у кіно. Яшчэ на дзесяць про-

дантаў даражэй канторшчыцы і модысткі, а таксама гувэрнанткі; іх трэба ўжо вадзіць у тэатр, а пасьля куды-небудзь вячэраць. Нарэшце ідуць актрысачкі і танцоркі з балету; гэтым трэба плаціць за іх рахунак у краўца і частаваць іх у багатых рэсторанах, але затое ў іх заўсёды ўласная кватэра. Такія дамы, вядома, нашаму брату вялікая раскоша, але ўсё-ж неяк цярпець можна. А от як надумаешся завесьці інтрыжку з паненкаю з добрае сям'і, што нічога ня робіць, дык тут ужо зусім даводзіцца збанкрутаваць або абакрасьці які-небудзь банк. Таму што такая «прыстойная» паненка хоча мець усё адразу: і кіно, і тэатры, і вячэры, і кветкі, і ўбраньні, і выяжджаць за горад. Імпэратарскі сад яе ня вабіць, бо ёй больш падабаецца нумар у добрым готэлі». І, ведаеце, гэты мой таварыш быў такі спрактыкаваны, што ведаў, якія патравы падабаюцца сьветлавалосым, а якія чорным, што любяць худыя, а што тоўсьценькія, і што трэба гаварыць Тоням, а што Анэлям. Адным словам, ён усяго пакаштаваў.

— Такім чынам, значыць, у яго быў свой уласны мэтод, мэтод навуковага назіраньня,—заўважыў паручык, якога зацікавіла апавяданьне Швэйка, што адкрыла яму новыя пэрспэктывы і пункты погляду. А Швэйк ласа зірнуў на пляшку са сьлівавіцай; калі-ж ён убачыў, што паручык Лукаш не супярэчыць, каб ён яшчэ раз пацягнуў з яе, ён добра сербануў з яе і вельмі задаволена казаў далей:

— Пра гэтыя мэтоды я мог-бы шмат чаго расказаць. От, напрыклад, жыў на Сьміхаве адзін купец, Ворлічэк, дык у таго таксама быў свой мэтод наймаць сабе работнікаў. Калі яму патрэбен быў чалавек, ён зьмяшчаў у газэтах абвестку: «Патрабуецца ў вялікі колёніяльны магазын у Празе малады, сумленны, старанны прыказчык, што цікавіцца ня так вялікаю пэнсіяю, як добрым выхаваньнем. Ён павінен ведаць нямецкую мову і ўмець падмажыць каву і саліць гуркі». І калі такі беспрацоўны прыказчык пасылаў яму просьбу, прапануючы свае паслугі на гэтую пасаду, і абяцаўся выказаць сябе вартым яго даверонасьці і выявіць вялікую стараннасьць, дык пан Ворлічэк запрашаў яго да сябе ў магазын і казаў яму: «А ну, шаноўны, абыйдзеце навокала прылаўка». Прыказчык асьцярожна абхо-

дзіць прылавак, а пан Ворлічэк падасьць яму заяву і атэстат і скажа: «Не, ці ведаеце, шаноўны, я не магу вас прыняць—вы надта павольна рухаецеся». Так ён усё шукаў і шукаў прыказчыка, пакуль, нарэшце, не натрапіў на такога, што чмыхануў наўкола прылаўка, як ласіца. У Ворлічка нават вочы заблішчэлі і ён сказаў: «Вы мне падабаецеся і я вас бяру. Але толькі майце на ўвазе, каханы, у мяне быў аднаго разу прыказчык, што піў атрамант. Аднак я яго адразу заўважыў, бо пасьля таго, як вып'еш атраманту, тубы робяцца чырвоныя. Так, я вялікі спэцыяліст, што да мэтодаў». Адным словам, ён паставіў гэтага маладога чалавека загадчыкам аддзяленьня фірмы ў Кошыржы, бо той яму вельмі-ж упадабаўся. А на калядзы той распрадаў усе тавары і ўцёк з нейкаю дзяўчынаю ў Італію. Дык, пане паручык, не на кожны мэтод можна быць упэўненым, бо і самым лепшым мэтодам можна ашукацца... Э, ды тэта Балун вас шукае, пане паручык. Ён напэўна зварыў вам каву.

Швэйк пашоў поруч з паручыкам Лукашом, як добры таварыш, да салдацкага гурту і, пабачыўшы, што Лукаш і сапраўды ўзяў з рук Балуна конаўку з каваю і адказываў яму:

— Дык дазвольце сказаць, пане паручык: жадаю вам добрага апэтыту.

— Дзякуй табе,—прамовіў паручык над конаўкай.

— Паслухайце, Швэйк,—спытаўся крыху пазьней вольнапісаны Марэк,—з якога гэта часу пан паручык з вамі на «ты».

Швэйк зірнуў на таго, хто пытаўся і зусім шчыра прызнаўся:

— Ён хацеў, каб я яму гаварыў «ты», бо мы толькі кагадзе, вось там каля ручаінкі, выпілі на брудэршафт сьлівавіцы. Ён вельмі добры чалавек і адразу-ж пачынае гаварыць салдату «ты» як толькі пачуе гарматы. А от, як мы ўчуем страляніну з карабінаў, на «ты» з намі пяройдзе і пан палкоўнік. Гэта ўжо такі звычай на вайсковай службе, што паны афіцэры, як ім даводзіцца цяжка, пачынаюць лічыць салдатаў за сваіх братоў.

Навокала гарэлі дзесяткі кастроў і да іхняга трэску прымешвалася булькатаньне вады ў сотнях кацялкоў, дзе кава разварвалася ў густую, чорную, сьмярдзючую і нясмачную жыжку; сырыя дровы дымыліся і ніяк не хацелі разгарэцца, а салдаты, размахваючы шапкамі, выбіваліся з сіл, стараючыся разьдзьмухаць

агонь, і з іх вачэй з дыму цяклі сьлёзы. Пасьля зьявіўся аднекуль капітан Загнэр і сказаў салдатам, што ім даецца дзённы адпачынак. Гэтую вестку салдаты прынялі з вялікім задавальненьнем; але настрой яшчэ больш узьняўся, як распаўсюджвалася вестка, што пад'яжджае кухня. Гэты цуд здарыўся каля дванаццатае гадзіны дню, і ў кухні была ўжо гатова полўіка, якую тут-жа раздалі салдатам. Яна была нават смачная і Швэйка вельмі зьдзівіла, як нейкі салдат сказаў:

— Каб такую полўіку далі ў рэсторане, дык можна было-б напісаць у мэню па латыні: Консомэ Aqua fontana або яшчэ цей—$H_2O$.

Швэйк адшукаў каптэнармуса Ванэка і перадаў яму салдатавы словы. Ванэк засмуціўся.

— Гэта сказаў нейкі ласун, што любіць дагаджаць чэраву,— сказаў ён.—Але трэба-ж эканоміць і таму я не магу даваць туды ўсё, што належыць. Апроч таго, кухары, гэтыя мазурыкі, усю дарогу штосьці жаралі... А тое, што сказаў гэты лабятрос, дык гэта латынская назва, якою азначаюць звычайную ваду. Чаго толькі не дазваляюць сабе гэтыя паскуднікі!... Памятай, Швэйк, што сёньня будуць раздаваць віно!

Выдаваньне віна, шакаладу і розных прысмакаў, «каб палепшыць страву», было таксама асаблівасьцю аўстрыйскае арміі і аднадушна думка салдатаў пра гэту асаблівасьць казала: «Гэта з пачатку да канца ашуканства і зладзейства!» Выдавалі, напрыклад, вядро віна на роту, да гэтага вядра падыходзіў фэльдфэбэль і чэрпаў з яго поўную конаўку. З яго браў прыклад каптэнармус. Як з-пад зямлі зьяўляліся аднекуль кухары, ордынарцы і кожны чэрпаў. Тое, што заставалася пасьля іх, павінна было здаволіць цэлую роту. Звычайна здаралася так, што як капрал выклікаў свой разьдзел браць віно, у ягонай бляшанцы было ня больш дзьвёх лыжак чырванаватае бурды і дзесяць чалавек у адзін голас казалі:—«Пеце самі, пане капрал,—ня варта і вусы мачыць у такой каплі!» Таму і Швэйк рэагаваў на паведамленьне Ванэка, што, відаць, мусіла ўзьняць і пацешыць яго, толькі гэтакім чынам:

— Гэта кпінкі, бо віно даўно ўжо выжлукталі паны афіцэры, а нам дадуць яго толькі панюхаць, каб нельга было сказаць, што

мы ня ўсё атрымліваем, што нам належыць. От таксама, як нашы адступалі з-пад Красыніка, быў у адным палку, ня памятаю ў якім, салдат з настаўнікаў; дык той запытаў камандзіра корпуса і заявіў яму, што іхні полк цэлы тыдзень ня меў ня толькі гарачае стравы, але нават і хлеба, а гэта-ж ім належыць. Тады генэрал пастукаў яму па плячы і сказаў: «Ну, што-ж, гэта справядліва! Што належыць вам, дык належыць, але-ж хлеба няма. Гэта-ж зразумела, ці ня праўда?» Пасьля гэтага настаўнік апынуўся ў Празе ў вар'яцкім доме і, кажуць, усё бегаў па камеры і крычаў: «Дайце людзям тое, што ім належыць... Справядлівасьці няма, але людзі маюць на яе права. Ці ня хочаце вы права з маёнэзам, пане генэрал?»

— Але-ж, Швэйк,—зьдзівіўся каптэнармус,—што гэта ў вас за расказы і прыклады? Вайна ёсьць вайна, а на вайне павінна людзям кепска жыцца. Прыпомніце, што яшчэ і ў царкве моляць: «Захавай нас ад голаду, пошасьці і вайны, о божа!» А от ужо нясуць і віно; ну, зірнеце, на якую гэта роту.

Швэйк зрабіў крокаў колькі наперад. Ад ручаінкі ішоў нейкі салдат і нёс у брэзэнтавым вядзёрцы ваду. Раптам яму насустрэч трапіў падпаручык Дуб.

— Што нясеш? Навошта вада?

— Вада, каб коні напаіць, коні ад паходных кухняў.

— Адкуль ты яе ўзяў? З ручаю? З якога часу дазволена браць ваду з ручаю?

Салдат моўчкі глядзеў на падпаручыка і можна было заўважыць, што ён марна стараецца выращыць загадку, хто з іх звар'яцеў: ці ён, ці афіцэр.

— Чорт ведае, што гэта за дысцыпліна!—роў Дуб.—Узводны, чаму вы не паслалі разам з ім ефрэйтара? Няўжо вы ня ведаеце, што трэба, каб у нарадзе быў і ефрэйтар, як салдатаў пасылаюць па ваду людзям або казённым коням? Я ў вас пытаюся: чаму вы не паслалі разам з ім ефрэйтэра?

І тады замест ўзводнага адказаў Швэйк:

— Дык дазвольце сказаць, што вада зусім здаровая, што пан паручык мыў у ёй свае ногі і што яе бралі на каву. Ён ўжо ні ў якім выпадку нічога туды на падсыпаў, пане падпаручык, бо цяпер казённым коням стрыхніны не даюць, каб яны не ша-

лелі. От ў Радашовіцах, пане падпаручык, скуралуп казаў, што...

— ... што я загадаю вас падвязаць, пакуль вы не пачарнееце, як эгіпецкая мумія!—зароў на яго Дуб.—Нягоднік, ня важцеся кпіць з маіх слоў! А не, дык... Езус-Марыя, каб мы былі далей ад фронту, дык я ўжо і ня ведаю, што-б з вамі зрабіў, каб толькі пазбыцца вас. Вы зганьбілі ўвесь батальён!... Пашлі адгэтуль!

— Ну і раве-ж ён, як бык,—заўважыў хтосьці з салдатаў, як Дуб пайшоў.—Як я стаяў у Чаславе, там служыў у ляндвэры стары Цыбулька. Дык той от роў! Ён заўсёды прымаў рапарты конна і трэба было крычаць на ўвесь двор, а ён мацней за ўсіх крычаў: «Навабранец, абібок, гаварэце мацней, а то я вам рот разьдзяру да вушэй, каб вам лягчэй было. Што-ж вы думаеце, тут можна мармытаць, як старой шлюндры на споведзі? Памятайце, што перад вамі пан капітан і што яму зусім ня хочацца праз вас, смаркачоў, натруджваць слых!» Гэты капітан так роў, што з Вэда прысылалі да палкоўніка дэпутацыю, жанчын, каб той забараніў яму павышаць голас, бо дзеці прачынаюцца і з не адным ужо дзяцінец стаўся з пераляку.

Пасьля абеду ўвесь лягер перарабіўся ў зграю голых малпаў, што старанна шукалі на сабе вошай. Усе трымалі перад вачыма споднікі, або кашулю і дасьледвалі ўсе рубчыкі і столачкі, як астраном, што абавязкова хоча знайсьці новую комэту і прымушае свой тэлескоп вандраваць па ўсім небе. Некаторыя даставалі з ранцоў слоічкі з нейкаю шэраю масьцю і націралі ёю плечы і ногі; гэта выклікала пачуцьцё зайздрасьці ў іншых, што забыліся ўзяць з сабою гэтакі сродак ад вошай, і сярод салдатаў пачыналіся гарачыя спрэчкі.

— Лепш за ўсё ад вошай, гэта—укропны алей,—заявіў нейкі барадач, што не забіваў вошай, а пазногцем скідаў іх у траву.—Хопіць некалькі кропель і ўсе вошы паздыхаюць; але ў мяне іх столькі, што мне патрэбен быў-бы цэлы літр алею.

— Яшчэ лепш памазацца газаю,—умяшаўся ў гутарку другі салдат.—Гэта памагае ад вошай як сьвіньням, так і людзям.

— А от кажуць, што вошы наогул не заводзяцца ў шаўковай бялізьне,—сказаў трэці.—У газэтах пішуць, што наогул ня будзем мець вошай, калі будзем насіць шаўковыя кашулі.

— Гэта праўда,—адгукнуўся Швэйк,—але ня ўсё-ж могуць хадзіць у шоўку. Лепш за ўсё яны вядуцца ў таўстых вязаных фуфайках,—там іх бывае, як насыпана. Вядома, трэба было-б даваць ім здыхаць ад старасьці, ды толькі няма загаду, каб яны згрызалі жывых салдатаў. Салдат—ён павінен памерці за свайго імпэратара, а зусім не таму, што нейкім паршатым вошам жэрці хочацца.

Дзень стаяў ясны, прыгожы. Людзі выпралі сабе бялізну, памылі азызкшыя з хадзьбы ногі і пачалі гуляць у карты. На ўсходзе бухалі гарматы, але тут шасталі карты і было чутно толькі: «Хадзі!... а я казырамі!... без аднае!... бі яго дзесяткаю, дурная галава!.. Гэта чаргавалася з лузганьнем трапіўшых пад пазногаць вошай. І калі гэтыя паразыты маюць сваю гісторыю, дык 1914 год павінен быць запісаны ў іх залатымі літарамі, бо на вошах збылося біблійнае слова: «Пладзецеся і множцеся, як пясок марскі!»

Швэйк, што да змроку гуляў у карты, пашоў бліжэй да кухняў, каб крыху заснуць. Балун, Ванэк і вольнапісаны Марэк ужо ляжалі, завінуўшыся ў шынэлі і пазіраючы ў чыстае, цёмнасіняе неба, на якім зоры зьзялі, як залатыя спражкі на цяжкай аксамітнай рызе. Юрайда тлумачыў ім:

— Кожная зорка—гэта цэлы сьвет, астральны сьвет. І от калі вы ўявіце сабе, што існуе нешта з дваццаць мільёнаў гэтых нярухомых зор, што променю сьвятла трэба пяцьсот трыццаць сем год, каб прабегчы адлегласьць ад іх да нас, і нарэшце, што сонца ў паўтара мільёны раз большае за нашу зямлю, дык што такое ў параўнаньне з гэтым усім я і мая паходная кухня і тыя некалькі дзесяткаў кілёмэтраў, што мы прайшлі?! Сусьвет неймаверна вялікі і ён хавае безьліч таямніц. Мы нічога ня ведаем, што там робіцца і што за істоты там жывуць...

— Хацеў-бы я ведаць, ці ёсьць там такія самыя ідыёты, што распачынаюць войны,—пазяхаў вальнапісаны Марэк.

— Магчыма! Ніхто пра гэта ня ведае. Магчыма, там людзі, а магчыма, там жывёла, у якую пераходзяць душы людзей перад тым, як ізноў вярнуцца на гэты сьвет... Я чытаў пра гэта ў Флямарыёна.

— Зерне праўды ў гэтым, напэўна, захована,—пачуўся голас Швэйка.—Пане каптэнармус, ня круцеце галавою. Каб вы былі знаёмы з паняю Маршалэк з Жыжкава, дык яна-б вам гэта сьцьвердзіла. Справа ў тым, што гэта пані Маршалэк была яснавідучая, умела кідаць карты і прарочыць будучыню. Жыла яна на глухой вуліцы ў ваколіцы, але да яе прыяжджалі людзі з усяе Прагі, вельмі-ж добра яна варажыла і прадракала ўсім заўсёды адно і тое-ж! Яна ўмела і нячыстую сілу замаўляць.

— Швэйк,—з найвялікшаю цікавасьцю запытаўся Юрайда,—ці былі вы ў яе калі-небудзь на сьпірытычных сэансах? Што гаварыў яе мэдыум?

— Я не хаджу ні на якія» «сэнсацыі»,—сказаў Швэйк,—але я чуў пра іх ад аднаго мэдыка, што жыў у яе. Таму мэдыку захацелася спрабаваць гэта дзеля навуковае цікавасьці, дык ён запрапапаваў сябе пані Маршалэк за мэдыума, а як, бывала, сядзеў, падвыпіўшы, у «Поўным кубку», дык ахвоча пра гэта апавядаў. Дык от ён пачаў працаваць з гаспадыняй напалову, а як пачалася вайна, дык жанчыны ў іх перад домам станавіліся ў чаргу, у вялікі хвост. А пасьля раптам бяз дай-прычыны пані Маршалэк уздумала не гаварыць усім жанчынам адно і тое-ж: што от іхнія гаспадары вярнуцца з вайны цэлыя і здаровыя і што яны яшчэ доўга будуць жыць з імі шчасьліва і ў дастатку. Наадварот, яна стала гаварыць тым, хто ёй мала заплаціў, што гаспадар нібыта забіты, або застаўся бяз ног ці галавы, яшчэ як-небудзь пакалечан. Тады дурныя бабы пачалі лаяць вайну і клясьці нашага імпэратара за тое, што ён нібыта адабраў у іх мужыкоў, а пачуўшы ўсё гэта, паліцыя забрала ўсіх і адвяла ў вучастак. На допыце яны паказалі, што гэта нібыта пані Маршалэк ім на картах вывваражыла, што іхніх гаспадароў ужо больш няма жывых. Тады зьвярнулі ўвагу на паню Маршалэк, прывялі яе ў вучастак і перш хацелі як-бы павесіць за дзяржаўную здраду, але пасьля пусьцілі дахаты і толькі сказалі ёй, што яна можа браць з людзей, колькі ёй захочацца, але варажыць павінна ім толькі добрае. І яна, нябога, так перапужалася, што ад усяго адступілася і толькі дапамагала мэдыку. От неяк раз прыехала да яе жонка аднаго прокурора, вельмі адукаваная жанчына, і кажа, што яна бачыла сон, нібыта

не муж, што вёў у Градцыне справы па абвінавачваньні ў дэзэртырстве і абразе імпэратара, ня то памёр, ня то загінуў у бойцы, і нібыта яго душы давялося з кару перайсьці ў каня. Уласна кажучы, так яму і трэба было-б, бо ён быў сапраўдны кат. Напрыклад, адну старэнькую з Кухэльбаду, што купляла ў аднаго яўрэя панчохі і, як той папрасіў за іх вельмі дорага, сказала: «От пачакайце, прыдуць расійцы... яны вам пакажуць!»—ён засудзіў на паўтара гады! Дык от прыехала да пані Маршалэк ягоная жонка і дае ёй пяцёрку, каб тая вытлумачыла ёй гэты сон; але Маршалэк і слухаць ня хоча. Тады прокурорава жонка прыкінула яшчэ пяцёрку, і пані Маршалэк пайшла будзіць мэдыка, каб ён удаў з сябе мэдыума. Але мэдык яшчэ з учарашняга вечару быў п'яны і ў вельмі дрэнным настроі; ён бадай адразу заснуў, і пані Маршалэк давялося ізноў будзіць яго, як яму трэба было адказваць. І дух мужа, як яго выклікалі, і сапраўды адказаў, што перайшоў у каня і што гэта паслана яму за кару. Пракурорава жонка тут- жа самлела, а пасьля спыталася, які час яго душа застанецца ў канёвым целе. Пані Маршалэк ізноў штурханула мэдыка пад сёмую рабрыну і той адказаў: «Да таго часу, пакуль я не набуду ўсіх уласьцівасьцяў каня!»—«А ня шмат табе засталася вучыцца, даражэнькі мой?»—ледзь прашаптала бедная жонка, бадай зусім у бяспрытомнасьці ад страху. «Ды цяпер ужо ня шмат. Я ўмею есьці авёс, піць з вядра, жаваць сена і спаць стоячы. А душа мая будзе вызвалена тады, як я навучуся пусчаць ветры на хаду. Гэта—адзінае, чаго я яшчэ не патраплю зрабіць!» Пасьля таго пасадзілі і пані Маршалэк і мэдыка.

Каптэнармус зайшоўся такім сьмехам, што гучаў, як рык галоднага тыгру ў джунглях, а сонны вольнапісаны Марэк ікаў, затое рэзвлаваны Юрайда стукнуў Швэйка каленам ззаду і прагаварыў:

— Швэйк, вы ня толькі ідыёт, але і сьвіньня! Вы проста кпіны строіце з окультных навук! Бог вас за гэта пакарае. Адважцеся толькі прыйсьці калі-небудзь да мяне на кухню абгрызаць косьці!

— Ёсьць шмат чаго між небам і зямлёю,—адказаў Швэйк,—што зьяўляецца неразгаданаю тайнаю. От, напрыклад, гэтыя

самыя вошы .. Вы, пане Юрайда, можаце мне сказаць, навошта яны існуюць на сьвеце?... Аднак, сёньня, з прычыны таго, што я надзеў чыстую бялізьну і памыўся, мне здаецца, што я ляжу на добрым спружынным сяньніку.... У мяне-ж на нагах была дагэтуль сапраўдная кара ад тразі, калені абрасьлі мохам, а паміж пальцаў на нагах зьявіўся як-бы лімбургскі сыр. Пане Юрайда, а што, у вас ногі таксама пацеюць?

Юрайда ўпарта маўчаў, каптэнармус хроп на ўсе застаўкі, а вольнапісаны Марэк мармытаў праз сон:

— Ня гледзячы на град знарадаў, кіпеўшую наўкола бойку і пякельны стук гармат, наш гэрой, узводны 91-га пяхотнага палка Антось Выходзіл з Вэйжэрака пад чэскім Бродам ня пужаецца нічога і нястрымана імкнецца наперад, па лаўры перамогі...

Пасьля ён прашаптаў нешта зусім незразумелае, перавярнуўся на другі бок і мармытаў далей:

— Сырая галіцкая зямля ўкрыла гэтыя гэройскія грудзі, аздобленыя вялікім срэбным мэдалем, якім наш найвышэйшы правадыр узнагародзіў гэтакую адданую сьмеласьць. Пасьля гэроя засталася хворая на сухоты жонка і пяцёра маленькіх дзяцей...

Прыдумваньне ўсялякае дурніцы на гонар 91-га палка даймала батальённага гісторыеграфа нават уначы, і яго здаровы розум плёў тады такія рэчы, якія лёгка маглі давесьці іхняга аўтара да вайсковае турмы. З афіцэрскае палаткі даляталі паасобныя адрыўкі нейкае спрэчкі і нэрвовы сьмех, і Швэйк, якому ўсё яшчэ чамусьці ня спалася, глядзеў на неба і думаў, ці гэты месяц зьзяе таксама і над Пратаю. А таму што вошы яго больш не турбавалі, у яго на душы зрабілася так добра, што ён памаленьку пачаў сьпяваць:

Нашы слаўныя ваякі
Лесам адступалі,
Селі крыху адпачыць
Вошай шмат накалупалі.
Цэлы воз на Хаданін
Цягнуць вошкі парай;
Трэцьця села ў перадку
І дыміць цыгару.

Заўважыўшы, што Юрайда ўсё яшчэ ня сьпіць і цяжка ўздыхае, ён павярнуўся да яго і сказаў:

— А вы ўжо чулі анэкдот пра настаўніка і вош, пане Юрайда? У Младай Болеславе жыў адзін настаўнік прыродазнаўства пры рэальным вучылішчы, і яму было вельмі сумна, што ў ягонай колекцыі казюлек ня было вошы. Блох у яго было шмат, бо іх дала яму дырэктарка жаночае гімназіі, але вошай дык нідзе ня мог дастаць. Калі-ж там пачалася работа па рэгуляваньні Ізерскага каналу і туды найшло шмат чорнарабочых, дык выявілася, што на іх вошай, колькі хочаш. От гэты настаўнік аднае нядзелькі сабраўся, узяў з сабою бутэлечку на вошы і пайшоў туды да чорнарабочых. На беразе рэчкі ён спатыкае нейкага абарванца, што якраз лавіў у сябе за пазухаю вошы і кідаў іх рыбам у ваду; а вядома, што рыбы вельмі ласы на вошы, пане Юрайда. Дык от гэты настаўнік і кажа абарванцу, што яму патрэбны вошы дзеля школьнае колекцыі—ці не падаруе ён пару другую. Тады абарванец пакалупаўся ў сябе пад пахаю і выцягнуў пяць штук з добрае ячнае зерне кожную і кажа: «Пяць штук па дваццаць гэлераў—адна крона. Бярэце!» Але настаўнік быў скупаваты і не хацеў плаціць, а таму і кажа абарванцу: «Можа, вы-б іх дарма далі школе?» А той сунуў вошы сабе назад і крыкнуў: «Ну, дык сам гадуй іх!» І выявілася, што гэты абарванец—былы доцэнт філёзофіі, соцыолёгіі і політычнае экономіі, што так апусьціўся пасьля таго, як ягоная жонка скруцілася з другім; ён вельмі добра зразумеў, што калі чалавеку патрэбны вошы, а ён ня хоча гадаваць іх сам, то ён павінен плаціць за іх і што яны ў такім выпадку—тавар. Як на вашу думку, пане Юрайда: добра гэта ці не?

Юрайда, што ня ўмеў доўга злаваць, мірным тонам адказаў:

— Так, бываюць выпадкі, пане Швэйк, над якімі варта падумаць і ў якіх няма нічога сьмешнага. От, напрыклад, жанчыны згубілі шмат народу і ўся сонечная сыстэма ня можа з гэтым нічога зрабіць. І ў гэту хвіліну, пане Швэйк,—Юрайда папярхнуўся з расчуленьня, што называе Швэйка панам,—я таксама намагаюся вырашыць загадку, ці трымае мая жонка вернасьць, пра якую яна мне прысягала, ці сьпіць ужо з кім-небудзь іншым. Мы ўжо колькі часу як пакінулі нашы сем'і, а

жонка ў мяне—прыгажуньня з чорнымі, пякучымі вачыма. У старажытныя часы, як рыцар ехаў на вайну, ён купляў асаблівы пояс, якім і замыкаў сваю жонку, тады была выключана магчымасьць здрады. Вы-ж напэўна пра гэта чулі? А заўтра на абед, пане Швэйк, будзе гуляш з консэрваў з бульбаю. Я вам крыху прыхаваю. Толькі каб бог даў мая жонка мне ня здрадзіла!

— Я пра гэта чуў і нават чытаў,—хутка адказаў Швэйк, пачуўшы вестку пра гуляш.—Гэта дзеялася ў часе крыжовых паходаў, калі рыцары хадзілі вынішчаць тэтых няверных сабак туркаў і паганцаў, каб адабраць ад іх труну Ісуса. І такія паясы можна бачыць у парыскім музэі, пане Юрайда. Пан Хоркэй, пісьменьнік, што выдаваў у Празе газэту «Сьлед», пісаў пра тое, што там можна пачуць самыя тонкія сапраўдныя парыскія анэкдоты. У Парыжы, пісаў ён, ёсьць толькі тры вартыя ўвагі рэчы: па-першае, морг, куды прыносяць усіх нябожчыкаў, што памерлі, не пакінуўшы адрасы, і ляжаць там цэлыя месяцы на лёдзе пакуль паліцыя не атрымае адказу на фотаграфію ў «Кур'еры» з пытаньнем «Хто гэта? Хто яго ведае?»; па-другое, Монмартр з Мулен-Ружам, дзе зьбіраюцца ўсе проституткі, і нарэшце Музэй, дзе выстаўлены гэтыя паясы цнаты, якімі рыцары рабілі немагчымай здраду сваёй вернай жонкі. А ведаеце, пане Юрайда, мне вельмі шкада, што нас не паслалі на францускі фронт. Я без сакладу пайшоў-бы зірнуць на тыя паясы, як толькі мы-б узялі Парыж.

— А навошта яны там, калі мы тут, а нашы жонкі дома?—уздыхнуў Юрайда.—Такі пояс, пане Швэйк, вельмі тонкая і мастацкая рэч і павінен быць зроблен паводле меркі. А што, калі жонка возьме ды знарок прышле нявэрную мерку?

— Ну, нашымі часамі,—запярэчыў Швэйк,—не памагла-б, магчыма, і правільная мерка, бо цяпер на сьвеце—адно ашуканства і жульніцтва. Самі падумайце. У старыя часы, пане Юрайда, такі пояс замыкаўся, а ключ да яго рабіў сьлёсар пад страхам кары сьмерцю, толькі ў адным экзэмпляры. Гэты ключ рыцар вёз з сабою ў паход і заўсёды насіў яго на сваіх грудзёх А як пачалася бойка і рыцар заколваў ці засякаў шмат гэтых сара-

цынскіх сабак, або трапляў у палон, дык ён даламаў яго і маліўся сьвятой дзеве, каб яна бараніла скарб, ад якога ў яго от тэты самы ключ. Ну, а цяпер, пане Юрайда, У Гофмана ў Харжавіцы такія ключы адліваюць сотнямі кілё, а ў Рота на Малым рынку вы можаце купіць ключы, якія тольк хочаце. Цяпер людзі ломяць, нават жалезныя, літыя касы ў банках, а вы самі ведаеце, якія там запоры і замкі! Не, гэтыя рыцарскія жонкі былі не такія, хоць ім і даводзілася шмат перацярпець. Вы толькі вазьмеце ўвагу на старыя абразы, якія яны ўсе былі бледныя. Але ўсё-ж яны толькі маліліся за сваіх гаспадароў і цярпліва чакалі, пакуль тыя вернуцца з ключом дахаты. А як гаспадар гінуў на чужыне, дык яго жонку так і клалі з гэтым поясам у магілу. Па гэтай прымеце мы іх пазнаем у дзень страшнага суду, пане Юрайда. Я не хачу чапаць вашае жонкі, я яе зусім ня ведаю, але іншая жонка бывае такая халера, што, каб муж набат заказаў ёй найменшы пояс, яна адразу пабегла-б да сьлёсара, каб той дарабіў ёй запасны ключ або адмычку.

— Так, так кепска быць жанатым!—уздыхнуўшы, адказаў Юрайда і змоўк. Усе наўкола спалі і толькі чутно было рытмічнае дыханьне, пасьвістваньне і храпеньне; час-ад-часу прахо-дзіў дзяжурны ефрэйтар. Уся мясцовасьць дыхала глыбокім спакоем, які раптам парушылі чатыры гарматныя стрэлы ў далячыні. Швэйк бадай што ўжо заснуў, але думка, што на французкім фронце было-б лепш і там можна было-б заваяваць Парыж і музэй з паясамі цноты, яшчэ тлела ў яго сьвядомасьці. «Я-б выкраў адзін з іх і прывёз-бы як вайсковую здабычу маёй пані Мюлер», набягала яму на думку. Вольнапісаны Марэк варочаўся з боку на бок і мармытаў:—Пад градам шрапнэлі, што наўкола разрывалася, піонэры зрабілі мост... Вытрымаць да канца і перамога наша!—і Юрайда быў пакінуты на гэтым сьвеце адзін, і сьвет душыў яго сваёю бязьмежнасьцю.

Напярэдадні бойкі салдат думае пра шмат рэчаў, і афіцыяльныя гісторыёграфы і вайсковыя корэспондэнты пішуць пра тое, як у такія хвіліны салдаты зьліваюцца душою цалкам са сваёю нацыяй і сваёю дзяржаваю, што ім здаецца нікчэмным і мізэрным іхняе жыцьцё ў параўнаньні з інтарэсамі ўсяго чалавецтва, і з якою радасьцю яны ахвяруюць яго са сьвядо-

масьцю, што шчасьце ўсяго чалавецтва стаіць вышэй за іх уласнае шчасьце асобнае адзінкі. Магчыма, у гэтым ёсьць крыху праўды, але Юрайда думаў толькі пра тое, ці не абнімае ў гэту хвіліну хто іншы яго жонку ў яго пасьцелі, і ніякая іншая рэч яго ня цікавіла, бо ўсе яго думкі былі зывернуты да аднаго рэтага пытаньня. А поруч з ім хроп у здаровым сьне слаўны ваяка Швэйк, што вырашыў пытаньне пра вайну, як ехаў на фронт, у гэтакіх словах:

— Чэсна гуляць у мар'яж для нас важней, як сусьветная вайна.

*

Раніцою ніхто яшчэ ня ведаў, што будзе далей. Капітан Загнэр ня меў яшчэ ніякіх загадаў з батальёну, таксама як і палкавы командзір не атрымаў іх у палку. Капітан рэзка абарваў кадэта Біглера, што прабаваў скарыстаць свае веды ў чытаньні карты мясцовасьці, і палпоў з паручыкам Лукашам да ручаю. Лукаш, як і ўчора, абмыў свае натомленыя ногі і апечаную сонцам скуру і скардзіўся капітану Загнэру, што ледзь можа сядзець на кані На гэта той яму адказаў:

— Глупства! Пройдзе! Гэта таму, што ня меў практыкі, трэба было дома практыкавацца на коніку-гойдалцы.

Як раздалі каву, на салдат найшоў, відаць, добры настрой, яны павыцягвалі з кішэняў па трыццаць два лісткі і пачалі гуляць на запалкі і гэлеры. І каб ня было страляніны з паўночнага боку, можна было-б падумаць, што гэта адпачываюць на маняўрах.

Пад паўдня затрашчаў тэлефон. Афіцэры сышліся на нараду, а фэльдфэбэлі і ўзводныя пачалі крычаць:

— Трывога! Трывога! Кідайце, такую вас, карты. Няўжо ня чуеце, што трывога? Кідайце, а то так заеду па карку...

І праз пяць хвілін батальён ужо стаяў у стройных радох, з ранцамі на плячох, са стрэльбамі ў руках.

Пасьля батальён узмоцненым маршам крочыў аж да позняе начы. Дарога ішла праз вёскі, дзе былі відаць напалову сьцёр-

тыя сьляды боек, што адбываліся тут. Начавацъ сьпыніліся ў якімсьці лесе.

Паходныя кухні падыйшлі толькі раніцою. Гуляш, што ўчора быў прызначан на абед, раздалі аж на сьняданьне.

Гарматы бухалі дзесьці зусім блізка, і шмат салдат казала, што чулі ўночы нават сакатаньне кулямётаў. У адных гэта выклікала павышаную нэрвовасьць, другіх апанавала поўная апатыя да ўсяго, што адбывалася і павінна было адбыцца. Ледзь управіліся раздаць гуляш, як прыляцеў конны ордынарац, ізноў пачалася трывога. Салдаты пхалі ежу сабе ў рот абедзьвюма рукамі, каб ня кідаць яе. Афіцэры ізноў сышліся на нараду, доўга разглядалі карту і спрачаліся пра кірунак; капітан толькі хістаў галавою, параўнаўшы карту з паказаным яму ў загадзе кірункам. Пасьля афіцэры разыйшліся кожны ў сваю роту, а капітан Загнэр сказаў невялічку прамову.

— Салдаты!—сказаў ён.—Тое, што нам трэба будзе зараз зрабіць—проста дзіцячая забаўка. Магчыма, што нам наогул не давядзецца пачаць бой, бо наша брыгада лічыцца ў трэцім рэзэрве. Прыблізна за дзьве гадзіны хады адгэтуль стаіць адзін расійскі батальён, што заблудзіў у вялікім лесе; ён там ад учарашняга дню і ніяк ня можа адтуль вылезьці. Дык от, перад нашым палком стаіць задача абступіць гэты лес і прымусіць расійскіх салдатаў здацца. Гэта яны і зробяць, напэўна, вельмі ахвоча. Магчыма, што ня будзе зроблена ніводнага стрэлу. Таму вам няма чаго баяцца. Гэта, яшчэ раз скажу я, дзіцячая забаўка. Гура, гура, гура!

Салдаты адказалі даволі вялым «гура!», і капітан Загнэр даў дыспозыцыю, у якім парадку кожная рота павінна ісьці наперад. Салдаты, што былі ўжо ў боўках, мармыталі:

— Езус-Марыя, мы ў трэцім рэзэрве, значыць мы апынімся ў гэтым пекле, магчыма, праз гадзіну. Пад Гродкам мы таксама былі ў трэцім рэзэрве, і там усё было скончана за тры чвэрці гадзіны. У нашых заўсёды ёсьць трэці рэзэрв... Няхай мяне павесяць, калі нас не завядуць у такое месца, дзе наша і нага ня ступала! Так і ведайце, хлопцы, ня ўправіцца яшчэ ў нас у жываце страпіцца гуляш, як нам такога дыхту дадуць, што...

Варта ўваті, што чэхі ў аўстрыйскай арміі ніколі не гаварылі «мы будзем біцца» або «мы ім дамо», а заўсёды ў такой горкай, пакутніцкай форме: «Дадуць нам дыхту».

Адзінаццатая рота павінна была ісьці ў авангардзе. Галоўны разьдзел, чацьверты, пад камандаю кадэта Біглера, паслаў разьведку наперад і на флангі. Сам кадэт Біглер з шасьцю салдатамі, у тым ліку і Швэйк, што разажвоціўся ісьці добраахвотнікам, ішлі наперадзе. Рэшта салдатаў цягнулася адзін за адным па дарожцы так, каб яны маглі бачыць адзін аднаго, зрабіць рукою знак і паказаць у лесе дарогу, па якой ішла галава калёны. Тыя, што праракавалі, што ім «дадуць дыхту» праз гадзіну, надта памыліліся, бо разьдзел ішоў ужо дзьве гадзіны а ворага ўсё яшчэ ня было відаць. Прайшла яшчэ гадзіна, трэцяя. Настрой палепшаў, у асаблівасьці таму, што і канонада як-бы сьціхла. Адзін-другі выказаў меркаваньне, што расійцаў адкінулі назад і цяпер яны ня спыняцца раней, як у Маскве. Пад вечар увесь батальён дайшоў да краю лесу, дзе яго чакаў авангард, што ня меў загаду ісьці далей. Новага загаду, што цяпер рабіць, ня было. Толькі, як зусім ужо зьмерклася, прыляцеў ордынарэц з загадам, каб начавалі тут-жа на месцы і чакалі да раніцы разьвіцьця ваенных опэрацый. Капітан адвёў свой разьдзел крыху глыбей у лес і загадаў яму застацца так, каб на першы сыгнал трывогі ўсе былі на месцы.

Лес атуліла імгла. Ноччу заімжыў нясуцішны дробны, халодны дождж. Да поўначы ніхто не заплюшчыў вачэй. Салдаты так змоклі, што з іх вада сьцякала цурком, і наважыліся разлажыць касьцёр. Дроў было колькі хочаш—недалёка ляжалі цэлыя сьпілаваныя бярвеньні, але адно зьявіўся над паколатым цесаком сухім паленьнем першы агеньчык, як падскочыў падпаручык Дуб і зашыпеў:

— Пагасеце! Зараз-жа пагасеце! Хочаце, каб нас абстралялі?

Салдаты неахвоча раскінулі касьцёр і мармыталі штосьці пра трэці рэзэрв. Падпаручык Дуб зазлаваў:

— Хто адважыцца пярэчыць? Ні гуку! Каму прыемна, каб праз ваш касьцёр загінуць? Эх, я не хацеў-бы, каб вы мяне як сьлед пазналі!

І ён злосна тупнуў нагою па кастры, што іскры паляцелі ва ўсе бакі.

— Паслухайце, падпаручык, кіньце гэта,—пачуўся з пацёмак голас паручыка Лукаша, у якога ад холаду зуб на зуб не пападў.—Пакіньце, калі ласка. Лепш самі патрэйцеся. Разлажэце, хлопцы, касьцёр і нам гэтаксама. Чорт іх ведае, ці ў гэтым лесе расійцы, ці дзе ў іншым. А за лесам агню ўсяроўна ня відаць.

Салдаты хутка пабеглі па дровы і прыцягнулі па вялікаму бярэмю кожны, і раптам лес асьвяціўся радам яркіх кастроў. Каля аднаго з іх прыселі паны афіцэры і слухалі, як лаецца капітан Загнэр:

— Чорт ведае, ці там мы, дзе нам трэба быць! Каб ім ліха, гэтым штабавым!! Заўсёды што-небудзь параблытаюць! Прымаюць ад нас зьвесткі, даюць нейкія загады і нікому ў галаву ня прыйдзе падумаць, ці ільга іх выканаць.

Загнэр выцягнуў з кішэні карту, палажыў яе сабе на калені і даў паручыку Лукашу загад па брыгадзе.

— Ну, на, прачытай! «Паводле зьвестак партыі разьведчыкаў, на вышыні 431 паказаўся варожы разьдзел сілаю каля шасьцісот чалавек, што схаваўся ў лесе. Загад: маршаваму батальёну 91-га пяхотнага палка рушыць у кірунку вышыні 431 з мэтаю забраць ворага, што схаваўся ў лесе. Зьвесткі даваць у штаб брыгады». Цяпер зірні на карту: Каваланак лесу, нейкая невядомая рэчачка, ніякіх сьлядоў шашы або дарогі і навокала адно балота. Бясспрэчна расійцы адступаюць, але навошта і чаго ім лезьці сюды—гэтага я ніяк не зразумею.

Лукаш нічога не адказаў і ўтаропіўся ў карту. Замест яго загаварыў падпаручык Дуб:

— Мы ня можам вымагаць, каб расійцы рабілі так, як зрабілі-б ў аднолькавых умовах мы. Расійцы маюць практыку вайны з Японіяй і яны маюць лёгкія абозы, вельмі рухомыя і здольныя пераходзіць з артылерыяй па самай нязручнай мясцовасьці.

Загнэра злавала опозыцыя, якую ў кожным выпадку выяўляў супроць яго падпаручык Дуб; але ён даў яму дагаварыць і пасьля зноў зьвярнуўся да паручыка Лукаша:

— Добранькая ноч, га? У мяне ужо ліхаманка. Няхай іх

чорт, чаму мы павінны абавязкова ўнікаць, спыняцца, начаваць у вёсках! Можа, каб салдаты не расплядзілі вошай сярод насельніцтва... Не, калі такое жыцьцё працягнецца яшчэ дзён некалькі, дык я ня вытрымаю; на гэта трэба жалезнае здароўе... Як ты думаеш, даражэнькі, ці ня пусьціць цябе за «бядой» батальённага командзіра ў галаве колёны, а я свой раматус у нагах буду лячыць масажом дзе-небудзь у самым хвасьце яе?

Капітану Загнэру становішча штосьці пачынала не падабацца. Дзе там! Фронт ідзе наперад, расійцы адступаюць і чорт ведае, куды яшчэ трапіш са сваім батальёнам. Толькі і чакай, што страціш галаву. У лазарэце было-б цяпер куды лепш... Эх, каб там паляжаць крыху... Хоць аднак з дня на дзень можна чакаць, што вайна скончыцца; расійцы дайшлі ўжо да свае былое дзяржаўнае граніцы. Які-ж сэнс гнаць іх далей? Навошта? Капітан зараз-жа і выклаў свае думкі.

— Не, таму і трэба іх гнаць далей,—запярэчыў падпаручык Дуб.— Расійцы толькі спадзяюцца на бязьмежныя прасторы і стэпы свае краіны, што павінны ўратаваць іх ад разгрому. Адно пан расыйцы забыліся, што ў нас 1915, а не 1812 год. Расійскія генэралы захацелі забыцца, што цяпер вайна адбываецца ў зусім іншых умовах тэхнічных, як тады, калі Напалеон ішоў на Маскву. У той час армія павінна была харчавацца з запасаў тае краіны, праз якую яна праходзіла, а цяпер амаль здразу першым ланцугом стральцоў пракладаецца чыгунка, па якой падвозяць з тылу ўсё патрэбнае. А да таго-ж французы ня былі прызвычаены да расійскіх маразоў, якімі нас цяпер ня зьдзівіш, бо мы, дзякуй богу, цэлую зіму прабылі на Карпатах.

— Так, так цяпер сьледам за арміяй вязуць нават ілюстраваныя паштоўкі, пасту на зубы і невядома яшчэ што. Калі справа зацягнецца яшчэ на пару год, дык на фронце можна будзе купіць нават гумовую пойку малому дзіцяці,—пазяхаючы, адказаў паручык Лукаш, якому абрыдалі ўсякія тэорэтычныя развагі.

Як ён убачыў, што яны не падабаюцца таксама і іншым, ён гукнуў на Швэйка, што сядзеў каля другога кастра, дзе гутарка была пра тое, як лепш за ўсё зьнішчыць палявыя мышы і як сыпаць ім у норкі атручаныя зярняты.

— У нас ставяць на іх пасткі,—сказаў адзін салдат,— пасткі, што адразу іх зьбіваюць. Як мышэй бывае шмат, дык ледзь пасьпяваеш мяняць пасткі.

— Яшчэ лепш ісьці за плугам і забіваць іх палкаю,—дадаў другі.—Тады забіваеш іх разам з іх племем.

Швэйк хацеў таксама штосьці сказаць, але пачуў голас паручыка Лукаша, ускочыў і пабег да яго.

— Скажэце нам, Швэйк,—запытаўся падпаручык Дуб,—ці не вядзіцё вы там ізноў агітацыі? Пра што вы гэта там размаўлялі?

— Не, пане падпаручык,—выкруціўся Швэйк.—Мы гаварылі пра вайну, і таварышы казалі, што расійцаў вельмі шмат і што лепш за ўсё забіваць іх палкаю. Гэта, кажуць, вельмі добры спосаб і ад палявых мышэй, пане падпаручык.

Падпаручык закусіў губу, бо зразумеў, што Швэйк спрытна адказаў яму. Паручык Лукаш запытаўся:

— Швэйк, а табе ня страшна тут гэтае начы? Бачыш, цяпер справа робіцца сур'ёзная. Такі начлег пад чыстым небам у нас цяпер можа быць сем раз на тыдзень. Як ты сябе пачуваеш? Я хачу сказаць—фізычна?

— Так яно, пане паручык,—адказаў Швэйк,—я пачуваю сябе фізычна так, нібыта сьпераду я ўжо абсох, а па плячох у мяне яшчэ цячэ вада. Бо, пане паручык, дазвольце сказаць, што калі трэба было знайсьці добрае бясьпечнае прыстанішча на нач з усімі выгодамі на чужой старане, то гэта і ў мірны час было ня так лёгка. Ці былі вы калі-небудзь у Німбурку, пане паручык? Не? Ну, значыцца вы ня можаце ведаць гэтага, там ёсьць готэль, ён называецца «Прага»; гэта вельмі солідны і чысты готэль. І от аднойчы адзін тынкаўшчык, нейкі Бэнэш з Любоча, захацеў падараваць сваёй жонцы на імяніны ангорскую казу, сапраўдную ангорскую казу. Я вам, пане паручык, ужо казаў, што я гандляваў сабакамі, але калі хто хацеў дастаць якую-небудзь іншую завадзкую жывёлу, дык я яму ніколі не адмаўляў. А якраз у газэтах была зьявілася абвестка, што ў Німбурку пад № 286 танна прадаецца ангорская каза. Паехаў я, значыцца, па гэту казу ў Німбурк, але як я туды прыехаў, хлеў быў пусты, казу прадалі. Тады мне сказалі, што ў Горжатве

таксама хтосьці хоча прадаць казу і што паглядзець яе можна раніцою. Справа была ўжо надвечар, а ў Німбурку быў кірмаш. Ні на адным заезным двары я ня мог знайсьці месца, каб пераначаваць, таму мне давялося ісьці ў готэль «Прага». Порт'е, як я даў яму дваццаць тэлераў, абяцаў мне пакой, але пасьля пакой ўсё-ж ня звольнілі і ён хацеў вярнуць мне грошы. У гэты момант праходзіў паўз нас гаспадар готэлю і спытаўся, у чым справа. Я яму кажу, што мне няма дзе пераначаваць, і тады ён кажа да порт'е: «Скажэце касірцы з кавярні, каб яна спала сёньня разам з пакаёўкаю, а гэтага пана пусьціла наверх у свой пакой. А ў мяне, пане паручнік, душа балела з таго, што я ня купіў казы, і з такім сардэчным горам я ня мог ісьці спаць. Таму я пайшоў уніз у кавярню, каб крышку забавіцца, і выйграў у шэсьцьдзесят шэсьць дзьве кроны семдзесят два гелеры. Ну, а пасьля порт'е павёў мяне наверх у касірчын пакой. У яе было ўсё вельмі міла, усюды аксаміт і карункі. І нават у яе быў карункавы пэнюар, і ён лежаў ужо прырыхтаваны на ложку. Ня ведаю, пане паручнік, што гэта мне раптам уздумалася, але таму, што я люблю прымяраць як мне што да твару, то я хутка скінуў кашулю і споднікі ды адзеў пэнюар. Ён прышоўся якраз на мяне, толькі ў грудзях крышку быў шырокі, але ён быў такі мяккі і так добра ад яго пахла, што я ў ім лёг спаць і нават забыўся замкнуць дзьверы. Сплю я гэта і раптам прачынаюся, бо пачуў нібыта скрыпяць ўсходы—пакой-жа быў на падстрэшшы. І от адчыняюцца дзьверы і да мяне ўваходзіць нейкі пан; ён напэўна быў п'яны, бо паваліў крэсла. Садзіцца да мяне на ложак, скідае боты, прысоўвае да ложка крэсла і акуратна складае на ім сваё адзеньне. Бо, ці ведаеце, іншы чалавек, нават калі ён і не цьвярозы, заўсёды трымаецца разумна. Я, напрыклад, ведаў аднаго шаўца на Здэражэ, Бурэша, што ўсю ноч гуляў і добра такі стаміўся і лёг спаць пад помнікам Палацкаму, разьвесіў на ім усё адзеньне, падлажыў пад галаву боты і нават выняў фальшоўную скіўіцу і палажыў яе на плечы аднэй з фігур. У такім выглядзе яго там знайшлі і адвезьлі ў поліцэйскім фургоне ў вучастак. А там нейкі доктар сказаў, што ён вар'ят і яго адаслалі ў вар'яцкі дом, дзе прафэсары дасьледвалі стан яго разумовых здольнасьцяй. І от неяк аднойчы

доцэнт павёз яго з сабою на лекцыю і дэманстраваў на ім пігмаліёнізм, бо ён нібыта больш любіць статуі, як жывыя жанчыны, як пан палкоўнік Рэдль з Малой Стараны, што прадаў Аўстрыю варожай Расіі, а пасьля мусіцў у Вене застрэліцца, каб зыратаваць свой афіцэрскі гонар. Мне адзін дэтэктыў пасьля расказваў, пане паручык, што ў пана палкоўніка Рэдля былі тры шафы, і там у яго былі гумовыя лялькі адна каля другое, як у магазыне «Парыж». Але кожная была зусім як дарослая жанчына, і былі яны ў яго ўсяляката гатунку. І яшчэ гэты чалавек казаў мне, што неяк пан палкоўнік Рэдль, вярнуўшыся з прыласьця, падараваў такую ляльку свайму дзяншчыку, бо ў яе не разьбіраўся зад і яна такім чынам выйшла з моды, адным словам застарэла... Ну, а той доцэнт вытлумачыў студэнтам усё такое пра шаўца Бураша, і от Бураш пачаў раўці: «Нягоднік, ня важся мяне абражаць, я жанаты чалавек і ніколі не прыставаў з нахабнымі рэчамі да статуй. У мяне ёсьць жонка, а ты, ідыёт, ня сьмей казаць пра мяне такую мярзоту, а ня то я дам табе па мордзе. І таму што доцэнт ня спыняўся, Бураш заехаў яму добрую плюху, а потым трапіў на два гады ў вар'яцкі дом і, як яго выпусьцілі, наняў сабе адвоката і падаў на доцэнта ў суд за абразу ягонага гонару. Як ён, бывала, падап'е, то стукае кулаком па стале і крычыць: «Я ад свайго не адступлюся, панове, каб мне, нават давялося перанесьці справу ў Венскі касацыйны суд. Калі чалавек немаральны, дык нельга дапускаць яго чытаць лекцыі, бо ён разбэшчвае маладых людзей і абражае гонар бацькоў сям'і. Што-ж з іх пасьля выйдзе, з гэтых ідыётаў?». Дык от, дазвольце сказаць, пане паручык, той пан, што прышоў да мяне, зусім разьдзеўся і лёг поруч са мною, але гэта была не памылка, бо прышоў ён туды з пэўнаю мэтаю... Я адвярнуўся да сьцяны, а ён пачаў мяне песьціць і гладзіць і замуркаў, як кот: «Мая котачка ўжо сьпіць? Яна-ж сказала, што будзе чакаць мяне». Я нават ня дыхаў, каб ён не заўважыў памылкі, а ён пачаў цалаваць пэнюар, абняў мяне і пачаў цалаваць у плечы, а пасьля ўсё ніжэй і ніжэй, і, адкінуўшы пэнюар, дайшоў да таго месца, па якім лупцавала мяне маці, як я быў маленькі. Пасьля ізноў перайшоў вышэй і пачаў шаптаць: «Ах, котачка, ну як можна так моцна спаць! А я прынёс ёй гасьцінца

на каптан, а калі яна будзе зусім добраю, я дадам яшчэ гумкі на падвязкі. Ну, дзіцятка, ня трэба мяне так доўга прымушаць чакаць, бо я-ж ведаю, што мая мушка ня спіць». І ён ізноў пачаў мяне цалаваць, але толькі цяпер ён ня быў такі далікатны, што яму было даволі задняе часткі пэнюару, а пачаў прыціскацца ротам да маіх грудзей і хацеў перавярнуць мяне на плечы. Я перавярнуўся, а ён шчасьліва прыціснуў мяне да сябе і шэпча: «Ну, сьпі, сьпі, котачка, а я прыкіну яшчэ панчошкі шаўковыя, тонкія, як павуціна». І раптам я на яго як закрычу: «Ці ня пойдзеце вы к чорту? Ці ня думаеце вы, што вы нямецкі прынц і што мы ў Бэрліне?» Дык, пан паручнік, дазвольце сказаць, гэты пан так перапужаўся, што ледзь не памёр. Нават ня пісьнуў, а схапіў з крэсла сваё адзеньне і кулём скаціўся з усходаў. Я замкнуў за ім дзьверы, ізноў лёг і пачаў чакаць, што будзе далей, а пасьля зьявіўся порт'е і пачаў тлумачыць, што ў маім пакоі адзін пан, што начаваў у ім дзень перад гэтым, забыўся свае боты, бо з раніцы пайшоў у паўботках і каб я зрабіў ласку і аддаў іх. Але я адказаў, што ён ня мае права будзіць мяне, а то я адмаўлюся плаціць за тое, што перанаӵаваў. Тады порт'е за дзьвярыма прызнаўся, што той пан даў яму пяць крон, каб ён прынёс яму боты, і маліў мяне пашкадаваць яго, порт'е, бо ён мае вялікую сям'ю, якую трэба карміць. Я, нарэшце, даў яму боты. Выявілася, што той пан быў купец з Кралёва Градца, а ягоная жонка была з Неханіцэ, і быў ён жанаты ўсяго два месяцы ды меў цешчу, што тады была ў Расіі. Яна іграла там на арфе і не вярнулася на бацькаўшчыну нават у часе вайны таму, што яе, магчыма, пасадзілі ў Расіі за шпігоўства... І от гэтак, пане паручнік, чалавек заўсёды можа трапіць у небясьпеку, і каб яго не абараняў ягоны анёл абаронца, то з ім маглі-б здарыцца ўсялякія няпрыемнасьці, асабліва як едзеш у чужы край. Тады нікому ня трэба верыць. Я, напрыклад, адстаўны салдат, а рызыкаваў страціць у Німбурку сваю цноту. А то от яшчэ чуў я...

Але тут Швэйк змоўк, бо ўсе афіцэры спалі, седзячы тут-жа ля кастра, нібы іх заразіў прыклад салдат, што, прысунуўшыся адзін да аднаго, спакойна храплі каля кастроў, якія бадай зусім патухалі. Дождж спыніўся і з ўсходу з-за дрэў нясьмела паказа-

лися першыя праблескі дню; пачало ўжо крыху сьвітаць і лісты на дрэве раптам ажылі ў таемным шолаху, якім прырода вітала раніцу. Швэйка таксама змарыў сон; ён скінуў з сябе куртку, кашулю, штаны, нацельную вопратку і падтрымаў усё гэта над гарачымі вугальлямі, каб яно хутчэй высахла. Яго прыклад пераняў адзін салдат, што толькі што зьмяніўся з каравулу і таксама пачаў сушыць свае рэчы. Яны стаялі адзін перад адным па абапал кастра і разьдзьмухвалі агонь пад кашулямі, што ўздымаліся, як напоўнены газам балён. Салдат здаволена прамовіў:

— Эх, добры гэта спосаб пазбыцца вошай, братка ты мой! Яны самі ад агню награюцца і адваляцца, а гніды зварацца і лопнуць. І ведаеш, братка ты мой, калі мы сёньня рушым далей, дык нашы хлопцы будуць імі, як макам абсыпаны. Вошам адна прыемнасьць, калі чалавек змокне, а пасьля добра пройдзецца і ўспацее ды сонца будзе будзе яго прыпякаць так, што ўсе гэтыя лахманы на ім прыпарацца, от тады вошы на салдатах заводзяцца, як кураняты пад квактухаю. І ўсё гэта, братка ты мой, з гразі. Дый уся гэта вайна—адна толькі гразь!—Ён шукаў у сваёй куртцы і выкідаў адтуль вошы каравым пазногцем і сумна казаў далей:—каб я быў дома, я цяпер пакляпаў-бы касу ды пайшоў-бы на сенажаць касіць. Траву, братка ты мой, лепш за ўсё касіць раніцою, калі ўначы дождж быў ці выпала густая раса, бо тады трава мякчэйшая. А такою раніцою на лузе так хораша, што і сказаць нельга; з вечару нальлеш сабе крыху гарэлкі або рому ў пляшку, раніцою пасілкуешся, дык каса так і сьпявае ў руках... А от цяпер мы тут з табою нішчым вошы і самых сабе. Ну, скажы, мне братка ты мой, навошта мы ваюем?

Швэйк змоўчыў. Салдат палез рукою пад пахі, пацёр сабе грудзі і з увагаю зірнуў на свае ногі.

— Тут яны мяне найбольш кусаюць. Во, бачыш, як у мяне ад іх праклятых усё чырвона,—сказаў ён. Потым ён адзеўся, лёг, палажыўшы галаву на руцэ, выцягнуў ногі пад агонь і прамармытаў:—Швэйк, браток ты мой, на што гэта, на што? Авечкі мы з табой, браток, жывёла шэрая, быдла...

Раніцою, як салдаты мыліся ў лужынах паміж гнілых карчоў і зьбіраліся піць каву, на запененым кані прыляцеў ордына-

рац; ён перадаў капітану нейкія паперы, павярнуў каня і шпарка паехаў назад. Загнэр зірнуў на загад, абярнуўся да афіцэраў, і праз хвіліну ў лягеры разьлягаліся крыкі:—Трывога! Трывога!

— Каб вас чарты, халеры!—крычалі ўзводныя і капралы.— Ці надзенеце вы амуніцыю, ці не? Рухайцеся жвавей, такую вашу, расійцы падыходзяць ужо! Хутчэй, кажу, хлопцы! А то лезуць у амуніцыю, як наравісты конь у хамут. Ну, жвавей!

Батальён становіўся ў рады, а праклясьцьцё і лаянка віселі ў паветры.

— Так і звар'яцець можна, няўжо-ж нельга нават кавы згатаваць? Ну, давай сюды бляшанку на вугольлі, жару яшчэ стане!—чуліся галасы.

А нейкі жартаўнік ва ўсё горла крыкнуў:

— Ворат ніколі ня бывае так блізка, каб я ня ўправіўся прырыхтаваць сабе гуляш з папрыкаю.

Ізноў паслалі наперад авангард, што выдзеліў кадэта Біглера ў галаўны дазор і наладзіў сувязь на флангах. Пасьля рушылі зноў праз лес, таею самаю дарогаю, што і прышлі, але крыху правей.

На ўскраі лесу спаткалі аўтомобіль, у якім сядзеў афіцэр генэральнага штабу; ён загадаў спыніць батальён, паклікаў да сябе афіцэраў і, гаворачы з імі, так страшна махаў рукамі над разложанаю картаю мясцовасьці, што салдаты аднадушна вырашылі:

— Значыць, мы ізноў заблудзілі! Глядзеце, браткі, як ён на іх сварыцца, бо яны нарабілі шмат дурніцаў.

— Ну, не, браце, тут размова пра іншае. Хлопцы, ці чуў з вас хто сёньня перастрэлку? Не, бо з раніцы ня было ніводнага стрэлу. Магчыма, ужо замірыліся, ён прыехаў паведаміць нам, куды нам ісьці, каб сесьці на цягнік і ехаць дахаты?— заўважыў нейкі дабрадушны голас з задніх радоў.—От нядаўна адзін ефрэйтар з шостае роты, якога каханка служыць за пакаёўку ў аднаго дэпутата ў Празе, казаў мне, што яна яму пісала, што яе пан казаў, што хутка канец вайне, бо ён чуў гэта ад аднаго швэйцара ў міністэрстве ў Вене і гэта вядома...

— Кірунак—на мяне! Крокам—марш!—спыніла яго разважаньні звонкая команда капітана Запнэра.

Авангард і пярэдні дазор тым часам ішлі наперад, а колёнка бяз прыкрыцьця амаль яшчэ дзьве гадзіны ішла лесам. Пасьля лес парадзеў, зьявіліся пералескі і па шырокай дарозе батальён перайшоў у хваёвы бор; кадэт Біглер ізноў падаўся ў разьведку наперад.

Зрабілі кароткі прыпынак і хуткім маршам рушылі наперад, нібыта трэба было абагнаць расійцаў. Дайшоўшы да нейкае прагаліны, капітан Запнэр, што вёў свайго каня на повадзе, сваёю ўласнаю асобаю натрапіў на сьвежы доказ таго, што тут нядаўна праходзіў чалавек; а дасьледаваўшы кусты выявілася, што гэтакіх доказаў было шмат на гэтай прагаліне і што тут, напэўна, адпачывала нядаўна нейкая вайсковая часьць.

Салдат ахапіла нейкае радаснае ўзрушэньне, а на афіцэрскіх аблічах зьявілася няпэўнасьць і запытаньне: тут былі расійцы, ці нашы? Паводле паху гэтага нельга высьветліць, а надворных адзнакаў няма ніякіх; у сьлядох, на якія напаў капітан, траплялiся вішнёвыя костачкі, крыху мякіны, скурка ад кілбасы і некалькі гарошын, але усё гэта лёгка маглі зьесьці як расійцы, так і аўстрыйцы.

Афіцэры моўчкіназіралі на гэтыя рэшткі ежы, і паручык Лукаш першы выказаў меркаваньне:

— Ці ня наш гэта авангард? Хоць пасьля яго не магло застацца так шмат...

— Не, наш авангард ня мог тут спыняцца,—запярэчыў падпаручык Дуб,—бо мы яго дагналі-б. Напэўна, тут былі расійцы і ад страху захварэлі на мядзьведжую хваробу, а мы,—ён дакорліва зірнуў у бок капітана Запнэра,—ішлі наперад бяз ніякага прыкрыцьця.

Раптам падпаручык Дуб стукнуў сябе па лобе.

— Ды мы-ж гэта можам даведацца. Хлопцы, збегайце ў кусты ды прынясеце ўсё, чым падціраліся!—загадаў ён салдатам, што стаялі бліжэй да яго.

Салдаты пабеглі ў кусты і вельмі хутка вярнуліся з надта дзіўнымі рэчамі, што яны трымалі на шчэпачках: пучкамі травы,

абламанымі галінкамі з лістамі, белаю лайкаваю жаночаю рукавічкаю, малюнкам нейкага сьвятога, паштоўкаю палявой пошты; адзін прынёс нават кавалак газэты з нейкаю фотографіяй. Падпаручык загадаў тым, хто прынёс траву і лісьця, кінуць гэтыя няварты я і непатрэбныя на досьледы рэчы і ўзяў у аднаго салдата паштоўку палявое пошты. Яна была напісана па-мадзьярску, і таму ён ня мог зразумець, пра што ў ёй гаворыцца; але ўсё-ж ён узрадаваўся ёй і ўрачыста заявіў капітану Загнэру:

— Я чамусьці раптам прыгадаў, што ўзяўшы адзін лягер, вершае, што было загадана, гэта абшукаць патрэбныя каморкі. Бо такім чынам лягчэй за ўсё выявіць, якая варожая часьць там стаяла. Такім чынам, перад намі,—ён перавярнуў паперку,— перад намі... не, не магу прачытаць: вельмі-ж яна захуцана. Але гэта ня так важна. Як-бы там ні было, тут былі не расійцы. Ну, давайце мне кавалак газэты. Як яна называецца? «Копжывы»? От бачыце, газэта ды яшчэ чэская!

Салдат паднёс яму на палачцы паперку пад самыя вочы і падпаручык Дуб уголас прачытаў апошнія словы апошніх радкоў нейкага патрыётычнага вершу, дзе гаварылася пра бліскучыя перамогі над сэрбамі і расійцамі.

Газэта, у якой былі ўрыўкі вершу, так захапіла падпаручыка Дуба, што ён, забыўшыся, узяў яе ў рукі, каб прачытаць усю да канца. Але папера прыліпла з абодвых бакоў да ягонага пальца і ягоны нос папярэдзіў, што ён вымазаўся. Дуб пусьціў паперку і, выціраючы пальцы насаткаю, з чароўнаю ўсьмешкаю зьвярнуўся да паручыка Лукаша:

— Латынская прыказка кажа: „Inter arma silent musae"— г. зн. калі гаворыць зброя, маўчаць музы. На шчасьце ў нас гэта ня так. Тое, што я вам прачытаў, я ўважаю за прыгожы, лёальны патрыётычны верш. Шкода, што ён не дайшоў да нас цалкам. Я прачытаў-бы яго салдатам і ўпэўнен, што яно іх падбадзёрыла-б. Адным словам, панове, я сьцьвярджаю, што тут перад намі праходзілі нашы.

Капітан Загнэр злосна адвярнуўся, а паручык Лукаш адкінуў ботам кавалак газэты і запрапанаваў:

— Можа вы загадаеце яго вымыць? Гэтыя салдаты такія сьвіньні! Тут патрыётычны верш, што мог-бы ўзьняць дух цэлае арміі, у які паэта ўлажыў усю сваю душу, а такая зараза падцерлася ім, нібы на сьвеце няма іншае паперы.

Ягоная ўсьмешка была поўна сарказму і гіроніі.

Пасьля разьдзел рушыў далей. Прайшло з гадзіну часу і ніхто ня думаў пра тое, што даўно страчана сувязь з авангардам. Пад паўдня падыйшлі да нейкае прагалінкі ў лесе, адкуль пачуліся чалавечыя галасы. Капітан загадаў выслаць наперад разьведчыкаў. Яны вярнуліся з весткаю, што на прагаліне прыпыніўся невялічкі разьдзел аўстрыйскае артылерыі, каб даць змучаным коням крыху адпачыць.

Батальён наблізіўся да прагаліны і салдаты радаваліся, што змогуць адпачыць, як раптам на ўскраіне лесу зьявіўся конны афіцэр. Ён галёпам падскочыў да капітана Загнэра і крыкнуў:

— Якога палка? 91-га? Куды-ж вы яго вядзіцё? Паслухайце, гэта-ж ня той кірунак! Я-ж вам загадаў налева!

І паляцеў хутка назад. Капітан прыскабліў каня, дагнаў афіцэра, адрапартаваў яму як сьлед і прасіў даць дакладнейшы загад, бо пазнаў у гэтым афіцэру начальніка брыгады, але ніякага загаду ён не атрымаў. Стары толькі ўпарта сказаў: «Я-ж загадаў налева», а як капітан закіраваў каня і казырнуў: «Слухаю, пане палкоўнік!», стары пярдун закрычаў яму ўсьлед:

— Пане капітан, прашу заўважыць сабе раз на заўсёды: ня пан палкоўнік, а пан генэрал-маёр!

Капітан Загнэр падумаў, што от бываюць-жа на сьвеце такія дурні, і паехаў назад да свайго батальёну. Ён знарок, каб узлаваць брыгаднага, даў салдатам больш адпачыць. Нікому ня прышло на думку, што іх авангард ішоў у кірунку, вызначаным яшчэ раніцою, што трэба было вярнуць яго і што батальён застаўся без заслонаў і вангарду. Ён бясьпечна ішоў насустрач ворагу зусім так, як у малавідкім лягеры ён выходзіў на стрэльбішча, каб практыкавацца страляць у кардонныя фігуры, што рухаліся на другім канцы стрэльбішча на мішэнях з дапамогаю цэлае сыстэмы блёкаў і вяровак...

*

Кадэт Біглер, ня спускаючы вачэй з карты і параўноўваючы знакі на ёй з мясцовасьцю, асьцярожна пасоўваўся наперад, хоць яму было зусім незразумела, куды яму трэба ісьці і дзе спаткаць расійцаў. У кожным разе ён ведаў, што яму даручылі сур'ёзную задачу і стараўся выканаць яе так, каб атрымаць за гэта ўзнагароду. Ён пільна азіраўся ў бакі і бадзёра крочыў на чале свае маленькае арміі, падганяючы салдатаў і нецярпліва чакаючы, калі зьявіцца вораг, каб зараз-жа паслаць у свой батальён паведамленьне, што можна пачынаць бой.

Крыху ззаду за кадэтам Біглерам ішоў для сувязі Швэйк з другім салдатам, якому абрыдзела адзінота і які знарок пачакаў Швэйка і прывітаў яго гэткімі словамі:

— Удваіх яно лягчэй ісьці і бараніцца, калі хто на нас нападзе і захоча абакрасьці. Тут, браце, такі глухі лес, што толькі разбойнікам Бабінскім у ім жыць. Што, карабін у цябе зараджаны? На кадэта і на таварышаў, што наперадзе, разьлічваць няма чаго. Яны сабе ідуць наперад, а на нас назат і не азірнуцца. Ну, ды заблудзіцца тут, відаць, цяжка. Тут адна толькі сьцежачка:

— Не, карабіна я не зарадзіў,—спакойна адказаў Швэйк,—бо з зараджаным карабінам жарты малыя. Возьмеш гэта ты яго ў рукі, паграеш, а той—бух! Увесь набой табе ў жывот. Праўільна казаў падпаручык Фрэмлер, як я служыў у Будзёвіцах: «Магазыновы карабін Манліхера ўзору 1895 году найлепшы ў сьвеце, а як хто пасьля вучэньня забудзецца ў ім патрона, дык я яму ўсе зубы выб'ю!» Ну, а заблудзіць ты ўсюды можаш, нават, у Празе. От, напрыклад, знаў я аднаго чалавека прозьвішчам Галда; ён працаваў за ліцейшчыка на заводзе Рынтхофера ў Празе і жыў каля мытніцы. У Бубне была ў яго адна знаёмая, з якою ён хадзіў у «Куцілэк» на Бэльвэдэры танцаваць прыстойныя танцы—гэта таму, што ў «Куцілэку» на сьцяне была абвестка: «Просяць танцаваць толькі прыстойна!» А раз ён там крыху перапіўся, пасварыўся з сваёю паненкаю, пашоў адзін дахаты. Дайшоў ён да Нэнцэслававага пляцу і пытаецца ў паліцэйскага, як дайсьці да Сьміхава. Той

яму растлумачыў і сказаў: «Ідзеце ўсё проста па рэйках». Ну, Галда і пайшоў сабе проста па рэйках; ішоў, ішоў, пакуль ня выбіўся з сілы і ня прысеў на хвілінку адпачыць. Раптам яго хтосьці будзіць і цягне за каршэль; ён расплюшчыў вочы і бачыць перад сабою чыгуначнага вартаўніка, што крычыць яму: «Сыходзь адгэтуль! Ці, можа, хочаш пад цягнік трапіць?» І толькі тут Галда заўважыў, што заблудзіўся; была ўжо раніца, а ён сядзеў на чыгуначнай насыпе за станцыяй Вінаграды і твар у яго падрапаны, нібыта ён заявіўся пад адхон... Але, ведаеш, мне здаецца, што ніхто ня ідзе ні перад намі, ні за намі.

Гэта была праўда: кадэт Біглер паводле карты павярнуў па сьцежцы ўправа, а батальён, як мы ведаем, таксама зьмяніў свой ранейшы кірунак. У швэйкавага падарожніка сэрца ўвайшло ў пяты.

— От бачыш, боўдзіла! Ты тут байкі баеш, а мы тымчасам заблудзілі. Давай вернемся да артылерыстаў на прагалінку. Цяпер напэўна абедзеная гадзіна і яны нас чым-небудзь накормяць.

— Зразумела, мы адны ня можам ваяваць, а павінны з кім-небудзь злучыцца,—згадзіўся Швэйк, і яны павярнулі назад.

Командзірам паўбатарэі быў маладзенькі паручык, на шчасьце чэх. Як Швэйк адрапартаваў яму, што яны трымалі сувязь 6-га батальёну 91-га пяхотнага палка, але згубілі свой авангард і нават батальён, ён весела засьмяяўся:

— Пачакай, хлопцы, гэта вам дарма ня пройдзе,—сказаў ён.—Дзе-ж вы прападалі, абібокі, га? Ня ведаю, ці праходзіў тут ваш батальён; мы тут ад самае раніцы, а за гэты час тут прайшло хто іх ведае колькі вайсковых часьцей. Езус-Марыя! Ну і малайцы хлопцы! Пайшлі трымаць сувязь пры наступе на ворага, а самі ўзялі і заблудзілі! Вас-жа за гэта расстраляюць!

— Ды дазвольце сказаць, пане паручык,—узяў слова Швэйк,—што мы цалкам усьведамляем сур'ёзнасьць становішча. Бо салдату гэта ня жарты, калі ён адаб'ецца ў паходзе ад свае часьці. Салдат павінен заўжды думаць, як больш за ўсё зрабіць карысьці свайму палку і ўкрыць новаю славаю ягоны сьцяг. Калі я служыў яшчэ перад вайною, пане паручык, быў

у нас адзін капітан прозьвішчам Мурчэк; ён быў гарбаты, але служыў за шпёна ў Сэрбіі і за гэта яму далі чын капітана. Дык от гэты самы капітан Мурчэк кожан раз, як былі вялікія манэўры, загадваў салдатам, каб кожны браў у ранец па дзьвесьце пяцьдзесят баявых патронаў, а потым, як авангард адыходзіўся наперад, разьяжджаў конна паміж салдатамі сувязі, прыслухоўваўся да іхніх гутарак і ўсё запісваў сабе ў кніжачку. Потым, як канчаліся манэўры і ўсе спыняліся на адпачынак, ён клікаў да сябе салдатаў команды сувязі і казаў ім: «Вы ведаеце, што такое моральнасьць? Моральнасьць, салдаты, гэта дакладнае выконваньне ўсіх абавязкаў, што вам даручаюць паводле вашых здольнасьцяй вашы начальнікі. Таму неморальна, калі вы, сучыя дзеці, дастаўшы па дзьвесьце баявых патронаў, цягнецеся з апушчанымі галовамі, як запнаныя коні, і ў асобе вашых начальнікаў абражаеце, смаркачы паршывыя, вашага імпэратара. Заўтра зьявецеся з рапартам! Кругом— марш!» Дык дазвольце сказаць, пане паручык, што мы зусім не хацелі заблудзіць і паслабіць армію на два штыхі. Просім зрабіць ласку і прыняць нас на харчы і прывarак у сваю батарэю. А грашовае ўтрыманьне мы спагонім ўжо са свайго батальёну, як яго знойдзем, наш пан каптэнармус Ванэк усё як мае быць выплаціць.

— Хлопцы,—засьмяўся паручык у адказ на шчырую гутарку Швэйка,—не магу я ўзяць вас у сваю батарэю. Што-б я рабіў з вамі? Але, тымчасам, вы свой батальён знойдзеце напэўна яшчэ сёньня, бо ён ня можа быць далёка і хто-небудзь ды ведае, дзе ён. У кожным разе гэта ведаюць палявыя жандары. Яны ўжо напэўна скажуць вам ці завядуць туды.

— Не, пане паручык,—смутна вымавіў Швэйк,—дазвольце вас прасіць падумаць добра перш, чым адмовіць нам. Мы, можна сказаць, сваімо супраць самага ворага, і мы ўдвох гэта ўсяроўна, як капля ў моры, а калі батарэя ўзмоцніцца на два чалавекі, дык гэта, пане паручык, у бойцы шмат значыць. І мы будзем служыць вам з усіх сіл і пойдзем з вамі ў агонь і ваду; а паёк і ўтрыманьне з катла мы маглі-б атрымаць з сёнешняга дню.

— Не, не, хлопцы, гэта немагчыма,—вырашыў паручык.— Але пакарміць вас нашы кашавары крыху пакормяць, і хлеба

вы ў нашых артылерыстаў таксама лусту знойдзеце. Ідзеце! Шчасьлівае дарогі!

Швэйк са сваім спадарожнікам, што ўголас захапляўся швэйкавым красамоўствам, пайшлі з паручыкавым загадам у паходную кухню. Кашавар, праўда, пачаў штосьці бубніць пад нос пра галадранцаў, што заўсёды цягаюцца галодныя, але палез з чарпаком ў кацёл і наклаў ім у міскі да самага верху густой рысавай кашы з мясам. Швэйк і яго таварыш скінулі з плеч ранцы, селі на іх, паставілі міскі паміж каленаў, дасталі лыжкі і пачалі ўмінаць.

Да іх падышоў фэервэркер і загаварыў з імі па-нямецку.— Швэйк, у якога рот быў на той час повен кашы, не адказаў, і фэервэркер паўтарыў сваё пытаньне па-польску. Таварыш Швэйка прамармытаў: «Не разумею», пасьля чаго госьць пачаў тлумачыць ім нешта ламанаю вэнгерскаю моваю і так моцна ляпнуў Швэйка па руцэ, якою той трымаў лыжку, што рысавая каша разьляцелася ў бакі. Гэта Швэйка раззлавала; ён павярнуў галаву да фэервэркера і сказаў:

— Гэй, ты, Каннітфэрштан, што гэта ты там вярзеш? Няўжо цябе хто-небудзь зразумее, дурная галава! Кінь блазнаваць, а то як заеду поўху...

Фэервэркер зарагатаў:

— Дык, ты, значыцца, чэх? Чаго-ж ты адразу не сказаў? Ну, цяпер мы зразумеем адзін аднаго,—сказаў ён і сеў поруч з імі на траву.

— Мне здаецца,—сказаў ён,—што тут прахадзіў 91-шы полк ці нейкая ягоная часьць, але куды яны накіраваліся,—я ня ведаю. Цяпер, як увесь фронт заварушыўся, вам, хлопцы, трэба добра пільнавацца, каб не адбіцца ад сваіх. Цяпер вас ня прымуць ні ў якую іншую часьць, а калі і прымуць, дык дадуць вам нумар і вам давядзецца прынесьці ў сваю часьць пасьведчаньне, дзе вы былі і ў якіх бойках бралі ўдзел. А то гэтакіх шкурнікаў цяпер шмат разьвялося, што нібыта адбіліся ў паходзе ад сваіх, а самі проста перайшлі на ўтрыманьне ў другую часьць. А потым, як гэтай часьці даводзілася ісьці ў наступ і біцца, яны, ня кажучы кепскага слова, падаваліся ў трэцюю часьць. Здараліся такія спрытныя мальцы, што за тры месяцы

былі на пярэднix позыцыях і ні разу з карабіну ня выстралілі. Ну, от за іх цяпер і ўзяліся... Вы, хлопцы, ня з Прагі?

Швэйк адразу адрэкомэндаваўся як зямляк і запытаўся:

— А вы ці ня прыказчык пана Пэксідэра на Вінаградах? Хоць не, той быў як-бы крыху сьвятлейшы, як вы. А ці не рабілі вы ў каваля Соўчка на Стэфановай вуліцы? Таксама не? Дзіўна! Але я ўпэўнен, што я вас дзесьці ўжо бачыў!

Фэервэркер прынёс ім булку хлеба і два пачкі тытуну; Швэйк чула падзякаваў добрага земляка і яны хацелі ўжо ўскінуць на сябе ранцы, як да іх падышоў паручык і шчыра зьдзіўлены сказаў:

— Як, хлопцы, вы ўсё яшчэ тут? Ну, жвава ідзеце! Мне здаецца, што ніхто з вас пораху ня вынайшаў, шкурнікі вы!

Швэйк выцягнуўся, як струна, узяў карабін да нагі і нязвычайна сур'ёзна, зрабіўшы «паварот галавы напра-ва!», сказаў:

— Так што, пане паручык, маю гонар сказаць, што з батарэі я адбыў. І толькі і дурному здараецца рабіць вялікія вынаходкі. Бо людзі зусім на такія дурныя, як здаюцца. Што вы, напрыклад, пане паручык, думаеце, калі глядзіце на сваю гармату? Нічога! А я думаю! От ці бачыце, пане паручык, у гармаце ёсьць усялякія там нарэзы, і гэтыя нарэзы прымушаюць шрапнэль ці гранату перш ляцець уверх, а потым зрабіць дугу і зваліцца ўніз. Адным словам, знарад ляціць от так.—Швэйк узяў карабін у левую руку і зрабіў праваю параболю.—От як ён ляціць. І вам тады не зьяўлялася ніякае думкі? Дык от, каб вы артылерысты палажылі гармату на бок, на адно з кол, дык ваш знарад паляцеў-бы дугою зьлева направа ці справа налева, залежна ад таго, на каторым коле ляжала-б гармата, і вы, маглі-б такім чынам страляць з-за вугла. Вы маглі-б абстраляць расійцаў з флангу, і ніколі-б ім не здагадацца, хто і адкуль лупіць па іх.

Паручык аж зайшоўся ад сьмеху; фэервэркер і іншыя артылерысты, не зразумеўшы вялізарнага значэньня швэйкавай вынаходкі, тупа пазіралі на паручыка і на Швэйка. Праз хвіліну, супакоіўшыся, паручык падаў Швэйку некалькі папярос.

— От вам! Ну, а цяпер—гайда, хлопцы! А пра сваю вынаходку паведамце ў генэральны штаб.

Швэйк у другі раз паведаміў, што адбыў з батарэі і, атуліўшы яе командзіра пяшчотным поглядам сваіх слаўных вачэй, сантымэнтальна дадаў:

— А вашае ласкі, пане паручык, я век не забудуся!

Яны ўзялі на плечы стрэльбы і зноў вышлі на дарогу, на якой ужо крочылі гэтага дня туды і назад. Яны ішлі доўга, гэтыя дзьве заблудлівыя авечкі аўстрыйскае арміі, увесь час радзячыся, ці павярнуць управа ці ў лева. Насустрач ім нікога не пападалася ні конна ні пехатою. І што больш яны ішлі, то больш дзіўным здавалася, што мясцовасьць такая бязьлюдная. Швэйкаў спадарожнік пачаў ныць, што яны, магчыма, ужо трапілі за лінію фронту да расійцаў. Швэйк узлаваўся:

— А калі і так? Мы атакуем іх ззаду,—і толькі таго! Ну, ну, кінь хлюпаць, што мы крыху зьбіліся з дарогі! Мы малыя дзеці, ці што, што можам згубіцца. Ведаеш, як я ляжаў у шпіталі ў Празе, дык адзін хворы, што меў раматус, расказваў нам такі выпадак з яго палком у чатырнаццатым годзе, як у іх барабаншчык і гарністы таксама заблудзілі, як мы цяпер. Яны пашлі недзе ў Галічыне ў адну вёску да дзяўчат, каб апошні раз паспаць з імі перад тым, як іх заб'юць; ну і заспаліся з тымі дзяўчатамі, а як раніцою прачнуліся, дык полк іх ужо рушыў наперад—няма яго! Яны так і акамянелі. Езус-Марыя! Што цяпер рабіць? Пачалі яны гэта шукаць свой полк, ну, якраз, як мы цяпер шукаем свой батальён—туды, сюды... Гарністы нёс трубу, а барабаншчык—бубен. Гарністы быў з адукаваных, інжынэр, ці што, і нарысаваў барабаншчыку, як яны так ішлі алоўкам на другім баку бубна карту мясцовасьці. Ён адзначыў на ёй кожную вёсачку, кожную лужыну, кожны крыж, кожную дзікую грушу, кожню крыніцу, кожную фігуру ў полі, кожнага сьв. Яна Непамуцкага, кожную кучку гною, кожную царкву, кожную крамку, кожную карчму, усе дарогі, пералесак, равы,—адным словам, усё што яны бачылі, праходзячы. І так яны валацужылі ад жніўня да лістапада і выхадзілі ўдаўжкі і ўшыркі ўсю Галічыну. Адкарміліся яны, як сьвіньні, а на барабаннай скуры было ўжо ўсё, што належыць, каб было на географічнай карце. І от аднойчы пад вечар, недзе недалёка ад венгерскае мяжы, яны натрапілі на свой полк. Але толькі там ніхто ўжо іх ня

ведаў, апроч іхняга ротнага, бо за гэты час полк быў разоў колькі амаль зьнішчаны ды ізноў сформаваны з маршавых батальёнаў. А ротны ніяк не хацеў паверыць, што гэта яны, пакуль не памацаў сваімі рукамі; бо Чырвоны крыж ужо даўно паведаміў, што яны загінулі бяз весткі або трапілі ў палон, каб не плаціць пэнсіі іхнім маткам. Потым ротны паслаў бубен у Вену ў вайскова-топографічную акадэмію і там паводле гэтага бубну былі зроблены карты генэральнага штабу, дзе давялося шмат выпраўляць і дадаваць чаго нехапала на старых картах Галіччыны. Гарністаму далі пасьля вялікі залаты мэдаль, барабаншчыку—срэбны. Гарністага прызначылі за палкавога гарністага, а барабаншчыка пасадзілі ў астрог у Тэрэзіенштадзе, бо ён сказаў, што афіцэры, што складалі карты мясцовасьці, ідыёты і толькі абкрадаюць дзяржаву... І ведаеш, асябра, з таёю картаю, што зрабіў гарністы, наогул нельга заблудзіць!

І нібыта, каб сьцьвердзіць тыя словы, лес парадчэў і сярод верхавінаў дрэў зьявіліся кавалкі блакітнага неба. Швэйкаў спадарожнік прыскорыў крок, выперадзіў Швэйка і весела крыкнуў:

— Да душы, поле! А от і вёска! Там напэўна хто-небудзь будзе!

Так яно і здарылася—праз дрэвы на ўскраі лесу выступіў кадэт Біглер і запытаўся:

— Ну, што знайшлі лясьнікову хатку? Дасталі там штонебудзь мне? Гэта-ж вы ішлі са мною ў галаўным дазоры? І...

— Не, пане кадэт,—перапыніў яго Швэйк.—А вы тут самі? Мы ішлі з вамі не ў галаўным дазоры, а былі вызначаны ў сувязь. З вамі-ж ішлі іншыя. Дык, значыцца, вы іх паслалі ў лясьнікову хатку? Мы ня бачылі ні лясьніковай хаткі, ні сваіх таварышоў, бо мы заблудзілі. За намі ніхто ня ідзе, мы зусім адбіліся ад батальёну і ніхто пра нас нічога ня ведае. Цяпер батальён наш, можа, у чорта на рагах, пане кадэт, і нам давядзецца самім ваяваць... Ды вы ня вельмі пужайцеся, пане кадэт, перамелецца—мука будзе! Бо шмат хто ваюе на сваю рызыку і адказ.

Кадэт Біглер сумна зьвесіў галаву; залаты мэдаль высьлі-

нуў у яго з рук кудысьці ў імглістую далеч, і ён толькі цяжка ўздыхнуў:

— Ах, як мне хочацца есьці! І жывот у мяне забалеў. Я, ці ведаеце, напіўся вады, і цяпер мне трэба было-б зьесьці што-небудзь гарачае. Можа, тыя ад лясьніка хутка вернуцца.

— Ня турбуйцеся, яны ня прыйдуць, пане кадэт,—упэўнена адказаў Швэйк,—яны таксама заблудзілі. Да вечару цяпер ужо нядоўга, дык нам самым давядзецца чаго-небудзь пашукаць сабе. Нашых мы ўсяроўна сёньня ня знойдзем. Яшчэ шчасьце, пане кадэт, што вы—афіцэр і што ў вас ёсьць карта. Раніцою мы разьбярэмся, дзе можа быць наш батальён, і мы проста туды накіруемся. А цяпер я думаю, найлепш было-б пашукаць вунь у таей вёсцы вячэры і начлегу.

— Ідзеце, куды хочаце,—застагнаў кадэт Біглер, сударгава схапіўшыся за жывот.—Езус-Марыя, які пякельны боль! Магчыма, прышла апошняя гадзіна. Але я не магу ні ў чым парушыцца, Швэйк. У гэтай вёсцы можа здарыцца вораг!

— Ну, калі расійцаў там няма, то мы кінемся ў штыхі, а калі там расійцы, то мы адступім,—па-філёзофску заўважыў Швэйк.—Але вы-ж зусім хворы афіцэр, пане кадэт, а чэсны салдат не павінен кідаць сваё хворае начальства. Я, як старэйшы, бяру на сябе каманду. Кірунак вунь тая вёска. Крокам... арш!

Яны падхапілі з абодвых бакоў пад рукі кадэта, што віўся і курчыўся ад болю, і павялі па ямах да вёскі. Біглер амаль паміраў ад страху, што яны трапяць проста да расійцаў у лапы, але Швэйк быў непарушны.

— Ведаеце, пане кадэт,—зьвярнуўся ён да Біглера,—я вам от што скажу: свае долі на кані не аб'едзеш, і бяз боскай волі ніводзін волас не спадзе з вашае галавы. Гэтымі днямі адзін салдацік каля агню расказваў, як яны летась ішлі ў наступ на расійцаў і як з імі быў фэльдкурат. Селі яны адпачыць у лесе і фэльдкурат пачаў сілкавацца. У яго была вэнгерская кілбаса, яйцы, чырвонае віно... І раптам іх расійцы там абмацалі ды як пачалі лупіць шрапнэльлю, знарадамі... Усе разьбегліся, хто куды; толькі пан фэльдкурат застаўся сядзець на сьсечаным дрэве, разаслаў там сурвэтку і не шмагае. Ён нават крычаў на

салдатаў: «Куды пабеглі, мізэрныя баязьліўцы? Вы ўсюды, ў боскіх руках і бог нікога не папусьціць загінуць бяз віны. А тое, што бог творыць, заўсёды добра». А тут як на тое ра- зарваўся знарад, якраз апошні, і як расплыўся дым, то на камні на белай сурвэтцы засталіся толькі: бутэлька віна, шэсьць яец і вэнгерская кілбаса, парэзаная на окрылікі. Чыстая была ра- бота, пане кадэт, такая чыстая, што ад пана фэльдкурата нават і гузіка не знайшлі, а з яго сьнеданнем нічога ня здарылася. Бо на сьвеце так ужо вядзецца, што з кожным здараецца як- раз тое, што яму лёсам прызначана. Калі нам суджана папасьці ў палон, дык мы і пападзем, бо такая боская воля. Апроч таго, кажуць, што расійцы...

— Паслухайце Швэйк,—перабіў яго кадэт Біглер,—тут гу- тарка у нас, вядома, ня толькі пра палон, але і расійцы зьдзек- ваюцца са сваіх палонных. Яны выколваюць ім вочы, адраза- юць вушы і нос, адрываюць абцугамі член і засоўваюць яго па- лоннаму ў рот. Вы-ж ведаеце, што расійцы—людажэры і бар- бары.

Швэйк безнадзейна махнуў рукою.

— Усяк пра іх дзейкаюць,—сказаў ён,—але такіх рэчаў яны больш ня робяць. Гэта рабілася на вайне, з туркамі, або от яшчэ як нашы ўзялі Гэрцэговіну. А пра такое глупства, як адарваць нос, ня варта і гаварыць. На Жышкаве жыў некі Ан- тон Вайбода, у якога хвароба гэта, рак, здаецца, ад'ела ўвесь нос, а ён потым частаваў сяброў у карчме і хваліўся: «Сёньня я настраляў сем крон сорак гэлераў, дзьве кашулі ды дзьве пары чаравік; а пакуль у мяне было рыла, як у ва ўсіх, то бы- вала, за цэлы дзень ледзь восемдзесят гэлераў наскрабеш». От даўней, пане кадэт, існавалі розныя спосабы катаваньня і было здумана на гэта добрае начыньне. От як прыедзеце ў Прагу, то зойдзеце ў гарадзкі музэй. Напрыклад, людзям рабілі дыбу, людзей выцягвалі на драбінах, ламалі ім косьці на кале, прыбі- валі цьвікамі за язык... І людзі ахвоча дазвалялі гэта рабіць з сабою, калі толькі іх перад гэтым сабаравалі; тады гэта рабілі ахвоча, бо гэта служыла на большую боскую славу. У гэрэтыкаў або ў якое-небудзь ведзьмы крышылі ўсе косьці, заганялі ім пад пазногці падкоўныя цьвікі і здушвалі іх абцугамі. І кожнае на-

чыньне, якім гэта рабілася, мела сваю назву, гледзячы на што яно было патрэбна; каб раздушваць ногі, ўжывалі «панажы сьвятога Язэпа», каб выбіваць зубы—«дзясны прасьвятое багародзіцы», каб ламаць косьці—«рабрыну сьвятога Пятра». Такім чынам, гэрэтык, злачынца, ці палонны наперад ўжо ведаў чым яго будуць частаваць, і калі галоўны інквізытар загадваў прынесьці абцугі сьвятога Валентына, то ён мог быць пэўны, што з яго хочуць зрабіць ліверную кілбасу на вялікі пост... Ну, дык от, усяго гэтага расійцы ня маюць, і з намі нічога ня можа здарыцца. А калі нож добра навостран, дык чык! і вуха як ня было. І калі чалавек добра цярпіць боль і застаецца спакойны, то яго абвяшчаюць за сьвятога. От-жа і ў Рыме смалілі аднаго папу агнём, укрыжоўвалі і іншае, а калі вырашылі, што можа і даволі будзе з яго, ён раптам з такою прыемнаю ўсьмешкаю і кажа ім: «Ах, калі ласка, панове, перавярніце мяне на другі бок, бо мне хочацца ў роўнае меры пасмажыцца з абодвых бакоў. Надта-ж люблю ва ўсім сымэтрыю».

Тымчасам яны падышлі да вёскі, і кадэт Біглер запрапанаваў яшчэ крышку пачакаць, пакуль зусім зьмеркнецца. Яны селі за хлявом у нейкім садку; кадэт стагнаў і войкаў, салдат папоўз бліжэй пад хату, каб выявіць становішча, а Швэйк цешыў хворага...

— Мы вам зварым бульёну, пане кадэт, і я дам туды больш цыбулі. А потым мы паложым вам на жывот цёплую цэгліну—гэта вельмі памагае. І мы вас ня кінем, пане кадэт.

Салдат вярнуўся і запэўніў іх, што ў вёсачцы апроч некалькіх сялян нікога няма. Гэта вельмі падняло кадэтаў настрой. Яны ўсталі і пастукалі ў вакно. Ім адчыніла нейкая старая і, убачыўшы салдатаў, перапужана закрычала. Пасьля зна заламала рукі і пачала галасіць:

— Нічога ў мяне няма, паны салдаты, нічога! Маскалі ўсё ў мяне пазабіралі!

— А ці даўно яны ў вас былі, маскалі гэтыя?—асьцярожна запытаўся кадэт Біглер.

— Нядаўна, паночку, нядаўна,—плакала старая.—І сёньня раніцою былі, і ўчора ўвечары былі, і кожны дзень прыхо-

дзяцъ. Няма ў мяне, паночку, нічога, усё маскалі пабралі. Нават кару з дрэба абадралі ды ад яе так і здыхалі.

— А патрэбная каморка ёсьць?—зноў запытаўся кадэт, у якога ў жываце ня спрынялася рэзаніна.

Старая энэргічна замахала галавою.

— Не, нічагуткі няма, паночку ты мой. Усё маскалі паэабіралі.

— Пастой, старая, мы самі зірнем,—сказаў Швэйк,—адпіхнуў яе на бок і кінуўся ў хатку. Як дзеля звычайнае русінскае хаткі, яна была чыстая і нават прыгожая; у вялікай печы гарэў агонь, а на століку ляжала цеста на хлеб. Швэйк адчыніў дзьверы з хаты ў баковачку; там бялелі ў кошыках кучкі яец, а са столі зьвешваліся кумпякі, кускі грудзінкі і кольцы хатняе вэнджанае кілбасы. У Швэйка, нават, дух заняло ад радасьці. Ён вярнуўся ў сенцы паклікаць таварыша і кадэта, якіх старая ўсё яшчэ хацела пазбыцца.

— Мы зусім жабракі,—казала яна.—А от там, за рэчкаю, паны салдаты знойдуць хату, дзе жывуць багатыя сяляне. У нас маскалі ўсё забралі.

— Кінь ты лухту плесьці, бабка,—сяброўскі гукнуў на яе Швэйк.—Чулі мы гэту песьню: маскалі нібыта ўсё пазабіралі і нават кару з дрэва пазьдзіралі і ад гэтага падохлі... Пане кадэт, дазвольце сказаць: можаце ісьці далей у хату—у гэтае старое ведзьмы ў бакоўцы цэлая кілбасная крама. А ты, бабка,—ізноў зьвярнуўся ён да гаспадыні,—слухай: мы ў цябе павячэраем і пераначуем, вядома ня дарам—за ўсё будзе заплочана. Ці даброй пускай ці сілаю. Каб цябе чорт, што ты ня хочаш упускаць нават нашага пана капітана, а ну!

Швэйк схапіў з похвы штых і прыставіў ягонае лязо да горла старое; тая крыкнула, падалася назад і перапужаная і ліслівая запрасіла паноў салдатаў ісьці за ёю. У хаце яна пад агонь ад печы разгледзела, што сярод іх быў афіцэр. Яна замармытала:—Пане капітан, пане капітан!—і пачала хапаць кадэтавы рукі, каб пацалаваць іх.

— От бачыш, бабка, цяпер ты мне падабаешся,—сказаў Швэйк і паплёскаў яе па плячуку.—Так і трэба паважаць салдатаў.

Кадэт Біглер дастаў з кішэні грошы. Старая жвава прынесла нечаканым гасьцям хлеба і малака ды дастала вэнджанае грудзінкі, ня спускаючы вачэй з дзьвярэй.

Швэйк загатаваў моцнае гарбаты, палажыў хворага на ляжанку, што замяніла яму ложак, і накрыў кажухом старое. Кадэт, у якога разапіна ад гарачае гарбаты сьціхла, хутка заснуў.

За мясам і хлебам засталіся толькі Швэйк і ягоны таварыш; старая пасадзіла хлеб у печ і вышла, нібыта кагосьці чакала. Салдат, жуючы, сказаў Швэйку:

— Добрае мяса. Добра прасолена і звэнджана, і хоць жрышку і прыпахла каля косткі, але гэта—дармо. Лепш за ўсё бывае, братка ты мой, калі мяса вэндзіць на пілавінах, і разам з ялаўцом. Тады яно як пірог робіцца, спраўдны пірог, скажу я табе.

— Ну, гэта ня вельмі падобна да пірага, але ты глядзі не аб'ешся,—адказаў яму Швэйк.—Мяса заўсёды мясам застанецца, а мяса ахвоча есьць нават кожны сабака.

У гэтую хвіліну вярнулася старая, а сьледам за ёю ўвайшла маладая, прыгожая, рослая жанчына. Старая яе адрэкомэндавала:

— Гэта мая дачка. Мужык у яе на вайне. Бачыш,—зьвярнулася яна да маладое жанчыны,—да нас завіталі госьці, нашы салдацікі, нашы паны і абаронцы. Яны гоняць маскалёў.

Маладая жанчына ўсьміхнулася, паказала моцныя белыя зубы, а Швэйк ветліва запрапанаваў ёй выпіць гарбаты.

— Калі ласка, выпіце з намі, пані. А як завуць пана? Каптан на вас прыгожа пашыты.

І ён правёў рукою па яе поўных грудзях.

Яна пачала піць гарбату і весела гутарыць са Швэйкам, рукі якога ніяк не маглі супакоіцца; ён то казытаў яе, то як старая адварочвалася, выціраў рукі аб каптан ці спадніцу жанчыны.

Таварыш быў зусім сонны, старая прынесла з сянец кажушок і зьнікла з ім у бакоўцы, кінуўшы на дачку выразны пагляд: але тая весела засьмяялася, як Швэйк ушчыпнуў яе за лытку.

Тады яна ўстала, сказала, што пара спаць і палезла на печ, куды перанесла перад гэтым з кадэтавай ляжанкі даволі брудную падушку. Швэйкаў таварыш лёг на лаве, але хутка яму здалося там вельмі цьвёрда і ён перайшоў на падлогу. Заўва-

жыўшы Швэйкаў неспакой і ягоныя ласыя погляды на печ, ён прамармытаў:

— Не разумею, што табе за прыемнасьць! Няўжо дома ты ня бачыў баб? Кладзіся лепш спаць і без таго ад гэтае сьвініны ў нас будзе неспакойны сон.

— Так ты маеш рацыю,—згадзіўся Швэйк і лёг поруч з ім.—А ведаеш, гэта-ж я толькі так, знарок. Бо ні адна баба не пакрыўдзіцца, калі ты ёй дасі зразумець, што яна табе падабаецца. Ну, але гэта першы раз начуем пад страхою з таго часу, як мы згубіліся. Што-ж, тут яшчэ някепска; у кожным разе лепш, як у лесе, калі ішоў такі дождж. Я тады яшчэ расказваў панам афіцэрам каля агню, як адзін каменацёс уздумаў падараваць сваёй жонцы на імяніны ангорскую казу, а пан паручык Лукаш мне не паверыў і на другі дзень сказаў, што такія рэчы людзі на імяніны ня дораць. А тымчасам людзі па злосьці дораць на імяніны яшчэ больш няпрыемныя рэчы, як ангорская каза, што ўсё-ж такі дае хоць карысьць. От мне давялося раз купіць у нейкага пана Краўса, бухгальтара ў Радліцкім коопэратыве, сэнбэрнара, якога яму падаравала ягоная нявестка на імяніны ў дзень сьвятога Яна. Гэта быў цудоўны сэнбэрнар; ростам з бычка пярэзімка, а ён прадаў мне яго за пяцёрку, абы збыць. Бо, паводле ягоных слоў, ён ня мог без сардэчнага болю зірнуць на гэтага сабаку. І ён расказаў мне пра ўсё сваё гора, што выцерпеў праз гэтага сабаку. Ён, разумееш, падараваў сваёй каханцы на імяніны залаты гадзіньнічак на бранзалеце і заручыўся з ёю, але жаніцца ён не сьпяшаўся, і на ягоныя імяніны яна з свайго боку падаравала яму гэтага самага сабаку. Ён нават плакаў, як мне пра гэта расказваў, да душы! Кватэрная гаспадыня, у якое ён пражыў шэсьць год, адразу, як толькі ён вярнуўся на Яна з фэервэрка, і прывёў на вяровачцы свайго сэнбэрнара, не захацела з ім нават размаўляць, а раніцою адмовіла яму жыць у пакоі, бо сабака цалюткую ноч выў, і іншыя кватэранты скардзіліся ёй. Ён упрасіў, каб яна яго на кватэры пакінула, што ён будзе плаціць ёй на месяц пяць крон болей, а сабаку возьме ў свой пакой, каб яму ня было страшна. Так і зрабіў: узяў сабаку ў свой пакой, а раніцою прышоў дворнік даведацца, чаму гэта ў кватарантаў унізу працякае столь, ці ня мыюць тут у пакоі бялізны і ці не праця-

каюць ночны. А потым кватэрная гаспадыня заявіла, што яна за сабакам прыбіраць ня будзе. Але пан Краўс ня страціў галазы; ён пагладзіў свайго сабаку, сказаў яму: «Эх, ты падарунак, мае каханкі, мае чароўнае мілёны!» І пашоў з ім у краму конскага мяса, да пана Штапеца ў Кашыжэ, дзе купіў сабаку кілбасы і сасісак. Ён накупіў на шэсьць крон восемдзесят штук і паўбахана хлеба, ды ў абед пачаў карміць сабаку; ён кідаў ёй кавалкі кілбасы з хлебам і радаваўся, што сабака хапае іх на лёту. Ён аддаў ёй на абед усё чыста, а як вярнуўся вечарам са службы, сабака выў ад голаду. Тады пан Краус ізноў пайшоў да пана Штапеца і накупляў ліверные кілбасы на дзесяць крон. Той хацеў пасладь яе з хлопчыкам, але пан Краус запэўніў, што ён можа і сам занесьці. Тады пан Штапец яму сказаў: «Ды вы ня турбуйцеся, мой хлопчык нікому ня скажа. Дзе ваш рэсторан? У вас у мэню часта стаіць «сьвежая хатняя ліверная кілбаса», нават летам? Узімку я мог-бы штодня прадаваць вам сьвежую кілбасу з «чыстае сьвініны», бо ўзімку часьцей бывае, што коні ломяць сабе ногі». Такім чынам, пан Краўс дзень у дзень хадзіў у конскую краму і да булачніка, а вечарамі вадзіў сабаку спацыраваць на ўзьбярэжжа. Там яго чакала Мілёна, і яны дахадзілі да Сьміхаўскае прыстані. Мілена тулілася да яго, сабака чыкіляў за імі і паненка шчасьліва ўсьміхалася і казала Гэнзэль, мы з табою якраз як сапраўдныя лёрд, і лэдзі на спацыры. Ты рад маўму падарунку? Падабаецца ён табе?»

— Да канца ліпеня,—казаў далей Швэйк,—пан Краўс вытрымліваў гэта, а потым сказаў сваім супрацоўнікам: «Мне застаецца выбіраць ня шмат з чаго. Або я мушу застрэліць сабаку ці самому застрэліцца, або абакрасьці каго-небудзь ці жаніцца. Іначай я не магу больш існаваць». І нарэшце вырашыў жаніцца, як Мілена пачала плакаць, што ён хоча аддаць сабаку, што яна яму падаравала. А два дні пачакаўшы пасьля вясельля ягоная маладая жонка прыйшла да мяне, каб я забраў у іх сэнбэрнара, бо яна ня хоча трымаць у кватэры і танна прадае. Так я і купіў яго за пяцёрку, ды маладая дала мне яшчэ ў дадатак кавалак вясельнага пірага... От яно як здараецца, дружа мой! Розныя бываюць у людзей намеры і мэты, але яны робяць штосьці іншае, гавораць таксама штосьці іншае і толькі пад-

маньваюць цябе сваёю палітыкаю. Кажучы праўду, дружа, дык... Эгэ, дык ты ўжо сьпіш?

Салдат хроп, як прастуджаны бульдог. Швэйк ціха адпіхнуў яго ўбок, але той нават не парушыўся, таму ён ціханька падняўся і краткам падышоў да печы. Там ёе узьлез на прымурак і, мацаючы рукамі, хутка знайшоў дзьве голыя, дужыя нагі: ён пагладзіў лыткі і вышэй і, як яны не зварухнуліся, сьмела палез на печ. Аднекуль з-пад самае столі пачуўся прыглушаны, але зусім злосны голас: «От, чорт ласы! Куды лезеш?» Пасьля пачулася некае мармытаньне і сапеньне, што кончылася ласьлівым і пакорным: «А ты мне купіш хустку на галаву?» Пасьля гэтых слоў у хаце ізноў запанавала ўрачыстая цішыня, якую перарывалі толькі храпеньне і таямнічае шастаньне на печы.

Пад поўнач, як у далячыні забрахалі гарматы і іх ніхто не пачуў, бо нават на печы, пасьля ўсіх трывог і хваляваньня, Швэйка апанаваў глыбокі сон. Яму нават і на думку ня прыходзіла, што на ягоным шляху на ўсход, пасьля якіх-небудзь трохсот—чатырохсот кілёмэтраў, што ён прайшоў, маральнасьць ужо так зьмянілася, што каб дасягнуць таго, чаго ў нас дабіваюцца прысягамі на вечнае каханьне і вернасьць, нотарыяльнымі актамі і папоўскімі блаславеньнямі перад алтаром,—тут ужо досыць лёгкага руху галавы на пытаньне: «А ты мне купіш хустку на галаву?» Тымчасам гэта быў толькі лёгічны вынік з гэтакага роду становішча: якой-небудзь прымадоне давай брыльлянты, а простай бабе ў русінскай хаце даволі паабяцаць, што купіш хустку, якую яна, да душы, чэсна зарабіла.

Раніцою, як кадэт Біглер прачнуўся, старая ўжо ўходжвалася каля печы, а Швэйк загатаваў яму каву з малаком і дзьмухаў на гаршчок, дзе кіпела малако. Заўважыўшы, што кадэт хоча ўстаць, Швэйк падышоў да яго і сказаў:

— Дык дазвольце, пане кадэт, паведаміць: уначы ніякіх асаблівых здарэньняў ня было. А як вы цяпер маецеся, пане кадэт? Вам лепш? Я зараз падам вам сьняданьне.

— Швэйк,—мякка адгукнуўся кадэт,—давайце яго хутчэй. У мяне больш нічога не баліць. Але я нядужы, як муха. А дзе вораг? Нічога ня відаць і ня чуць? Ох, ня ведаю, ці змагу я ісьці з вамі далей.

— Мы вас ня кінем, пане кадэт, што-б ні здарылася,— цьвёрда заявіў Швэйк.—Тут, у гэтай хатцы нам няма чаго баяцца якое-небудзь небясьпекі. Маладзіца сьпіць на печы.

— А расійцы? Няўжо яны ня прыходзілі?—запытаўся кадэт.

— Не, пане кадэт. Нас старая ўчора ашукала—расійцаў тут наогул ня бачылі. Маладзіца, тая куды шчырэйшая і дала мне праўдзівыя весткі: расійцы адступілі па лініі чыгункі, дзе прахадзіць шаша. Мне здаецца, пане кадэт, што лепш за ўсё будзе адпачыць тут, пакуль вы зусім не папрáвіцеся. Гарматы страляюць сёньня ўжо далёка адгэтуль.

Кадэт больш нічога не сказаў і дазволіў Швэйку павесьці сябе ў сад; каля хлява салдат сек дровы і паклікаў Швэйка дапамагчы яму.

Яны пачалі секчы ўдваіх; тупая іржавая сякера скрыпела, але расьсякала дровы і іх набралася цэлая куча і як маладзіца выйшла на двор, яна ўдзячна ўсьміхнулася салдатам.

— Ну, што, браткі? Га? Куды прыемней секчы дровы, як біцца на вайне? А колькі работы вы з мяне зьнялі!

— Эх, мілая,—адказаў Швэйк,—ды чаго-б я для вас не зрабіў! Сэрца-б я з вамі падзяліў, а ня то што дроў вам насекчы. У мяне да вас найлепшыя думкі.

Баба, што і так ужо мала яго разумела, засьмяялася і пашла працаваць; Швэйк кінуў сякеру і зьвярнуўся да свайго прыяцеля:

— Слухай чалавеча, што-б ты там ні рабіў, ты заўсёды павінен рабіць гэта з найлепшымі думкамі, калі хочаш, каб яно ўдалося. Ну, вядома, перш табе трэба падумаць, каб ня здарылася нічога такога, што магло-б ім пашкодзіць. От, напрыклад, у Находзе быў бургамістр і яго выклікалі ў акруговую ўправу і паведамілі, што ў Наход прыбудзе яго імпэратарская вялікасьць і што горад павінен яму наладзіць спатканьне, як той будзе праяжджаць. Бургамістр—даўно гэта ўсё было!—адразу-ж склікаў нараду ўсяе гарадзкое ўправы і паведаміў, як іх-ны горад будзе адрозьнен ад іншых, бо ён самы шаноўны бургамістр, а не такі, як нейкі Зэманак у Казаедзе, што заўсёды, як зачыняў паседжаньне рады, казаў: «Бывайце здаровы, панове. Памятайце, што мы—члены гарадзкое рады і што нашы

справы кожны раз горшыя!» Ну, а находзкі бургамістр загадаў пабудаваць трыумфальную браму, а таму што ён быў такі чалавек, што любіў што-небудзь асаблівае, то пачаў выдумляць надпіс на гэту браму. За два дні да ўрачыстасьці ён загадаў паклікаць мастака, замкнуў яго з пэндзалямі ў сваёй кватэры і наогул ня пускаў яго да хаты; пасьля ўдвух уначы прыбілі надпіс да брамы, захінулі яго заслонаю, каб ніхто ня мог прачытаць, і пачалі чакаць раніцы, калі павінен быў прыехаць імпэратар. Ну, імпэратар прыехаў, паліцэйскія пацягнулі вяровачку, заслона ўпала і ўсе людзі прачыталі на браме мастацка выкананы надпіс: «Хвала Ісусу хрысту! Да нас едзе ФранцЁзэф!» Імпэратару гэта вельмі падабалася, і, як бургамістр зьвярнуўся да яго з прывітаньнем, ён яму адказаў: «Вельмі я рад, што ў Находзе такі бугамістр. А што, ці ходзяць яшчэ плыты па Влтаве?» Пасьля ён паехаў далей, а бугамістр атрымаў на памятку залаты гадзіньнік, а ў тым гадзіньніку на вечку быў гравіраваны той самы надпіс, што і на браме, ды таксама ён атрымаў ордэн з каронаю «за асаблівыя паслугі». Бургамістр тэтым, вядома, вельмі ганарыўся,, і таму што ён быў стары, выбралі замест яго ягонага сына. Сын яшчэ толькі першы год быў бургамістрам, як яго таксама паклікалі ў акруговую ўправу, бо яго імпэратарскай вялікасьці ізноў захацелася праехаць праз Наход, і трэба было яго адпаведным чынам спаткаць. Малады Бургамістр таксама замкнуўся і пачаў прыдумляць, які надпіс зрабіць на трыумфальнай браме. Потым ён купіў палатна, сам намаляваў надпіс і ўночы прымацаваў яго да брамы, зноў завесіў заслонаю і нікому, нават бацьку, не сказаў ні слова. От прыехаў імпэратар, паліцэйскі спускае заслону, і на браме зьяўляецца надпіс: «Езус-Марыя! Да нас едзе Франц-Іозэф!» Ну, імпэратар наогул не захацеў з ім размаўляць, нават калі той сказаў прамову са шпаргалкі, якую ён прыхаваў у капялюшы. Імпэратар нават не сказаў яму, што рад, што Наход знаходзіцца ў Эўропе. Пасьля гэтага бургамістра ссадзілі і запяклі на чатыры месяцы за абразу яго вялікасьці і ўсяе імпэратарская фаміліі. Аднак і ў яго былі найлепшыя жаданьні, як і ў ягонага бацькі, але толькі ён ня скеміў, як пачаць справу і што з усяго гэтага можа выйсьці.

— Але-ж кажуць, што наш імпэратар ня ўмее гаварыць па-чэску,—сказаў швэйкаў слухач,—што ён наогул ня ведае ні слова па-чэску.

— Гэта яму так заўсёды даводзяць,—пачаў бараніць яго Швэйк,—але ў яго добрае сэрца і па-чэску ён таксама калісьці вучыўся. Ён вельмі далікатны з дэпутатамі, калі прымае іхныя дэлегацыі. Ён у кожнага пытаецца: «А што, у Празе ёсьць яшчэ каналізацыя?»—«Як на вашу думку, ці доўга гэты год пратрымае зіма?»—«Гэта вельмі цікава, што ў вас масты вядуць з аднаго берага рэчкі на другі!» Трэба ведаць даражэнькі, што панаваць—справа не такая лёгкая, а тут яшчэ распытвайся пра каналізацыю. Няма ніякага дзіва, што чалавек часамі памыліцца. Вось з ім раз быў такі выпадак: прыехаў ён дзесьці на Мораве ў адну вёсачку недалёка ад Гэдынга і пытае ў тамтэйшага бургамістра: «Ну як, які ў вас сёлета ўраджай? Калі-б не дожджы, дык, пэўна, не такі-б быў кепскі?» А бургамістр чалавек неасьвечаны, узяў дый ляпнуў яму па-чэску: «Ваша вялікасьць, пшаніца наліваецца добра, аўсы буйныя, буракі найлепшыя, от толькі бульба—г...!» Імпэратар яго не зразумеў і спытаўся ў ад'ютанта, што значыць гэтае слова. Той адказаў, што гэта просты народны выраз: калі што кепскае, хібіла, то гэта называюць «г...». А праз тыдзень яны прыехалі ў Пшэраў, і там начальнік акруговае ўправы адрэкомэндаваў імпэратару дырэктара народных школ. Імпэратару здалося дзіўным, што яго спаткала мала дзяцей, і ён запытаўся ў дырэктара, якая на гэта прычына. «Ваша вялікасьць,—пэкаючы, адказаў дырэктар,— у нас тут шмат хворых на адзёр і палова школьнікаў хварэюць на яго...»—«Ведаю, ведаю,—адказаў на гэта імпэратар, здаволена хістаючы галавою,—гэта страшэннае г..., страшэннае г...». Разумеецца, такая высокапастаўленая асоба таксама можа часамі памыліцца, але адгэтуль не вынікае, што з яго трэба сьмяяцца.

*

Кадэт Біглер так хутка падужэў у садку пад грушаю, што на абедзе хацеў ужо рушыць далей, але Швэйк запратэставаў:

— Дык дазвольце сказаць, пане кадэт, што гэта было-б дарэмна. Нам трэба пайсьці ўправа на станцыю, а батальён ужо

сам знойдзе нас. Апроч таго вы ячшчэ вельмі слабы, пане кадэт, а туды ня так блізка, нават калі ня лічыць таго, што старая кажа, што ўначы напэўна будзе дождж.

Кадэт пачаў вывучаць карту і ў душы згадзіўся, што Швэйк мае рацыю. Да таго-ж яму зрабілася ясна і тое, што капітан Загнэр не памыліўся, калі казаў, што расійцы ніколі-б не адступілі там, дзе іх шукалі аўстрыйцы, бо зусім немагчыма праехаць з абозам і артылерыяй праз такія лясы і балоты.

Швэйк ізноў загатаваў гарбату, а ўначы ізноў узьлез на печ, дзе пачаў уцяшаць пакінутую маладзіцу. Уся вёска спала ціхім і глыбокім сном; дождж ліў, як з вядра, і сьціхнуўся толькі перад раніцою.

Кадэт адчуваў сябе пасьля доўгага сну моцным і дужым, і да яго вярнуўся ягоны ранейшы ваяўнічы дух. Ужо з раніцы ён пачаў крычаць на салдата, што гатаваў сьняданьне, у той час як Швэйк хадзіў з маладзіцаю ў хлеў даіць карову.

— Каб вас чорт задзёр! Як вы ізноў стаіцё, калі я з вамі гавару? Пяты, пяты пастаўце як сьлед!—крычаў ён, а пасьля сьняданьня хутка апрануўся і загадаў выступаць.

Ён разьлічыўся з старою, што пацалавала яму ў руку, і першы, разам з салдатам, вышаў з хацінкі. Тымчасам Швэйк разьвітаўся з маладзіцаю і, гладзячы яе, гаварыў:

— Ну, ну, ня плач, прыгажуня! Мы-ж не на век разьвітваемся! А потым і стары твой прыйдзе ў водпуск. Ну, а калі што здарыцца, дык я думаю, што і ў вас знойдзецца радзільны дом... Ну дык—з богам! Шчасьліва табе заставацца!

Кадэт накіраваўся проста праз сад на поўнач, дзе, як расказала старая, дарога выходзіць на шашу. Ён крочыў так хутка, што салдат і Швэйк адсталі ад яго. І тады салдат сказаў Швэйку:

— Калі ты, браток, захочаш есьці, дык толькі скажы. Я таксама схапіў адну кілбасу ў старое з яе каморкі.

— Як табе ня брыдка абкрадаць такіх добрых людзей!—пачаў лаяць яго Швэйк.—Не, мне маладзіца сама дала на дарогу кавалак шынкі і бохан хлеба. Раніцою ў садку я скруціў галаву чатыром куркам і двум пеўнікам, яны ў мяне ўсе ў ранцы і я ледзь цягаю гэтую ношу. Баюся, каб яны часамі ў нас ня стухлі.

Кадэт падаўся ў бок ад вёскі, паўз якую яны ішлі ўжо з чвэрць гадзіны па дарозе. Швэйк апошні раз зірнуў на хатку, што была яму такою гасьціннаю і, раптам ахопленны наплывам сантымэнтальных успамінаў, засьпяваў:

Як анел чыстая душой,
Над рэчкаю дзяўчына плача;
Яе пакінуў любы, дарагі!
І толькі сьлёзы ёй уцехай...

Але яму здалося, што такія жаласныя словы гэтае песьні ня зусім выказваюць ягоны пачуцьці, таму ён засьпяваў іншую:

Калі пакідаў я вас сёньня,
Ужо сонейка зьзяла на гоні...
І ў сажалцы плюскала рыбка...
І я цалаваў, абдымаючы, вас
Сягоньня апошні, апошні ўжо раз...

Раптам кадэт спыніўся і, прыкрыўшы вочы рукою, як камырком, стаў узірацца ў далячыню; потым ён, як маланка, хутка кінуўся на зямлю і зашыпеў:

— Вораг! Расійцы! Кладзіся!

— Значыць, яны сапраўды тут?—зьдзівіўся Швэйк.—Значыць, яны...

А салдат, швэйкаў таварыш, пры слове расійцы» выпусьціў карабін і падняў уверх рукі; але потым, убачыўшы, што нікага ворага няма, ён ізноў апусьціў іх і лёг на зямлю, у той час, як кадэт закамандаваў:

— Набівай! Набівай!

Кадэт выказваў напружаньне і быў, як сьмерць бледы; ягоная рука нэрвова сьціскала рэвольвэр. Швэйк, што да гэтага часу нічога ня мог убачыць, стаў поруч з ім на калені і з цікавасьцю запытаўся:

— Дык дазвольце вас спытацца, пане кадэт, дзе-ж расійцы? Я ня ведаю нават, як яны выглядаюць, бо за ўсё сваё жыцьцё я ні разу ня бачыў расійца. А от мадзьяраў шмат даводзілася бачыць.

Кадэт моцна пацягнуў яго і той паваліўся, а сам ён выцягнуў наперад руку з набітым рэвольвэрам. І тады Швэйк убачыў расійцаў.

Паміж хат пракрадваліся тры расійскія салдаты—два старшыя векам з барадою і адзін малога росту хлопчык, зусім яшчэ дзіця. Яны ішлі паволына, ледзь ступаючы і хісталіся пры ходзе, як мядзьведзі; іхныя карабіны віселі на вяровачках за плячыма. Яны ішлі стомленыя, прыглушаныя, як бараны, якіх так загналі, што яны ўжо ня могуць больш крануцца з месца; увесь іхні выгляд выказваў тое, што аўстрыйскія салдаты выказвалі словамі: «Піхні нас наперад, піхні нас назад—усяроўна з нас нічога не даб'ешся. усяроўна нам усё абыякава!»

От яны спыніліся і пачалі пра нешта раіцца ў пераходзе між двух хат, у той час, як каля іх на дварэ прыхаваліся кадэт і два добрыя ваякі з варожага лягеру. Убачыўшы, што Швэйк на загад сунуў у карабін абойму дагары нагамі, кадэт схапіў у яго з рук карабін; набіў яго сам, ды, аддаючы назад Швэйку, паціху шапнуў:

— Жывёла, нават набіць як сьлед ня ўмее! Прыцэлься добра! Падрыхтуйся!—загадаў ён коратка і падняў рэвольвэр.

Але «страляй!» яму так і не давялося скамандаваць; рука швэйкава адвяла ўзброеную кадэтаву руку, а сам Швэйк прамармытаў:

— Езус-Марыя, пане кадэт, няўжо вы і сапраўды хочаце іх застрэліць? Яны-ж нас не чапаюць. Дык дазвольце сказаць, пане кадэт, што калі мы выстралім і не патрапім, дык яны нас застрэляць, яны-ж таксама маюць карабіны, ды яшчэ якія доўгія. Магчыма, яны—разьведка, а за імі ідзе ўся дывізія?.. А можа іх толькі трох і яны таксама заблудзіліся, як і мы. І тады, калі мы іх застрэлім, дык нам давядзецца капаць ім магілы, а гэта ў такую сьпёку ня так лёгка, пане кадэт.

Швэйка захапіла думка, што яны, гэтыя варожыя салдаты, таксама зьбіліся з дарогі, як і яны, і яго сымпатыі расьлі да іх з кожнаю хвілінаю. Ён абняў кадэта так, што ў таго і дух спыніла і горача зашаптаў:

— Вы толькі ўявеце сабе, пане кадэт, што яны таксама адбіліся ад свае часткі. Цяпер ім, бедным, давядзецца туляцца па сьвеце і ніводзін полк ня прыме іх да сябе і ніхто ня дасьць ім ні грошай ні пайкоў. Яны, напэўна, жадаюць папасьціся ў палон; магчыма, нават, яны чулі пра нас і лічаць, што мы забяром іх з сабою і будзем клапаціцца, каб прахарчаваць іх. Ды

не, тут яны і памыліліся, бо наш начальнік, пан кадэт Біглер, а ён не такі дурань, каб падбіраць расійскія недабіткі і браць на сябе такі цяжар.

Швэйк туліў да сябе кадэта і ўсё мацней і мацней. Тымчасам расійцы скончылі нараду і пашлі далей. Швэйкавыя абнімкі аслабелі; нарэшце, ён пусьціў кадэта і лагодна, па-бацькаўску паказаўшы на доўгія трохкантовыя штыкі салдат, што адходзілі, прамовіў:

— Дык, пане кадэт, цяпер мы выратавалі адно аднаму жыцьцё. Я ня вельмі баюся, калі мяне казычуць, але мне здаецца, што каб тыя захацелі нас паказытаць вось такою цацкаю, гэта было-б ня вельмі прыемна.

Кадэт Біглер змоўчаў, бо ня ведаў, што адказаць; ён нават гатоў быў згадзіцца, што Швэйк мае рацыю. Калі цяпер тут было толькі трое расійцаў, дык іх магло быць тут куды больш: перастрэлка выклікала-б трывогу ва ўсім раёне, і нямаведама чым-бы ўсё гэта скончылася. Як можна ніжэй яны схіліліся да зямлі і накіраваліся праз поле да ўскраю лесу. Калі кадэт Біглер лачуў, што небясьпека мінула, ён, каб падтрымаць афіцэрскі гонар, накінуўся на Швэйка:

— Цяпер камандую я! Я магу загадваць, што хачу, а вы павінны мае загады выконваць і трымаць язык за зубамі. Разумееце? Зразумелі?

— Так, зразумеў, пане кадэт. Буду слухацца загадаў і трымаць язык за зубамі!—пакорліва адказаў Швэйк.—Так што, пане, кадэт, дазвольце запытацца, ці не хацелі-б вы зьесьці кавалачак кілбасы? Яна добрая, сухая, з часнаком.

Яны асьцярожна і паволі перасоўваліся паўз край лесу; апроч некалькіх жанчын і сялян, што працавалі ў полі, нікога ня было відаць. Па абедзе яны вышлі на дарогу, што вяла праз густы бор проста на поўнач.

Кадэт загадаў зрабіць прыпынак. Яны ляглі на траву. Кадэт разлажыў карту і пачаў вадзіць па ёй пальцам. Швэйкаў спадарожнік, якога у гэтай экспэдыцыі цікавіла толькі тое, каб пад'есьці і добра выспацца, адразу заснуў. Швэйк азірнуў з-за кадэтавага пляча на карту і запытаўся:

— Дык, пане кадэт, дазвольце даведацца, вы ўжо знайшлі, дзе знаходзіцца наш марш-бацьяк? Кажуць, што на гэтых

картах генэральнага штабу ўсё адзначана. Каб разабрацца ў гэтай карце, пане кадэт, мусіць, патрэбна вялікая навука? Вось у нас у палку быў паручык Гофман, дык той вучыў у вучэбнай командзе чытаць гэтыя карты і заўсёды дадаваў: «Салдаты,— казаў ён,— чытаць карты куды важней, як ведаць, з якіх частак складаецца карабін. Капралы, ефрэйтары і разьдзельныя павінны рабіць гэта лепш за генэралаў; што гэта так вы, салдаты, можаце пераканацца, калі наш полк выходзіць на манэўры або на вялікае палявое вучэньне. Перш зьбіваецца з кірунку і кудысьці зьнікае пан палкоўнік разам з канём, потым пан маёр, за ім пан капітан, а пасьля і рэшта паноў обэр-афіцэраў. Полк вядзе тады фэльдфэбэль і каб вы толькі ведалі, як-бы яму папала, каб ён таксама зьбіўся з дарогі і павёў полк ня туды, куды трэба. У часе міру за гэта прызначаюць адзіночную турму, а ў часе вайны—расстрэл». А пасьля гэтага паручыка, дазвольце сказаць, пане кадэт, пазбавілі афіцэрскае годнасьці, і цяпер ён служыць у Празе за рэдактара аднае газэты і часта сядзіць у халоднай за абразу арміі. Бо і з рэдактарамі трэба быць строгім.

Кадэт нічога не адказаў, а толькі яшчэ пільней пачаў вывучаць карту; нарэшце ён падкрэсьліў пазногцем адну назву і запытаўся:

— Швэйк, як называлася тая вёска, дзе мы начавалі? Пеняякі, кажаце вы? Дык гэта тут. Мы вось тут у лесе, дарога ідзе вось так, а чыгунка, пра якую таварыла старая, нішто іншае, як вучастак паміж Львовам і Бродамі. Вузкакалейкі тут няма, хіба што расійцы зрабілі сабе новую чыгунку. Праз тры гадзіны мы будзем на шашы.

Гэтае прароцтва ня збылося, хоць яны ішлі даволі бадзёра. Толькі пад вечар дацягнуліся яны да шашы, калі наогул можна было так назваць гэтую дарогу. Гэта была ўся ў выбоінах шырокая дарога, зьмешаная колам бязьлікіх фурманак, гармат і грузавікоў, што прайшлі па ёй за год у адзін і другі бок. Калі нашыя ваякі падыйшлі да шашы, па ёй ехала безьліч абозных двухколак з хлебам і фуражом. З бакоў ішлі салдаты, што або адбіліся ад сваіх палкоў, або не маглі ісьці далей, або лічылі, што яшчэ пасьпеюць дагнаць сваё шчасьце, што чакала іх наперадзе.

Кадэт пачаў распытвацца, дзе цяпер 91-ы полк, але ніхто нічога ня ведаў пра яго, і толькі нейкі сапёрны капітан сказаў:

— 91-ы полк з Будэёвіц? Учора толькі я яго бачыў. Яго сьцягваюць пад Броды. Там умацаваліся расійцы—цэлая дывізія.

Кадэт ізноў дастаў сваю карту і хацеў дайсьці, як гэта яго батальён трапіў у Броды. Яны нейкі час ішлі па шашы, а потым кадэт павярнуў управа на палёвую дарогу.

— Мы ізноў вернемся на гэтую шашу, але нашы не маглі яшчэ да яе дайсьці. Магчыма, мы сустрэнем іх у якой-небудзь вёсачцы.

Яны пашлі хутчэй і хутка нагналі некалькі чалавек адсталых, якіх потым яны сустракалі цэлымі натоўпамі. Салдаты з розных палкоў па аднаму ці па некалькі ішлі, сядзелі або ляжалі ў траве абапал дарогі, і як Швэйк пытаўся у іх, куды яны ідуць, адказвалі або сярдзітым мармытаньнем, або пакорліва і лагодна:

— Мы ідзем змагацца і ўміраць за нашага імпэратара.

Дарога была праз балота, але там ішла ўжо работа, каб можна было праз яго езьдзіць. Цэлая рота салдатаў рабіла гаць, клала дрэва, камель пры камлі, якое надвозілі з лесу мобілізаваныя на гэта тутэйшыя сяляне. Другая команда забівала дзіркі мохам, трэцяя насыпала пясок, а чацьвертая раўняла дарогу на краёх, і там дзе пяску было мала, дасыпала рукамі. Ззаду стаяў падпаручык і крычаў:

— Старайцеся, каб вас чорт, каб усё было добра! Гэта мусіць быць дарога, як алея ў Шэнбрунскім парку. Узводны, скажэце там, каб пясок везьлі толькі найчысьцейшы і найдрабнейшы.

Кадэт пачаў размову з падпаручыкам. Швэйк з вялікаю цікавасьцю пазіраў, як раўнуюць дарогу, і потым сказаў салдату, што быў бліжэй да яго:

— А ты вельмі акуратна робіш. Гэта такая чыстая работа, як у царкве, як сказаў-бы стары Маравэк, калі-б ён убачыў, як ты тут арудуеш з сваёю лінейкаю, бо пан Маравэк—муляр і перш за ўсё паважаў чыстую работу. А вы, мененавіта, з якога палка, хлопцы?

— Эх, браток ты мой,—уздыхнуў салдат,—усё тое, што мы робім,—адна дурасьць. Няхай толькі тут пройдзе хоць адна рота і ты не пазнаеш ужо краёў, што мы старанна раўнуем. А як праедзе абоз або артылерыя, коні выгапчуць мох. А мы яго возім за гадзіну воз. Ад такое дурной работы мы змучыліся, як сабакі. Дый ці мала робім мы такой работы, што нікому непатрэбна, бо нашы інжынэры—ідыёты. От, напрыклад, учора будавалі мы мост на канаве, якую конны мог-бы пераскочыць. а абоз чакаў вялізны, фурманак чатырыста і от ён стаў і ня можа праехаць цераз гэту канаву. Ну, паслалі нас туды. Я сам карэтнік, але каб у мяне запыталісія, як зрабіць, дык я перакінуў-бы з аднаго боку на другі тры бервяны, на іх наслаў-бы дошчак, прыбіў іх цьвікамі і... от і ўсё! Едзьце сабе на здароўе! Але наш падпаручык—інжынэр, і таму склаў сабе на гэта цэлы плян. Перш-на-перш ён паслаў у вёску, дзе мы стаімо, па мэтр, а вёска адгэтуль на паўтары гадзіны дарогі; потым ён вельмі дакладна вылічыў, якое даўжыні павінна быць бярвеньне; потым загадаў нам абчасаць іх з чатырох бакоў; потым паслаў на тоўстыя дошкі, што прывезьлі толькі падвечар, і, нарэшце, загадалі нам зрабіць з двух бакоў поручы. Адным словам, браток т і мой, мы з гэтаю справаю змарнавалі часу з адзінаццаці раніцы да трэцяе ўначы і ўвесь абоз стаяў на месцы і чакаў, а ён-жа быў з хлебам! Ну, як мы ўсё скончылі, інжынэр пусьціў хурманкі на мост, і адразу-ж самая першая паламала поручы. Потым, як ад кол перад мастом стала глыбокая выбоіна, нам давялося падымаць драбіны на мост каламі... От, браток ты мой, так мы вайны ня выграем. Бачыш таго афіцэра—дурань з дурняў, а сказаць гэта я яму не магу і з хаты яму таго не напішуць... А сам адкуль будзеш? Мы—рабочая каманда 36 палка, а самі называем сябе «Таварыствам упарадкаваньня дачнага жыцьця».

— Так, так. Значыць, у вас афіцэры таксама прыдуркі,—спагадліва адгукнуўся Швэйк.,—Ну, а я з 91-га, і ў нас яны таксама дурні. Мы былі ў разьведцы, зьбіліся з дарогі і цяпер шукаем свайго палка. Але калі ваш падпаручык таксама прыдурак, дык наш кадэт ад яго ня шмат даведаецца. А як у вас кормяць, дружа?

Член «Таварыства ўпарадкаваньня дачнага жыцьця» безна-

двейна махнуў лінейкаю, і ў гэты самы момант кадэт Біглер паклікаў сваіх падлеглых і загадаў ісьці далей. Швэйк яшчэ раз зьвярнуўся да салдата, з якім размаўляў:

— Ну, што-ж, хлопцы, старайцеся, аздабляйце масткі! Як выйдзеце ў адстаўку, будзеце ўмець аздабляць бальныя залі на карысьць вэтэранаў вайны.

Кадэт біглер і сапраўды даведаўся ня больш, як сказаў яму ўжо сапёрны капітан. Расійская армія спынілася каля Бродаў—і замацоўвае свае пазыцыі, відаць, на тое, каб не дапусьціць аўстрыйскае войска ў межы Расіі. А дзе патрэбны ім маршавы батальён, падпаручык ня ведаў.

Зьмяркалася. Усе трое вельмі ўтаміліся, таму кадэт не супярэчыў, як Швэйк завярнуў у бок з дарогі да нейкага доміку, як выявілася—доміку лясьнічага. Стары чалавек, лясьнічы, прыняў іх даволі ветліва, і ад яго яны даведаліся, што два дні перад гэтым тут праходзіла шмат войска. Расійцы прайшлі тут чатыры дні назад.

Лясьнічага жонка паставіла варыць на вячэру бульбу і прынесла малака. Убачыўшы, што яна гатуе вячэру, Швэйк нагрэў у вялікім гаршку вады і апарыў курачак і пеўніка, што нёс з сабою.

Убачыўшы гэтыя прысмакі, кадэт Біглер з прыемнасьцю канстатаваў, што ў яго ізноў зьявіўся голад, а Швэйк, заўважыўшы ягоны галодны погляд, ізноў выказаў, якое ў яго добрае сэрца.

— Я-ж казаў вам, пане кадэт, што я вас не пакіну. З курэй я звару крупнік, а пеўніка сасмажу. Добра, што мы не змарнавалі дарма часу на забойства тых расійцаў; таму мы можам цяпер якраз у час павячэраць.

Трох курэй і двух пеўнікаў без астачы зьелі, вячэраючы ў лясьнічага ў доміку. Тры куркі, што асталіся, Швэйк старанна закруціў у анучу ды схаваў сабе ў ранец. Ікаючы ад добрае вячэры, ён задаволеным голасам сказаў:

— Так! Цяпер з намі нічога ня здарыцца.

Раніцаю яны пайшлі далей, і ў той час, як лясьнічага жонка, што праводзіла, казала ім, што будзе за іх штодзённа маліцца,

яна вачыма заклапочана лічыла сваіх курачак. Потым твар яе праясьніўся і яна дадала:

— Я буду маліцца за вас, раніцою і ўвечары, добрыя ваякі. У мяне ўсе куры!

На шашы быў яшчэ большы рух, як учора. Войска праходзіла вялікімі колёнамі. Потым наша тройца сустрэла палявых жандараў, што ёй сказалі.

— Ваш батальён? Учора яшчэ быў у Смоціне, але куды ён пашоў далей, мы ня ведаем.

Кадэт запытаўся ў іх, як ісьці на Смоцін, і вырашыў пайсьці туды, каб тым хутчэй даведацца, дзе шукаць сваю часьць.

Салдаты пачалі цяпер сустракацца ў на палёх. Было відаць, што тэлефоністы ставяць правады, перабягаючы з доўгімі каламі ад дрэва да дрэва, і Швэйк прыгадаў Хадынскага і спагадліва сказаў:

— Ён таксама мог-бы ласаваць курацінай, але замест гэтага ён павінен бегаць ад дрэва да дрэва, нібыта зьбірае вусеняў.

Хутка іх параганаў конны ордынарац, што ляцеў, пусьціўшы наўзаводы каня. Ён ехаў туды сама, куды ішлі і яны, і таму Швэйк крыкнуў наўздагон:

— Эй, таварыш, прывітай ад нас 91-ы полк і скажы, што мы ўжо блізка!

Ордынарац прытрымаў каня.

— Я і сапраўды еду ў 91-ы,—адказаў ён.—Ён стаіць у вёсцы Врбяны і пойдзе адтуль у Піонтак. Адсюль гэта за гадзіну дарогі. Вы можаце ісьці проста туды і там чакаць.

От як здарылася, што кадэт Біглер а шостай гадзіне ўвечары, выцягнуўшыся, дакладаў капітану Загнэру пра тое, што ён зьявіўся ў батальён, прыгатаваўшы на кожны выпадак, калі-б капітан пачаў распытвацца, належныя тлумачэньні. Але Капітан Загнэр, якому паручык Лукаш перадаў паўкурыцы з трох, што прынёс Швэйк, і расказаў усю гісторыю іх вандроўкі, толькі паляпаў Біглера па плячы.

— Добра, вельмі добра вы гэта правялі, кадэт! Мы атрымалі са штабу брыгады такія цёмныя загады, што кожны нормальны чалавек звар'яцеў-бы.

Як Швэйк ізноў зьявіўся сярод таварышоў, вольнапісаны Марэк сустрэў яго такімі крыкамі:

— Магілы раскрываюцца, нябожчыкі ўстаюць з іх, і надыходзіць дзень страшнага суду! Швэйк, валацуга, няўжо вы ізноў з намі?

— Спадзяюся, што ў цябе не туман перад вачыма, што ты-б мог мяне ўбачыць,—адказаў расчулены Швэйк.—Пачакай, я цябе пачастую курацінаю, бо мы заблудзілі і ў кадэта была няправільная карта. Курыца-ж троху цьвярдая.

А як зьявіўся Балун і зірнуў на Марэка, што абсмоктваў костку, з такой просьбаю ў ваччу і прагавітасьцю, што нават сьліны набегла поўны рот, Швэйк ізноў разьвязаў свой мяшок і раскруціў анучу.

— На, браце, зьеш, я табе таксама прынёс кавалак курыцы,—сказаў ён.—Я дзень і ноч думаў пра вас, хлопцы. Ну, што новае чуваць?

— Мы туляліся ўсюды,—адказаў Марэк, аб'ядаючы другую костку.—Мы былі і тут і там, нібы хацелі заблытаць калючым дротам усю зямную кулю... А, ведаеш, Швэйк,—неяк асабліва сур'ёзна дадаў ён,—за тваю курку з напішу ў гісторыю палка доўгую рэляцыю пра цябе.

Марэк выцягнуў з кішэні скрутак папер і пачаў дэклямаваць:

— Калі ты, чытач, прачытаеш у карціне бою,—нават няхай гэта будзе згадана толькі як невялічкі эпізод!—пра «апошняга з службы пры гармаце», дык схілі ніжэй галаву, зацям сабе ягонае імя ў памяці і згадвай яго з удзячнасьцю. Бо тэрмін «апошні пры гармаце» хавае ў сабе столькі духовае сілы, такую веліч духовага ўздыму, нечалавечае вытрымкі, што кожная спроба падвесьці гэтыя якасьці пад тую або іншую номэнклятуру сумленнасьці і дабрачыннасьці і ахарактарызаваць гэты ўчынак якой-небудзь хадзячай фразаю хвальбы толькі зьменшыла-б іхнюю сапраўдную веліч. Спрабуем бліжэй разабрацца ў гэтым становішчы. Ворагу пашанцавала намацаць нашу батарэю, і от хвілін за колькі ён ужо прыстраляўся да яе. Ён пасылае знарад за знарадам; шрапнэль рвецца адна каля аднае, і жалезны град рассыпаецца ва ўсе бакі і бязьлітасна разносіць на кавалкі ўсё, што трапляецца яму на дарозе. Гудуць «чама-

даны» і з грукатам стукаюцца аб нашы гарматы, ломячы і крышачы іх. Навакол валяюцца забітыя і раненыя; адзін за адным валяцца абаронцы, і толькі адна гармата яшчэ не маўчыць, толькі адзін чалавек застаўся пры ёй. Гэта—Язэп Швэйк, запасны 91-га палка, што бяз страху кінуўся да команды батарэі. Варожыя знарады прагавіта шукаюць новых ахвяр, выюць і рвуцца зьлева і справа, падаюць то бліжэй наперад, то далей назад, але—о, дзіўнае шчасьце!—не пападаюць у яго. Гэта і ёсьць «апошні чалавек пры гармаце»! І хто ў гэтым пекле, у гэтай шалёнай віхуры сьмерці, дзе кожную хвіліну можна загінуць, ня згубіць развагі, той зьяўляецца чалавекам, што мае права на кароткае, але гучнае, як звон, і вялікае імя «гэрой!».

Таму «апошні чалавек пры гармаце» даўно ўжо зьяўляецца ўлюблёнаю тэмаю вялікіх мастакоў-баталістаў,—скончыў волнапісаны Марэк.—Гэта тэма ажыла ізноў у радавым, Язэпе Швэйку, што такім чынам зьдзейсьніў на яве паданьне пра такога гэроя. Гэта ён апошні стаяў каля сваё гарматы, не ўважаючы на сьмяротную небясьпеку; гэта ён набіваў, наводзіў, страляў, ізноў навадзіў і страляў і так далей. Было немагчыма яго перамагчы, немагчыма нават Сьмерці, як і расійцам... І таму цяпер вялікі срэбны мэдаль «за адвагу» ўпрыгожвае ягоныя грудзі.

— Гэта зусім, як з канонірам Ябурэкам,—захоплена адказаў Швэйк,—з тым самым, што пад Кёніггрэцам стаяў каля гарматы і ўвесь час набіваў яе. Паслухай, Марэк, мне здаецца, ты пачынаеш загаворвацца. Калі-б пры Кёніггрэцы гэты Клям-Галяс ня сеў у галёшу, мы канечне перамаглі-б, такія ў нас там былі добрыя салдаты! А ты чуў, што плян гэтае бойкі распрацаваў аўстрыйскаму штабу... прускі генэральны штаб? Нейкі пан капітан Гэпнэр даведаўся пра гэта і, калі ня мог пераплыць Эльбы, застрэліўся. Але ён напісаў сваёй жонцы, як была справа, і таму яго імпэратарская вялікасьць загадала адмовіць ёй у пэнсіі. Тады яна перш кінулася на калені на вуліцы перад яго коньмі і працягнула да яго рукі, каб дазволіў ёй прыйсьці на аўдыенцыю, а потым яе аддалі ў вар'яцкі дом, бо яна хацела абліць імпэратара сярчанаю кіслатою...

— Швэйк, умейце трымаць язык,—параіў яму Марэк.—Вы-ж ня ведаеце, хто нас слухае.

— А няхай слухае, хто хоча!—пакрыўджана адказаў Швэйк.—Яна-ж хацела пакалефыць яго вялікасьць, каб ён больш не ладабаўся Альжбэце. А тая-ж і так ад яго разоў колькі ўцякала, пакуль пан Лукені не закалоў яе ў Жэнэве напільнікам. Напэўна, ён наогул быў злосны на прыгожых жанчын... А ў расійцаў, ведаеш, штыхі таксама падобны да напільнікаў... Ну, а наш імпэратар доўга яшчэ мог-бы жыць з ёю ў непарушным шчасьці і згодзе.

Сумятня ў тавары паволна сьціхала. Салдаты ляглі спаць: у суседняй палатцы хтосьці расказваў:

— Нам трэ' было-б пайсьці да кухара, каб ён нам прынамсі хоць косткі даў пагрызьці. Трэ' было-б пайсьці і сказаць: «Божа ты мой, якія-б мы былі падлюгі, каб нам не хацелася есьці! Бо жывем-жа мы тут, як жывёла, жлукчам адну ваду, і нават няма з кім кахацца».

Але наўкола ня было відаць ні спакою, ні ціхамірнае цішыні летняга вечара. Раз за разам чулася, як грукаталі гарматы, па дарозе грукацелі абозы ды тупацела пяхота ікава лерыя, што, бяз упынку, ішлі цалюткую ноч. Усё гэта нагадвала пра небясьпеку, што чакала нашых ваякаў наперадзе. Таму паручык Лукаш, кладучыся на ахапак сена, сказаў Швэйку на пытаньне, ці ня будзе на заўтра якіх загадаў:

— Пакуль што няма. Бог ведае, што будзе з намі заўтра... Ты ведаеш, Швэйк, што перад намі самае цяжкае? Трэба будзе вытрымаць такую гарачую лазьню, як яе напаляць.

На гэта Швэйк рашуча адказаў:

— Не, пане паручык, я гэтага ня ведаю. Але толькі халодная лазьня нікуды ня варта, бо там ніяк ня выпарышся добра, пане паручык, і я такое ня люблю. Калі ўжо лазьня, дык каб сапраўдная. Дык дазвольце, пане паручык, сказаць, што заўтра будзе відаць, як нас выпараць расійцы!

## НАПЕРАД! НАПЕРАД!

На вайне вялікае значэньне мае сыстэматычнае і паступовае прытупленьне ўсялякіх салдатавых пачуцьцяў, затуманьваньне ягонага розуму ўсялякімі надзеямі.

Калі адарваць звычайнага сярэдняга абывацеля, рамесьніка або гандляра ад ягонай сям'і, ад ягоных заняткаў, ад ягонага штодзеннага жыцьця, так як хлапчукі вымаюць з гнязда маладых шпакоў, і паслаць іх проста на фронт, дзе ім праз дваццаць чатыры гадзіны давялося-б апынуцца перад варожаю арміяй,—дык магло-б здарыцца, што аднае прыгожае раніцы паўарміі вісела-б на хвойках у лесе або на сьлівавых дрэвах пры дарозе. Бо салдаты самі павесіліся-б з роспачы, ня стрымаўшы ўсяго жаху такога хуткага пераходу.

Таму дзейнічаюць павольна; адно ідзе за адным, і доза паступова павялічваецца,—зусім так, як прымаюць аршэнік, пачынаючы з аднае пілюлі на дзень.

Перш—празь казармы і подласьць афіцэраў і паганыя дачыненьні над ашуканскаю маскаю заклапочанасьці; дрэнная ежа і паскудныя нары; страшэнная цесната ў набітых поўна сьмярдзючых вагонах, утома і змучанасьць ад вялікіх пераходаў, і з кожным днём новая надзея, што заўтра ўсё гэта скончыцца, што мо' і не давядзецца трапіць у бой і што ні з кім нічога дрэннага ня здарыцца...

Надзея, што «заўтра ўсё скончыцца», не дазваляе салдатам узбунтавацца або скончыць самагубствам; а тое, што жыцьцё робіцца ўсё больш паганым і ператвараецца ў пекла, спрыяе таму, салдат пачынае не баяцца сьмерці і ў яго зьяўляецца абыякавасьць да сьмерці. Такі духовы стан Гаўлічак, найбольшы чэскі пісьменьнік XIX стагодзьдзя, выказаў такімі славамі:

«Што? Я—аўстрыйскі падданы? Што са мной можа быць яшчэ горшае?»

От чаму, як паны афіцэры сышліся на нараду, а конныя ардынарцы прыляталі адзін за адным і тэлефаністы скручвалі правады, салдаты швэйкавага батальёну сталі ў рады таксама тупа і пакорліва, як бараны перад брамаю разьніцы.

Ніхто не гаварыў ні слова, і ўсе зрабіліся адразу вельмі скрытнымі; а калі раптам наперадзе, зусім блізка, часта загрымелі гарматы, так што зямля дрыжала пад нагамі, а крыху пачакаўшы за імі загулі і цяжкія гарматы, кожны толькі зблажнеў і ўбачыў, што ягоны сусед таксама мяняецца ў абліччы. На трывогу ня білі—ня трэба было. Салдаты самі бралі на плечы ранцы і ва ўсіх зьявілася адна думка: «Потым, як будзем уцякаць, я яго кіну, мучыцца з ім я ня буду».

Потым капітан Загнэр скамандваў: «Зважай!», узьлез на пустую бочку і пачаў прамову.

Ён прыпадаў салдатам прысягу біцца да апошняе каплі крыві за палкавы сьцяг і асабліва падкрэсьліў, што слаўная аўстрыйская армія адкінула расійцаў амаль да старое дзяржаўнае мяжы; яшчэ мэтраў колькі і расійцы на каленях будуць прасіць міру. Ён маліў салдатаў не баяцца; ён праўдзе іх праз жалезныя сьцены і яны няхай захаваюць славу «жалезнага палка», што ніколі не адступаў, але заўсёды меў перамогу. Ён гаварыў, што чым хутчэй даб'юцца пасьпехаў на полі бойкі, тым хутчэй можна будзе вярнуцца да сваёй сям'і, у абнімку каханых жанок і дарагіх дзяцей; ён вытлумачыў, што наш гэройскі саюзьнік кайзэр Вільгэльм (тут узводныя пачалі штурхаць салдат: «Крычэце гура, слава! На-здар!—а не дык будзеце падвязаны!») сваімі славамі. «Яшчэ не асыплюцца лісты, вы будзеце дома!» меў на ўвазе сёголетнюю восень, і што гэта сапраўды так будзе. Вялікіх боек і асабліваё небясьпекі больш ня відаць, бо расійцы ня маюць энарадаў і ім даводзіцца адбівацца кулакамі. Калі хто-небудзь будзе ранены, дык павінен перавязаць сам сябе, а потым ісьці на перавязачны пункт; калі стратэгічныя меркаваньні падкажуць адступаць, і будзе дадзен на гэта загад, дык раненых ня кідаць, а забраць і вынесьці з сабою. Лёгка параненыя не павінны нічога кідаць—усё,

а злашча: карабін данесьці на перавязачны пункт, дзе яго прымуць пад расьпіску.

— Карабін—гэта не абаранак, што можна сьпячы за хвіліні колькі,—горача гаварыў ён.—Калі вы вернецеся без карабіна, дык гэта значыць, што вы кідаеце ў сьмяротную небясьпеку таварыша, у якога нічога ня будзе ў руках, каб бараніцца ад ворага. Хто прынясе карабін, атрымае за гэта пяць крон, а хто яго не прынясе, застанецца пасьля ачуняньня ці сьмерці бяз водпуску. А цяпер яго імпэратарскай вялікасьці, нашаму найласкаўшаму гаспадару гура, гура, гура!

Салдаты без асаблівага захапленьня падхапілі:

— Гура! Гура! Гура!

Капітан Загнэр зьлез з бочкі і дадаў як-бы неофіцыяльна, менш урачыста, а больш па-бацькоўску:

— Старайцеся не папасьці ў палон, бо тады вы, чаго добрага, і праз дзесяць год ня вернецеся з Расіі дамоў. Калі-ж хто з вас загіне ў бойцы, дык удава атрымае за яго трыста крон... А да канца сьвету нам усяроўна не дажыць. А мо' хто з вас хацеў-бы жыць вечна?

Ён абвёў салдат вачыма і яго погляд спыніўся на Швэйку, таму Швэйк выступіў з радоў і, казырнуўшы, адрапартаваў:

— Дык дазвольце паведаміць, я не хачу!

А потым пачулася команда: «Наперад... марш!» і батальён рушыў у дарогу, і кожнай роце далі іншы кірунак. Гарматы грымелі часьцей і галасьней. Стрэлы чуліся адзін за адным. Праходзячы каля батарэі, было відаць, як пасьля кожнага стрэлу дрыжала паветра і гармата падскоквала ўгару; артылерысты паскідалі курткі; закасаўшы рукавы, працавалі з усёй сілы і пот ліў з іх цурком...

Швэйк крочыў поруч з Балунам ззаду за паручыкам Лукашам; тоўсты млынар склаў рукі на ладунку і маліўся, а Швэйк цешыў яго:

— Ды ты ня бойся, нябога. Ты-ж чуў, як пан капітан казаў, што калі цябе заб'юць, то твая жонка атрымае за цябе трыста крон. За варону лясьніку даюць дзесяць гэлераў, за тхора або куну—крону, за ліса—пяць. Так яно і вылічана, што трыста крон удаве за мужа і сіротам за бацьку зусім даволі!

Раптам гарматы забухалі дзесьці далёка наперадзе і над галавамі салдатаў з віскам праляцеў снарад. Тыя, што першы раз трапілі ў бой, з цікавасьцю азірнуліся, а бывалыя запэўнілі іх:

— Гэта з шаснаццаці- або восемнаццацісантымэтроўкі: пакуль ён ляціць над намі, дык нам можна не шманаць. Ну, а калі такая цацка бухне між намі, дык вы так і пакоціцеся... з рогату, хлопцы.

Тымчасам Швэйк далей выкладаў свае думкі ў пытаньні пра ўзнагароду за забітых у бойцы.

— Трыста крон,—гэтага зусім даволі,—казаў ён.—Гэта якраз цана сярэдняга бычка. А каб-жа ты зваліўся дома ў млыне ў вір і ўтапіўся, дык тваёй жонцы ня толькі нічога не далі-б, але ёй яшчэ давялося-б хаваць цябе за свае грошы. І то-ж праўда: яна-ж можа, калі па табе дастанецца ёй млын, добры млын і без даўгоў, яшчэ падхапіць каго-другога, бо паважную жанчыну, сумленную ўдаву, з добрым млыном у дадатак, кожны ахвоча возьме. І хто ведае, ці ты так абыходзіўся з сваёю жонкаю, як такая добрая жанчына і жонка таго варт была? От я табе раскажу, Балун, які выпадак быў у праскім магістраце. Хадзіла туды атрымліваць дапамогу нейкая Андруля Проўс з Францішкавага пляцу, работніца з Малеравае папяровае фабрыкі на Бубне; і от аднаго разу касір ёй дапамогі не дае, а глядзіць на яе з жалем, каўтае сьліну і кажа: «Вы, калі ласка, пані Проўс, ня пужайцеся, а толькі дапамогі вы больш не атрымаеце. Я маю сказаць вам сумную вестку: мужыка вашага забілі на сэрбскім фронце. От атрымайце аднаразовых трыста крон». Тут Андруля Проўс склала рукі, як на малітву, сьлёзы ў яе з воч—цурком і яна як расплачацца: «Дзякуй табе, божа, дзякуй табе! Ужо я і ня ведаю, пане мой, як вас і дзякаваць, што вы мяне так зацешылі. Значыцць Вашэка і сапраўды забілі? От радасьць, што вы, пане мой, даеце мне за яго трыста крон. Я ад яго, праклятага, за ўсё жыцьцё столькі грошай ня бачыла. Дык, значыцца, яго, сакоміка майго яснага, душачка ўжо супакоілася? Ён, ці ведаеце, мой пане, перад ад'ездам так мяне зьбіў, што ў мяне і да гэтага часу сінякі на плячох і на руках не загаіліся. Во, зірнеце!» І яна скінула з сябе блюзку і паказала касіру рубцы, што засталіся пасьля мужыковае бойкі. Але тады другая баба ўзьняла

гвалт, каб яна ня трывожыла касіра, бо ён можа памыліцца, выдаючы дапамогу. Адна нават стала перад касаю на калені і пачала маліць касіра даць ёй трыста крон, мужа яе няхай заб'юць. Пасьля-ж выявілася, што гэта зусім і ня жонка, а якаясьці Сэрынэк і атрымлівае дапамогу за якогасьці Франца Сланаржа, тачыльніка з Лібэня; яна была толькі ягонаю палюбоўніцаю, прыдабыла ад яго двое дзяцей, а ён кінуў і пачаў круціць з аднэю работніцаю з цягельні ў Прошэку. Можа, твая жонка таксама...

Але тут Швэйку мусіў спыніцца: высока над іх галовамі разрывалася шрапнэль і па дарозе ўзьняўся пыл ад упаўшых на зямлю куль. У задніх радох адзін салдацік схапіўся за плячо, з якога пабегла кроў, і бягма кінуўся назад.

— Пашанцавала хлопцу!—сказаў хтосьці ззаду за Швэйкам. Але ўжо разарвалася другая шрапнэль і яе візг прарэзаў высокі, гучны голас паручыка Лукаша:

— Рота, слухай! Гужком—наступай! Раўняцца на першы разьдзел!

Пад страшэнную лаянку ўзводных, што рассоўвалі салдатаў улева і ўправа, рота пачала рабіць перабежкі. У трэцім разьдзеле фэльдфэбэль злосна піхнуў салдата і зароў:

— Наперад... тваю... Ня ведаеш, як гужком наступаюць?

— Да душы ня ведаю,—плачучы, адказаў салдат.—Я з апалчэнцаў, два тыдні ў роце, дый тыя праляжаў увесь час у шпіталі—грудзі хворыя. Я ня з гэтага палка, я быў у 42-м, а там мяне толькі вучылі адказваць: «Шэф імпэрска-каралеўскага 42-га пяхотнага палка ёсьць эрцгэрцог Фрыдрых Кумэрлянскі-Бруэвільскі-Люмбурскі».

— Маўчы! Езус-Марыя, нам прысылаюць дзяцей, якім яшчэ нянька трэба!—у роспачы хапіўся за галаву фэльдфэбэль.

Салдаты, рассыпаўшыся, ішлі далей. Тыя, што ня ведалі, бо былі ня вывучаны, што ім рабіць, глядзелі на бывалых і на разьдзельных. Шрапнэль налятала роўнымі інтэрваламі, высыпаючы, аднак град сваіх куляў ззаду за наступаючымі.

Паручык Лукаш, падпаручык Дуб і кадэт Біглер ішлі, відаць, бяз страху на чале, з чаго спрактыкаваныя салдаты зрабілі вывад:

— Значыцца, мы, хлопцы на падтрымку, наперадзе яшчэ

хто-небудзь ёсьць. Бо як справа пачнецца сур'ёзная, дык паны афіцэры кінуцца назад.

Рота дайшла да сенажаці, сярод якое бегла ручаінка, зарослая кустамі вербалозу. Над галовамі загуў аэроплян і паручык Лукаш скомандаваў:

— У кусты заляж! Хутка за прыкрыцьцё! Ён будзе кідаць бомбы.

Вялізны птах трашчаў, робячы кругі, дзесьці высока ў небе, потым павярнуў і паляцеў паўз гужок управа. Да Лукаша падбег ордынарац ад капітана Загнэра, што залёг з сваёю ротаю ў полі каля дарогі.

— Ляжаць, пакуль ня будзе новага загаду!—скомандаваў паручык Лукаш.

Салдаты зачэрпалі бляшанкамі вады з ручаю і напіліся; потым яны ляглі дагары і пачалі меркаваць, хто гэта перад імі.

— Сёньня або найпозьней заўтра нас добра скубянуць,— сказаў адзін, а другі запярэчыў:

— Ну, ужо і скубянуць! Гэта проста які-небудзь невялічкі расійскі ар'ергард, што прыкрывае іхні адступ.

Поруч са Швэйкам ляжаў дробненькі, увесь у рабацініньні салдацік; як паручык Лукаш крышку адсунуўся ў бок, ён дастаў з хлебнага мяшка расійскі патрон і пачаў раскалупваць яго штыхом. Пасьля дастаў кулю, высыпаў порах з патрону сабе на далонь, потым перасыпаў так із палову назад і іэноў забіў кулю тупым бокам штыха.

— Што гэта ты робіш?—запытаўся ў яго Шзэйк.—Так-жа ён ня выстраліць?

— Супакойся, браток, выстраліць!—адказаў салдацік.— А ўсяго пораху там нельга пакінуць, бо гэта жыў-бы вельмі вялікі набой і мог-бы адарваць усю лапу. Калі, дай божа, расійцы пачнуць нас абстрэльваць, пакуль мы яшчэ тут, я ў кустах і выстралю сабе ў руку, і ніхто гэтага не заўважыць, а потым гайда на перавязку! Я ўжо маю сапраўдную рану ў жывот, дык другую такую меці мне зусім ня хочацца. Плюю я на ўсю вайну. Чалавек павінен быць практычным. Намачы кавалак брэзэнту, павяжы ім руку і страляй сабе на здароўе ў яе расійскім патронам—найлепшы пралаза-доктар не разьбярэцца. Так, браток

ты мой, я ўжо паўгода быў на фронце, усяго нагледзеўся, і мяне ўжо нялёгка ашукаць.

— Яшчэ лепш, калі на нагу палажыць бохан хлеба,—уступіў у гутарку другі салдат.—Казённы хлеб выцягае ўсю гразь, порах і дым з раны, а костка прастрэльваецца вельмі гладка.

— Не, браткі, лепш за ўсё дзёран,—дадаў трэці.—Трэба акуратна выразаць добры кавалак густога дзёрну, моцна абвязаць яго на сабе, і тады страляй хоць люўным аўстрыйскім—застанецца толькі зусім роўненькая дзірачка. Расійская куля вельмі хутка круціцца ў дуле, дык можа раскрышыць костку.

— Мне мой брат, што быў на італьянскім фронце, пісаў з лазарэту, што ў іх салдаты робяць сабе такія рэчы каменьнем,—пачуўся чыйсьці голас з кусту.—Яны кладуць адну руку на камень, а другою б'юць па ёй таксама каменем. Мой брат пісаў, што ён такім чынам леваю рукою адбіў сабе ўсё мяса з правае аж па локаць і што ў яго рука адсохне. Так, так, у яго характару хопіць.

— А на вошта табе калечыцца?—адгукнуўся куст з другога боку?—З вамі і так нічога ня будзе. Не страляйце, што-б з вамі ні здарылася—і ўсё па ўсём! От я пяць месяцаў быў на фронце, быў восем раз у бойцы і ня выстраліў ніводнага патрону. Не забівай і цябе не заб'юць, не калеч іншых і сам будзеш цэлы. Над намі—лёс, і лёс справядлівы!

Голас чалавека, што гаварыў апошні ўяўляў з сябе найпрыгажэйшы квет чалавечае культуры; салдат, якому ён належаў, быў больш за найвыдатнейшага мастака, скульптара, поэта, узятых разам.

У Швэйку тая акалічнасьць, што салдат не страляў, узбудзіла жывую сымпатыю; ён з прыемнасьцю распытаў-бы яго дакладней, але вярнуўся паручык Лукаш, пасьля таго, як да яго ізноў зьявіўся ордынарац, і адразу скомандаваў:

— Наперад! Раўняцца на мяне!

Шрапнэлі сыпаліся радзей, перастрэлка пачала сьціхаць, і салдаты ізноў гужам рушылі наперад па сенажаці, перайшлі заселнае поле і пачалі падымацца па схілу на ўзгорак. І тут яны ўбачылі малюнак бойкі, што катадзе скончылася: горы трупаў расійскіх салдат. Ніводнага аўстрыйскага, бо вышэйшае начальства і тут старалася ўплыць псыхолёгічна. Пакуль салдат

сам не трапляў у бойку, ён павінен быў уяўляць сабе малюнак бойкі ў стылі рынкавых абразкоў: гінуць адны варожыя салдаты, а нашы страляюць усіх, колюць, даганяюць па пятах і выходзяць з гэтае кашы бяз ніякіх страт, бо іх бароняць легіёны анёлаў-абаронцаў і за іх моліцца ў сваім вялікім палацы стары монарх.

І от трупы расійскіх салдатаў валяліся па ўсім адхонку. Яны ляжалі разутыя, наўзнак, на баку, ніцма, так, як захапіла іх сьмерць, і страшэнна вышчараныя зубы і пачарнелыя абліччы павінны былі абуджаць адвагу ў аўстрыйскай арміі.

Швэйк увесь стуліўся, пабачыўшы такі жахлівы малюнак, але потым зірнуў уважлівей і зьвярнуўся да вольнапісанага Марэка:

— Няўжо іх так і закапаюць? Не пасыплюць нават няпаленаю вапнаю—от, маўляў той, вам, браткі, за вашу працу! На маю думку, за гэту справу павінна было-б узяцца Праскае хаўтурнае бюро і прысылаць сюды дамавіны. Бо нават непагаблёваныя дошкі цяплейшыя, як адна кашуля, у якой іх тут хаваюць.

А Марэк адказаў як праз сон:

— Добра было-б узяць змочаны брэзэнт або густога дзёрну... А мне, Швэйк, гэтае ночы сьнілася, што я паехаў у водпуск. Маці мая зварыла варэнікі, паставіла іх на стол і я пачаў есьці. Раптам прыходзіць наша дворнічыха і кажа: «Пані, а дзе ваш сын? А мяне за міскаю з варэнікамі зусім і ня відаць. Ну, я вышаў, а дворнічыха прывіталася са мною і пытаецца: «Як-жа так, малады пане, вы ўсё яшчэ на фронце? Усе паважаныя людзі ўжо або ў шпіталі або ў Расіі. Відаць, і вам таксама ня ўстояць?» Швэйк, ці верыш ты, што сны бываюць прарочыя? Я—веру! Гэта вайна мне зусім не па сэрцы, і я напэўна пачаў-бы зьяўляцца эданьню, каб мяне закапалі босым і голым.

Швэйк, таксама ўзрушаны малюнкамі бойкі, зусім наперакор усякай логіцы, адказаў:

— У дзёрн я ня веру, але з брэзэнтам яно, магчыма, было-б някепска... Добра, я табе намачу брэзэнт ды і сам яшчэ адвяду на перавязачны пункт.

Далей па адхонку расла рэдзенькая бярозавая кудзерка. Дайшоўшы да яе, Швэйк ледзь ня крыкнуў ад зьдзіўленьня: у ёй

было паўнютка салдат. Тут зьбіліся ў кучу немцы, гонведы, басьнякі, сьпешаныя драгуны, некалькі командаў мінамётнікаў, гусары і пяхота з пятліцамі ўсялякіх часьцей. Як яны селі на адпачынак каля басьнякоў, тыя прывіталі іх словамі.

— Такую вашу матку, хутка пойдзем у атаку, а потым усім нам выдадуць рому. Бяз рому няма і атакі.

Наперадзе ня сьціхала страляніна з карабінаў і шалёная траскатня кулямётаў; расійская артылерыя ізноў пачала абстрэльваць кудзерку шрапнэльлю. Але хутка яе агонь аслабеў.

— Яны ня маюць знарадаў,—шапнуў падпаручык Дуб паручыку Лукашу,—яны сёньня ізноў пабягуць. Мы ім паддамо пары.

— Пакуль што яны яшчэ не бягуць,—запярэчыў падпаручык. Справа, відаць дойдзе да штыхоў. Швэйк,—завярнуўся ён назад,— не забудзьцеся, што вы ордынарац, і будзьце каля мяне. А ты, Балун, глядзі, ня ўздумай уцячы з усімі консэрвамі. Калі я буду ранены, ты паедзеш са мною ў тыл.

Выявілася, што басьнякі маюць добры нюх; не пасьпела сонца схіліцца на захад, як за ляском зьявіліся хурманкі з бочкамі. Раздавалі ром. Узвод за ўзводам падыходзілі са сваімі бляшанкамі да бочак, і хто пасьпяваў выпіць і падыйсьці яшчэ раз, атрымоўваў другую порцыю. Уплыў рому адразу-ж сказаўся. Настрой значна палепшаў. Мацерная лаянка басьнякоў так і вісела ў паветры. Немцы засьпявалі Ich hatt einen Kameraden, а ў чэхаў адзін ахмялелы салдат устаў і, трымаючыся за бярозу, пачаў раўці:

Дзе пад Красьнікам, ля Сану,
Бор узьняўся хмуры,
Няжывых братоў каханых
Вал ляціць, як бура...
Мая хата так далёка...
Ах, сьлява туманіць вока...
Ці пабачу родна поле?
Шэпча сэрца: ой, ніколі!..

— Ну, ну, не раві, як старая шлюндра!—заўважыў хтосьці ззаду і тузануў сьпевака на зямлю.

Як зьмеркласяся, пачулася каманда: «Наперад! Наперад!» і ўся маса заварушылася. Людзі, зусім п'яныя, ішлі ўміраць за

бацькаўшчыну і славу імпэратара. Яны былі ў такім стане, пра які «Прэсбюро» пісала: «Наша армія ўзбуджае агульнае захапленьне сваёй адвагаю і вялікаю самаадданасьцю. Яна гэроічна і сьмела кідаецца ў атаку, поўная высокага вайсковага духу».

А гэты «дух», якім вышэйшае камандваньне паіла сваіх слаўных салдатаў-ваякаў, выраблаўся на ўсіх браварных заводах ад Судэцкіх гор да Адрыятычнага мора халодным і гарачым спосабам з бульбы. І паны капіталісты так добра зараблялі на гэтым продукце, што яны дастаўлялі ўраду, каб атрымаць перамогу над ворагам, што пасьля вайны, купляючы сабе новыя заводы, палацы і маёнткі, яны маглі гаварыць:

— Усё гэта вынікі вайсковага энтузіязму і вайсковага духу!

Гарэлка туманіла галаву і сьляпіла вочы; на сьвеце нішто не здавалася страшным, усё можна было дасягнуць—алькоголь рабіў сваю справу.

Няроўнымі, ламанымі, хвалістымі лініямі ішлі шэрагі салдатаў у наступ і іх падганялі заядлыя крыкі.

— Наперад! Наперад!

Гулі кулі і сьвісталі ўсё мацней, праразьлівей і ніжэй навокала, як нябачныя мухі, з мяккім: «ці-юу, цьфі-юууу» ля самых вушэй, так што Швэйк мімаволі адмахнуўся:

— От назаляюць, праклятыя!

— Наперад! Наперад!—пачулася дзесьці зусім блізка за ім, і ён пазнаў голас капітана Загнэра.

— Наперад! Наперад!—крыкнуў таксама аднекуль ззаду паручнік Лукаш.

Швэйк азірнуўся, але ня ўбачыў ніводнага знаёмага чалавека; наўкола былі ўсё чужыя аблічны. Нейкі тоўсты, здаровы немец заўважыў, што Швэйк пазірае назад і штурхнуў яго локцем ды злосна і саркастычна заўважыў:

— Ты, таксама, відаць хацеў-бы трымаць фронт ззаду? Ды гэта табе ня ўдасца, мілы! Гэта толькі паном афіцэрам дазваляецца!

— Ня ў тым справа, камрад,—адказаў Швэйк.—Але таму што я ордынарэц, дык я павінен, калі што здарыцца з маім паручыкам, бегчы яму на дапамогу. А гэты асёл, Балун, напэўна, ужо даўно згубіўся ў гэткай сумяціцы.

У тэты момант у пярэднія рады трапіў знарад; сноп агню вырваўся з зямлі, цяжкі, задушлівы дым заслаў усё наўкола, а зямля задрыжала так, што Швэйк зваліўся з ног.

Ён застаўся ляжаць у той час як усе наўкола яго разьбегліся ў бакі; потым, абмацаўшы сябе, ён сказаў:

— От гэта я называю фэервэркам! Ён будзе лепшы, як той, што пускаў на Купальле пан Гаек на Стралецкай высьпе. Толькі ня трэба, каб былі такія выбухі. Так можна каго-небудзь і забіць.

Ланцуг стральцоў ізноў выраўняўся. Крыкі «наперад, наперад!» рабіліся ўсё больш дзікімі і ашалелымі, яны зьліваліся ў адзінае зьвярынае выцьцё. Салдаты валіліся і ізноў кідаліся наперад, нібы іх хто падганяў ззаду бізунамі. Знарады разрываліся ўжо за іхнімі радамі. Швэйк устаў на ногі і дабег да кусту шыпшыны, што рос з краю поля. Там ён ізноў залёг. Хутка да яго падбег мадзьярскі афіцэр з рэвольвэрам у руках і папнаў яго наперад. Швэйк заўважыў, што за салдатамі ідзе ззаду ланцуг афіцэраў і палявых жандараў.

«Гэта-ж якраз, як на поліцэйскай аблаве,—падумаў ён,— як поліцыя шукае каго-небудзь у Празе». І прыдаўшы кроку, сказаў афіцэру:

— Я толькі чакаў тут майго пана паручыка. Вы, калі ласка, не хвалюйцеся, бо я і сам ведаю, што строгасьць усюды патрэбна. А злашча тут у бойцы.

І ён ізноў зьнік у натоўпе. Нарэшце ён зваліўся ў нейкі акоп, дзе запальчыва адстрэльваліся некалькі зусім зморанных і ашалелых салдатаў. Але толькі ўправіўся ён ускочыць, як пачуўся загад:

— Рота проста на ворага, страляй!

Карабіны заляскалі і тысячы кароткіх бляскаў агеньчыку асьвятлілі цемень. Хвілі яз дзесяць ішла страляніна, з чвэрць гадзіны ляцелі шрапнэлі і гарматы з акопаў. Потым агонь узмацніўся на флангах, а ў цэнтры паводле каманды: «Агонь спыніць!» змоўк.

І цішыню ізноў усхваляваў загад:

— Насадзі штыхі! У атаку! У атаку! Наперад! Наперад!

Уся гэтая чалавечая маса рынула на акоп, каб кінуцца і штыхамі ў жывот і грудзі дабіць тых, каго не чапілі кулі, шрап-

нэлі і асколкі знарадаў. Ледзь пасьпелі людзі вылезьці з акопу, як пачала страляць аўстрыйская артылерыя. Чутно было, як хтосьці крычаў у паляны тэлефон:

— Заслонны агонь! Шрапнэльлю!

Вайсковая тэхніка была дасканала: каму мала было аднаго рому, каб быць сьмелым, таму дапамагала свая-ж артылерыя, што расстрэльвала тых, хто адступаў.

Швэйк захапіў агульны паток. У некалькі хвілін салдаты перабеглі невялікую адлегласьць, што іх аддзяляла ад другое лініі расійскіх акопаў. Але гэтыя акопы былі ўжо пустыя. Апроч забітых і раненых, што валяліся тут усюды, ня было ніводнага варожага салдата—усе ўправіліся ўцячы.

— Не затрымвацца! Наперад! Наперад!—крычалі афіцэры. Салдаты пераскочылі цераз акоп і пабеглі далей у цемень. Швэйк застаўся адзін сярод раненых.

— Што, хлопцы, атрымалі на арэхі?—спачуваючы прамовіў ён, уліваючы ім у рот крыху вады з баклажкі.—Што-ж вы раней не ўцякалі? З нашаю пяхотаю, ведаеце, жарцікі кепскія. Ды што салдаты,—і цывільны чалавек, калі ён п'яны, можа зрабіць другому цяжкую рану на целе.

Хутка рэшта салдатаў вярнулася назад. Расійцы скарысталі цемень, зьніклі, бы ў ваду, а салдаты, выцягваючы з акопу забітых і раненых і перадаючы іх санітарам, лаяліся:

— Чорт ведае, гэта-ж, значыць, заўтра з раніцы нам давядзецца ізноў гнацца за імі! Цяпер яны, можа, і да самае Масквы ня спыняцца. Кажуць, немцы ўжо ў Варшаве. Адным словам, калі мы іх кожны дзень так паскубём, дык ім хутка аман.

— А ці шмат іх яшчэ засталося, камрад? — запытаўся Швэйк.— Добра было-б разьдзяліць іх на роўныя часткі на кожны дзень, аж да канца вайны. На кожны дзень пэўная порцыя. Бо ня добра зьесьці ўсё зараз. От у Младай Болеславе ў ашчаднай касе служыў касір, нейкі Вільд, дык ён таксама не адразу, а павольна, сыстэматычна краў з касы, каб ніхто не заўважыў. І ўсё-ж, хоць ён і пакрысе краў кожны дзень, але абабраў касу да грошыка. Або от яшчэ пан Дрозд у каталіцкай ашчаднай касе пры царкве сьв. Венцэслава, пра якую шмат пісалі ў газэтах; ён таксама краў, памалу і асьцярожна, так што

нават і сам сьв. Венцэслаў нічога не заўважыў, да часу, як каса стала пустою. Адным словам, ня трэба разяўляць адразу, нават калі хочаш праглынуць увесь сьвет, бо так лёгка вывернуць сабе пашчанкі. Спакойнае панаваньне яго імпэратарскае вялікасьці цягнулася пяцьдзесят год, пакуль падрыхтаваліся да вайны. А пан Дрозд у Венцэслаўскай касе краў чатырнаццаць год.

Нейкая постаць праціснулася да яго і з крыкам: «Швэйк, ты таксама яшчэ жывы?» кінулася яго абнімаць.

— Так так, я яшчэ жыву!—зазызяў Швэйк.—А з табою, Марэк вольнапёр, таксама нічога ня здарылася? А я думаў, што больш ніколі цябе ня ўбачу, што цябе зацягнулі ў шпіталь.

— Капітана Загнэра санітары, сапраўды, панесьлі,—сказаў хтосьці поруч з імі.—Яго, кажуць, контузіў знарад.

— Маўчаў-бы ўжо, калі ня ведаеш!— перабіў яго другі.— абавязкова ўжо знарад! Проста ён мае пілюлі, ад якіх чалавек адразу траціць прытомнасьць; гэта яму даў наш доктар. Я яго ўжо тры разы бачыў у бойцы і ніколі ён далей першага акопу не заходзіў. Ён траціў прытомнасьць і яго ў такім стане прыносілі ў палявы шпіталь. Што-ж, афіцэрам жывецца нядрэнна, яны маюць знаёмых дактароў. А от наш брат ня трапіць дахаты, пакуль не прынясе на перавязачны пункт пад пахаю сваю ўласную галаву.

А Марэк дадаў, нахіліўшыся да левага швэйкавага вуха:

— Я таксама чуў ужо пра гэтыя самыя пілюлі... А я, ведаеш, ня маю сьмеласьці зрабіць сабе якое-небудзь калецтва. А тут чалавека ўсяроўна заб'юць.

— Ну, пажывём, убачым!—паважна сказаў Швэйк.—Я думаю, што нам трэба цяпер крыху заснуць. А што робіцца там, наперадзе? Што вы там бачылі?

— Ды нічога,—адказаў, пазяхаючы, Марэк,—толькі тры расійскія гарматы, ды некалькі кулямётаў. Мы іх там і кінулі, бо нікому ня хочацца займацца з імі. Вох, як мы стаміліся!

Ён падняў каўнер шынэлі і адразу заснуў. Швэйк яшчэ хвілінку пакурыў, а як капрал загадаў яму ісьці ў каравул, ён моўчкі ўзяў карабін, вылез з акопу і пашоў наперад, куды яму паказаў капрал.

Прайшоўшы ўсяго крокаў колькі, ён на нешта насунуўся і пры сьвятле свае люлькі зірнуў на зямлю. Перад ім ляжала нейчая адарваная нага ў высокім боце, разам з жыватом і кавалкам кішкі, што абвіўся каля халявы.

— Небарака,—спачуваючы прамовіў Швэйк,—відаць, табе давядзецца за два разы зьявіцца на той сьвет. Ну, прынамсі санітары з табою ня мучыліся; добра, калі яны не клянуць чалавека па сьмерці.

Ён запрапанаваў салдату, што прышоў яго замяніць, легчы спаць, а сам пашоў далей. Хутка ён разглядзіў у цемені тры гарматы, дула якіх былі павернуты ў тым кірунку, адкуль наступалі аўстрыйцы, недалека каля іх стаялі два кулямёты.

— Бачыў ты, яны ў іх на колцах,—зьдзівіўся Швэйк.— Гэта яны добра дадумаліся—прынамсі, ня трэба цягнуць іх на плячох.

Ён упрогся ў пастромкі аднаго кулямёту, а другі зачапіў за заднюю частку. Гайда—пашлі!

Колы заскрыпелі, і Швэйк вярнуўся на сваё месца. Ён застаўся на варце, пакуль яго праз гадзіну не зьмянілі, дацягнуў абодва кулямёты да свайго акопу і заснуў каля іх моцным сном.

Толькі пачало шарэць, акопы ажылі; карпалы груба будзілі тых, хто заспаўся, і крычалі:

— Уставай! Кожны варочайся ў сваю частку. Хто з 91-га— ўправа. З 66-га гонвэднага—у тыл зьмяняцца.

Швэйк пабудзіў Марэка, а потым вылез з акопу, ізноў упрогся ў кулямёты і пацягнуў іх управа, дзе хутка ўбачыў паручыка Лукаша, што прыняў каманду над батальёнам ды ізноў яго сформаваў. Неставала шмат людзей, і зьдзіўленьне Лукаша было зусім шчырае, як перад ім раптам зьявіўся салдат, што аддаў чэсьць левай рукою, а ў правай руцэ трымаў шлейку, да якой былі прывязаны два кулямёты,, і ён пачаў рапартаваць:

— Дык, пане паручык, маю гонар зьявіцца—радавы Швэйк, ардынарац. Асаблівых здарэньняў ніякіх ня было, а бой мы выйгралі як мае быць. Гэтыя два кулямёты я адбіў учора пры наступе. толькі яны дрэнна змазаны і колы скрыпяць. Дазвольце сказаць, што я хацеў-бы прысьвяціць гэтую вайсковую здабычу майму палку, каб ён зазьзяў большаю славаю ў газэтах.

— Швэйк,—прыкрыкнуў на яго паручык, стараючыся захаваць сур'ёзнасьць,—а вы ведаеце, што чакае ордынарца, які ў часе бою пакінуў свайго начальніка? Расстрэл!

— Не, пане паручык, ня ведаю, — дабрадушна адказаў Швэйк.—Але толькі дазвольце паведаміць, пане паручык, я чакаў вас, бо ведаў, што вам без мяне будзе страшна і сумна; а тут нейкі незнаёмы пан паручык гусарскага палка хацеў мяне нават застрэліць з рэвольвэру. І яшчэ дазвольце паведаміць, што мы бой выйгралі бяз чужое дапамогі, а я цяпер ўжо ад вас ні на крок не адыйдуся, пане паручык... Адважыўся запытацца, сёньня ізноў ром будуць выдаваць?

— А, пане Швэйк?—пачуўся ў гэты момант голас падпаручыка Дуба.—Дзе гэта вы загінулі? Я ведаю, што вы нават ніводнага патрону ня выстралілі, і вельмі дзіўлюся, што ня чую, што пан Швэйк ужо перабег на расійскі бок.

Швэйк зірнуў на Дуба, гатовы даць адказ, але паручык Лукаш папярэдзіў яго; паказваючы на швэйкаву вайсковую здабычу, ён рэзка сказаў Дубу:

— Швэйк—адважны салдат, і я падам рапарт, каб яго ўзнагародзілі малым срэбным мэдалем. Учора ўвечары ў часе атакі ён адбіў два варожыя, вось тэтыя кулямёты.—І зьвярнуўшыся да Швэйка, упаўголаса дадаў:—Маўчы ўжо, ідыёт! Дзе гэта ты знайшоў гэтае старае ламачча, што прыцягнуў сюды?

Але Швэйку так і не давялося адказаць. З другога боку раптам загрымела канонада і тры варожыя знарады разарваліся так блізка, што Швэйк схапіўся за галаву і крыкнуў:

— Дык, пане паручык, дазвольце паведаміць, што расійцы страляюць з тых самых гармат, ад якіх я ўчора павёз гэтыя кулямёты. Начай ня можа быць.

— Як? Вы нават адбілі гарматы?—запытаўся паручык Лукаш.—Чаму-ж вы пакінулі іх на месцы?

— Ды таму, пане паручык,—уздыхнуў Швэйк,—што я адзін ня змог-бы рушыць гармату з месца; гэта, выбачце, нават пары коняй не пад сілу.

Агонь расійцаў узмацняўся і рабіўся напружаным; праз паўгадзіны зьявіліся рэзэрвы, што павінны былі падтрымаць іхні наступ. Яны ішлі густымі колёнамі, спакойна і рашуча, тупа і па-

корліва, нібы ім усё навакольнае было абыякава, і ўліваліся ў перадавую лінію.

«Гэта яны рыхтуюцца да контратакі або да глыбокага абходу нас з флангаў,—падумаў паручык Лукаш.—Відаць, адступаць ім абрыдла».

Ягоныя прыпушчэньні, як выявілася, мелі сэнс. Варожыя рады раптам укрыла раскацістае, як грымоты, «урааа!» і расійцы кінуліся ў атаку.

Батальён уздрыгануў, але вытрымаў іхні наскок. Расійцы адступілі назад, але каля паўдня іхняе «ура, ура, ура!» ускалыхнула паветра, і паручык даў загад адступаць.

Аднак салдаты пачалі ўжо адступаць і бяз гэтага загаду. На ўсіх схілах і ўзгорках, як хапіць вокам, зьявілася расійскае войска, нібы саранча, і рота гонвэдаў, якую прызначылі прыкрыць адступленьне да таго моманту, як расійцы падыйдуць блізка і змятуць яе, ледзь магла не дапусьціць паніку. Як толькі салдаты пачулі каманду Лукаша: «назад! назад!», яны з радасьцю адзелі шапкі брылямі на патыліцу і адразу павярнуліся ўцякаць.

— Цяпер мы ізноў будзем з тыдзень наступаць такім чынам,—крычалі жартаўнікі.—Глядзеце, хлопцы, усё чарнютка ад іх. Намазвай пяты заячаю тлустасьцю, браткі, і давай лататы!

Так уцякалі яны да абеду. Пасьля адступленьня спынілі немцы, якіх тэрмінова перакінулі на грузавіках у месца прарыву, нібы палажылі вату на глыбокую рану. У гэты час батальён, дзе быў Швэйк, дакаціўся да нейкае станцыі, дзе ярка гарэў інтэндацкі склад і патражаў падпаліць цягнік, што стаяў воддалей напагатове.

Расійцы спыніліся, каб сабраць з сілы. Пад вечар яны ізноў пачалі наступ. Артылерыя ўзьняла страшэнную страляніну, пад прыкрыцьцем якое яны ўсё бліжэй і бліжэй падступалі да аўстрыйцаў. Лінію фронту нельга было ўтрымаць; яна захісталася і пачала павольна падавацца назад. Прышоў загад захапіць станцыю; батальён пашоў туды, але расійская артылерыя адразу накіравала на станцыю свой агонь, і цягнік ледзьве ад'ехаў цэлы.

— Утрымаць станцыю, каб тут няма ведама што!—загадаў паручыку Лукашу начальнік брыгады праз свайго ордынарца.

— Скажэце начальніку брыгады, каб ён сам прышоў трымаць яе,—накінуўся паручык Лукаш на ордынарца.—Тут ня толькі што чалавек, але і кот ня ўтрымаецца.

Але батальён падышоў бадай да самае станцыі, але артылерыя, што добра прыстралялася, асыпала яе градам знарадаў. Салдаты разьбегліся, і Лукаш мог толькі лаяцца:

— Каб яе чорт з гэтаю комэдыяй!

— Дык дазвольце паведаміць,—крыкнуў яму ў самае вуха Швэйк,—што наш чацьверты разьдзел увесь перабілі. Пана падпаручыка Дуба...

Знарады сыпаліся над імі, разрываліся, засыпалі іх зямлёю, і Швэйк, напружыўшы свой голас да пякельнага рову, закрычаў:

— Дык, пане паручык, здаецца мне, што лепш за ўсё было-б нам уцякаць адгэтуль. Яны, халеры, страляюць проста ў нас.

Салдаты разьбягаліся цяпер ужо цэлымі трупамі, нізка прыгінаючыся да зямлі. Толькі далёка ззаду за станцыяй, у хваёвым лесе, удалося спыніць іх і павярнуць тварам да ворага. Яны ляглі, павыкапаўшы сабе рыдлёўкамі ў мяккім грунце няглыбокія ямкі. Потым зрабілі пераклічку па аддзелах, і калі выявілася, што ў другой роце не стае амаль цэлага чацьвертага аддзелу, Швэйк вышаў да батальённага Лукаша і, аддаўшы чэсьць, адрапартаваў.

— Дык, пане паручык, дазвольце паведаміць, што мы ня мелі часу падабраць пана падпаручыка Дуба, як загадаў нам капітан Загнэр, што трэба падбіраць раненых. Мы яго да самага вечара не падабралі-б, бо ў яго папаў знарад і разарваў на тысячу кавалачкаў.

— Дык за гэтым разам згубіў сваю галаву Дуб. Пра гэта ягоны «пан начальнік акруговае ўправы», відаць, нічога не гаварыў!—падумаў сам сабе паручык Лукаш, а ўголас запытаўся:—Дзе гэта было? Там каля станцыі?

— Так, яго там сустрэла гэтакае няшчасьце—адказаў Швэйк,—калі-ж расійцы так сыпалі, што... Езус-Марыя!—закрычаў ён раптам.—Я-ж там згубіў сваю люльку.

Ён пачаў шукаць ва ўсіх сваіх кішэнях, пераглядзеў мяшок з рэчамі, але люлькі нідзе ня было. І Швэйк сказаў паручыку так сардэчна, як той ніколі ня чуў:

— Усё, што з намі здарылася,— зусім глупства, і вы, пане паручнік, хутка пра гэта забудзецеся. Але от што я буду рабіць цяпер без мае люлькі?..

Уся швэйкава постаць выяўляла бязьмежны смутак і гора. Яны ахапілі і паручніка Лукаша, перайшоўшы аднак вельмі хутка ў гнеў і злосьць на ўсё ў сьвеце, дзе магчыма было такое вар'яцтва. Ён паклікаў Балуна, загадаў адкаркаваць бутэльку сьлівавіцы і пачаў так ушышацца ёю, што пад вечар, як на небе загарэліся першыя зоркі і страляніна з абодвых бакоў спынілася, Швэйк, схіліўшыся каля адвечнае хвоі над паручнікам, мог спакойна і ўпэўнена констатаваць:

— Ён насмактаўся, як грудное дзіця, і цяпер яму сьніцца нешта вельмі добрае. Эх, надта ў яго мяккае сэрца, каб ваяваць! Потым Швэйк прыкрыў яго шынэлем і сам лёг поруч з ім. І раптам успомніў, што фэльдкурат, як яны выходзілі ў паход, казаў у сваёй казані, як добра на полі бойкі, калі наўкола гараць вёскі і стогнуць раненыя.

— Трэба было гэтаму фэльдкурату даць добра па мордзе,— падумаў ён яшчэ і заснуў. Яму прысьнілася, што знарад яшчэ раз разарваў падпаручніка Дуба, і той у дыме і полымі ўзносіцца ў неба, як прарок Ільля на сваёй агністай каламашцы. Каля варот раю штурхаліся душы забітых у розных мундзэрох, а душа падпаручніка Дуба старалася праціснуцца наперад, старанна расьпіхала ўсіх локцямі і крычала: «Ды пусьцеце-ж мяне, я загінуў за Аўстрыю і хачу першы гаварыць з панам богам! Што, сьв. Пётра, ты кажаш, што ты служка божы? Але я хачу гаварыць з самым начальнікам. Дайце дарогу, бо вы яшчэ мяне ня ведаеце. Я вам ня зычу ведаць мяне бліжэй». І раптам па ўсім небе разьлілося бязьмернае залатое зьзяньне, сярод якога зьявіўся паважны стары ў бялюткай вопратцы; поруч са старым стаяў русы юнак у запэцканым у кроў мундзеры і з цярновым вянком, замест шапкі, на галаве. Стары паказаў пальцам на вялікую кнігу, што трымала перад ім у руках прыгожая дзяўчына, і запытаўся ў Дуба зычным голасам: «Падпаручнік Дуб, чаму ты зьдзекаваўся з адважнага ваякі Швэйка? Навошта прымушаў яго напіцца коньяку?» Падпаручнік Дуб не адказаў на гэта, і юнак узьняў рукі, што накшталт чырвоных ружаў зьзялі крывавымі ранамі. Тады стары крыкнуў: «Ідзі ў пекла!», і падпару-

чык Дуб скаціўся на зямлю. Зьзяньне пагасла, стары зьнік, юнак з цярновым вянком заплакаў ды пашоў сабе, закрыўшы твар белым пакрыцьцём, а Швэйк прачнуўся са словамі:

— І чаго гэта чалавеку такая брыда ў вочы лезе?

Зьмяркалася. Швэйк палез у кішэню і толькі тут зразумеў, якая страта была ўчора. Ён хутка ўскочыў на ногі, увесь дрыжучы з холаду. Усе спалі і толькі каравулы мерным крокам хадзілі паміж хвоямі наперад і назад. Швэйк вышаў на ўскрай лесу. Там стаяў салдат з ягонага разьдзелу. Пачуўшы за сабою крокі, той уздрыгануў з неспадзяванкі і, прытатаваўшыся стрэляць, крыкнуў:

— Стой! Хто ідзе?

— Ну, чаго ты спалохаўся?—нездаволеным тонам запытаўся Швэйк.—Гэта я, іду на разьведку. Што-ж, ты мяне не пазнаеш, ці што? Езус-Марыя! От гэтыя навабранцы! Нікуды вы ня варты!

— Ах, дык гэта ты Швэйк?—працягнуў салдат, апусьціўшы карабін.—Ці ня ведаеш, братка, будзе сёньня кава, ці не? Ці ня згубілі мы наогул свае кухні?

— Ня ведаю, братка, ня ведаю,—прамармытаў Швэйк.— Я ня маю цяпер часу разважаць. Яны нам яшчэ дадуць дыхту, маскалі гэтыя.

— А пароль і пропуск ведаеш?—запытаўся салдат, і Швэйк праз зубы мармынуў:

— Згубленая люлька!

З першымі праменьнямі сонца ізноў зараўлі расійскія гарматы. Артылерыя, як сабака, што сарваўся з ланцуга, насядала на станцыю, паўз якую ішоў Швэйк, шукаючы люльку, руйнавала яе, не шкадуючы знарадаў, нібы яна мела іх так многа, што хацела пазбавіцца. З батарэі, відаць, яго заўважылі і пачалі абстрэльваць шрапнэльлю. Потым дзесьці блізка заляскатаў кулямёт, абсыпаючы кулямі ўсё поле, і Швэйк вырашыў, што больш разумна схавацца за будынак станцыі. Паволі ўцяміўшы, адкуль і куды ляцяць кулі, ён, калі кулямёт змоўк, рушыў па лініі агню. Хутка ён дайшоў да вялікай ямы ад цяжкога знараду, што зьнішчыў гэны чацьверты разьдзел, і некалькі крокаў далей, якраз тады, як ён думаў, што яму давядзецца, відаць,

праблукаць так да канца сьвету, шукаючы сваё загубленае шчасьце,—ягоныя вочы заблішчалі.

У вільготнай траве ляжала люлька, ягоная люлька, і раса блішчала на ёй, як сьлёзы, што яна выліла па сваім гаспадары. Швэйк нахіліўся да яе, і кулямёт ізноў сыпнуў яму пад ногі кулямі, як гарохам.

Ён падняў люльку, што раптам задрыжала ў ягонай руцэ. Швэйк кулём пакаціўся ізноў на станцыю.

Там ён дастаў з свайго меху пачак тытуну, набіў сваю люльку і хацеў яе запаліць, і толькі, як ён паднёс яе да роту, ён заўважыў, што вышчарблен кавалачак цыбука і кавалак галоўкі. Іх адбіла куля, як адрэзала, і Швэйк зразумеў, што гэта здарылася тады, як ён нагінаўся па яе. Ён высунуў руку, у якой была люлька, за рог і патрос ёю ў кірунку расійскага фронту і з пагардаю прамовіў:

— Заразы! Няўжо сумленны салдат робіць такое сьвінства другому сумленнаму салдату? Хто вас вучыў ваяваць такім чынам? Сьвіньні, падлюгі!

Адказу на гэта ён не пачуў. Толькі гранаты і шрапнэль, як град, сыпаліся на станцыю. А потым агонь перакінуўся на нейкі час кудысьці за лес, адкуль яму адказала аўстрыйская артылерыя.

А за дагараючым складам сядзеў на кукішках Швэйк з пакалечанаю люлькаю ў зубах і чакаў, пакуль на галавешках, што тлелі, закіпіць у манерцы кава. Нішто ня мучыла ягонага сумленьня і боская лагоднасьць зьзяла на ягоным брудным замазаным сопухаю абліччы. Ён бястурботна выпіў кавы, а потым лёг на сонейку і засыпяваў:

У мяне дамок ёсьць гожы,
Там каханачка мая
Усё старанна вышывае,
Шые хустачку яна.

Што-ж табе, дзяўчатка, добра,
Вышываць—адна гульня,
А мы, бедныя салдаты,
Нас муштруюць тут штодня.

Стой ў радох, як камень цьвёрда,
Убіты ў строй, як цьвік ў сьцяне...
Вось зьвініць варожа куля...
І уцяла ў руку мне.

У шпіталі ляжу я хворы,
Ня струменіць болей кроў.
Нап'шэце, што я ранен
Маёй любай вы дамоў.
Адну руку мне адбілі,
І другая не гадна
Прыяжджай і пацікаўся,
Што прынесла нам вайна!
Не, навошта табе ехаць,
Не паклічу да сябе.
Славы мне вянок сьмяяўся,
А я верыў ўсё табе.

Баявая швэйкава песьня зьлівалася з выцьцём знарадаў. Ён пеў куплет за куплетам, пакуль не дайшоў да таго, дзе параненыя адказвае дзяўчыне, што ёй ня сьлед было хадзіць да салдатаў у казарму і практыкавацца з імі на ложках. Тут ён сьціх, таму што недалёка ад яго пачуліся плач і стогны.

Швэйк пашоў на голас. Адразу-ж за складам ляжаў на жываце малады салдацік і поўз, апіраючыся на локці, да Швэйка; ягоныя нагавіцы намоклі і пачарнелі ад крыві, што запяклася, ён стагнаў пры кожным руху і аж да жудасьці нагадваў ката з перабітым хрыбетам.

Убачыўшы Швэйка, ён з мальбою зложыў рукі:

— Дапамажэце, паночку, дапамажэце! дзеля маткі боскай, дапамажэце!

— Ну, што з табою сталася, дзяцюк?—запытаўся Швэйк, падыходзячы бліжэй. Пасьля, прыглядзеўшыся, ён па салдатавых нагавіцах зразумеў, што той наскрозь паранены кулямі ў абедзьве лыткі.

Швэйк асьцярожна падняў яго і аднёс за склад; там ён разьдзеў, ададраў прыліпшыя да цела нагавіцы і прынёс са студні вады абмыць раны. Салдацік толькі ўздыхаў, сочачы мачыма за швэйкаваю работай. Перавязаўшы, Швэйк даў яму хлебануць са сваёй пляшкі і весела прамовіў:

— Глупства, брат! Усё прайшло праз мяккія часткі, і костка не зачэплена.

Салдат патразіў расійцам кулакамі:

— Трасцу вам у бок, сукіны дзеці! Ай, мае ногі, мае ногі!

І ён ізноў заплакаў.

— Пакінь, сынку,—пяшчотна сказаў Швэйк.—Кладзіся лепш спаць і ня скоглі, каб ня прышоў хто. А я пайду пашнапаруся, ці няма тут чаго-небудзь перакусіць. Зрэшты, чакай! лепш палажу я цябе туды, у тую будку, а то яшчэ, што добрага, цябе тут прыдушыць сьцяной, калі яны ае зусім раскідаюць.

Ён перанёс параненага калеку ў будку, а сам палез у будынак станцыі. У канцылярыі нічога не засталося, апрача разьбітага тэлеграфнага апарату, але ў сутарэньні Швэйк знайшоў кошык з вялікаю бутэлькаю.

Ён зрэзаў накрыўку з прутоў вярбы, што закрывала горлачка, выкалупаў штыхом корак і панюхаў. Ягоныя вочы заблішчалі.

— Ах, ты божухна!—ускрыкнуў ён.—Ну і віншо! тут, пэўна, быў добры начальнік станцыі, што так паклапаціўся пра мяне.

Ён нагнуў буталь і адліў сябе порцыю ў манерку; пасьля пакаштаваў, цмокнуў языком і засаб апаражніў яе.

— Эх, любата!—прамовіў ён.—Усяроўна, як у Шульца ў «Браніку» на Ўзгорках. Але толькі, кажуць, віно нашча ня вельмі карысна.

Ён вынес бутэль з сутарэньня ўверх, а потым прабраўся ў склад, што выгараў. Ён быў напалову пусты, і толькі ў адным кутку самотна ціснуліся некалькі абгарэлых скрынак.

Спрытна лазячы паміж крокваў, што абваліліся, Швэйк прапіснуўся да гэтых скрынак і штыком выламаў века верхняй з іх; дошка затрашчала, і Швэйк ад глыбіні душы ўздыхнуў:

— Знашоў знашоў! Бог пра мяне, відаць, не забыўся.

У скрынцы былі расійскія мясныя консэрвы, і Швэйк зараз-жа ўзяўся пераносіць іх у торбу і ў крысьях шынэлю ў будку да свайго параненага таварыша, куды ён перанёс таксама і буталь. І, працуючы, як мурашка, ён зусім забыўся пра знарады, што ня спынялі біць руіны няшчаснай станцыі.

Калі паранены з усіх бакоў быў абложаны манеркамі консэрваў, Швэйк прынёс апошнюю партыю і, высыпаўшы яе ў будку, сам залазячы туды, самазадаволена прамовіў:

— Ну от цяпер я нацягаў сюды, як верабей у гняздо. Цяпер няхай ніхто не спадзяецца, што выганіць нас адгэтуль.

Ён адкаркаваў некалькі манерак і пашоў разаграваць іх на вогнішчы станцыі. Вярнуўшыся з гарачай ежаю, ён са здаволеньнем сказаў:

— А ведаеш, сынку, у рускіх консэрвы надзвычайныя. Гэта нешта падобнае да смажанай печані з лаўровым лістам.

Яны ўзяліся есьці і піць; віно сагрэла іх, і з жыватоў разам з цяплынёй разьлілася па ўсіх жылках бадзёрасьць і надзея.

Пад вечар разрывы шрапнэлі і гранат здаваліся ім толькі акомпанімэнтам да соле тэнору; бо ў будцы Швэйк пеў-разьліваўся:

Як гадзіну ночы біла,
Адкаснуўся я ад мілай.
Вышлі разам; між галін
Салавей сьпяваў адзін.
„Пачакай-жа тры гадочкі!"
Тры гады аж? Хутка сына
Мог-бы я прыдбаць, маліна!
Рыхтаваў яго-б у войска,
Ён адбыў муштроўку-б, порсткі.
Будзе знаць ён, як са стрэльбаю стаяць,
Возьме ў шух ён, як і рапарт дакладаць.
Будзе ён і варту адбываць,
Будзе ён і варту адбываць!
І зазнае ў карцары ён асалоды,
Ой, зазнае ў карцары нягодаў.
Не спалохаюць яго і кайданы.
Пашукае, перабыўшы кайданы,
Пастацяначкі прыгожае, дзяўчыначкі-вясны.

— От тады яму з дзеўкамі гуляць!—скончыў Швэйк урачыстым і гучным голасам ды зноў нахіліў горла бутлю да сваёй манеркі; а параненыя салдацік, паляк, у якога ад віна адабрала ногі, так што боль у іх на час заціх, павярнуўся на бок, абапёрся на локці і пастараўся пакінуць Швэйка далёка ззаду ў сьпевах; выводзячы высокім тэнарком:

Хутка будзе ў нас паход
К маскалём, на самы ўсход,
Наш ефрэйтар весялее:
Расьцьвітаюць зноў надзеі.
Па Расіі пройдзем шэрай
Праз Варшаву аж да Цьверу.
Марш наперад, марш наперад!
Наша зброя не замоўкне.

Загучыць бомбардмроўка,
Санітары бязупынна
Бінтавацьмуць ногі, сьпіны.
Па Расіі пройдзем шэрай,
Праз Варшаву аж да Цьверу.
Марш наперад! Марш наперад!

— Ну, у цябе ім ня шмат давядзецца бінтаваць,—са спачуваньнем заўважыў Швэйк, як той скончыў.—Санітары, сынку, ня дужа любяць сябе натруджаваць. Пэўне, яшчэ доўга давядзецца табе іх тут чакаць.

Агонь пачаў заціхаць; ворагі, відаць адпачывалі. Адно цяжкія гарматы рылі з аднаго і другога боку, не шкадуючы знарадаў, на аплату якіх плацельшчыкі падаткаў выбіваліся з апошніх сіл. Надышоў той момант, пра які данясеньні штабаў гаварылі наступнае:

*Становішча на фронце бяз зьмен. Наша войска адышло на загадзя падрыхтаваныя позыцыі. На розных вучастках фронту ня спыняюцца жорсткія артылерыйскія бойкі. Наша прасоўваньне затрымліваецца кепскім надвор'ем і вялікімі туманамі, што перашкаджаюць разьвіцьцю буйных дзеяньняў.*

Два дні, дзьве ночы жыў Швэйк са сваім нярухомым таварышам у будцы ад знарадаў, нібы ў пакоі. Другую будку, меншую, ён скарыстаў пад клёзэт, выносячы туды на рыдлёвачцы ўсё, у што перапрацоўваў ягоны таварыш консэрвы. Раніцою трэцяга дня вораг ізноў пачаў абстрэльваць зусім зруйнаваную станцыю, але раптам агонь спыніўся. Выявілася, што фронт расійцаў быў прарваны дзесьці на поўначы немцамі, і таму расійская армія ізноў вымушана была адыйсьці «паводле стратэгічных меркаваньняў», а не пад націскам ворага.

Пасьля таго, як было ўстаноўлена, што вораг разьбіты і за ім гоняцца новыя, сьвежыя сілы, некалькі афіцэраў конна зрабілі агляд поля бойкі, дзе санітары падбіралі параненых і зносілі забітых у кучы.

Праяжджаючы паўз станцыю, яны сышлі з коняй і заглянулі ў ямы, што ўтварыліся ад цяжкіх знарадаў. Раптам палкоўнік Шрэдэр зжахнуўся і падаў паном афіцэрам знак прыцішыць-

крыху. З-пад зямлі да іх данёсься моцны тужлівы голас, што пеў:

Ізноў сьляза маё крышталіць вока...
Пайду я ў поле моцна засмучонай,
Дзе мікне голас у палойках змроку,
Дзе я адна паплачу на усконах...
Вот-жа я была шчасьлівай,
Калі любага знайшла!
Мой ты мілы, чорнабровы,
А цяпер другую песьціш,
Грошы ёй, мне—нос нарэшце.

— Хто гэта там: вар'ят ці што яшчэ?—запытаўся Шрэдэр, выцягваючы рэвальвэр.

І раптам ад руін станцыі вылучылася постаць салдата, шпарка падышла бліжэй, роўна за тры крокі ад афіцэра спынілася, як укапаная, і адчыкрыжыла:

— Так што дазвольце далажыць, пане палкоўнік, што я паводле загаду станцыю ўтрымліваў і аж да цяперашняга часу ўтрымліваю.

— Утрымліваеце? Як вы яе ўтрымліваеце? Гэта-ж вы яе, наогул, яшчэ не занялі,—здзэтавана адказаў палкоўнік Шрэдэр. Але тут салдат разышоўся з цэлаю прамоваю.

— Так што, пане палкоўнік, у ноч на аўторак я яе заняў і, пакутуючы ад голаду і смагі, утрымліваў яе аж да цяперашняга часу, таму што, дазвольце далажыць, салдат ня мае права пакінуць без загаду сваю варту, а я ад вас не атрымліваў загаду пакінуць маю пазыцыю. Гонар маю данесьці, што ў мяне паранен адзін чалавек і адбіт куляй кавалачак цыбука ад маёй люлькі.

— Вы, здаецца, з майго палка,—са зьдзіўленьнем запытаўся палкоўнік.—Каторай роты?

— Дазвольце далажыць, пане палкоўнік, я—Швэйк, ордынарац 11-ае маршавае роты,—гарда адказаў салдат, а пасьля з укаханым і лятуценным поглядам у бок дадаў:—А вунь мой ротны командзір, пан паручык Лукаш.

— Пан паручык Лукаш,—урачыста прамовіў палкоўнік Шрэдэр, кладучы руку Швэйку на плячо.—Гэтага салдата вы ўзнагародзіце вялікім срэбным мэдалем за адвагу перад тварам няпрыяцеля і прыкладнае выкананьне баявога загаду. Гэта—са-

праўды салдат, і такія гэроі вельмі патрэбны нашай арміі. Адзначыць пра яго і ягоны ўчынак у загадзе і прачытаць той загад перад строем. Усяго добрага!

І, вынняўшы з кішэні 20-кронавую паперку, ён паціснуў Швэйкаву руку.

Швэйк перадаў свайго параненага санітарам, напакаваў ранец консэрвамі, што засталіся, выліў сабе ў пляшку рэшту віна і пашоў у лес да сваёй роты. Там ён даведаўся, што тэлеграфіст Хадынскі паранены куляй у галаву, а вольнапісаны Марэк яшчэ ў панядзелак быў адасланы з прастрэленаю рукою ў шпіталь.

— Ну от, абодвух маіх верных таварышоў і няма!—уздыхнуў Швэйк,—і мне нават не давялося праводзіць іх на іхнім жалобным шляху. Засталіся мы з табою, Балун, апошнімі могіканамі... З гэтае прычыны от табе манерку консэрваў... За гэта ты мне будзеш чысьціць мае мэдалі, пакуль я не атрымаю самага вышэйшага. Я сёньня напішу фраў Мюльлер, каб яна прыслала мне пяць карабкоў парашка «Амур» чысьціць мэдалі.

*

Батальён зьнялі з фронту і адаслалі на адпачынак і папаўненьне ў Ясінаў. Досыць было двух, параўнаўча невялікіх боек, каб зрабіць батальёну найвялікшую страту—з каманднага складу і ніжніх чыноў засталося ў іх ня больш за палову. Вайна ізноў набыла прыемны характар; высьветлілася, што ясінаўскія яўрэі былі занадта забясьпечаны сьпірытусавым пітвом, а як абоз пачаў рэгулярна падвозіць хлеб і пачалі дзейнічаць і рабіць гуляш з каніны паходныя кухні, настрой арміі прыкметна падняўся. Людзі ізноў гатовы былі весьці вайну да самага скону, палявая пошта ізноў ажыла і везла кучы ружовы... лістоў і з Ясінава і ў Ясінаў. У Ясінаве былі атрыманы паклоны ад усіх сваякоў і знаёмых з паведамленьнямі, хто і калі забіты ў байцы ці паранены або загінуў бяз вестак. Дзяншчык Балун пісаў жонцы:

*Найдаражэйшая жонка! Маліся за мяне і пастаў сьвечку перад абразом у Клакотак, каб найсьвенцшая матка боская абараніла і памілвала мяне, як і дагэтуль, у гэтых жудасных бойках. Я маліўся ёй, і 16-дзюймовая бомба, што ляцела проста на мяне, ухілілася на цэлы мэтар у бок і разарвалася*

*так далёка ад мяне, што я яе нават і ня бачыў. Быў я ў страшнай небясьпецы і вельмі галею. Прышлі мне, калі ёсьць, шынкі і булку хлеба. Не забудзься аддаць тачыць жорны і паставіць сьвечку, а шынкі ты можаш прысласць як найбольш; калі вады малавата, бяры з мужыкоў даражэй. Даведайся ў старасты, калі будзе замірэньне, і пра усё мне добра напішы.*

*Твой аж да дамавіны верны муж.*

Гэта паштоўка дала прычапку для больш рэлігійных спрэчак у Балуна са Швэйкам, куды неўзабаве ўмяшалася яшчэ чалавек колькі палякоў, што ўзяліся за Балуна. Швэйк даводзіў, што Балун брэша, як сабака, а Балун прасіў у сьведкі бога, што цуд з «чамаданам» быў якраз такі, як ён апісваў. Думка палякоў-католікаў у гэтай справе была пэўная і не дапускала ніякіх спрэчак: калі хто выходзіць цэлым з бойкі, дык гэта таму, што яго любіць і абараняе бог, а калі чалавек застаецца на полі бойкі з прастрэленымі грудзьмі або выпушчанымі кішкамі, дык бог яго таксама палюбіў і таму забраў да сябе. У гэта яны верылі цьвёрда і абаранялі сваё пераконаньне таксама, як папа рымскі абараняе сваю непагрешымасьць. Што-б там ні было, бог пасылае людзям добрае і благое з асаблівае любасьці да іх...

— Балун, ты-ж дурань,—сказаў, пярэчачы, Швэйк.—Гэта-ж бомбы, як яна ляціць, саўсім нават і ня відаць і да таго-ж у расійцаў саўсім няма саракадвухсантымэтровак, таму што пана Скоду пасадзілі-б у Плзене ў вастрог, калі-б ён надумаўся зрабіць такія самыя гарматы і расійцам... От у трэцім маршавым батальёне быў адзін салдацік па прозьвішчы Кратохвілі, які казаў, што на фронце няма чаго спадзявацца на боскую дапамогу, бо ад яе салдатам бываюць адны няпрыемнасьці. Ён апавядаў, што ў іхнай роце быў нейкі Боўчак з Моталя, чалавек надта пабожны; на шыі ён насіў ладунак з частачкай мошчаў сьв. Ігнася і пасьвенчаны епіскопам абразік сьв. Тройцы. У ягонай шапцы былі зашыты ўсе абразкі боскае маткі, што ён атрымаў у дарозе ад манашак і багамолак, а сам быў на фронце з самага пачатку вайны. Ён на бога спадзяваўся, а той яго шанаваў, так што ён пабываў у дзевятнаццаці баёх, зарабіў восем мэдаляў «за адвагу», і а ні разу з ім нічога ня сталася. Адно перад самым

апошнім боем ён згубіў у лесе шапку; уначы ў яго нехта адкраў пасьвенчаны абразік сьв. Тройцы разам з грашыма і дакумантамі, а раніцою парваўся матузок на шыі, і мошчы сьв. Ігнася заехалі ў ягоныя майткі. І от, як яны пашлі ў наступ, нават яшчэ перастрэлка як мае быць не распачалася, а ён ужо і гатоў—зарабіў кулю ў плячук. Пашоў ён на перавязачны пункт, яго перавязалі і паслалі ў шпіталь.

— Проша пана,—парапыніў яго адзін з палякоў,—гэта-ж так і ёсьць, як мы гаворым.

— Дай да канца даказаць,—далікатна заўважыў яму Швэйк.—Яж яшчэ ня скончыў. Ну, дык от. Гэтага Боўчанку з ягонымі талісманамі ведалі ва ўсім палку, і доктар таксама тоесёе пра іх чуў, а таму і кажа: «От бачыце, Боўчак, што ўсё гэта ня выратавала вас ад кулі. І тое, што вы гэтак доўга заставаліся цэлым, быў проста выпадак». Тут Боўчак расказаў яму, як усё гэта сталася, і доктар задумаўся і кажа: «Ну, не бядуйце, Боўчак, мы пашлем вас у шпіталь у Прагу». Тады Боўчак расплакаўся, пацалаваў доктару руку і сказаў: «Бог узнагародзіць вас за вашу дабрату, пане доктар. А я, каб я ведаў, што ўсяроўна вярнуўся дадому параненым, дык даўно-б выкінуў вон усю гэту дрэнь».

— За гэткія словы пану трэ' было-б даць у морду,—падаў на гэта голас другі паляк.—Как яго халера ўзяла, каб яму вароны вочы павыдзяўбалі, каб яго першая куля ня мінула...

— Пакінь, браце,—не заставаўся ў даўгу Швэйк,—бог і сам ведае, што яму са мной рабіць, і не табе яму паказваць. Добрым-бы быў, каб пачаў слухаць кожнага такога ішака, як ты, які яго пра што-небудзь просіць. Яму вядома, што людзі за прахвосты!

*

— Швэйк,—сказаў яму аднаго цудоўнага дня паручык Лукаш,—заўтра мы ідзем па-ротна ў Падгужы. Першай ідзе наша адзінаццатая. Вас там вымыюць у лазьні, зьнішчаць на вас вошы і дадуць вам чыстую бялізну. Глядзі, не перабблытай. Гэта надта важна. А ну, перакажы, што я сказаў.

— Так што, пане паручнік, вы сказалі, што вы заўтра першым пойдзеце з нашай ротай у Падгужы. Там вас вымыюць у

лазьні, зьнішчаць у вас вошы і дадуць вам чыстую бялізну. Дазвольце запытацца, пане паручнік, чаму мне ісьці з вамі біць вошы ў Падгужы? Мы-б вам дапамаглі ў гэтай справе і тут. Я ня ведаў, пане паручнік, што ў вас іх так шмат; я думаў, што вошы плодзяцца толькі ў ніжэйшых чыноў.

Паручнік строга ўгледзеўся на Швэйка сваімі каламутнымі вачыма.

— Боў-дзі-ла-а! Чуе маё сэрца, што ты там ізноў наробіш рабункаў. Каго-б мне паслаць з табою, каб ён прасачыў цябе? Сьцеражыся, Швэйк, калі ты ня зробіш усё так, як я табе загадаў. Ты пойдзеш з ротай—зразумела, і са мною, у Падгужы. Там ты памыешся ў лазьні, зразумеў? У лазьні.—Паручнік узьняў голас.—Потым ты надзенеш чыстую бялізну, а тымчасам будзе зроблена дэзынфэкцыя тваіх рэчаў. Пасьля ты сваю адзежу і рэчы пачысьціш, пастрыжэшся, паглянцуеш боты і вычысьціш вінтоўку, усяроўна як да вялікага сьвята. Зразумеў, што ўсё табе трэба зрабіць?

— Так, пане паручнік, зразумеў,—кінуў Швэйк.—Далібог, пане паручнік. Заўтра я буду, як прыбраная дзеўка. Але толькі дазвольце запытацца, дзеля чаго я павінен быць гэткім чысьценькім.

— Затым, з прыціскам, нібы важачы кожнае слова, адказаў паручнік Лукаш,—затым, што ў Падгужы прыяжджае заўтра заступнік трону Карл-Франц-Іозэф і ўласнаю рукою прычэпіць да тваіх, Швэйк, грудзей два мэдалі...

— У Падгужы прыедзе ягоная імпэратарская вялікасьць эрцгэрцог Карл-Франц-Іозэф і ўласнаю рукою прычэпіць да тваіх, Швэйк, грудзей два мэдалі,— у захапленьні паўтарыў Швэйк.—Дазвольце мне сесьці, пане паручнік. Не, здаецца я не перажыву гэтае радасьці! Значыцца, ён уласнай пэрсонай будзе там і ўласнаручна прыколе мне мэдалі? Ну, пра гэта я ўсё жыцьцё буду апавядаць у «Поўным кубку». Так што дазвольце пра мяне быць пэўнымі, што я ў час зьяўлюся на гэту ўрачыстасьць. А што, там будуць і гэтыя, як іх?—дзяўчаты ў белых строях?

Я, пане паручнік, папрашу ў каптэнармуса Ванэка гадзіньнік з ланцужком, каб, ведаеце, адным словам не падгадзіць. Таму, што я ўся, пане паручнік, справа ў тым, каб пільна тры-

мацца часу. Калі я адбываў вайсковую павіннасьць у Будэёвіцы, дык да нас меўся прыехаць нейкі генэрал-лейтэнант, што камандаваў нашым корпусам і надумаўся зрабіць агляд нашага палка. Ён хацеў і загадаў, каб полк пастроіўся на пляцы аб адзінаццатай гадзіне раніцы, а напярэдадні ён нават вызваліў нас ад заняткаў, таму што любіў, калі салдаты выглядалі бадзёра і вясёла. А наш палкавы камандзір загадаў батальённым падрыхтаваць полк да дзесятай гадзіны. Тыя, каб не прамахнуцца, назначылі ротным на гадзіну раней, а дзевятай. Ротныя вялелі ўзводным пачынаць а палове восьмай, узводныя аддзялённым— а шостай, а тыя, каб не спазьніцца, пагналі нас ўжо а палове пятай. Справа была, пане паручык, у час касавіцы, перад самымі манэўрамі, і сонца так і пякло. Іхняя дастойнасьць зьявіліся роўна ў адзінаццаць, а нашы малайцы стаяць са ўсім ашалелыя, даўбешка даўбешкай, таму што з паловы пятай прастаяць, ведаеце, таксама ня жарты! Сем чалавек ужо абамлела бяз прытомнасьці ды чатырох паслалі ў шпіталь. Пане корпусны камандзір ім сам у рот коньяк уліваў, таму што ў яго ў кожнай сумцы пры сабе было па пляшцы. Як убачылі гэта хлопцы з трэцяга батальёну, дык усе разам страцілі прытомнасьць і ачунялі толькі тады, калі абедзьве пляшкі апаражніліся, і тых, хто аслабеў, пачалі паліваць вадою з пажарнае кішкі.

Папалуднаваўшы, Швэйк сядзеў на калодачцы за хлевам; двух чалавек моцна трымалі яго за рукі, двое—за ногі, а Юрайда галіў яго фэльдфэбэлеваю брытваю. У Швэйка сьлёзы стаялі на вачох; з носу цякло, з левай калашыны таксама, але ён трымаў галаву, нібы акамянеўшы, і падбадзёрваў Юрайду:

— Рэж, рэж, і не азірайся. Наступнік павінен бачыць, што перад ім не які-небудзь валацуга. Я павінен быць заўтра такім харашуном, што спадабаўся-б нават Івоньне, што піша пра моды ў «Народна Політыка». Рэж і не бяры ўвагі, што я ад болю нават, здаецца, замачыўся. Макрэйшым я цяпер усёроўна не зраблюся, а за славу кожнаму трэба пацярпець, як сарака пакутнікам.

Праз паўгадзіны, калі ён абмыў ля студні кроў са шчок і ў аскабалку люстэрка ўбачыў, што пасьля галеньня ён зрабіўся падобным да нямецкага бурша пасьля мэнзуры, ён пачаў хадзіць ад барака да барака, таемным голасам паведамляючы:

— Хлопцы, заўтра мы ідзем у Падгужы. На вас і на ахвіцэ-

рах будуць біць вошы. А ў мяне там назначылі спатканьне з наступнікам трону, ягонаю імпэратарскаю вялікасьцю эрцгэрцогам Карлам. Ён прыедзе туды і будзе са мною проста раіцца, як яму кіраваць краінай і ці не заключыць яму сэпаратны мір з Расіяй. Сяброўства з Вільгэльмам яму ўжо спрыкрала, і затым ён надта хоча пасябраваць са мной.

Наступны дзень належаў да тых, калі Швэйк зьведаў найвышэйшае шчасьце і навышэйшую радасьць. Вярнуўшыся з Падгужы, ён сам апавядаў пра падзею так:

— Разьдзелі мяне, браткі, там саўсім, як і вас, і паставілі пад халодны душ. Потым адзін ефрэйтар з санітараў выгаліў мне машынкай усе валасы на целе, пад пахамі і ўсюдах. Машынка надта-ж шчакатала ды рвала валасы, але ад вошай—гэта першы сродак, такі-ж самы, як ад вараньня высечы ўвесь лес... Потым я вымушан быў аддаць свае транты ў нейкую капцільню, дзе мне сьпяклі папружку, пра якую я забыўся ў нагавіцах. Транты нашы выкідалі ў вузлох, і мы ўсе адзін перад адным кідаліся на іх, каб ня сьвіснулі іншыя. На мой шынэль саўсім ўжо налучыўся нейкі басыняк, так што давялося зьехаць яму поўху. Нарэшце прышоў нейкі пан падпаручнік і прачытаў сьпіс, каму паказвацца ягонай імпэратарскай вялікасьці. Я гукнуў: «Тут!», і ён адвёў нас усіх на асобнае месца пад дрэвамі, каб мы не мяшаліся з тымі, у каго ёсьць вошы. Потым паставілі наперадзе актар, выклікалі музыку, фэльдкурат адправіў набажэнства, скомандавалі: «На малітву, шапкі далоў!» і паказаўся наступнік, эрцгэрцог Карл.

— Браткі,—апавядаў далей Швэйк,—з яго добры кіраўнік разу спадабаўся, як толькі я яго ўбачыў; а калі ён падышоў да
разу спадабаўся, як толькі я яго ўбачыў; а калі ён падышоў да
мяне, дык здаўся яшчэ больш сымпатычным—ужо занадта добры ішоў ад яго дух: мешаніна сьлівавіца з ромам ці коньяком. Ён вельмі прыстойны малады чалавек і, як відаць, дэмократ; прыйнамней, ён не саромеўся піць ром, хоць адно самы найлепшы ямайскі. Потым адзін пан капітан прачытаў па паперцы, што кожны з нас зрабіў гэройскага, і сказаў што на вайне перамагае той, у каго найбольш моцныя нэрвы і больш ваенных нэрваў. Пасьля скомандаваў: «Вочы на-пра-ва!», і мы пачалі глядзець на наступніка, як ён будзе чапляць мэдалі. Яны ўсе ляжалі ў

аднаго падпаручніка ў парцалянавай філіжаначцы з надпісам: «Вада Гісхюблер—найлепшы прыяцель жывата», і ягоная імпэратарская вялікасьць адно браў іх адтуль і прышпільваў ангельскімі шпількамі да левага боку салдацкіх грудзей. Калі ён дашоў да мяне, я зрабіў паварот галавы, а рука сьлізгаціць у мяне ўніз па дзяжцы; ён прышпіліў мне мэдаль да самай скуры. Я, вядома, ня міргнуў, а гляджу яму проста ў вочы, як адзін жулік другому. От ён і кажа: «Вольна, салдат. Мне здаецца, што мы ўжо дзесьці бачыліся». Я яму ў адказ: «Так точна, гэта можа быць; я звычайна бываю ў «Поўным Кубку», або ў «Банзэце» ў Нусьле». А ён пры гэтым у мяне пытаецца: ці ня бываў я ў Брандысе, і я адказваю: «Ніякім чынам не, у Брандысе ня быў, а ў Стара-Болеславі давялося пабываць у нейкага пана Свабоды, у якога я хацеў купіць ангорскую казу. А мяне там яшчэ арыштавалі, таму што я ў Лісе па абмылцы зьвёў у графскага лясьнічага сабаку, прыгожага ў плямы ганчака». Ну, ён ладаў мне руку і сказаў: «Віншую!» і зьвярнуўся да наступнага, што праславіўся, салдата поруч са мной. А вы, браткі, падыходзьце цяпер і нюхайце маю правую руку, каб не пляўузгалі потым, што я прагавіты і трымаю ўсё толькі пры сабе...

— Пасьля ў нас быў палудзень разам з панамі афіцэрамі,— пераводзячы дух, скончыў Швэйк.—На ганаровым месцы за сталом сядзеў нейкі палкоўнік, ■ ля ўваходу нас сустракаў кадэт такімі, блізка, слаўмі: «Салдаты! Гэроі! Зараз вы будзеце палуднаваць за адным сталом з панамі афіцэрамі. Памятуйце, што вы ўзнагароджаны мэдалямі, што вайна робіць з вас людзей, і таму не вядзіце сябе па-сьвінску. Страву будуць падаваць на паўмісках, вам—сьпярша. Але ня думайце, што вы павінны незаводня зжорці ўсё, і не налівайце сабе на талеркі занадта шмат, каб засталося тое-сёе і паном афіцэрам. Вы прысутнічаеце, гэроі, на парадным полудні, наладжаным царом—наступнікам на гонар вашых высокіх заслуг. Загэтым не аб'ядайцеся і не напівайцеся п'янымі, нібы вы былі ў сябе дома на вялікоднае сьвята. Ягонай імпэратарскай вялікасьці, цару-наступніку, ура, ура, ура!» Мы пракрычалі «ура», і ён сказаў, калі мы садзіліся за стол: «Пан палкоўнік будзе за вамі наглядаць; таго, хто занадта прыналяжа на ежу і пітво, ён загадае потым падвязаць да слупа». Пасьля прыдворныя лёкаі прынесьлі талеркі,

нажы, відэльцы і лыжкі і налілі нам крупніку. Мы яго схлёбалі, а кадэт увесь час стаяў над нашай душой. Пасьля крупніка падалі смажаную сьвініну, надта малыя порцыі; мы ўзялі ўсе па маленькім кавалачку, так што палкоўнік прапанаваў нам узяць яшчэ, але кадэт нам падміргнуў, што ня трэба. Але я ўсё-такі палажыў сабе тры кавалачкі, і тады кадэт штурхнуў мяне пад сталом нагою. Я ўскочыў і сказаў: «Я павінен быў узяць яшчэ, таму што пан палкоўнік захацеў так. Пан палкоўнік—мой старшы начальнік, і калі ён загадае, я ўсё гэта адзін убяру. Мне сягоньня сам цар-наступнік пацiскаў руку, і я павагі да чыну не парушу!» Бульбы і капусты я сабе таксама наклаў столькі, што паны афіцэры аж вочы вылупілі, а я адно падумаў: «Глядзеце, хлопцы, што можа праўдзівы гэрой!» На трэцяе падалі цяляціну і смажаных куранят з зялёным гарошкам, але гэта было адно паном афіцэрам. Запівалі ежу півам і віном, а на дарогу нам усім налілі ў пляшкі рому. Ром я ўжо выпіў і нікому не пакінуў ані кропелькі. Але маю руку, што паціскаў учора ягоная імпэратарская вялікасьць цар-наступнік, можа нюхаць кожны, хто захоча; прынайменей, у вас назаўсёды застанецца ў памяці гэта.

А ўвечары, калі Швэйк дакладваў паручыку Лукашу пра тое, як прашоў парадны полудзень, ён з жалем у голасе дадаў:

— Так што, пане паручык, дазвольце заўважыць, што мне хацелася-б прычапіць хоць адну мэдаль да самай скуры так, як гэта зрабіў цар-наступнік, але ўсё-такі я быў вымушан выцягнуць шпільку, бо надта-ж ўжо шчымела. Бо такая-ж памяць была-б вельмі прыемнаю. От, напрыклад, у Празе быў адзін бургомістр, ня памятаю, як яго прозьвішча, якога, калі ягоная імпэратарская вялікасьць апошні раз быў у Празе, запрасілі на парадны полудзень у Градшыне. Бургомістр быў у фраку, белай камізэльцы, крухмальнай сарочцы. І от, палуднуючы, шануючы вас, урабіў камізэльку маёнэзам, а крухмальную сарочку на грудзёх заліў каваю. А калі ён прышоў дадому, дык загадаў паклікаць чырвонадрэўца, заказаў у яго багатую пазлацанаю рамку і заставіў сарочку і камізэльку ў рамку пад шкло. Ён хацеў павесіць гэту карціну пад портрэтам Яна Гуса ў ратушы, каб у Празе захавалася памяць пра яго і каб настаўнікі вадзілі туды вучняў, каб тыя бачылі, як выглядаюць плямы ад кавы, што піў наш імпэратар, і ад маёнэза, што наш імпэратар еў. Але нацыя-

нал-соцыялісты наладзілі з гэтае прычыны на Софійскай высьпе мітынг протэсту, і іхняя лідэрша, Франя Зэміна, зганьбіла гэткі проект, як учынак, нявартык младачэскага дэпутата. Так што лану бургомістру давялося ў сваёй спальні павесіць гэту карціну, насупроць портрэту Гаўлічэка-Бароўскага з надпісам:

**Улюбёны колер мой?—Чырвоны в белым**
**І моц ся шчырасьцю ва спадчыну ў мяне!**
**Спакушвайце і страшце чым папала,**
**А здраднікам ня буду я ніколі!**

— Ах, Швэйк, чаго-чаго ты, браце, ня ведаеш!—пацікаючы плячыма, сказаў паручык Лукаш.—Ты мог-бы зрабіцца рэдактарам «Інтымнае Прагі».

— Ніяк не, пане паручык, я нічога ня здумляю з галавы, а ўсё гэта я ведаю спрактыкаваўшыся. Хто-небудзь раскажа, а я матаю на вус; іншым разам і ў газэце прачытаю. Ну, а памяць у мяне добрая,—апраўдваўся Швэйк.—От, да прыкладу, пане паручык, жыў у Бжэўнове адзін домаўласьнік, па прозьвішчы Нікль, і былі ў яго два сына. Меншы, праўда, зьбіраўся даць драла ў Амэрыку і напярэдадні свайго ад'езду пазычыў у брата дзьве кроны, дакляраваўшы яму аддаць іх на заўтрае раніцою. Але заўтра раніцай ён пра гэта неяк забыўся і так і паехаў. Мінулі гады, стары Нікль перадаў дом свайму старэйшаму сыну, калі той ажаніўся, а сам стары жыў з выдзелу. І мінула ўжо трыццаць год, як абодва браты ня бачылі адзін аднаго ў вочы, і тады іхны стары бацька памёр. Пахавальная калясьніца стаяла ўжо ля пад'езду і поп чытаў апошнія малітвы, як неўспадзеўкі пад'яжджае да дому фіякр; з экіпажу вылазіць паважны, грузны мужчына і ўсходзіць па ўсходах. Ніхто яго як быццам ня ведае і не пазнае, пакуль ён ня ўкленчыў каля труны на калені і не пачаў плакаць: «Ах, бацька, бацька! От якім мне давялося яшчэ раз убачыць цябе!» Ну, тады добрыя людзі скемілі, што гэта Рыгор Нікль, які ўцёк у Амэрыку, і сьвяшчэньнік зараз-жа трымаў слова пра мудрасьць боскую, што ў час прывяла сына да бацькавае труны. Але як адно сьвяшчэньнік скончыў сваё слова, старэйшы Нікль, Алёіз, дастаў з кішэні запісную кніжку і кажа амэрыканцу: «Ты вярнуўся якраз у час, каб аддаць мне тыя

дзьве кроны, што я пазычыў табе, калі ты выяжджаў. Тады мне не давядзецца пераносіць пяты доўг у новую запісную кніжку. Гэта ў мяне сьпісана. У мяне сьпісваюцца на год па дзьве кніжкі, і твае дзьве кроны я пераносіў за трыццаць год роўна шэсьдзесят разоў. Таму гані грошы, Рыгор!» Так што, пане паручнік, дазвольце далажыць, што пасьля гэтага ўкола я таксама доўга не забудуся пра наступніка эрцгэрцога Карла.

Раніцою Швэйк заўважыў, што ў яго з левага боку на грудзях зьявіўся вялікі нарыў; і, паказваючы яго Ванэку, які параіў яму рабіць халодныя прымочкі; Швэйк, нікога не называючы, лякатнічна прамовіў:

— Быдля! Набраўся так, што коле людзей, якія пралівалі за яго сваю кроў!

## У АКОПАХ

Пакольki кожная тэорыя—шэрая, а вечна зялёнае адно залатое дрэва жыцьця, дык усе тэорэтыкі ваеннага майстэрства са сваёй навукай селі ў лужыну пасьля першага-ж месяца вайны.

Так, у Богэміі якісьці профэсар вылічыў, што Аўстрыя здольна ваяваць сто год і што тады ўсё яшчэ будзе даволі мукі на бліны, у той час як у рэчаіснасьці ўжо праз год нідзе нельга было дастаць булак. Было вылічана, колькі патронаў выдаткуе адзін салдат за гадзіну, і на ўсіх стрэльбішчах складаліся дакладныя статыстычныя табліцы, які процант выпушчаных пападае ў цэнтр мішэні, што на практыцы павінна было азначаць, што такім лікам стрэл забіваецца столькі няпрыяцельскіх салдат. У рэчаіснасьці салдаты выкідалі тры чвэрткі патронаў у клёзэты, а рэшту выпускалі, ня цэлячыся, у паветра. З такою самаю дакладнасьцю было вызначана, колькі чалавек выбівае са строю граната, колькі—шрапнэль, і якую плошчу паражае закладзеная міна; пры гэтым, відавочна, меркавалася, што знарады льга будзе кідаць у натоўп салдат, як каменьні—у чараду гусей. Але на практыцы перамогу над гарматай, што каштавала сотні тысяч, узяла грашовая рыдлёўка, з дапамогаю якое салдат глыбока закопваўся ў зямлю, а пасьля казаў: «А ну, пападзі цяпер у мяне!»

Было вядома, колькі кілёмэтраў ільга было праходзіць на суткі ў час наступу, і дакладна было вылічана сярэдняе, ад напалеонаўскіх часоў аж да апошняй балканскай вайны; а тут, адылі, давялося пераканацца, што нейкі няшчасны наблытаны на слупы калючы дрот здолен затрымаць цэлую армію на два тыдні і больш.

Армія, што абаранялася, часова ўмайстроўвалася ў кватэрах пад зямлёю; армія, што наступала, вымушана была, таксама часова, браць з яе прыклад.

Тэатр ваенных дзеяньняў ператвараўся ў фруктовы сад, з многімі платамі, за якімі стаялі вартаўнікі, і на кожным дрэве — абмазаны птушыным клеем прут; не ставала ўсяго надпісаў на платох: «Пабочным уваходзіць строга забараняецца». І вартаўнікі аж да тых дат вартавалі свой і суседаў плот, пакуль не прыходзіў загад вылезьці з садоў і ўзгрэць гэтага самага суседа. Каб салдаты не сумавалі, іх пасылалі на выведкі, адкуль ніхто не вяртаўся, або наладжваліся дэманстрацыі, пры якіх заўсёды гінула колькі чалавек. Але гэта ня мела ніякага значэньня, таму што з радзімы рэгулярна пасылаліся ў полк маршавыя батальёны і падрастала моладзь, так што не патрабавалася ўстанаўляць асобныя тэрміны, калі забаронена паляваньне на людзей, як гэта робіцца ў сакавіку для зайцаў.

Людзі хаваліся пад зямлёй, як іхныя далёкія прашчуры, траглёдыты, і павольна, але верна ператвараліся ў зьвяроў; на афіцыйнай мове гэта звалася «пазыцыйнай вайною».

Таму, калі ў батальён 91-га палка прышла маршавая рота, каб папоўніць убыль людзей, нікога ня зьдзівіла, што ў адзін з бліжэйшых дзён быў прызначаны агляд і паверка казённае маемасьці і зброі — працэдура, якую паручнік Лукаш праробляў са слоўмі:

— Яна ў цябе заражана? Ладунак яшчэ ходзіць? Ну, добра, марш!

Але афіцэры ў іншых ротах дзёрлі горла:

— Гэта ты называеш «вычысьціў вінтоўку»? Езус-Марыя, я цябе, падлюгу, загадаю падвязаць! Бібікі б'еш траха ня два тыдні, а вінтоўка ў цябе іржавая. На выпадак чаго, я табе пакажу, дзе Макар козы пасе!

Паручніку Лукашу ўсё было абыякавым. У яго даўно ўжо склалася перакананьне, што ўся гэта вайна — марнасьць, і што яна зьяўляецца адно бязмэтным зьнішчэньнем маемасьці і людзей. Загэтым ён выконваў свае абавязкі, як неабходнае зло, якога нельга пазбыцца. Ён зрабіўся абыякавым да ўсяго навакольнага і адчуваў сябе душэўна разьбітым; бруд атручваў, вечна адна і тая самая гутарка з афіцэрамі спрыкрала, як горкая рэдзька. Ча-

сам, калі Швэйк выказваў на тое-сёе свае меркаваньні, у паручнікавай галаве мільгала думка: «Гэтаму дзяцюку можна пазайздросьціць, далібог. Ягоная прыдуркаватасьць—большае шчасьце, як выйгрыш на дзьвесьце тысяч».

Палкоўнік Шрэдэр распарадзіўся праводзіць з салдатамі ротныя заняткі і паўтарыць усё, чаму вучылі іх у казарме. Паручнік Лукаш выконваў гэтае патрабаваньне так, што загадваў раніцою выводзіць салдат за ваколіцу, а ўдзень прымушаў іх праходзіць з дзядзькамі «славеснасьць»—занятак, на якім апавядаліся брыдкія анэкдоты. Неяк аднаго разу ён наткнуўся на кадэта Біглера ў той час, як той вучыў салдат аддаваць чэсьць і пры гэтым нечага чапляўся да іх. Гэта да таго абурыла паручніка, што ён некалькі дзён ня мог адкараскацца ад думкі: «Гэта-ж чалавека, магчыма, заўтра заб'юць, а ў яго адны турботы, каб у салдата, як ён будзе аддаваць чэсьць, мезенец быў якраз насупроць вока. Божухна ты мой, на што гэта дрэнь?»

Аднаго разу ён выказаў свае думкі Швэйку, той зараз-жа духова яго ўцешыў:

— Так што, дазвольце далажыць, пане паручнік, увесь сьвет і ўсё жыцьцё—адна дрэнь! Але гэтак яно і павінна быць, каб людзям было чым жыць. Загэтым, пане паручнік, адукаваныя людзі адно глупствам і займаюцца, што гэта самае найвыгаднейшае. От я, да прыкладу, дазвольце далажыць, ведаў двух садоўнікаў, нейкага Алёіза Вомачку і нейкага Франца Печанку, і абодва яны наглядзелі сабе ў Оўжыноўцы вішаньнік і абодва, калі яшчэ цьвілі вішні, прышлі да селяніна і прасілі аддаць ім вішаньнік. Ну, а паколькі, вядомая справа, кожны сам да сваіх рук хацеў прыбраць той вішаньнік, дык селянін дакляраваў ім абудвум і пастараўся падняць цану, а яны давай адзін перад адным набзўляць і набаўляць. І от неяк аднаго разу Вомачка ідзе па дарожцы і вылічае ў галаве, колькі кілё вішань ён абярэ з аднаго дрэва, а насустрач яму ідзе Печанка з такімі самымі думкамі. Вомачку, які быў чалавек занадта гарачы, гэта ўзьела, і ён кажа Печанку: «Гэй ты, рыжы сабака, ты ў мяне на дарозе не станавіся, а то я табе ўсе скабы паламаю!» А Печанка яму: «Лойзль, дружа мой, не гавары мне гэтак, таму што я прамысловец і нікому не дазволю бэсьціць сябе, касавокі чорт. Вядзі сябе, як адукаваны чалавек, калі ты таксама прамысловец, а то я табе

мызу на лорхаўку схвапчу!» Ну, тут Вомачка і зьехаў яму поўху, а Печанка зьвёў яго палкай па патыліцы, так што ў яго адразу гуз наскочыў. Абодва яны паімчаліся да доктара і кожны з іх атрымаў пасьведчаньне, што адзін аднаго пабіў. З гэтакай паперкай яны пашлі да адвоката і перадалі справу ў суд. Адбылося адно паседжаньне, потым другое, а справе ўсё канца ня відаць, і адвокаты кожнаму з іх нараілі падаць скаргу ў другую інстанцыю, так што яны перанесьлі справу ў крымінальны суд у Празе. А вішняк арандаваў нарэшце такі Вомачка, Печанка-ж узяў сабе сад нейдзе пад Дабрапулем. І от цяпер, пане паручнік, вы самі палічэце: два дактары, два адвокаты, іхныя машыністкі, судзьдзя і яго справавод у Жычане, судзьдзі ў Празе—усе гэтыя людзі займаліся гэтай продукцыйнай работай. Не пасьпелі давесьці справу да канца, настаў жнівень і па вішнях, а ў Празе нейкі дарадчык пры судзе сказаў ім, што іх абодвух пасадзяць у вастрог, і праскія адвокаты параілі ім абаім памірыцца і спыніць справу. Гэтак яны і зрабілі; а пасьля спаткаліся ў «Ступарта», і Вомачка, чухаючы ў раздум'і патыліцу, сказаў Печанку: «А ведаеш, Францль, я быў дурань, я аддаў гэтым адукаваным паном усе мае вішні». Тут Печанка нават пачаў румзаць і, выціраючы рукавом сьлёзы, прамовіў: «Лойзль, я твой брат. Мне таксама цяпер давядзецца даплачваць. Езус-Марыя, што скажуць нашы жонкі?» Так што, дазвольце даведацца, пане паручнік, вы падлічылі, колькі чалавек кармілася з таго, што два дурні ў Оўжыноўцы далі адзін аднаму ў морду?

— Мне здаецца, Швэйк,—задумна прамовіў паручнік Лукаш,—што ты ня вельмі любіш дактароў і асьвечаных людзей. Што яны табе такое зрабілі, што ты на іх такі сярдзіты?

— Ды ніяк не, пане паручнік, яны мне нічога не зрабілі,— з бязьвіннаю ўсьмешкаю на абліччы адказаў Швэйк.—Я вам гэта адно так, да слова, расказаў, пане паручнік, каб вы бачылі, што на сьвеце павінна жыць і глупства. Збаў мяне божа, каб я меў што-небудзь супроць адукаваных людзей або гаварыў супроць іх; гэтае права я аддаю анархістам. Важныя, вучаныя паны—іх таксама час-часам пашкадаваць трэба, бо анархісты з імі надта-ж недалікатна абыходзяцца. Быў, да прыкладу ў Лібэне адзін сьлёсар, Соукуп па прозьвішчы; ён быў маладым чалавекам і таксама анархістам. Перш-на-перш ён быў членам Ка-

таліцкага саюзу моладзі, потым перашоў да нацыянал-соцыялістаў і выступаў на іхных мітынгах, а пасьля не пакідаў разьвівацца, пакуль не зрабіўся анархістам. Яго часта садзілі ў вастрог, і ён ад гэтага зрабіўся мэлянхолікам і цьвярдзіў, што на сьвеце няма аніякае радасьці. Неяк аднаго разу ён нам прызнаўся: «Брацъ у доўг не магу, бо мне ніхто больш не дае. Я разяўлюрот, так мне і садзяць за зьнявагу вялікасьці. Замажу я якіколечы дзяржаўны гэрб на паштовай скрынцы, дык мяне таксама зараз-жа бяруць на цугундар. Адным словам, хоць памірай!» І от ён надумаўся засіліцца ўночы на штакетах у Пожыцкім парку, але там яго адгаварыла адна гуляшчая дзеўка і павяла яго да сябе спаць. Гэта шлюндра, даруйце за выраз, пане паручнік, ізноў вярнула яму ахвоту жыць і паказала яму, як слаўна на белым сьвеце. Ён, дазвольце далажыць, заразіўся ад яе трыпэрам, хадзіў лячыцца ў клініку і пасьля, за півам і сасіскамі з хрэнам, расказваў нам: «Цяпер я ведаю, як да іх падступіцца. Я зраблю, каб быў у мяне хранічны трыпэр і буду праз яго помсьціць ім аж да самай сваёй сьмерці. Вы адно ўявеце, таварышы, такі малюнак: профэсар Яноўскі, патайны дарадчык і дастойнасьць, кажа дактаром, што канечнае патрэбна дасьледаваць у мяне прадстальную залозу—гэта нейкая залоза ў сярэдзіне!—і зьвяртаецца да мяне: «Раскірэчце ногі і нагнецеся!»—а потым, шануючы вас і гэтага дня, суне мне палец у задні праход і калупае ў ім. Не, вы адно ўявеце ,браткі: патайны дарадчык, ягоная дастойнасьць, а павінен калупаць у мяне ў ср...! Анархіст не захацеў-бы зрабіць гэта нават папу рымскаму!» Такім чынам я, пане паручнік, нічога ня маю супроць інтэлігенцыі і нават час-часом шкадую яе ў цяжкім становішчы. Таму што з беднатою строгасьць патрэбна і каму-небудзь трэба-ж гэтыя строгасьці ўжываць. А каб ня было строгасьцяй, дык адукаваным людзям давялося-б есьці красьці.

Калі нарэшце прышоў загад зьмяніць батальён аднаго з польскіх палкоў на перадавой позыцыі, у паручыка зрабілася лёгка на сэрцы. Прынамсі гэта была нейкая перамена, што магла быць пачаткам новых перамен, надалей і новых уражаньняў.

Агляд прашоў добра. Наперадзе пачулася команда: «Батальён, крокам... арш!» і атрад рушыў у дарогу. Да зьмярканьня ён дабраўся да апошняе вёскі Тэафілаўкі, за якою пачыналася

ўжо лінія фронту. Быў зроблен кароткі адпачынак. Афіцэры пашлі на нараду ў штаб таго палка, частку якога павінен быў зьмяніць іхны батальён; а пасьля батальёну, каб ня зьбіўся з дарогі, далі павадыра, які многазначна сказаў салдатам:

— Пастарайцеся як мага цішэй ісьці, так вас і так. Дарога па якой я павяду вас, адкрыта ў бок няпрыяцеля і ім абстрэльваецца. Калі будзеце спраўляць гармідар, ён зараз-жа пусьціць пару-другую гранат. Ужо надта-ж мне ня хочацца праз вас дарэмна галавою налажыць.

Цыгаркі патухлі, люлькі зьнікці пад каўнярамі шынэляй; салдаты ўзялі ў рукі шанцавы інструмант і рыдлёўкі, каб ня бразгалі аб штыхі, і нібы цені вышлі з вёскі ў поле. Там ім давялося па шырокім ходзе вносін падняцца крыху ў гору; пасьля гэты ход падзяліўся на некалькі больш вузкіх хадоў і афіцэр, што прымаў батальён, накіраваў кожную роту ў другі ход, не пакідаючы адзін ісьці па сярэднім. На ўзвышшы гэты ход неўспадзеўку абрываўся і пачыналіся акопы. І от адусюль з-пад зямлі пачалі зьбірацца ў яго людзі; паколькі ў цемры нічога ня было відаць, яны вылазілі са сваіх нор, нібы чарвякі ці майскія жукі, калі ў красавіку адтае зямля. Адзін за адным выпаўзалі яны справа і зьлева, а афіцэр праціскаўся наперад і падштурхоўваў тых, што кагадзе прышлі, локцямі, паўтараючы заглушаным голасам:

— Чорт вас пабраў-бы, лезьце, хлопцы! У кожны акоп па стольку чалавек, колькі ў ім байніц для стрэльбаў. Стрэльбы зараз-жа ўстаўляйце ў байніцы. Ну, чаго стаў, парасячы сын? Чакаеш, пакуль у задніцу заробіш?

А тыя, што адыходзілі, раілі:

— Проша пана, не паказвайце галовы! Маскалі страляюць без перастанку! Проша пана, учора ў нас дваіх забілі і дзевяць чалавек паранілі.

Прыемная, няма чаго сказаць, пэрспэктыва.

Швэйк хацеў пра нешта запытацца, але якраз у гэтую хвіліну паручнік Лукаш паклікаў:—Швэйк, Балун!—і таму з ягонае інтэрпэляцыі нічога ня вышла. Яны рушылі сьледам за паручнікам, якога павадыр павёў у бок па глыбокім ходзе ў афіцэрскі бліндаж.

Гэтае памяшканьне было дужа глыбока пад зямлёю, так што давялося спусьціцца некалькі прыступак уніз; капітан, што кагадзе вышаў адгэтуль, пакінуў, як сапраўдны джэнтльмэн, на стале сьвечку, што гарэла, якую, аднак, памкнуўся забраць з сабой ягоны дзяншчык, і не бяз гордасьці сказаў паручніку Лукашу:

— Цалюткі тыдзень капалі яго ўдзень салдаты, а начамі рабілі столь. Але гэта навалач, маскалі, укакошылі ў гэты час трох чалавек і штосьці чалавек шаснаццаць паранілі. За тое цяпер ужо тут няма чаго баяцца знарадаў. Бо афіцэр павінен быць у надзейным месцы ці няпраўда, пане паручнік?

Кажучы гэта ён пацісьнуў паручніку Лукашу руку і пашоў.

Паручнік Лукаш вышаў паглядзець, ці пастаўлена варта. Варочаючыся, ён пачуў, як Швэйк тлумачыў Балуну:

— Трэба будзе яму расстарацца дошкі, каб падкласьці пад сябе. Тут надта вільготна, са сьцен так і цячэ, і ён можа схваціць тут раматус. Давядзецца 'шчэ расстарацца стружак і зрабіць яму мяккую пасьцель, каб...

— Езус-Марыя, як мы тут будзем жыць?—перапыніў яго балуноў голас.—Божухна літасьцівы, гэта-ж сюды ніякая паходная кухня не даедзе!

Паручніку ў гэты момант усё на сьвеце спрыкрыла. Ён кінуўся на невялікую кучу стружак, што засталіся ад ягонага папярэдніка, накрыўся з галавой коўдраю і прамармытаў:

— Ліха яго ведае, што мне рабіць? Застрэліцца ці пайсьці і здацца ў палон?

Ён спаў надзвычай дрэнна, варочаўся з боку на бок і ўвесь час уцякаў ад нейкіх прывідаў, што гналіся за ім па вялізэзных скалах. Раніцою, разьбіты і знэрваваны, ён загадаў Балуну падаць кавы і вышаў з кубкам з бліндажа. Унізе на дне рова, сачыўся танюсенькім струменчыкам ручай; на ягоным беразе сядзеў удалы вояка Швэйк і выразаў нажом фігуркі для млына, які ўжо весела круціўся і грукацеў у вадзе. Заўважыўшы паручніка, ён устаў, крыху нядбайна аддаў чэсьць і прамовіў:

— Жадаю добрай раніцы! Так што, дазвольце сказаць, кожны павінен аздабляць свой хатні прытулак, як пісалі ў часопісе «Сямейная ўтульнасьць». Але ў мяне ножык ужо занадта тупы, пане паручнік. Басьняк, у якога я купіў яго, адным словам

ашукаў мяне. Ён упэўніваў, што гэта золінгенская сталь, а яна мяккая, як волава.

Паручнік Лукаш сыйшыў уніз і, убачыўшы, якія патугі аддаваў Швэйк, каб наддаць чалавечы выгляд кавалку дрэва, мімаволі ўсклікнуў:

— O sancta simpicitas! [1])

І Балун так ніколі і не зразумеў, чаму Швэйк запытаўся ў яго праз дзесяць хвілін:

— Слухай, няўжо нам выдалі гэтак шмат сьлівавіцы, што наш паручнік з самага ранку п'яны?

*

У акопах да жахлівасьці ня было чаго рабіць. Людзі мадзелі без работы і пры жыцьці гнілі, ня могучы ацерабіцца ад вошай, што елі іх, і захлынаючыся ў брудзе. Ня было як ні мыцца, ні стрыгчыся, ні галіцца. Тыя, што стаялі недалёка ад якое небудзь крынічкі, маглі лічыць сябе за шчасьлівых, таму што ў іх прынамней ня было недахопу ў вадзе, а тыя, якім да вады было далёка, звыкліся абыходзіцца і без яе, бо хадзіць па ваду азначала пэўную сьмерць. Манерка вады аплачвалася літрам чалавечае крыві—вада была дарагою, а кроў—таннаю.

Апошнія праблескі чалавечнасьці і розуму, што заставаліся яшчэ ў салдат, гасьлі, як іскры ў попеле; пачуцьці прытупляліся, людзі рабіліся абыякімі да ўсяго і цікавіліся адно двума рэчамі: ежай і сном.

У Карпатах мне давялося спаткаць аднаго салдата, якога я даўней ведаў жвавым і варушкім; але ў акопе ён спаў па дваццаць дзьве гадзіны на суткі, а рэшту дзьве гадзіны ён ня спаў адно затым, што яго пасылалі ўначы на варту.

На адкрытым месцы было небясьпечна, і салдаты цэлымі днямі ня вылазілі з акопаў; загэтым Швэйку не заставалася нічога іншага, як поўзаць па ходах з акопа ў акоп і весьці гутарку пра сучасны момант.

Пра заключэньне міру не магло быць і гутаркі, і ніхто не даваў веры гэткага гатунку паведамленьням; газэты выкідалі ці

---

[1]) О, сьвятая прастата!

ўжывалі на пэўную мэту, лаючы ідыётаў, што іх пісалі і вадзілі народ за нос.

У акопах узьніклі раптам нейкія чуткі, і сярод салдат было шмат такіх, што гатовы былі пашыраць самыя відавочныя недарэчнасьці. Аднак усё, што мела на сабе пячатку айчыннае вытворчасьці, хутка прымалася і мела посьпех; пра яго гаварылі і абмяркоўвалі яго з усіх бакоў. І тая акалічнасьць, што ў Швэйка былі часам навіны, пачутыя праз паручніка Лукаша, а таксама прыдуманыя непасрэдна ім самім, стварыла яму ў акопах вядомае рэномэ і забясьпечвала давер'е нават самым немагчымым ідыёцтвам, што ён распаўсюджваў. Так, аднаго разу ён абышоў акопы з гэткай навінаю:

— Браткі, дванаццатая рота зробіць раніцою дэманстрацыю супроць расійцаў. Сьпярша хацелі прызначыць на гэту справу нашу, але я прапанаваў палкоўніку дванаццатую, таму што яна ўсяроўна на ладан дыхае.

— Ну, дзякую шчыра, ня соладка ёй будзе,—заўважыў капрал Рыціна, земляроб з-пад Коліна.—Калі я быў на сэрбскім фронце, наш батальён выкінуў таксама такую вар'яцкую штуку супроць няпрыяцельскіх акопаў. Праз дзесяць хвілін ад яго не засталося і паловы, і двое сутак давялося капаць магілы. Я ведаю, сам палкоўнік з свайго бліндажа і носу не пакажа; ён падтрымлівае ваяўнічы дух за наш кошт. Які ва ўсім гэтым сэнс, скажэце вы мне, калі ласка?

— Пан палкоўнік знайшоў, што мы гэтым самым пакажам расійцам, што мы іх не баімся,—растлумачыў Швэйк.

— Вядома, яму і няма чаго іх баяцца,—уставіў свае словы радавы Брэчка, што быў да мобілізацыі за цесьлю.—Браткі, вы і ў вочы ня бачылі, што яго за бліндаж. Ён ззаду рэзэрваў, і жыве ў ім ён усяго адзін. Бліндаж выкапаны на глыбіні ў пяць мэтраў, і столь зроблена з паложаных накрыж бярвеньняў, а зьверху на іх—мяшкі з пяском, а потым яшчэ маскіроўка—гной і зялёныя галуны. Палкоўнік баіцца, што на яго могуць скінуць бомбу з аэропляну. І от, у гэтай нары ён сядзіць, як рудая мыш, а нам ён плешча пра «ваяўнічы дух».

— А ці ведаеце, даражэнькія, што была-б за любата? Каб наш пярдун вышаў біцца адзін-на-адзін з пярдуном, што камандуе рускімі,—увязаўся ў гаворку ефрэйтар Трыка, цесьля з

Печака.—Ну, скажэце, даражэнькія, хіба ня было-б куды прасьцей, каб кожны батальён або полк, або скажам, дывізія выбралі-б па адным прадстаўніку, а іншыя былі-б судзьдзямі ў барацьбе? І калі-б рускі наклапаў нашаму, дык мы лічыліся-б пераможанымі, а калі-б наш зьбіў на порахаўку маскаля, дык рускія павінны былі-б здацца. І пры гэтым мала каму прышлося-б старацца, каб перамагчы. Я чытаў калісьці пра такі спосаб весьці вайну вельмі цікавы роман, пад назваю «Сон паляўнічага на мядзьведзяў». У гэтым романе ёсьць гэрой, якога звалі Ольд-Чэтэрхенд, дык от той заўсёды хацеў біцца з індэйцамі адзін за ўсіх сваіх таварышоў. І ня толькі навучаў іх, чырвонаскурых, літасьці і дабразычлівасьці каталіцкае веры, але і страляў індэйцаў, хоць рабіў гэта не з вялікаю ахвотаю. І от гэты Ольд-Чэтэрхенд заўсёды гаварыў сваім таварышом, калі выходзіў біцца адзін-на-адзін з якім-небудзь правадыром індэйцаў: «Ня бойцеся за мяне і спадзявайцеся на бога, які пашле мне перамогу. Я супраціўніка свайго не заб'ю, але каб ён пазнаў, што я—хрысьціянін, я адсяку яму тамагаўкам абедзьве рукі. Наша вера кажа нам быць літасьцівымі нават з імі, чырвонаскурымі сабакамі».

— Гэта неблагая ідэя,—падхапіў Брэчка.—Па-мойму, было-б досыць, каб Вільгэльм або Франц-Іозэф схапіліся з Мікалаем. А ці чулі вы, браткі, што яны адзін аднаму тэлеграфавалі, калі іхныя ўрады пачалі пасылаць дыплёматычныя ноты? Вільгэльм, кажуць, тэлеграфаваў у Пецярбург: «Так і ведай, Нікі, чхаць нам на цябе». А той, дзейкаюць, адказаў: «Паглядзім, Вільлі, хто каго пераплюе. Я цябе не баюся». Ну, а наш старэнькі дзядок паслаў абаім па тэлеграме: «Рабеце, што хочаце. Мне на ўсё начхаць». Дык от калі яны змаглі гэтак дражніцца, то ім варта было-б і пабіцца паміж сабою.

— Тое, што ты кажаш пра Вільгэльма і Мікалая,—шчырая праўда,—з упэўненасьцю прамовіў Швэйк,—але тое, што ты гаворыш пра нашага імпэратара,—агідны паклёп! Ягоная імпэратарская вялікасьць прыняў вестку, што Расія абвясьціла яму вайну, з спакойнай годнасьцю і справядлівым абурэньнем, як пісала газэта «Голас народу». Ён кажуць сказаў савету міністраў: «Чымся больш ворагаў, тым больш гонару!», і «Калі мы аж да гэтых дат ня выйгралі яшчэ ніводнае вайны, дык нам ня так ужо важна прайграць і гэту!» ці нешта накшталт гэтага. Пасьля

ён адразу паехаў у капуцынскі манастыр і там маліўся і зьняўся на фотографіі, і такая ілюстрацыя была ў часопісі «Сьветазар». А ў Добжычы за старшыню Саюзу вэтэранаў быў нейкі Лукеш, бляхар, які пачуў пра гэту ілюстрацыю і наўмысьля прыехаў ў Прагу купіць сабе гэты нумар «Сьветазара». І ён ня мог нават даліць піва,—так шкода стала яму нашага імпэратара, калі ён убачыў старэнькага такім згорбленым і расчуленым. Лукеш ад гэтага пачаў ікаць, і адзін з прысутных параіў яму зьесьці жменьку солі з салянкі. Потым, калі ў яго забілі на фронце старэйшага сына, а другі вярнуўся бяз рукі і з высмаленымі вачыма, ён павесіў гэты портрэт у клёзэце, і яго забралі жандары. Цяпер ён, кажуць, у Пэрэзіенштадзе.

— А ўсё-ж такі было-б куды лепш, каб цары біліся паміж сабою адны і не чапалі сваіх падданых,—не пакідаў пра сваё Брэчка. Ім ня трэ' было-б страляцца з пісталетаў, нават шаблямі рэзацца, калі яны ўжо так баяцца крыві. Яны маглі-б проста дужацца францускім спосабам або новым стылем, як нашы барацьбіты Шмэйкаль і Фрыштэнскі, і гэта было-б таксама някепска.

— Не, браце, куды гэта варта,—шчыра запярэчыў Швэйк.— Калі цары распачалі паміж сабою калатнечу, дык яна можа быць вырашана толькі ў сумленнай бойцы, у якой нельга жульнічаць і ў якой бярэ ўдзел столькі людзей, што яны ня могуць змовіцца ні ў адным якім шальмоўстве. Калі я быў у шпіталі, побач са мною ляжаў нейкі Пэпі Шкура. Ён быў за артыста вар'етэ, куплетыстам салёнаў і, калі ня краў, дык разьяжджаў па белым сьвеце з вандроўным цыркам. Ён умеў рабіць наўдзівосныя штукі з картамі, глытаў шпагі, еў пакульле, што гарэла, забіваў сабе ў рот шасьцідзюймовыя гвазды, але лепш за ўсё ён умеў красьці; апрача ўсяго гэтага, ён быў барацьбітом па францускім дужаньні. І от аднаго разу ён расказаў мне свае прыгоды, і пры гэтым адна рэч моцна засела ў мяне ў галаве. А расказаў ён мне прыблізна от што: «Я ў той час заляцаўся да нейкай Ганны Чадовіц, і было ў нас дзіцё. Гэта была надзвычай прыгожая жанчына, графскага роду, дачка нейкай нямецкай княгіні, але ў апошнія часы яна займалася ў Ёзыфаве проституцыяй. Ну, от я вязу тачыльнае кола, а яна калясачку, і мы такім парадкам падарожнічаем з Ічына ў Турнаў. Там яна нечым мяне

ўзлавала, так што я пакінуў тачыльнае кола разам з ёй на вуліцы і змыўся. І ці дасі веры, дружа, што я спаткаў яе адно праз тры гады на вялікай дарозе за Кралавіцамі пад Плзенам? Я зьбег ад яе ў Наву-Паку, а там быў нейкі Шымэк са сваім цыркам, і ён адразу прыняў мяне да сябе ў трупу, як непаражальнага індыйскага факіра, дакорніка тыграў і караля джунгляў. Але ў Паке людзі цёртыя, і цырк у нас пуставаў і бяз дзіва—у Шымэка было ўсяго двое коняй, муштраваная каза і сабака, якога я нічога ня мог навучыць, а таксама выступала ягоная жонка з вучонай малпай. Тады мы надумаліся пераехаць у Нова-Боўзаў, таму што Шымэк казаў, што там яшчэ ніколі ня было цырку, што гэта, так сказаць, бязьвінны горад. Далі мы першы gala—паказ, і прышло ўсяго некалькі хлапчукоў; далі другі з сталічнаю праграмаю—ізноў адны ўсяго хлапчукі. Крэслы пуставалі, добрай публікі як ня было, так і няма. Пачухаў сябе Шымэк за вухам, а пасьля даў тэлеграму ў Прагу, паехаў сам у Нова-Балеслаў, і прывёз з тамтэйшае друкарні вялікія афішы: «Сёньня і штодня ў Цырку Чэмпіёнат французскае барацьбы на годнасьць Чэмпіёна сьвету і ўзнагароду на дзесяць тысяч крон. Барацьба цягнецца да канчатковых вынікаў». Раніцою мы расклеілі гэтыя афішы, а ў полудзень прыехалі тры паны з Прагі, якія нікому не назвалі сваіх прозывішчаў, а толькі запыталіся дырэктара. Выявілася, што гэта—чэмпіёны Нямеччыны, Расіі і Партугаліі. Увечары адбылася барацьба, і я ўдаваў сябе за чацьвертага, «Чорную Маску». А наш спрытны дырэктар, Шымэк, тымчасам пад сакрэтам расказаў у шынку, што гэта «Чорная Маска»—адзін прамадзянін з Боўзава, што захацеў астацца невядомым. Увечары цырк быў паўнюсенькі, як зачыніць, так што ледзьве ня было парвана на шматочкі парусіна, і пасьля звычайнае праграмы адбылася барацьба. Зразумела, дружа, мы наперад змовіліся, на каторай хвіліне і хто каго палажыць на лапаткі, але гэтыя падлюгі штурлялі мяне так, як анучу, так што таго вечару я паклаў на абедзьве лапаткі ўсяго чэмпіёна Партугаліі, а чэмпіёны Нямеччыны і Расіі так і не падаліся. На другі дзень той, што ўдаваў сябе за чэмпіёна Расіі, таксама даў сябе перамагчы, і цырк роў ад захапленьня. На трэці дзень Шымэк абвясьціў,—бразгаючы ў бубен, як мае быць!—што чэмпіёны, якія зьехаліся на спаборніцтва, выкліка-

юць найдужэйшых людзей з Боўзава і ягоных ваколіц дужацца з тымі за знагароду на пяцьдзесят крон. І тады на вячорны паказ прыехалі нават тыя, хто жыў за тры гадзіны язды ад гораду, і мне давялося залажыць чэмпіёну Нямеччыны такі гальштук, што ён паляцеў потарч носам. А пасьля паказу ўсе тры чэмпіёны напіліся ў шынку і п'яныя зьбілі дырэктара, што ён ім надта мала заплаціў, ды тае ночы сабраліся і паехалі. Раніцай я калю за каламашкаю дровы, і раптам дырэктар Шымэк кліча мяне, каб я на хвіліну прышоў да яго. У каламажцы сядзіць нейкі незнаёмы пан; ён устае, падае мне руку і кажа: «Дазвольце пазнаёміцца: Тухічэк, тутэйшы мясьнік. Мне вельмі хацелася-б, пане чэмпіён, паспрабаваць з вамі, якая ў мяне ёсьць сіла». У мяне аж у вачох пацямнела. Дзіва! Мужчына, здаровы, як бугай. Рукі тыя, рукі—як лапаты, ногі тыя, ногі—як бярвеньне. Узяўся я гэта за ручку дзьвярэй і кажу: «Што-ж вельмі прыемна. Але ці застрахаваліся вы на выпадак сьмерці, пане Тухічэк? Ці паклапаціліся вы пра жонку і дзяцей? Бачыце, я прынцыпова не ўжываю небясьпечных прыёмаў, дужаючыся з аматарамі, але ніколі нельга ведаць, што можа стацца!» Пан Тухічэк замаркоціўся, а дырэктар падмігвае мне, каб я вышаў разам з ім. І от за каламажкай пан Тухічэк, сароміючыся, пачынае: «Бачыце, пане чэмпіён, што сілы ў мяне досыць, але я ня ведаю вашых спосабаў і трукаў... Паслухайце, дайцеся мне палажыць вас». Я, вядома, страшэнна абражаны і кажу: «Ды што вы сабе думаеце, шаноўны васпане? Я—чэмпіён Эўропы, і павінен дазволіць вам палажыць мяне на абедзьве лапаткі? Мне даводзілася дужацца са Шмэйкалем, з Фрыштэнскім, Штэйнбахом, Цыганевічамі і нэграм Цыпсам, і ўсім ім я паказаў, пачом хунт ліха. Шот-ж, па-вашаму, слава мне дарма прышлася, што я яе ні за што ні праз што павінен аддаць вам?» А ён нават рукі злажыў. «Пане чэмпіён,—кажа,—вы адно зразумейце: вы адгэтуль паедзеце, і ў газэтах пра гэта не напішуць, а я-ж тутэйшы, і мяне засьмяюць да сьмерці—вы нашых боўзаўцаў ня ведаеце. Ну, ласкай прашу вас, дайцеся мне падужаць вас, і я вам яшчэ дадам пяцьдзесят крон і заплачу за вас ў шынку за ўвесь час, што вы тут прабудзеце». Ён тут-жа запрасіў мяне пасьнедаць з ім, так што нарэшце такі я згадзіўся, што ён паваліць мяне, але я ўмовіўся, што гэта не павінна раней быць, як на шаснаццатай

хвіліне... Дарагі мой, за ўсё жыцьцё мне не давялося зьведаць таго, што таго вечару. Цырк быў паўнюсенькі, не ўважаючы на патроеныя цэны, і пан Тухічэк абыходзіўся са мною ну проста, як саракапут з майскім жукам! Ён душыў мяне так, што я задыхаўся, і шпурляў мяне на пясок, як няшчасную варонаўку; я за яго адно чапляўся, каб не паваліцца ад слабасьці. Нарэшце я яму шапчу: «Ну, цяпер!» і ён наваліўся на мяне ўсім цяжарам і націснуў мне каленам на грудзі, а пасьля наступіў мне нагой на жывот і пачаў адбіваць паклоны перад публікаю. Узьняўся такі роў, што ў Заботцы людзі павыскаквалі ў адных сарочках на вуліцу, а званар палез на званіцу біць на трывогу, нібы Заботку забралі прусакі. А пасьля дырэктаршы ўвесь тыдзень давялося расьціраць мяне—да таго я ўвесь быў у сіняках і пацдёках!»

— Загэтым, браткі,—скончыў Швэйк сваё апавяданьне,—нельга было-б і царом даць веры, што яны ня ўмовіліся як-небудзь спальмаваць, нават каб яны вырашылі пакончыць справу паміж сабою паядынкам або францускай барацьбой. От калі аднаго разу адбываўся чэмпіёнат францускае барацьбы ў Празе, дык тады, сапраўды, усё было іначай. У той час барацьбіт Урбах з Нямеччыны адарваў вуха і расквасіў нос нашаму Шмэйкалю, што вельмі павялічыла сымпатыі да пана Шмэйкаля. Ён, ведаеце, расьцёр сабе кроў па ўсёй сваёй мызе і сказаў з гэтае прычыны прамову, каб публіка мела ўяўленьне аб тым, што яму даводзілася зносіць за межамі, раз нават у залатой славянскай Празе немец адважваецца адхрысьціць яго так. Але потым у барацьбе вольным стылем ён так адплаціў Урбаху, што немец выў бялугай, а дзьве біляцёршы траха не памерлі, дапамагаючы пану Шмэйкалю рукамі і нагамі, каб бэрлінец ня вырваўся з ягоных лап. А ўвечары яны абадва напіліся дап'яна ў «Графе» ў Вінаградах і пачалі абнімацца і цалавацца, таму што ў барацьбітоў гэткі звычай—абыходзіцца адзін да аднаго па-рыцарску. Але гэта надта доўгая гісторыя, і я раскажу яе вам другім разам; а зараз мне трэба ісьці, бо, пэўне, ужо раздаюць паёк.

Ён пашоў, і неўзабаве раздалося ў другім месцы:

— Браткі, заўтра на ўсім фронце пачнуць наступаць, і наша 12-я рота першая пакажа няпрыяцелю, дзе ракі зімуюць. Прышоў гэткі загад ад самога імпэратара; ён надта хоча, каб вайна як мага хутчэй скончылася.

Пакуль Швэйк наводзіў паніку «клёзетнымі тэлеграмамі», Балун руплна разаграваў на агні свой кацялок. Пад уплывам вечнага голаду Балун лёгка стаў ахвяраю захапленьня, што, паміж іншага, перайшло і на іншых салдат: ніксаваць кацялкі ў сярэдзіне і задумляць новыя патравы з экзотычным смакам, з прычыны зьмены абелу ў кацялку. Часта, вяртаючыся, Швэйк заставаў Балуна ў суседнім бліндажы над шмараваньнем кацялка кавалачкам сьвіное скваркі; ён то награваў, то абціраў анучкаю кацялок, каб ён блішчэў, як срэбра. Пасьля ён даставаў з рэчавага мяшка розныя скруткі і пакуначкі і пачынаў тлумачыць:

— Перш-на-перш ты, братка, палажы туды кавалачак сала, потым прыпраў нац[…]тага часнаку і колькі каліў перцу і дай падсмажыцца. Пасьля вазьмі лыжку мукі, колькі штук сушаных сьлівак і залі вадою так, каб яно згусьцела, калі прастыне. Можна палажыць і драбок цукру, але канечне не забудзься гэтую штуку пасаліць. А калі ты яшчэ дадасі кубік сухога бульёну «Магі» і пакроенага на лустачкі хлеба, дык будзе такая смачная яда, якой ты ня знойдзеш ні ў якім рэсторане.

Посьпех гэткае справы можна было лёгка растлумачыць, таму што армія забясьпечвалася з перапынкамі; расійцы пільна пасачылі ўдзень і ўночы і рабілі немагчымым падвоз у вялікім памеры. Як толькі батальённы абоз пачынаў грукацець недалёка ад якой-небудзь вёскі, на вуліцы пачыналі ўжо рвацца знарады. Кухня пад'яжджала адно пад раніцу і заўнімалася за паўгадзіну хады ад акопаў, і садатам даводзілася ў цемры цягнуцца да яе са сваімі кацялкамі.

Раздатчык прынёс тры пасудзіны з вараным рысам і накрышаным ліверам на дзесяць чалавек; салдаты руплна праколвалі новыя дзюркі ў сваіх папружках. Хлеба давалі па чвэртцы булкі на дзень, а сыра адно дзюркі з тоненькім абадком; консэрвы з кавы былі дрэнь дрэнью, таму што на консэрвовых фабрыках туды дамешвалі замест кавы высеўкі, а сала прыпадала на чалавека па такім маленькім кавалачку, якімі шпігуюць зайца. Але Балун умудрыўся рабіць і з малога.

Аднаго разу расійцы ўзяліся абстрэльваць вёску. Яны распачалі страляніну з цяжкіх гармат і стралялі ўсю ноч; на працягу дня яны адно час-часом пасылалі «гасьцінца», каб паказаць, што яны не заснулі, а з цемраю агонь ізноў павялічаўся.

Кухні не падыходзілі, абоз адсылалі назад, бо знарадам забіла каня першае хурманкі, і агонь увесь час трымаўся па лініі дарогі. Такім чынам, ежы не раздавалі двое сутак, і ў акопах галадалі.

Паручнік Лукаш дазволіў зьесьці «недатыкальны запас», але гэты запас быў ужо даўно зьедзены і ператраўлены; бо, хоць унтэр-афіцэры штодня павінны былі правяраць, ці ёсьць у салдат консэрвы, іх усё-ж такі цішком зьядалі, каб на выпадак параненьня ці сьмерць ў бойцы яны не засталіся санітарам.

Вайна рабіла з людзей вынаходцаў: бляшанкі асьцярожна адкупорваліся, апаражняліся, ізноў запячатваліся і насіліся парожнімі; у час аглядаў консэрвы ў салдат заўсёды былі ў парадку, і мінула досыць шмат часу, пакуль здагадаліся, што бляшанкі трэба браць у рукі і больш пільна аглядаць.

Да няўдачнікаў, якія былі выяўлены ў ашуканстве сваіх начальнікаў, належаў і Балун, што зжор свой «недатыкальны запас» ужо на другі дзень, калі нейкі шальмаваты салдат навучыў яго, як гэта зрабіць. І от цяпер ён у роспачы бегаў туды і сюды, спрабуючы знайсьці якую-небудзь ежу, але нічога ня мог расстарацца, бо консэрвы Лукаша пасьпелі зьнікнуць. Балун саўсім страціў галаву і пачаў плявузгаць, што пачынаецца «сьветапрастаўленьне» і пачынаецца дзень страшнога суду; ён сядзеў у кутку бліндажа і маліўся па маленькай кантычцы, якую жонка паслала яму з дому разам з вяндлінаю, каб у яго была і духовая страва.

Тае самае ночы расійцы зрабілі атаку на аўстрыйскія пазыцыі, а пад раніцу паўтарылі яе. Наўсьцяж усяго ланцуга акопаў траскатаў пякельны агонь; ззаду іх і ў калючым дроце агарожы рваўся знарад за знарадам, і Балун, заткнуўшы сабе вушы, прыказваў:

— Настаў ён, настаў! Сьпярша нас марылі голадам, а цяпер саўсім забіваюць.

— Што-ж і гэта можа стацца,—аказаўся Швэйк, прысланіўшыся да сьцяны і вызначаючы па яе хістаньні, на якой адлегласьці разарваўся знарад.—А ты ведаеш, што перад сьмерцю трэба добра папасьціць. Паміраць—гэта яшчэ больш важная справа, як есьці да прычасьця. Па сьмерці чалавек ідзе да ня-

беснага прычасьця, і не захоча-ж ён зьявіцца туды з поўным брухам. У самым пачатку вайны, пасьля бойкі пад Замосьцем, фэльдкураты пашлі прычашчаць на поле бойкі, ды і з Замосьця з імі пашоў і рабін паглядзець, ці няма там якога-небудзь канаючага яўрэя, якога ён-бы мог духова ўцешыць. От ідзе ён з адным фэльдкуратам і глядзіць, як адбываецца звычай апошняга алеяпамазаньня цяжка параненых, і раптам пад кустом яны знаходзяць двух параненых салдат. Адзін з іх быў хрысьціянін, а другі—яўрэй. От фэльдкурат і дараваў свайму грахі, і саборваў яго, і духова ўцешыў яго. «Сыне мой,—гаварыў ён,—цяжкія твае раны і канчаецца тваё жыцьцё; але не палохайся, бо яшчэ сягоньня ты ўгледзіш аблічча бога і вечна ў захапленьні будзеш дзівіцца на яго». І от салдат пацалаваў крыж і памёр. А рабін таксама памаліўся над салдатам-яўрэем і таксама захацеў уліць у ягоную душу надзею на далёкую дарогу, і сказаў: «Майсей, я бачу, што нядоўга табе ўжо заставацца тут, але не ўдавайся ў роспач, таму што для ўсіх настае час, калі трэба пакінуць свае справы. І ты сканаеш так хутка, што яшчэ сягоньня будзеш вячэраць з Абрамам». Тады салдат плюнуў і ўздыхнуўшы адказаў: «Бачыць бог, што мне саўсім ня хочацца есьці». Так што, Балун, стары грэшнік, падрыхтуйся да падарожжа ў рай.

Балун стаў на далені і пачаў цалаваць аправу свае кантычкі; у гэту хвіліну энарад так недалёка грохнуў ад іх, што са столі пасыпалася гліна, і Швэйк многазначна прамовіў:

— Зараз нам будзе амаң!

І раптам сярод найвялікшае канонады пачуўся знадворку голас:

— Командзіра! Дзе командзір? Командзіра!

— Швэйк, схадзі паглядзі, каго тут нячыстая прынесла,—загаду паручык Лукаш.—Ліха на яго, можа гэта ордынарац з загадам, каб нам уцякаць адгэтуль.

Швэйк закульгаў на голас, што не перасьціхаў: «Командзіра! Дзе командзір?», і неўзабаве вярнуўся з двума салдатамі, што цягнулі на плячох вялікія, цяжкія мяшкі.

— Паёк? Сыр, консэрвы, сала?—запытаўся, выходзячы да іх насустрач, паручык Лукаш.

— Так, што пане паручык,—адказаў адзін з працоўных,— нам невядома, што ў іх ёсьць. А толькі от пакет ад пана палкоўніка Шрэдэра. Нам загадалі даставіць яго, каб тут няма ведама што, і дакляравалі за тэты срэбны мэдаль і тыднёвы водпуск.

Паручык разарваў пакет і хутка прабег колькі радкоў: «Тое, што ў мяшкох, неадкладаючы тэрмінова раздаць людзям даручанага вам батальёну, пераканаўшы іх, каб яны трацілі ашчадна». Падпісана: «Палкоўнік Шрэдэр».

— Халера іх ведае, што там можа быць?—лаяўся паручык, шчупаючы мяшкі.—Ручныя гранаты? Патроны? Сыгнальныя ракеты?

Ён загадаў Швэйку паглядзець, што ў мяшкох. Балун, у якога загарэлася іскра надзеі, кінуўся на дапамогу Швэйку, бо ён думаў, што ў мяшкох—сухары.

Пад вострымі нажамі вяроўка ў момант паляцела, і швэйкавы рукі зьніклі ў сярэдзіне аднаго мяшка. Пасьля яны ізноў паказаліся і выцягнулі прыгожа зложаныя і зьвязаныя пачкі танюсенькае паперы. Швэйк перадаў іх Лукашу.

— Што гэта такое?—прастагнаў паручык Лукаш.—Папера, тонкая папера! Салдатам на цыгаркі? Ды гэта-ж тытуну не раздаюць?

Паручык зьбянтэжана глядзеў на мяшкі і на салдат, што прынесьлі іх.

— Так што,—заявіў адзін з іх,—дазвольце далажыць, учора нейкія старшыя дактары, генэралы, рабілі агляд у вёсцы і заглядвалі ў клёзэты. Дзяншчык пана палкоўніка расказаў, што ў іх гаварылі, што нібы салдаты скарыстоўваюць у клёзэтах лісты з дому, малюнкі сьвятых і портрэты імпэратара, што на фронце страшэнная патрэба ў шматку паперы, і што ад гэтага церпіць пачуцьцё павагі да сям'і да рэлігіі і да існуючага ладу. Так што, пане паручык, асьмелюся далажыць, гэтая папера мусіць...

— Езус-Марыя!—радасна перапыніў яго Швэйк.—Тут-жа нам пасылаюць бурай, белай, ружовай і блакітнай! Так што, пане паручык, я яшчэ ніколі ня бачыў гэткай прыгожай клёзэтнай паперы! Ах, тут ёсьць і ў роліках з надпісамі: «Чыстата— палова здароўя». От, дазвольце сказаць, пане паручык, будзе асалода хадзіць да ветру! Калі раздаць яе хлопцам, яны цэлымі

днямі будуць сядзець над раўкамі. Яна такая далікатная, як малады гусак, і ня будзе дзёрці.

— Маўчы, Швэйк!—прасіпеў паручык Лукаш і, зьвяртаючыся да салдатаў, упалым голасам сказаў: «Далажэце пану палкоўніку, што ў нас ужо трое сутак няма ні хлеба, ні пайка, ні гарачай стравы, ні нават консэрваў. Далажэцэ яму, што ў нас выходзяць агнястрэльныя прыпасы і што я ані з кім не магу наладзіць сувязі па тэлефоне. Далажэце яму, што я раздам гэту клёзэтную паперу, як перасьціхне страляніна з няпрыяцельскага боку; цяпер-жа папера салдатам непатрэбна.

Балун заламаў над мяшкамі рукі; салдаты рыхтаваліся ісьці назад, а Швэйк пасьпяшыў замацаваць паручыкавы словы.

— Вы бачылі, браткі,—сказаў ён,—як лупіць па нас маскаль? Дык от, скажэце палкоўніку, што ў нашых хлапцоў з пераляку так зьляпіла задніцы, што пырынкі туды ня ўставіць. Скажэце яму, што ў нас наогул да ветру ня ходзяць і што...

— Швэйк, заткніся!—раззлавана крыкнуў паручык.

І тады Швэйк, зьвяртаючыся да паручыка Лукаша, сказаў мякка і лагодна:

— Мяне зусім нават ня зьдзіўляе, пане паручык, што гэтая клёзэтная папера вывела вас з сардэчнае роўнавагі. У мяне з такою дрэньню таксама аднаго разу былі вялікія няпрыемнасьці. Гэта было, асьмелюся далажыць, калі я служыў вучнем у аптэкарскім складзе ў пана Какошкі. У абедзены час я заўсёды заставаўся там адзін, затым, што прыказчыкі ішлі абедаць, а гаспадар пісаў лісты ў сябе ў канторы. І вось прыходзіць аднаго разу жанчына і пытае крэму на рукі. Я паглядзеў у скрынку—крэму няма. Я і кажу: «Крэму цяпер няма», і яна пашла. Але-ж стары Какошка выглянуў з канторы і пытае: па што прыходзіла жанчына, а калі я яму растлумачыў, ён мне кажа: «Так, Пэпі, ты не павінен адказваць. Калі чаго-небудзь няма, дык прапануй што-небудзь падыходнае. Бо, уласна кажучы, усё гэта адно і тое-ж». І даў мне аплявуху. Вось аднаго разу ў абед прышла адна дама і кажа: «Дайце мне пяць пачкаў клёзэтнае паперы». А ў нас раніцою якраз уся вышла, і новае мы яшчэ не атрымалі. Толькі я хацеў быў ёй гэта сказаць, як у тую-ж хвіліну згадаў свайго гаспадара, дый кажу: «Клёзэтнае паперы ў нас цяпер няма, пані, але шкляное і наждачнае паперы ў нас ёсьць усе ну-

мары. Колькі аркушаў вам патрэбна?» Дазвольце далажыць, пане паручнік, я атрымаў таго разу ад пана Какошкі толькі аплявух, што ў мяне яшчэ і сёньня, як згадаю, у вушох зьвініць. Таму што пан Какошка быў вельмі сур'ёзны чалавек і прагнаў свайго лепшага прыказчыка, пана Таўхэра, толькі за тое, што той сказаў яго экономцы, калі тая прышла да нас у магазын і спытала: «Ці ёсьць у вас зельле на каханьне?» адказаў: «О, пэўна, у мяне заўсёды ёсьць мэта каханьня, а асабліва, калі я бачу вас».

Балун заснуў на мяшкох з нечаканым грузам, а паручнік Лукаш вышаў з бліндажа, таму што страляніна эбольшага перасьціхла. Швэйк залажыў пярэстыя пачкі паперы ля сьцяны, разважаючы пра тое, што, уласна, патрэбна было-б прыслаць яшчэ конфэці і сэрпантын...

Каля дзевяці гадзін страляніна зусім перасьціхла і расійцы запрапанавалі праз парлямантэра перамір'е, каб можна было падабраць параненых і пахаваць забітых. Іх было нямала, і яны ляжалі толькі ў некалькіх кроках ад аўстрыйскае загарожы з калючага дроту. Пасьля скančэньня ўсіх фармальнасьцяй, паручнік Лукаш загадаў, каб рабочая каманда батальёну дапамагла расійцам капаць магілы. Узводны, пад начальствам якога працавала гэта каманда, неўзабаве прыслаў паведамленьне, што сярод забітых расійцаў трапляюцца і аўстрыйцы. Напэўна, варта і сакрэты не пасьпелі вярнуцца ў свае акопы і былі забіты стрэламі з абодвых бакоў.

З вёскі пад'ехалі кухні і абоз з хлебам і пайком: акопы заварушыліся, з бліндажоў узьняліся палоскі дыму і другая зьмена рабочае каманды папраўляла зруйнаваньні, зробленыя бомбардыроўкаю. Салдаты, накормленыя і здаволеныя, павылазілі з акопаў і сталі глядзець на работу магільшчыкаў і санітараў, якія адносілі параненых ў тыл, а забітых, разьдзеўшы дагола, складвалі ў кучы. Забітых набіралася ўсё болей і болей і кучы павялічваліся праз кожную хвіліну.

Расійцы таксама паказаліся на грэбяні сваіх акопаў; яны стаялі, пераступаючы з нагі на нагу, перад тымі людзьмі, якіх яны яшчэ гэтаю ноччу хадзілі забіваць і якія павінны былі забіваць іх самых, і зьдзіўлена і тупа глядзелі на вынікі бойкі.

Раптам сярод іх паказаўся вялікі плямісты сабака. Ён ткнуўся носам у забітых, падлез пад расійскую драцяную агароджу, ёгаючы ад болю, затым, што калючкі рвалі яму скуру, і падбег да кучы трупаў, вакол якое працавалі магільнікі. Ён усіх абнюхаў, абышоў наўкол і проста кінуўся да аўстрыйскіх акопаў, не бяручы ўвагі на крык: «Казьбек, сюды! Казьбек!».

Ён шчасьліва мінуў агароджу і ўскочыў, быццам каго-небудзь шукаючы, у акоп; а потым ён забраўся ў бліндаж, дзе з некалькімі другімі салдатамі сядзеў Швэйк і абмяркоўваў становішча, што стварылася пасьля бойкі і атрыманьня харчоў.

— Наш паручык запатрабаваў зьмену,—запэўніваў усіх Швэйк,—і ўначы нас абавязкова зьменяць.

— Ну, калі-б нас зьбіраліся зьмяніць,—запярэчыў капрал Рыцына,—сюды ня прывезьлі-б гарачае стравы, а тым больш пайкоў. Ззаду нас, братка ты мой, няма ні душы; мы застанемся тут, пакуль нас усіх не пераб'юць.

— Глядзеце, браткі, сабака! І якраз, як мой Фокел!—задаволена крыкнуў у гэты момант Клейн, бядняк з-пад Табару.— Фокель, Фокель, ідзі сюды, ідзі, дурасьлівы!

Ён цмокнуў языком; сабака, віляючы хвастом, спыніўся перад ім, пазволіў прылашчыць сябе і ўзяць за аброшку. І Клейн, шчасьлівы, што знайшоў тут нешта роднае, абняў сабаку і пацалаваў яго, прыгаворваючы:

— Ух, ты сабачка, ух, ты мой харошы! І якія ў яго прыгожыя вочы! Ні ў кога на сьвеце няма такіх вачэй, браткі, як у жывёлы. У мяне дома было пара валоў, якіх я сам і выгадаваў. І вось у аднаго з іх былі такія вочы, што нават у дзевы Марыі не маглі быць прыгажэйшыя. Браткі,—сказаў Клейн неяк дзіўна ў нос,—я жыў толькі дзеля гэтых валоў, толькі дзеля іх я жыў.

— Дзіўная справа жыў дзеля валоў, а паміраем дзеля яго імпэратарскай вялікасьці,—дадаў Швэйк да гэтага сардэчнага крыку.—А ведаеш, сябра ты мой, што...

Ён замаўчаў, таму што звонку пачуліся ўсхваляваныя салдацкія галасы; потым чутно было, як гаварыў паручык Лукаш: неўзабаве ўсё сьціхла, у бліндаж зазірнуў нейкі салдацік і шэптам паведаміў:

— Гэта таму, што цяпер перамір'е, дык яны і зьявіліся; а то ўжо, напэўна, і ня глянулі-б сюды! На агляд прыехалі,

браткі: сам палкоўнік, чужыя афіцэры, дактары і адзін генэрал.

Па акопах, і сапраўды, праходзіў галоўны доктар Вітроўскі, той самы, які ўночы прысылаў клёзэтнае паперы.

Гэты галоўны доктар быў у палоне навязьлівае ідэі, што дэзынтэрыя, халера і тыфус зьяўляюцца ад таго, што ў прыбіральнях ня было паперы; і вось ён хадзіў па акопах і цікавіўся, колькі яе патрэбна будзе на гэтую мэту. Тымчасам ён тлумачыў сваім спадарожнікам:

— Але, панове, чыстата—вялікая справа. З захворваньнямі і сьмяротнасьцю ў арміі можна змагацца толькі пры дапамозе клёзэтнае паперы.

Выказаўшы гэтыя мудрыя словы, ён на чале высокіх наведвальнікаў пакінуў прыбіральныя месцы і амаль адразу-ж наткнуўся ў акопе на дзіўную процэсію. На расхіненым кавалку брэзэнту два салдаты несьлі голага чалавека, які ўвесь курчыўся, кідаўся, і час-ад-часу ёрзаў усімі цяглілцамі, над якімі ён страціў, мусіць, усялякае кіраўніцтва.

— Што такое?—спытаў генэрал, спыніўшы салдатаў.

— Маю гонар далажыць,—ледзьве выгаварыў ад жаху той, які ішоў наперадзе, апускаючы брэзэнт з голым чалавекам на зямлю,—што гэта—жывы труп. Яму патрэбна было быць мёртвым, а ён жыве; ён быў сярод забітых і раптам ажыў.

— Нэрвовае страсеньне ад выбуху знараду,—самазадаволена зазначыў доктар Вітроўскі.—Вось калі ласка, панове, прыгожы, клясычны, надзвычайна характарны прыклад. Гэта наш ці расіец?—спытаў ён, нахіляючыся над голым чалавекам.

Невядомы безразважным зіркам глядзеў са свайго брэзэнту на гурт начальства, што быў навакол яго, і нічога не адказаў. Тады генэрал прыгнуўся да самага ягонага вуха і крыкнуў:

— Наш ці расіец? Чэх? Мадзьяр? Немец? Паляк?

Але замест адказу цела няшчаснага шалёна курчыла ва ўсе бакі, ногі ўскідваліся ўгору, быццам у скоках, а рукі як быццам нешта лавілі, прычым пальцы сьціскаліся і расьціскаліся. Тады галоўны доктар яшчэ раз правугніў:

— Кажы: аўстрыец ці маскаль?

У Лукаша мароз прабег па скуры, калі ён зірнуў на гэтага, няшчаснага, галава якога білася аб зямлю і падскоквала, быц-

цам гумовая, а доктар, якому зрабілася ніякавата, зьвярнуўся да салдат, што сабраліся наўкола гэтага нябачнага відовішча:

— Хто яго ведае? Гэта наш таварыш ці вораг?

Ніхто гэтага ня ведаў. І раптам аднекуль ззаду праціскаўся да самога генэрала ўдалы ваяка Швэйк і, гледзячы ў твар чалавечае развалiны, што выгіналася ля афіцэрскіх ботаў,—з лагоднаю ўхмылкаю сказаў:

— Так што, дазвольце далажыць, гэта чалавек. Асьмелюся далажыць, што калі людзі разьдзенуцца дагола, дык яны нічым ня розьняцца адзін ад другога, і толькі вельмі рэдка можна пазнаць, адкуль яны і з якое дзяржавы. Так што, мосьць, нават сабакам даводзіцца чапляць нумаркі на аброшкі і нават гусям, і курам чапляюць на ногі кольцы, каб не памыліцца, чые яны. Вось дазвольце далажыць, у Міхле жыла нейкая мадам Круцек, гандлярка малаком, дык у тае нарадзілася трайня, тры дзяўчынкі, а яна, іх родная маці, павінна была намаляваць ім атрамантным алоўкам розныя знакі на задкох, каб не пераблытаць іх, гэта дзяцей, калі яна іх карміла.

— Але, але, гэта правільна. Ён чалавек, ён яшчэ чалавек,— прагаварыў доктар Вітроўскі, кінуўшы сваім спадарожнікам.— Так, значыцца, панове, пойдзем далей!

За яго сьпіною зьбляднелы паручык Лукаш хапіўся рукою за шыю і высунуў язык, каб прымісуць Швэйка замаўчаць і паказаць яму, што ён ізноў адпаліў штуку, за якую яму пагражала быць павешаным.

*

Батальёну так і не зьмянілі, і агорклае жыцьцё цягнулася з дня на дзень далей. Бруд і кароста ўзмацняліся, вошы пладзіліся ў прапацелай бялізьне, якая доўга не зьмянялася, і вайна, якую вялі з імі вачыма і пазногцямі, ня мела посьпеху. Пазногці хрусталі ад раніцы да вечару ва ўсіх швох капуль і нагавіц, а на другі дзень пачыналі змаганьне ізноў. Нават ізоляванае становішча Лукаша ў сваім бліндажы, дзе яму не даводзілася непасрэдна мець справу з ніжэйшымі чынамі, ня выратавала яго ад шэрае нечысьці. Аднаго разу Швэйк прыкмеціў, як паручык шукаў у сябе раніцою пад пахамі вошай, якіх ён проста выграбаў адтуль і кідаў іх у траву; яны былі буйныя

і спасныя, і Швэйк выразна бачыў, як яны, падаючы на зямлю, выцягвалі ножкі.

— Так што,—далікатна зазначыў Швэйк,—дазвольце запытацца, пане паручык, у вас таксама ёсьць вошы? Я з вялікім задавальненьнем нацёр-бы вас мазьзю з жывога срэбра, у мяне ёсьць цэлая баначка. Тады напэўна, пане паручнік, у вас таксама былі-б вошы, але толькі яны-б вас ня елі.

Паручык Лукаш з падзякаю згадзіўся з гэтаю прапановаю і ўвесь аддаўся ў спрытныя швэйкавы рукі, мужна церпячы гэтую козлытовую працэдуру.

Потым, узлажыўшы чыстую кашулю, ён адчыніў чамаданчык і, дастаўшы адтуль бронзавы мэдаль, працягнуў яе Швэйку са словамі:

— Вось табе, Швэйк, насі на здароўе, прашу цябе. Вазьмі сабе гэты мэталь «за храбрасьць», за тое, што не пакінуў свайго афіцэра ў небясьпецы.

— Ды вы і былі ў небясьпецы, пане паручык,—расьмяяўся Швэйк.—Яшчэ адзін дзень, і вошы вас зьелі-б жыўцом... Так што, дазвольце далажыць, я пайду ў лес па ламачча.

Расійцы ізноў пачалі страляць; быў ужо вечар, а Швэйк усё яшчэ не вяртаўся з ламаччам. Ніколі яшчэ ён не адлучаўся так доўга. Паручык Лукаш паслаў Балуна шукаць яго ў бліндажох. Праз некаторы час Балун зьвярнуўся, перапалоханы і ўвесь у сьлёзах, цягнучы за сабой нейкага незнаёмага салдата. Ён паставіў яго перад паручыкам і заегліў:

— Ах ты, гора якое! Швэйка-ж таксама болей жывога няма! Забілі нашага Швэйка, у лесе забілі...

— Швэйка? Хто забіў Швэйка?—закрычаў на Балуна паручык Лукаш.

Балун моўчкі паказаў на незнаёмага салдата; той працягнуў паручыку Лукашу бляшаны капсуль і сказаў:

Маю гонар далажыць, гэта іменны капсуль таго ніжэйшага чына, якога нашыя знайшлі ў лесе забітым. Ад вашае роты, пане паручык, і наш пан падпаручык загадаў запытацца ў вас, ці не накіруеце вы каго паглядзець яго і ці не захочуць таварышы самі пахаваць яго.

Паручык Лукаш адчыніў капсуль; ніякае няпэўнасьці ня было—гэта было швэйкава пасьведчаньне асобы. У Лукаша

было такое адчуваньне, быццам у яго ў целе кавалак лёду паволі спаўзаў ад галавы да ног.

— Дзе ён? Вы яго прынесьлі?—праз сілу прагаварыў ён.

— Пакуль што не, пане паручык. Ён яшчэ ў лесе. Шрапнэльным стаканам яму разьбіла галаву.

Паручык хуткім крокам крануўся за салдатам, у той час, як Балун, усё яшчэ галосячы і плачучы, стаў зьбіраць людзей, каб выкапаць магілу, а потым засьпяшаўся з імі сьледам за паручыкам.

На ўскраі лесу ляжаў забіты салдат; на ім былі толькі адны штаны, а над ім вісела на сучку жыкетка, на якой блішчалі тры мэдалі. Ногі забітага былі босыя, а боты стаялі трохі воддаль. Галава была зусім растоўчана і мазгі і кроў запырскалі ўсё наўкола. Паручык аглядзеў жыкетку з мэдалямі, якая бязумоўна належала Швэйку, і глухім голасам сказаў салдатам:

— Выкапайце яму магілу там, пад дубам.

Да горла яго падкочваўся жмак, на вочы выступілі сьлёзы; ідучы назад ён у думках паўтараў:—Значыцца, і Швэйк! Бедны Швэйк!—і яму здалося, што цяпер бліжэйшая чарга— па яго самога.

Балун позна вярнуўся з магілы, зьбаючыся, як хворы. Ён падагрэў свайму паручыку вячэру і, седзячы пры сьвечцы, дастаў маліцьвенік.

— Мы яму, таварышу залатому, паставілі на магілу бярозавы крыж; бо сьпіць, небарака ў неасьвечанай зямлі, быццам жывёліна якая.

Паручык хутка ўклаўся, а Балун не пераставаў чытаць малітвы.

— Памолімся за дарагіх змарлых! Падай ім вечны мір і спакой, божа, і хай асьвеціць вечнае, ніколі ня блеклае сьвятло. Мір праху ягонаму...

І раптам брэзэнт, што вісеў над уваходам у бліндаж, прыўзьняўся, і ў бліндажы мільганула нейчая белая постаць.

— Найсьвеншая матка божая клакоцкая! Гэта-ж Швэйкаў дух! Ён не знаходзіць сабе супакою ў магіле!—застукаў зубамі Балун, адступаючы ў дальні кут, дзе спаў паручык. Белая постаць спынілася ля сьцяны і пачала шнарыць у ранцы, што

зісеў там. Балун, ні жывы, ні мёртвы, прыціснуў да грудзей маліцьвенік і пачаў заклінаць яе:

— У імя найсьвенцшае тройцы, згінь, нечысьць, рассыпся, не чапай нявіннае душачкі.

— Балун, дубіна, кінь дурня строіць! З глузду ты зьехаў, ці дапіўся да чорцікаў?—сьціхавата пачулася з вуснаў прывіда.—Заткніся, табе кажуць, і ня будзі пана паручыка; я ўжо як-небудзь дацярплю да раніцы.

— Езус-Марыя! Ён хоча застацца тут да раніцы!—заёгліў Балун, кідаючыся на паручыка.—Гэта швэйкаў дух! Гэта швэйкаў дух!

— Ты што з глузду зьехаў, ці што, Балун? Што такое?—накінуўся той на свайго дзяншчыка.

Тады да яго наблізілася нейкая белая постаць, узяла пад казырок, выпучыла жывот і прагаварыла:

— Так што, пане паручык, дазвольце далажыць, ламачча я ня прынёс, а ў лесе нехта ўкраў у мяне адзеньне. Я, ведаеце, палажыў яго на мурашнік, каб мурашкі выбралі з яго вошы і гніды. Гэта пане паручык, вельмі практычны спосаб. Мурашкі так вычышчаюць з яго ўсе вошы і іхныя яечкі, што сэрца радуецца... А потым, дазвольце сказаць, я вымыў у ручаі ногі і трохі прыкарнуў, а калі прачнуўся, дык майго адзеньня ўжо ня было. Я і пасаромеўся зьвярнуцца голым пры сьвятле, пане паручык, каб у нас ня было скандалу... Найпакорней прашу выдаць мне новы рыштунак і бялізну і адшукаць злодзея, які ўкраў у мяне мае мэдалі. Кажуць, некага з нашае роты забіла, пане паручык.

— Ты атрымаеш новы рыштунак, Швэйк, само сабою разумеецца,—сказаў паручык.—А ведаеш, Швэйк, мне ўжо многа з табою было клопату, але калі-б цябе папраўдзе забілі, мне было-б вельмі шкода.

— Так што, пане паручык, дазвольце далажыць,—лагодна ўсьміхнуўся Швэйк,—што я, значыцца, дзеля вас ня дам сябе забіць.

Тым часам Балун троха ачухаўся і, памацаўшы Швэйка, убачыўшы, што той курыць люльку, нарэшце паверыў, што гэта ня прывід. Ён расказаў Швэйку, якія ўрачыстыя пахарункі яму

паладзілі, і як злодзея забіла шрапнэльлю. Пачуўшы, што мэдалі выратаваны, Швэйк сказаў:

— А я нават на іх не напісаў: «Хто ў мяне іх украдзе, у таго рука адпадзе». Бо злодзей-жа толькі пасьпеў злажыць нагавіцы, як сьмерць яго ўжо і пакарала. І хто яго ведае, што было-б, калі-б ён апрануў і маю жыкетку; напэўна, з ім магло-б здарыцца яшчэ што-небудзь горшае.

*

Праз тыдзень пасьля гэтага інцыдэнту расійцы ізноў перайшлі ў наступ. Іхняя артылерыя была ўжо прыстрэляна, і загэтым знарады градам сыпаліся ў аўстрыйскія акопы. Зямля ператварылася ў суцэльнае пекла. Дванаццаць гадзін, не перастаючы, знарады дзяўблі адно і тое-ж месца, разрываючы драцяную агароджу, разносячы ў пыл бліндажы, калечачы і забіваючы людзей. Пад вечар, калі агонь трохі сьціх, па акопах пашыраўся загад: «Адступаць! Адыйсьці назад! Усім!»

Батальён не адышоў, а пабег назад. Ня трэба было падганяць салдат; ззаду іх час-ад-часу ўспыхвала працяглае рускае «Урааа-рааа-рааа!», і гэта адно акрыляла іхны крок. Да позьняе ночы пракладвалі сабе салдаты дарогу ў цемры, то ўгрузаючы па калена ў пяску, то правальваючыся яшчэ глыбей у твань. Нарэшце перад імі мільганула вёска і змучаныя салдаты, што нязьмерна змарыліся ў дарозе, пазалазілі ў гумны і ў хлявы на сена. Няпрыяцель не чапаў іх і дазволіў ім адпачыць да раніцы; але потым ён пачаў абстрэльваць вёску шрапнэльлю.

Паручык Лукаш загадаў адступаць далей і наважыўся выйсьці з батальёнам на шашу. Неўзабаве яны дабраліся да яе, але засталі там нябачаны вэрлах. Толькі таго і было, што перакульваліся якія-небудзь драбіны ці двухколка, затрымліваючы ўвесь рух, пакуль іх ня сьпіхалі з шашы ў канаву. Салдаты спыняліся на час і забіралі з іх консэрвы, хлеб і цукер, не зважаючы на ўдары афіцэрскіх стэкаў і пагрозу рэвольвэрамі. Да кучкі салдатаў, што ўвіхаліся каля драбін з консэрвамі, далучыўся і Швэйк. Ён напхаў сабе поўны ранец і хлебны мяшок з бляшанкамі, за што яго пахваліў стары, бывалы франтавік.

— Добра робіш, браток. Гэта ты добра схавай, а астатняе можна ўсё выкінуць вон. Калі ў цябе ёсьць поўны хлебны мех, лыжка і кацялок, дык ты на вайне не загінеш, таму што для захаваньня жыцьця гэтыя рэчы патрабнейшыя, як стрэльба.

Свайго паручыка Швэйк ужо даўно згубіў, а Балуна ня бачыў ад самае раніцы. Ён спакойна плыў адзін у гэтым чалавечым струмені, які спыняўся, хістаўся, стагнаў і лаяўся, але ўсё-ж нястрымана рухаўся наперад. Перад ім на шашы паганятыя гналі гурты жывёлы, каб яна не засталася няпрыяцелю; цэлыя чароды быкоў, кароў і цялят зьмешваліся з самаахвярнымі ваякамі шэра-сіняе арміі. А няпрыяцель насядаў і яго артылерыя, прыстраляўшыся, пачала слаць знарады ў самую гушчу людзей і жывёлы. Гэта стварыла сярод няшчаснае цацьвёраногае жывёлы, якую ня вымуштравалі канчаць сваё жыцьцё сярод такога фэерверка,—жахлівы перапалох; жывёла ўздрэнчылася, вырвалася і кінулася з апушчанымі рагамі на сьцяну людзей, што была наўкола яе. На шашы стварыліся клубкі цел, што конвульсыйна трапяталіся, каціліся то ў адзін, то ў другі бок. Параненая жывёла, страціўшы розум ад болю і страху, рынулася, зьмятаючы ўсё на сваім шляху, ва ўсе бокі з шашы на волю... Але вось да шрапнэлі расійцы дадалі яшчэ некалькі фугасаў; адзін з іх трапіў у самую сярэдзіну шашы, і ў сумятні, што ўтварылася наўкола яго, разыгралася трагэдыя, якую мала хто з навакольных заўважыў. З-за дзівоснага слупа дыму вынырнула раптам ладная гатунковая карова, як сьляпая, кінулася, нахіліўшы галаву, з усіх наперад і ўсадзіла свае доўгія вострыя рогі ў ранец нейкага салдата, што крочыў ускраем дарогі, і стрымглаў памчалася ў поле. А на яе рогах матляхаўся на папрузе ад ранца салдат, дзіка размахваў рукамі і дзёрся на ўвесь голас:

— Стой, стой, дурная! Цябе-ж расстраляюць за дзяржаўную здраду. Стой!.. Не, такое штукі са мною яшчэ ніколі не здаралася!..

*

Разьезд 8-га Данскога казацкага палка асьцярожна, крок за крокам, прабіраўся наперад. Гэта быў галаўны разьезд атраду, што ішоў на зьмену змучаных частак 3-га Каўказкага

армейскага корпусу. Пяць казакоў ехалі дарогаю, трымаючы напагатове доўгія дзіды. На ўскраі невялікага гаю яны спыніліся, пазлазілі з коняў і, вядучы іх на повадзе, падаліся ў цень дрэў. Харунжы ішоў наперадзе; раптам ён абярнуўся і прашыпеў:

— Кладзіся!

Казакі мігам ляглі, а афіцэр, паўзучы, прабіраўся ў самую гушчарню, адкуль чуцён быў рык, тупат і чалавечы голас. Хутка ён вярнуўся і шэптам аддаў загад. Казакі паўскаквалі на коні і паўколам паскакалі пад дарогу, што ішла праз паляну. Яны прыгатаваліся да атакі, і, узяўшы дзіды пасярэдзіне і выхапіўшы шашкі, пачалі чакаць каманды. Але каманды не дачакаліся, і казакі самі ўбачылі нязвычайнага няпрыяцеля, якога яны зьбіраліся атакаваць. На паляне пасьвілася вялікая белая карова, якую вёў чалавек у падраным аўстрыйскім мундзіру, на вяроўцы, абкручанай вакол яе рог; потым гэты чалавек прывязаў карову да дрэва, лёг пад яе і пачаў выдойваць малако ў кацялок, прыгаворваючы:

— Вось бачыш, Пяструха, цяпер прыдзецца нам з табою не расставацца і ўдаваць з сябе вандроўнікаў у лесе. Ты будзеш карміць мяне сваім малаком, каб я не памёр з голаду. Ну, ну, Пяструха, давай-жа яго болей, ня гань сама сабе! Ведаеш, у сьв. Гэнафэвы было толькі лань, і тая ёй давала толькі малака, што яна магла жыць. А ты-ж як-ніяк тырольскага заводу.

Харунжы паклікаў на мігі бліжэйшага казака і шэптам спытаў у яго:

— Што гэта—палонны? Вар'ят? Ці што?

— Ваша благародзьдзе,—таксама ціха адказаў казак,—у яго стрэльба.

— Няўжо?—зьдзівіўся афіцэр таму, што ў чалавека з каровою была стрэльба.—Ну, наперад, хлопцы!—крыкнуў ён, і чатыры казакі выехалі на палянку, накіравалі дзіды чалавеку ў грудзі і крыкнулі:

— Рукі ўгору!

Чалавек у няпрыяцельскай форме падняў рукі. Адзін з казакаў саскачыў з каня і адабраў ад яго стрэльбу; потым афіцэр павярнуў да яго і спытаў:

— Што ты тут робіш?

Чалавек расшпіліў жыкетку, расхінуў на грудзях кашулю і ў роспачы крыкнуў:

— Забеце мяне, я здрадзіў свайму імпэратару!

— Значыцца, і вас вошы заелі?—мэлянхолічна адказаў яму казак, зразумеўшы, што палонны паказвае яму зьедзеныя грудзі.—Ну, добра, ідзі, браце! Пакаштуй нашае рускае кашы! Наперад, марш!

Схапіўшы салдата за плячо, казак заўважыў тры мэдалі на ягонай жыкетцы. Ён сказаў афіцэру:—Глядзеце ваша благародзьдзе, «за адвагу». Значыцца, ён у нашых страляў!—даў палоннаму па вуху, садраў мэдалі і сунуў іх сабе ў кішэню. Потым ён падхапіў яго пад руку і павёў у штаб. Салдат абярнуўся і прагаварыў:

— Паслухайце, каровы вы ня рэжце, яна малочная... Вось кажуць, што вы нашы браты; але я бачу, якія вы браты! Акурат, як гэтыя Растачылі са Сьлівенца, якія распаролі адзін другому бруха... Ды ня трымай ты мяне так, я і бяз гэтага не ўцяку!.. Вось на Ланцунскай вуліцы жыў адзін шавец, Фуячак по прозьвішчы, дык той сагануў паліцэйскаму, які таксама яго так веў, у морду, дальбог!..

Яны дайшлі да палка, і казак здаў палоннага ў штаб. Усё зьзяла золатам і срэбрам; у нікчэмнага аўстрыякі вочы замітусіліся. Нейкі тоўсты палкоўнік крыкнуў яму:

— Вайсковапалонны? Якая родная мова? Як фамілія?

— Так што, дазвольце далажыць, я халасты,—адказаў палонны,—але гэта вельмі далікатна з вашага боку, ваша высокаблагародзьдзя, што вы пытаеце пра маю «фамілію» пра жонку і дзяцей.

Палкоўнік зьвярнуўся да свайго штаба з запытаньнем:

— Што ён кажа?—А потым на ламанай нямецкай мове яшчэ раз спытаў у палоннага:

— Як тваё прозьвішча? Як цябе завуць? Разумееш? Імя?

І тады салдат выцягнуўся, як струна, усадзіў свой зірк у вочы палкоўніка, які адразу зразумеў, што перад ім—прадстаўнік варожае дзяржавы, і адказаў голасам, які разьлёгся па стэпах Украіны і па ўсёй «матушцы-Расіі», за Урал да Сібіру і да Каўказу і Чорнага мора:

— Я — Язэп Швэйк з Прагі, вуліца «На Боішці», Чэхія.

---

## ЗЬМЕСТ

*Стар.*